# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1-2 ( 45-46 ) СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2009 г.



## Ансамбль “Лідчанка” - прызёр конкурсу “Песні маёй краіны”



**Канстанцін Горскі.** Уладзімір Мельнікаў. Палатно. Алей. 2009 г. 54х46 см.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1-2 ( 45-46 ) СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2009 г.


## *У НУМАРЫ:*



*На першай старонцы выкладкі здымак з архіву ансамбля "Лідчанка"*


Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1342 ад 27.03.2007 г.

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н,
в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by



**Наклад 300 асобнікаў**
**12,5 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.
Замова № 15
Часопіс падпісаны да друку 30. 06. 2009 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 2680 руб.
індывід. 6 мес.- 5360 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

# КРОНІКА ЛІДЫ

27 студзеня ў працы Паменснага сабора Рускай праваслаўнай царквы ў Маскве, дзе быў абраны новы патрыярх, прынялі ўдзел архіепіскап Наваградскі і Лідскі Гурый і сакратар Наваградскай епархіяльнай управы, дабрачынны Лідскай акругі, ключар Архістратыга-Міхайлаўскага кафедральнага сабора г. Ліды протаіярэй Сергій Шафарост.



*Архіепіскап Гурый*



*Протаіярэй Сергій*



У студзені капітан унутранай службы Лідскага РАНС Вадзім Быкаў перамогу ў рэспубліканскім конкурсе "Лепшы дзяржаўны інспектар Рэспублікі Беларусь па пажарным наглядзе 2008 года".

19 лютага "Ордэн Маці" атрымалі рабочая шклозавода "Нёман" Таццяна Баляславаўна Лядзян з Бярозаўкі, хатняя гаспадыня Наталля Юр'еўна Манахава з Крупава і тэхработніца Тарноўскай школы Клаўдзія Аляксандраўна Грыцкевіч.



17 сакавіка 2009 года Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за шматгадовую добрасумленную працу, высокае прафесійнае майстэрства, дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў Шымуль Марыя Станіславаўна - кіяскёр Лідскага міжраённага аддзялення "Гроднааблсаюздрук" узнагароджана медалём "За працоўныя заслугі".



У сакавіку ў Паўднёвым гарадку г. Ліды ўсталявана новая кагенерацыйная ўстаноўка кантэйнернага тыпу на 2 мегаваты электраэнергіі ў гадзіну.



У сакавіку пераможцамі рэспубліканскіх алімпіяд сталі:
1 месца - Вольга Пашнік (СШ №15),
Вольга Васілец (СШ №16) - беларуская мова.

2 месца - Алесь Пранюк (СШ №11),
Арцём Занкоў (гімн. №1) - геаграфія.
Васіль Сінюхін (гімн. №1) - гісторыя.
Таццяна Шлапік (гімн.№1) - нямецкая мова.
Яраслаў Яджак (гімн. №1) - руская мова.
Валянціна Пясецкая (Дзітвянская СШ) - працоўнае навучанне.

3 месца - Яўген Пляхімовіч (СШ №16) - хімія.
Алесь Дамашэвіч (ліц. №1) - геаграфія.
Вераніка Урбановіч (Мінойтаўская СШ) - беларуская мова.
Артур Пятроў (гім. №1),
Наталля Вайніловіч (гім. №1) - матэматыка.
Валерыя Галаўнёва (гім. №1) - руская мова.




У чэрвені першыя 10 камбайнаў "Ліда-1300" сабраны на расійска-беларускім прадпрыемстве ААТ "ОмскЛідаАграмаш" у Омскай вобласці. Сумеснае прадпрыемства па вытворчасці сельгастэхнікі было створана ў сакавіку гэтага года.

# “Лідчанка” прызёр конкурсу *“Песні маёй краіны”*

У 2009 годзе тэлеканал АНТ правёў нацыянальны тэлевізійны конкурс аматарскіх музычных калектываў мастацкай самадзейнасці абласцей “Песні маёй краіны”. Прыняць удзел у праекце мог любы аматарскі музычны калектыў мастацкай самадзейнасці, выканаўца арыгінальнай песні на беларускай мове. Выступ павінен быў мець рэжысуру і быць касцюмаваным. У конкурсе маглі прыняць удзел асобы не маладзей за 18 гадоў. Да ўдзелу ў конкурсе не дапускаліся прафесійныя калектывы.

Амаль 500 калектываў прынялі ўдзел у адборачных турах конкурсу. Творчая група АНТ правяла кастынгі ў 15 гарадах Беларусі ў перыяд з 3 па 21 лютага, па выніках якіх былі вылучаны па 7 аматарскіх музычных калектываў ад кожнага рэгіёна (Гарадзенская вобл., Берасцейская вобл., Гомельская вобл., Магілёўская вобл., Віцебская вобл., Менская вобл., Менск).

У выніку конкурснага адбору, праведзенага ў г. Лідзе 3 лютага 2009 г., да ўдзелу ў паўфінальным шоў былі запрошаны наступныя калектывы раёна:

1. Група «Кронан» (Бярозаўскі ГДК);

2. Народны ансамбль музыкі і песні «Гудскі гармонік», Гудскі ЦТіА;

3. Народны ансамбль песні і танцу “Лідчанка” (Лідскі РДК).

Гэтыя калектывы прынялі ўдзел у паўфінале праекту, якія адбыўся ў горадзе Менску.

Па выніках паўфіналаў толькі два калектывы ад кожнага рэгіёна патрапілі ў фінал (адзін рашэннем журы, другі рашэннем інтэрактыўнага галасавання). 14 калектываў прынялі ўдзел у фінале. За галоўныя прызы АНТ змагаліся заслужаны аматарскі калектыў ДК ААТ “Мазырскі НПЗ” “Сваякі”, народны ансамбль “Ялінка” з Ельска, вакальны дуэт “Краснаполле”, заслужаны аматарскі калектыў “Юнацтва” з Бабруйска, народны ансамбль “Лідчанка”, ансамбль “Уладары” з Ваўкавыска, фальклорны ансамбль “Сузор’е” Пратасевіцкага СДК Асіповіцкага раёна, народная студыя эстрадных шоў-праграм Online з Наваполацка, баранавіцкі ансамбль “Палозанька”, узорная эстрадна-вакальная група “Фантастыка” з Пінска, жаночы народны фальклорны тэатр гумару і гульні “Хмелевськы волоцюгы” з вёскі Хмелева Жабінкаўскага раёна, народны фальклорны калектыў “Гасцінец” з Ракава, ансамбль народнай песні “Басякі”, народны калектыў эстраднай песні “Гасціна” і моладзевая фольк-група “Славянскі






стыль" з Менска.

Конкурс у многім быў знакавым. Таленты дэманстравалі БЕЛАРУСКІЯ БЕЛАРУСЫ! У сябе на Радзіме. Дзякуючы агульнанацыянальнаму каналу Беларускага тэлебачання. І гэта было СВЯТА! Гэтыя вясковыя хлопцы і дзяўчаты, дзядзькі і цёткі паказалі не горш за іншых раскручаных "зорак", якія ж мы багатыя на непаўторныя скарбы, што не сорамна паказаць перад усім светам, толькі часта не ўмеем іх цаніць, падносіць іншым ва ўсёй красе. А вось удзельнікі фестывалю — паказалі! Яны нічога не выконвалі — жылі пачуццямі і вобразамі, закладзенымі ў народных мелодыях, якія леглі ім на душу. Творы то пяшчотна-лірычныя, то жартоўныя, то патрыятычныя, па-сучаснаму прачытаныя і артыстычна пададзеныя як інсцэніроўкі — усё ўдавалася талентам з народу. Няпроста было журы выбраць лепшых з лепшых, каб уганараваць дыпломамі лаўрэатаў і прэміямі пераможцаў. У выніку першае месца і 15 мільёнаў рублёў заваяваў народны фальклорны калектыў "Гасцінец" з м. Ракаў Валожынскага раёна. На другім месцы з 10 мільёнамі рублёў - ансамбль народнай песні "Басякі" (г. Менск), на трэцім з пяццю мільёнамі рублёў - народны ансамбль песні і танцу "Лідчанка" (г. Ліда). Зусім нечакана Цэнтральная Беларусь і Панямонне пераспявалі традыцыйна спеўных палешукоў. І трэцяе месца "Лідчанкі" - найвялікшая перамога ўсёй лідскай культуры, якая грунтуецца менавіта на нацыянальных традыцыях.

А ішла "Лідчанка" да гэтай перамогі доўга і ўпарта, і былі на яе шляху перамогі, магчыма, і больш значныя, але гэтая найдаражэйшая.

Народны ансамбль песні і танцу "Лідчанка" быў заснаваны ў 1961 годзе пры Лідскім гарадскім доме культуры. Заснавальнік Заслужаны работнік культуры




БССР Васіль Іванавіч Адамаха.

У 1970 годзе калектыў атрымаў званне народнага.

15-18 студзеня 1979 года ансамбль песні і танца здзейсніў гастрольную паездку па Беластоцкаму ваяводству, выступіў з канцэртамі ў Беластоку, Дуброве, Бельску і Белавежы. Кіраўнік Кастусь Казячы (з 1975 г.),





да гэтага хормайстар. У ансамблі салісты: Зянон Бянько, Лявон Івашка, Тамара Лысенка. Хор - 41 чалавек, балет - 25 чалавек, аркестр - 14 чалавек.

Пад кіраўніцтвам У. Гарачава ансамбль станавіўся дыпламантам міжнародных фестываляў у Маскве і Баку, быў лаўрэатам прэміі прафсаюзаў Беларусі.

На сёння гэта зноў малады творчы калектыў. У рэпертуары беларускія народныя песні і танцы, вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі, а таксама песні сучасных беларускіх кампазітараў.

Калектыў актыўна прымае ўдзел у рэспубліканскіх, абласных і раённых фестывалях, конкурсах і іншых мерапрыемствах.

У 2005 годзе ансамбль прыняў удзел у міжнародным фестывалі фальклору "Ля возера" ў Троках (Літва).

У 2006 годзе ансамбль стаў лаўрэатам другой ступені II абласнога конкурсу народных хароў "Над сінім Нёманам".

З 2002 года ансамблем кіруе Цішко Вольга Віктараўна.

Балетмайстар - Благадацкіх Таццяна Васільеўна.

Кіраўнік аркестравай групы - Акімаў Аляксандр Міхайлавіч.

***Матэрыял скампанаваў Станіслаў Суднік.***

# “DEFIANCE” - “СУПРАЦІЎ”

## галівудскі фільм пра яўрэйскі партызанскі атрад Бельскіх

У Галівудзе пачалі здымаць беларускае партызанскае кіно. Першая ластаўка - кінастужка **Defiance”** (што можна перакласці як “Супраціў” альбо “Выклік”).

Фільм прысвечаны яўрэйскаму супраціву на тэрыторыі захопленай немцамі Беларусі, а канкрэтна добра вядомаму на Лідчыне партызанскаму атраду Бельскіх.

Стужка рэжысёра **Эдварда Цвіка** выглядае падобнай да ягоных папярэдніх працаў накшталт “Апошняга самурая”. Зноў экзатычнае для амерыканскага гледача асяроддзе. Зноў моцныя мужчынскія характары. Зноў вайна. Зноў каханне ў небяспечных абставінах. Але ж ёсць і шэраг новых элементаў. Папершае, падзеі разгортваюцца не ў Японіі ці Нігерыі, а зусім недалёка — у Ліпічанскай і Налібоцкай пушчах, Навагрудку, Баранавічах і іншых блізкіх да Ліды мясцінах. Па-другое, галоўныя героі — браты-кантрабандысты Бельскія, якія жылі ў Лідзе. Зусім не гераічная каманда, якая пад ціскам абставінаў пераўтвараецца ў партызанскіх лідэраў. Па-трэцяе, тут беларускія жыхары змагаюцца не за Леніна і Сталіна, а за выратаванне ўласнага жыцця. Такім чынам, кіно атрымалася постыдэялагічнае. Яно зроблена на падставе гістарычных фактаў,














***Тувія (Тува) Бельскі***



***Зус (Зусь) Бельскі***



***Асаэль Бельскі***

# Атрад Бельскіх і Ліда

(Гістарычная даведка)

*1. Тувія (Анатоль Давыдавіч) Бельскі, капрал даваеннага Войска Польскага, быў жанаты на лідскай яўрэйцы і перад вайной жыў у Лідзе.*

*2. Увесну 1942 г. браты Бельскія: Тувія, Асаэль і Зусь уцяклі з Лідскага гета. Яны стварылі партызанскую групу з 17 чалавек і ў канцы 1942 г. пачалі ўзброеную барацьбу. Да восені 1942 г пад камандаваннем Бельскіх было 200 партызан-яўрэяў. У атрад прымалі ўсіх яўрэяў без выключэння: маладых, старых, жанчын, дзяцей. Найдаўжэй атрад базаваўся ў Налібоцкай пушчы. Сюды ішлі яўрэі з усіх бакоў. Па дарозе іх лавілі, рабавалі і забівалі. Даходзілі не ўсе.*

*3. Камандаванне Баранавіцкага партызанскага злучэння мела намер расфармаваць яўрэйскі партызанскі атрад і размеркаваць усіх байцоў па розных атрадах. А пакінутыя старыя і нямоглыя яўрэі павінны былі жыць асобным сямейным лагерам. Ад гэтага намеру камандаванне адгаварыў Гірш Смоляр. Дамовіліся падзяліць атрад на дзве часткі: баявое падраздзяленне - атрад імя Арджанікідзэ ў колькасці 180 партызан пад камандаваннем рускіх і Зуся Бельскага і сямейны атрад пад камандаваннем братоў Тувіі і Асаэля Бельскіх. У траўні 1944 г. атрад атрымаў назву імя Калініна.*

*4. Браты Бельскія арганізавалі буйную партызанскую базу ў Налібоцкай пушчы. На базе меліся: штаб, кухня, шпіталь, лазня, цырульня, майстэрні, дзе шылі абутак і адзежу, рамантавалі зброю, гадзіннікі. Былі свае сталярны і мясны цэх. Гэта было маленькае мястэчка, са сваімі вуліцамі з замаскіраванымі зямлянкамі па абодва бакі. На 17 красавіка 1944 г. у атрадзе Бельскага было 940 чалавек, узброеных 162, рэзерва 488. Тысячу чалавек ва ўмовах вайны трэба было карміць - у пошуках ежы ўзброеныя групы па 10-15 чалавек адпраўляліся з пушчы за 50-100 км. Не заўсёды іх сустракалі з радасцю, акаўцы яўрэяў жывымі не адпускалі. За тры гады атрад Бельскага страціў 50 чалавек.*

*5. Тувія Бельскі ў ліпені-жніўні 1943 г. здолеў выратаваць сваіх людзей падчас карнай аперацыі “Герман”. Шэсць сутак людзі праляжалі ў балоце і немцы іх не заўважылі.*

*6. Камандзірам атрада імя Арджанікідзэ быў прызначаны Міхаіл Аляксеевіч Ляшэнка, камісарам - Васіль Гаўрылавіч Кіян з атрада “Іскра”, начальнікам штаба - Пётр Харытонавіч Падкавырзін , начальнікам асобага аддзела - Сяргей Фёдаравіч Пішчыкаў, у 1944-46 гг. дырэктар Лідскага піўзавода. Атрад падрываў цягнікі, масты, чыгуначную каляю, знішчаў тэлефонную сувязь. Побач з мужчынамі ваявалі каля 30 жанчын. За год пусцілі пад адхон 6 цягнікоў, падарвалі 800 м палатна, падарвалі чыгуначны мост і 11 мастоў на шашэйных дарогах, ліквідавалі 9 км тэлеграфна - тэлефоннай сувязі. Падарвалі лесапільна-сушыльны завод. Правялі 12 баёў і засад. Ад іх рук загінуў 261 вораг.*

*7. Выхадцы з Ліды ў атрадзе імя Арджанікідзэ.*

*Бішанскі Абрам Хаімавіч, 1912 г.н.*

*Дзеравянскі Маісей Зэлікавіч, 1924 г.н.*

*Каменскі Франц Ізраілевіч, 1922 г.н.*

*Кантаровіч Шлёма Рубінавіч, 1923 г.н.*

*Манская Рахіль Шлёмаўна, 1912 г.н.*

*Манскі Айзік Евелевіч, 1909 г.н.*

*Манскі Міша Калманавіч, 1923 г.н.*

*Мітлянскі Самуіл Маісеевіч, 1922 г.н.*

*Маўчадскі Янкель Мордухавіч, 1912 г.н. з Беліцы*

*Наркунская Буня Абрамаўна, 1921 г.н.*

*Наркунскі Леў Абрамавіч, 1917 г.н.*

*Ажахоўскі Іосіф Зэлікавіч, 1917 г.н.*

*Ажахоўская Эстэр Аўсееўна, 1917 г.н.*

*Ажахоўскі Лейб Цалькавіч, 1916 г.н.*

*Старадворская Бэла Хонаўна, 1926 г.н.*

*Цыпілевіч Лявон Іосіфавіч, 1929 г.н.*

*Фельдман Рыгор Маркавіч, 1909 г.н., загінуў 29.12.1943.*

*8. У ліпені 1944 г. атраду Бельскага, які налічваў 1200 чалавек, было загадана эвакуяваць базавы лагер і ісці ў Наваградак. На апошнім шыхтаванні перад Наваградкам кожны з яўрэяў атрымаў даведку аб удзеле ў партызанскім руху. На гэтым атрад спыніў сваё існаванне. У сямейным лагеры выратавалася звыш дзвюх соцень выхадцаў з Ліды: Сямён Пупко,дачка Маша, Міхаіл і Бэла Сталавіцкія, Рут Навапрудская.*

*9. Большасць чальцоў атрада з часам выехала за мяжу, дабраліся да ЗША, Мексікі, Ізраіля, Аўстраліі. Асаэль Бельскі ўступіў у Чырвоную Армію і загінуў пад Кенігсбергам. Тувія Бельскі памёр 12 чэрвеня 1987 г у Нью-Ёрку, Зусь -18 жніўня 1995 г у Нью-Ёрку, у 1999 г. у жывых заставаўся чацвёрты брат Арчык (Арон), які падчас вайны хлапчуком таксама быў у атрадзе. У Ліду ўвосень 2009 г. прыязджала Маша Пупко з мужам, сынам і нявесткай з Мексікі і Галіна Рубін з Аўстраліі. Абедзве яны былі ў лагеры Бельскага.*

*Даведку падрыхтаваў Валеры Сліўкін.*



**Групавы здымак атрада Бельскіх на фатаграфіі часоў вайны**



**Групавы здымак атрада Бельскіх (кадр з фільма)**

якія супярэчаць савецкім казачкам пра тое як выглядаў “усенародны супраціў”. Масавы глядач даведваецца, што акрамя Арміі Краёвай быў яшчэ адзін, так бы мовіць, від несавецкіх партызан.

Фільм зняты пад Вільняй. Славуты Дэніэл Крэйг выконвае ролю камандзіра яўрэйскага атрада Тувы Бельскага. Беларускія студэнты ЕГУ здымаліся ў масоўках.

Цвік зрабіў кіно пра звычайных герояў, ратавальнікаў простых грамадзян. Магчыма, што атрымалася пажаданая — то бок, палепшаная і папраўленая — карціна драматычных падзеяў Другой Сусветнай вайны. Усе немцы — забойцы і пачвары, усе беларускія паліцаі — здраднікі і забойцы. Савецкія партызаны — суворыя камандзіры і дуркаватыя антысеміты.

Фільм нельга разглядаць як дапаможнік па гісторыі партызанскага атрада Бельскіх. У фільме яўрэйскі партызанскі атрад ствараецца адразу пасля пачатку вайны ў 1941 годзе - рэальна ён быў створаны ў 1942-м. У адзін год (канец 1941 - пачатак 1942) у фільме зпрасована ўся дзейнасць атрада ў 1942-44 гадах.

Вобраз галоўнага героя - Тувы Бельскага - праходзіць скрозь фільм, як вобраз месіі, пасланага для выратавання яўрэйскага народу, хаця і не ўсяго, а толькі той часткі, якая аказалася тут і цяпер. Парадокс месійнасці Тувы Бельскага, што ён былы крымінальнік, кантрабандыст, якому да вайны ні адзін сапраўдны, дабрадзейны яўрэй не падаў бы рукі і не пусціў бы ў хату. Пра гэта ў фільме не раз нагадвае Зус Бельскі - старэйшы брат Тувы. І канфлікт паміж братамі - гэта канфлікт паміж стратэгіяй помсты за забітых бацькоў, жонак, дзяцей (Зус Бельскі) і стратэгіяй выратавання як мага большай колькасці тых, чужых па ўсіх мерках, людзей (Тува Бельскі). У жыцці і ў фільме перамагла стратэгія Тувы. На канец вайны ў атрадзе Бельскіх было 1200 выратаваных імі яўрэяў. Бельскія ніколі не прэтэндавалі на нейкае асаблівае прызнанне, на званне герояў Савецкага Саюзу ці Ізраіля, але сёння ў свеце жывуць дзесяткі тысяч дзяцей і ўнукаў тых людзей, якіх выратавалі Бельскія, арганізаваўшы свой атрад.

*Матэрыял скампанаваў* ***Станіслаў Суднік.***

# Лідчына ў 2008 годзе

## Выступ старшыні Лідскага райвыканкаму А.П. Худыка на ўрачыстым сходзе 28.02.2009 г. па падвядзенні вынікаў працы галін гаспадарання Лідскага раёна за 2008 г.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Я рады прывітаць вас у гэтай зале на традыцыйным свяце працы. Сёння мы падвядзём вынікі работы за мінулы год, абазначым задачы на будучыню. Адзначым тых, хто, не шкадуючы сваіх сілаў і, парой, асабістага часу, выкарыстоўваючы сваё майстэрства і прыродны талент, адказна падыходзіў да выканання сваіх прафесійных абавязкаў, укладваючы сваю цаглінку ў пабудову моцнай і квітнеючай Беларусі.

Працуючы з вамі разам на працягу пяці гадоў, не перастаю дзівіцца працавітасці, розуму, здольнасцям лідзян. Сёння я буду гаварыць аб выніках мінулага года ў лічбавым выразе. Але, паверце, я заўсёды памятаю аб тым, што за кожнай лічбай, за кожным сухім статыстычным радком стаіць праца многіх людзей. І я выказваю шчырую падзяку ўсім вам за асабісты ўклад у развіццё Лідскага рэгіёна.

У 2008 годзе намі была захавана пазітыўная тэндэнцыя ў развіцці ўсіх галін эканомікі, якая склалася ў апошнія чатыры гады.

Выкананы прагнозныя заданні па тэмпах росту вытворчасці прамысловай прадукцыі, валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі, экспарту тавараў, рознічнага таваразвароту, рэалізацыі платных паслуг насельніцтву, прыцягненні інвестыцый у асноўны капітал, паказчыкі па энергазахаванні.

Станоўчая дынаміка назіраецца ў прамысловай галіне. Пачынаючы з 2004 года, прамысловая вытворчасць узрасла ў 1,8 раза. За год выраблена прадукцыі ў фактычных коштах на суму 1,3 трыльёна рублёў. Тэмп росту склаў больш 116%. Спажывецкіх тавараў выпушчана на суму больш за 550 млрд. рублёў.

Большасць кіраўнікоў бачаць перспектывы развіцця сваіх прадпрыемстваў і накіроўваюць высілкі калектываў на тэхпераўзбраенне, выпуск новых відаў прадукцыі, захаванне і заваёву рынкаў збыту.

Актыўна вядзецца тэхпераўзбраенне на ААТ “Лідскае піва”. Рэалізуюцца праекты на “Лідабудматэрыялах”, “Лідсельмашы”, “Ізатроне”, шклозаводзе “Нёман”, мэблевай фабрыцы, “Лідахлебапрадукце”, доследным заводзе “Нёман”, “Каскадзе”, “Ліпласт-Спб”, “Лідабудканструкцыя”, малочна-кансервавым камбінаце.

Сучаснае абсталяванне, інавацыйныя тэхналогіі дазваляюць выпускаць новыя віды прадукцыі. Так, у 2008 годзе ў раёне іх выраблена на суму больш за 336 млрд. рублёў, што складае больш за 26% у аб’ёме вытворчасці.

На “Ізатроне”, доследным заводзе “Нёман”, Мінойтаўскім рамонтным заводзе новая прадукцыя складае больш за палову асартыменту. “Каскад” выпусціў новыя светлатэхнічныя вырабы для Менскага опернага тэатра, “Лідааграпраммаш” - кукурузныя жаткі да збожжаўборачнага камбайна “Ліда-1300”, прычэпы, граблі-валкавальнікі. На заводзе электравырабаў наладжана вытворчасць актыўных частак сілавых трансфарматараў, на “Ліпласце” арганізаваны выпуск вырабаў з АБС-пластыку, на “Харчовых канцэнтратах” - сушыльная вытворчасць з ужываннем мікрахвалевых-вакуумных установак “Мусаон”.

У бягучым годзе перад прамысловымі прадпрыемствамі стаіць задача давесці ўдзельную вагу новай прадукцыі, як у экспарце, так і ў агульным аб’ёме вытворчасці да ўзроўню не ніжэй за 30%.

“Лідааграпраммаш” наладжвае выпуск высокапрадукцыйнага камбайна “Ліда-1600”, “Лідабудматэрыялы” - аконных блокаў з алюмініевым адлівам, “Лідсельмаш” - варочальнікаў-успушвальнікаў.

Сёння, як ніколі, актуальным з’яўляецца пытанне імпартазамяшчэння. Як вырашаецца гэтая праблема, вывучаў падчас візіту ў Ліду Прэзідэнт краіны Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. У I квартале бягучага года на базе “Лідсельмаша” плануецца ўсталяваць лінію па вытворчасці радыятараў. Рэалізацыя дадзенага імпартазамяшчальнага інвестыцыйнага праекту дазволіць выпускаць 200-240 тыс. штук радыятараў у год. У 2008 годзе прадпрыемствамі раёна выраблена імпартазамяшчальнай прадукцыі больш, чым на 221 млрд. рублёў, што амаль у 1,5 разы больш, чым у 2007 годзе.

Гаворачы аб знешнеэканамічнай дзейнасці, варта адзначыць, што летась прадпрыемствамі раёна экспартавана прадукцыі на суму больш за 170 млн. даляраў. “Гандлёвы дом “Ліда-рэгіён” у 4,5 разы павялічыў аб’ём экспарту. Па-ранейшаму асноўным знешнім партнёрам для лідскіх вытворцаў застаецца Расія (каля 60% у знешнегандлёвым абароце). Але вядзецца праца па пашырэнні наяўных і пошуку новых рынкаў збыту. Так, торфапрадпрыемствы “Лідскае” і “Дзітва” асвойваюць пастаўку паліўных брыкетаў у Польшчу, Літву, Швецыю. Заслугоўвае распаўсюджвання досвед шклозавода “Нёман”, “Лакафарбы”, заводаў электравырабаў, “Оптык”, доследнага завода “Нёман” - гэта праца ў цесным кантакце з амбасадамі Рэспублікі Беларусь у іншых краінах. Райвыканкам аказваў і будзе надалей аказваць садзейнічанне ў наладжванні такіх кантактаў. Неабходна актыўна працаваць над павелічэннем аб’ёмаў экспарту, шукаць новых плацежаздольных пакупнікоў за мяжой, прымаць меры па недапушчэнні страты ўжо адпрацаваных рынкаў.

З гэтай мэтай, але ў новым фармаце, сумесна з БЕЛЭКСПА, замежнымі прадстаўніцтвамі ў Рэспуб-

ліцы Беларусь, у 2009 годзе адбудзецца 5-я раённая выстава - прэзентацыя. Адным з вынікаў выставы мінулага года стане рэалізацыя праекту з расійскай кампаніяй "Садружнасць" па будаўніцтве ў раёне комплексу па глыбокай перапрацоўцы масляністых культур, на што атрымана ўжо згода ад Ураду Рэспублікі Беларусь. Выстава-прэзентацыя 2009 павінна стаць больш прагматычнай і дзелавой, улічваць рэаліі цяперашняга часу, патрабаванні рынку.

Стратэгія працы прамысловасці ў бягучым годзе - веданне кан'юнктуры рынку і бачанне яго перспектыў, выпуск запатрабаванай прадукцыі, пошук кааперацыі, у тым ліку і ўнутрыраённай. Запыты патэнцыйных пакупнікоў запатрабавалі ад нашых прадпрыемстваў сур'ёзна заняцца пытаннямі якасці. Сёння ў раёне сертыфікавана больш за 79% прадукцыі. 35 арганізацый маюць міжнародныя сертыфікаваныя сістэмы якасці. З іх 25 - прадпрыемствы прамысловасці.

Разам з тым, лідская прадукцыя павінна быць канкурэнтаздольнай не толькі па якасці, але і па кошце. А гэтага можна дабіцца толькі рэалізуючы комплекс мер па паніжэнні выдаткаў на яе вытворчасць.

У 2008 годзе паказчык па энергазахаванні ў раёне склаў (-19,2%) пры заданні (-19,0). Гэта значыць можам мы эканоміць, але гэтага не дастаткова.

У 2008 годзе абагульненыя энергетычныя выдаткі па Лідскім раёне ў цэлым знізіліся на 0,6 % . Аднак аплата за энергарэсурсы за мінулы год павялічылася больш, чым на 20 % або амаль на 25 млрд. рублёў. За студзень 2009 года абагульненыя энергетычныя выдаткі па Лідскім раёне ў цэлым знізіліся на 0,6 % у параўнанні са студзенем 2008 года. Аднак аплата за энергарэсурсы ў бягучым годзе павялічылася амаль на 32% або на 5,3 млрд. рублёў у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Дадзеныя лічбы гавораць аб тым, што пры сітуацыі, калі кошты на энергетычныя рэсурсы значна ўзраслі, мы павінны больш увагі надаваць рацыянальнаму выкарыстанню і эканоміі ўсіх выглядаў паліўна-энергетычных рэсурсаў. Гэта найважная задача для Лідскага раёна ў цэлым і для кожнага з тых, хто сядзіць у гэтай зале.

Паважаныя ўдзельнікі сходу! Трэба вучыцца жыць і працаваць у новых эканамічных умовах. Сённяшняя сітуацыя дае шанец моцным, здольным і настойлівым дасягнуць жаданай мэты.

Галоўнай задачай 2009 года з'яўляецца захаванне наяўнага вытворчага патэнцыялу кожнага без выключэння прадпрыемства. У той жа час трэба імкнуцца не спыняцца на дасягнутым -далей развіваць патэнцыял рэгіёна. Як справядліва сказаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, сёння: "Не праца ідзе да чалавека, а чалавек да працы".

Асабліва відавочна гэта ў будаўнічай галіне, дзе ўжо пачынае адчувацца прыток працоўнай сілы. А будаўнічыя спецыяльнасці ў ВНУ краіны - адны з самых запатрабаваных і прэстыжных.

Шмат зроблена нашымі будаўнікамі. Пабудавана 61,5 тыс. кв. метраў жылля, у тым ліку 7,8 тыс. кв. метраў у сельскай мясцовасці. 703 сем'і атрымалі новыя кватэры. Праца будаўнікоў годна ацэньваецца ўсімі лідзянамі і гасцямі раёна: праспектам стала вуліца Энгельса, змяніўся цэнтр горада, адчыніліся музей, басейн.

Жыллёва-камунальная гаспадарка праводзіла добраўпарадкаванне дваровых тэрыторый, рамонты жылых памяшканняў, будынкаў, кацельняў. Дзякуючы творчай працы камунальнікаў з'явілася шмат утульных і прывабных месцаў у горадзе.

У 2008 годзе працягвалася рэалізацыя праграмы развіцця горада Бярозаўка. Яшчэ тры сельскія населеныя пункты: Крупава, Гуды, Тарнова ператвораны ў аграгарадкі.

Летась сельскагаспадарчымі арганізацыямі раёна выраблена валавой прадукцыі на суму 99 млрд. рублёў, што на 23% больш за ўзровень папярэдняга года. Павялічылася амаль на 10% вытворчасць малака, на 4,5% - рэалізацыя жывёлы і птушкі на убой. Сярэдні ўдой малака ад адной каровы павялічыўся амаль на 400 кілаграмаў. Выраслі сярэднесутачныя прывагі на гадоўлі і адкорме свіней і буйной рагатай жывёлы. Ураджайнасць збожжавых і зернебабовых склала больш за 39 цэнтнераў з гектара, ільноволакна - 6,8, цукровых буракоў - 466, рапсу - каля 22, бульбы - 220, гародніны - 268 цэнтнераў з гектара.

У той жа час, нягледзячы на добрыя паказчыкі, ні адно сельгаспрадпрыемства не здолела ў поўным аб'ёме выканаць даведзеныя прагнозныя паказчыкі, не выкарыстала да канца спрыяльныя ўмовы надвор'я мінулага года. Ва ўсім свеце сельскагаспадарчая галіна датуецца, і нашы аграрыі заўсёды мелі падтрымку дзяржавы і выканкаму. Значна ўмацавана матэрыяльна-тэхнічная база - маецца новая магутная тэхніка, сучасныя фермы. У цяперашні час неабходна, маючы дастатковую колькасць кармоў, выконваць тэхналагічны працэс і забяспечыць вытворчасць малака і мяса ў той колькасці, якая дазволіла б падняць эканоміку гаспадаркі. Сёння, як і ва ўсе часы ў Беларусі, жывёлагадоўля была і застаецца асноўнай крыніцай прыбыткаў сельгасвытворцаў. Не за гарамі і вясновая сяўба, якую трэба правесці арганізавана і ў сціснутыя тэрміны.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Бясстратна працавалі прадпрыемствы транспартнай галіны. Грузавымі транспартнымі арганізацыямі перавезена летась на 20% грузаў больш, чым у папярэднім

Аб'ём рознічнага тавараабароту склаў амаль 672 млрд. рублёў. Прырост па харчовай групе тавараў - большы, чым на 12%, па нехарчовай - большы, чым на 30%. Тавараабарот на аднаго жыхара павялічыўся за год на 1 млн 260 тысяч рублёў.

Стабільная праца рэальнага сектара эканомікі дазволіла забяспечыць рост аб'ёмаў паступленняў у бюджэт. За тры апошнія гады яны павялічыліся ў 2 разы. Мэтанакіраваная дзейнасць падатковай інспекцыі дазволіла ўдакладніць бюджэт у бок павелічэння ў мінулым годзе на 28,6 млрд. рублёў. Па выніках працы інспекцыя заняла другое месца ў абласным спаборніцтве.

Каля 70-ці адсоткаў сродкаў раённага бюджэту накіроўваецца на ўтрыманне сацыяльнай сферы. Гэта дазваляе амаль у поўным аб'ёме вырашаць сацыяльныя

пытанні. У сацыяльнай сферы, у транспарце і сувязі выкананыя ўсе нарматывы сацыяльных стандартаў.

У выкананне дзяржаўных праграм развіцця істотна ўмацавана матэрыяльна-тэхнічная база лячэбных устаноў, якая з'яўляецца падмуркам стабільнай працы ўсіх падраздзяленняў. Дзіцячай паліклініцы, жаночай кансультацыі, радзільнаму дому летась камісіяй Міністэрства аховы здароўя і ЮНІСЕФ прысвоены сертыфікат "Арганізацыя аховы здароўя дабразычлівага стаўлення да дзіцяці". У раёне праглядаецца ўстойлівая тэндэнцыя да звужэння дэмаграфічных нажніц.

Ёсць поспехі і ў адукацыі.

Лідскі каледж, філіял Гарадзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы паспяхова прайшоў акрэдытацыю. Універсітэт - гэта, у першую чаргу, выкладчыцкі склад высокага ўзроўню, здольны не толькі даваць веды навучэнцам, але і арыентаваць іх у тым кірунку, які ім па сілах. У пачатку гэтага года выкладчык Лідскага каледжа Анатоль Віктаравіч Дзямідовіч паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю і стаў кандыдатам гістарычных навук, вядзе актыўную грамадскую працу. Яго фатаграфія таксама зойме годнае месца на раённай Дошцы пашаны.

На працягу чатырох гадоў кіраванне адукацыі раёна займае першае месца ў вобласці па колькасці пераможцаў абласных і рэспубліканскіх прадметных алімпіяд. 2007/2008 вучэбны год амаль 52% навучэнцаў скончылі на "6-10" балаў. Чацвёрты год у раёне няма другагоднікаў. Летась амаль 81% выпускнікоў агульнаадукацыйных устаноў паступілі ў ВНУ і СНУ, у тым ліку ў ВНУ - каля 57 %. Асабліва дзейсна працуюць педагогі гімназіі і ліцэя горада Ліды. Там адсотак паступлення ў ВНУ - 100 і 98 адпаведна. Высокі ўзровень навучання ў гімназіі №1 г. Бярозаўка. Летась 75% яе выпускнікоў сталі студэнтамі ВНУ.

У 2008 г. у фэстах, аглядах, конкурсах спаборніцтвах навучэнцамі школ раёна занята 638 прызавых месцаў. З іх 442 - у абласных і 196 - у рэспубліканскіх і міжнародных. Па выніках рэспубліканскага агляду ўзроўню фізічнай падрыхтоўкі навучэнцаў каманды СШ №16 і Дзітвянскай СШ занялі другія месцы.

2008-мы быў абвешчаны Годам здароўя. Аддзелам фізічнай культуры, спорту і турызму сумесна з іншымі арганізацыямі было падрыхтавана і праведзена 93 спартова-масавыя мерапрыемствы, у якіх прынялі ўдзел каля 11000 лідзян.

Найболей папулярныя і любімыя такія спартова-масавыя спаборніцтвы і віды спорту як: зімовая і летняя спартакіяды, "Скураны мяч", "Залатая шайба", спартакіяда "Абаронца Айчына", валейбол, міні-футбол, плаванне, лёгкаатлетычныя спаборніцтвы, гарадошны спорт і іншыя.

У мінулым годзе спартоўцы раёна занялі 436 прызавых месцаў на абласных, 117 на рэспубліканскіх, па 11 на міжнародных і фізкультурна-масавых спаборніцтвах. Аграсядзіба Салькоўскіх "Над Нёманам" прызнаная лепшай у краіне.

Шырока і маштабна лідзяне адзначылі ў 2008 годзе 685-годдзе горада. Яркія і незабыўныя мерапрыемствы, прысвечаныя дзяржаўным святам, выстава - прэзентацыя "Ліда-рэгіён - 2008", выпускныя школьныя балі, свята моладзі, святы вёсак, "Дажынкі" былі падрыхтаваныя працаўнікамі культуры.

5 навучэнцаў Лідскай дзіцячай школы мастацтваў (мастацкае аддзяленне) сталі стыпендыятамі адмысловай прэміі фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

"Лідскі гістарычна-мастацкі музей" прызнаны лепшай установай культуры Гарадзенскай вобласці, а аддзел культуры заняў першае месца ў абласным спаборніцтве.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Неабходна прызнаць, што мы можам спакойна працаваць, ствараць нешта новае толькі тады, калі забяспечаныя не толькі ўмовы на вытворчасці, але і спакойнае становішча вакол нас. Важна, каб выйшаўшы ў любы час сутак на вуліцу, мы былі ўпэўненыя ў сваёй бяспецы і абароненасці. На гэта нацэленая праца сілавых структур, вайскоўцаў частак, размешчаных на тэрыторыі раёна. Прыемна, што нашы лідзяне дамагаюцца і на гэтай ніве высокіх вынікаў. Яркім прыкладам таго з'яўляецца капітан унутранай службы Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях галоўны спецыяліст інспекцыі дзяржаўнага пажарнага нагляду Вадзім Мікалаевіч Быкаў, які па выніках рэспубліканскага конкурсу стаў лепшым інспектарам Гарадзеншчыны. Сёння яго фатаграфія ўпрыгожыць і раённую Дошку пашаны.

Паважаныя лідзяне!

У свой час адзін палітычны дзеяч сказаў, што ў перыяд крызісу чалавек павінен пытаць, не што яму дала Радзіма, а што ён ёй даў. Менавіта такі падыход здаўна быў характэрны славянам: клопат пра іншага чалавека, пра сваю сям'ю, пра дзецей, здольнасць у імя Радзімы ісці на подзвіг. Гэта пацвердзяць нам ветэраны вайны і працы, якія прысутнічаюць у зале. У знак павагі да ўсіх ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны на раённую Дошку пашаны занесены ўдзельнік вызвалення Беларусі - Галаваты Пётр Кірылавіч. Подзвіг пакалення герояў - арыентыр для іх дзяцей і ўнукаў. Тое, што моладзь у нас працавітая і актыўная, годны пераймальнік спраў старэйшых, сакратар першаснай арганізацыі БРСМ Шалугін Андрэй, майстар Лідскай дыстанцыі каляі Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі, даказвае сваёй працай і ладам жыцця,

Сёння хтосьці аб сваіх палітычных арыентырах заяўляе ўдзелам у арганізацыях патрыятычнай скіраванасці - БРСМ, Белая Русь, хтосьці шэфствуе над брацкімі магіламі, закладвае парк, бярэ на выхаванне дзяцей... З такіх высакародных учынкаў і фармуецца маральная сіла, здольная зрабіць дзяржаву моцнай і магутнай. І нам важна яе зберагчы і ўмацаваць.

І я ўпэўнены, што лідзянам па сілах вырашыць усе пастаўленыя задачы. Яшчэ раз выказваю падзяку ўсім за добрасумленную працу і прапаноўваю прыступіць да першай часткі цырымоніі ўзнагароджання лепшых працаўнікоў і калектываў, якія дамагліся значных вынікаў у 2008 годзе.

# Кроніка айкумены

Лідскі гістарычны каляндар

## студзень - чэрвень

**1369 год.** Забойства манахаў-францішканцаў "пры замятні". Лідскім старастам у гэты час быў Доўгерд.

**1379 год.** Шлюб Вайдылы і вялікай князёўны Марыі Альгердаўны.

**1489 год.** Кароль Казімір заклаў першы драўляны касцёл у Васілішках.

**1584 год, 20 лютага.** Першае вядомае пісьмовае ўпамінанне маёнтка Верхліда (Верхняя Ліда), зараз вёска Верхліда ў Крупаўскім сельсавеце Лідскага раёна. Паводле прывілею караля і вялікага князя Стэфана Баторыя Верхліду атрымаў у леннае валоданне пісар каронай канцылярыі Флерыян Алешка.



*Тракельскі касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі*

**1589 год.** Аляхновіч атрымаў пацверджанне на куплю двух пляцаў у Лідзе.

**1609 год.** У Белагрудзе збудаваны драўляны касцёл Святога Міхала Арханёла.

**1759 год.** Лідская піярская школа атрымала назву "калегіюм".

**1789 год.** Пірын прадаў Мінойты і Васькевічы (Вашкевічы) Ленскаму.

**1809 год.** Пабудаваны цяпер дзейны драўляны Тракельскі касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Пабудаваў яго Стэфан Незабытоўскі на месцы касцёла 1740 года..

**1819 год.** На шэраг землеўладальнікаў Лідскага павету і на іх маёнткі накладзеныя забароны: Юры Красоўскі, Крыдзель-дарадца Гарадзенскай казённай палаты, Рамуальд Казіміравіч Кастравіцкі, Мацвей Кулеш, Андрэй Лясковіч - былы пінскі суддзя, Лясковіч-старшыня Лідскага земскага суда, Карл Лясковіч, Ленская Петрунеля Старасціна, князь Ксаверы Любецкі-Друцкі, Кастравіцкія Люцыян, Міхайла Ігнаццеў і г.д

**1819 год.** Петранеля Янкоўская з Макрэцкіх ахвяравала 7000 злотых (300 чырвонцаў) на пабудову Турэйскай уніяцкай царквы і ўручыла іх (300) прыходскаму ксяндзу Янкоўскаму, вядзенне пабудовы ўсклала на сваяка - абшарніка Станіслава Макрэцкага.



*Галоўны алтар Тракельскага касцёла з каранаваным абразом Маці Божай Тракельскай*

**1839 год, 12(24) лютага.** Полацкі сабор ліквідаваў Берасцейскую

царкоўную ўнію 1596 г.

**1849 год.** Паштовыя станцыі Радзівонішкі, Ліда і Жырмуны ўтрымоўваў па конкурсе купец Вольф Сольц.

Паштовая станцыя Лупеніца арандаваная купцом Спакойным, ён жа арандаваў станцыю ў Ішчолне.

**1859 год, 13 траўня.** Указам Літоўскай духоўнай кансісторыі № 4585 за адкрыццё Голдаўскай вучэльні святару Канстанціну Брэну абвешчаная падзяка

**1859 год.** У Лідзе жыло 3915 чалавек, павятовая дваранская вучэльня і 3-класны прыватны жаночы пансіён.

**1919 год, красавік.** Памёр лідскі дабрачынны, протаіярэй Іосіф Каяловіч.

**1939 год.** У Лідзе на заводзе "Друтіндустрыя" рабочы камітэт дабіўся, каб уладальнік завода адпускаў кожнай сям'і паліва і выплаціў працоўным кампенсацыю за час прастою завода, спыненага па яго ўказанні.

**1939 год, 8 лютага.** Паступіла данясенне Лідскага павятовага староства Наваградскаму ваяводскаму кіраванню аб звальненні з працы камуніста Зэліка Катлярскага.

**1959 год, 10 лютага** Пастанова Савета Міністраў БССР № 80 Р аб арганізацыі Лідскага краязнаўчага музея. Падпісана старшынёй Саўміна Аўхімовічам.

**21 лютага.** Паведамленне ў газеце "Уперад" аб адкрыцці музея за подпісам У. Верхася.

**23 лютага.** Рашэннем Гарадзенскай абласнога савета дэпутатаў працоўных № 114 музею перададзены будынак былога піярскага касцёла.

**1 сакавіка.** Адбыліся выбары ў ВС БССР і мясцовыя саветы.

**24 красавіка.** Урачыстае адкрыццё Лідскага краязнаўчага музея.

**1979 год, 1 студзеня.** Насельніцтва горада 62 тысячы чалавек.

**15-18 студзеня.** Народны ансамбль песні і танца "Лідчанка" здзейсніў гастрольную паездку па Беластоцкаму ваяводству, выступіў з канцэртамі ў Беластоку, Дуброве, Бельску і Белавежы. Кіраўнік Кастусь Казячы (з 75 г.), да гэтага хормайстар. У ансамблі салісты: Зянон Бянько, Лявон Івашка, Тамара Лысенка. Хор - 41 чалавек, балет - 25 чалавек, аркестр - 14 чалавек.

**1979 год, люты.** Выбары ў Вярхоўны Савет СССР.



***Лідскі краязнаўчы музей па вул. Савецкай***

**1989 год.** На мясакамбінаце здадзены ў эксплуатацыю ФАК са спартовай залай, трэнажорным пакоем, басейнам, шахматна-шашачным клубам, пакоем адпачынку. Пабудаваны два інтэрнаты. Адчынены дзве фірмовых крамы

Кааператывы выпусцілі за 1 паўгоддзе прадукцыі на 1, 7 млн. рублёў.

**1999 год, сакавік.** Вучнем года прызнаны вучань СШ № 9 Аляксандр Глоба.

**1999 год, пачатак траўня.** У Сафіі на чэмпіянаце Еўропы па барацьбе самба лідзянка Валянціна Разуменка стала чэмпіёнкай у вагавых катэгорыях 75 і 77 кг. Вольга Прыданнікава і Марына Дзікевіч на другіх месцах. Трэнер Міхась Кароза.

# 1379 год.
# Шлюб Вайдылы з Марыяй Альгердаўнай

Вайдыла быў служкаю Вялікага князя Літоўскага і Рускага Альгерда. Спачатку быў пекарам, потым Альгерд наблізіў яго да сабе: Вайдыла стаў пасцельнічым - слаў вялікаму князю пасцель, потым падчашым - падаваў ваду, нарэшце, стаў асабістым сакратаром. Вайдыла так палюбіўся князю, што ў пачатку 1370 -х гадоў Альгерд даў яму ў трыманне Ліду і вызначыў у баярства. Вось тэкст летапісу Быхаўца, ён напісаны на лацінцы: **“ ... byl cholop u welikoho kniazia Olgerda, parobok newolny, zwali ieho Woydylom. Perwije byl pekar, potom ustawil ieho postelu slaty, y wodu dawatu sobe pity, a potum y welmi polubilsia iemu, y dal byl iemu Lidu derzaty, y powel byl ieho u dobroje”.** А вось тэкст з хронікі літоўскай і жамойцкай, ён напісаны на кірыліцы: **“Был там у него Войдило неякий, незначной фамилии человѣк; той перед тым будучи еще у Олгерда пекарем, з довсципу своего подобался княжати, поставил его у себе постелничим, потым подчашим зостал и был вѣрным секретаром Олгердовым до смерти его”.**

Разам з Лідай Вайдыла атрымаў навакольныя селішчы - цэлую воласць. Маёнтак буйнога баярына ў 14 стагоддзі ахопліваў адну - дзве вёскі з сядзібай, рэдка хто валодаў буйным маёнткам з некалькіх вёсак. Вайдыла стаў вельмі багатым баярынам, можа быць, найбагацейшым у ВКЛ.

Альгерд памёр у траўні 1377 г. Яго сын Ягайла, атрымаўшы ў спадчыну Вялікае Княства, **“праз два гады або чуць больш”** выдаў замуж за Вайдылу сваю родную сястру, князёўну Марыю і зрабіў яго сваім дарадцам. **Potom, po zywote welikoho kniazia Olgierda, dwe lete y bolsze minuwszy, kniaz weliki Jagoylo powede Woudyla welmi u wysokich, y dast za neho sestru swoju rodnuiu kniahiniu Marju, szto bula za kniazem Dawidom.**

Дарэнне халопу горада з замкам і яго шлюб з вялікакняскай дачкой - па тых часах было падзеяй надзвычайнай і ў далейшым мела вельмі драматычныя наступствы, у сувязі з якімі Ліда згадваецца ва ўсіх беларуска-літоўскіх летапісах, а падзеі апісваюцца ва ўсіх манаграфіях па сярэдневечнай гісторыі Беларусі, Літвы, Польшчы і Расіі, у тым ліку ў 18-томавай “Истории России” С.М. Салаўёва: **“Ягайла не имел твердого характера, вследствие чего подвергался влиянию окружавших его. Самым приближенным из них был Войдылло. ... Силен был Войдылло при Олгерде; еще сильнее стал при Ягайле, который даже отдал за него родную сестру”.**

Халоп - дарадца Вялікага князя, муж князёўны, было з-за чаго абурыцца сярэднявечнаму баярству. Трэба думаць, у шаленстве быў князь Кейстут - дзядзька Ягайлы і Марыі - апошні з жывых тады сыноў Гедзіміна. Пачаў Кейстут папракаць удаву Альгердаву, Ягайлу і пляменніцу, з-за чаго паўстала нянавісць паміж ім і Вайдылам: **“Kniaziu welikomu Keystutiu welmi welikuiu nelubow i zalost wczynil o tuiu bratanku jeho, a ijho sestru, szto za cholopa dal”.** А ў хроніцы літоўскай і жамойцкай: **“Ягайло тежъ шановал его як вѣрного отцевского секретара и дал ему сестру свою за жону, що велми Кестута, стрыя его образило”.**

Вайдыла ўступіў у перапіску з крыжакамі і пераканаў Ягайлу скласці з імі мірную дамову без удзелу Кейстута і ў абыход яго інтарэсаў. У 1380 г. у Давідзішках Вялікі князь Ягайла падпісаў дамову аб вечным сяброўстве з крыжакамі, якая тычыцца толькі яго валадарстваў: **“…y byl tot Woydylo welikoie mocy u welikoho kniazia Jadgoyla, poczal s nemcy sobe seymy czynity y zapisowatysia hramotami protywu welikoho kniazia Kestutia”. “Войдило… почал пред Яйгелом Кестута, стрыя егово огиду и подейзрене подавати, мовячы на Кестута речи неправдивыи. И так радою своею здрадливою той то Войдило до того привел, жебы Ягейло потаемне з крижаками прускими примире против Кестутови стрыеви своему, взял, о котором примирю Кестут от Гостороденя камендантa крижацкого, которого дочку Кестут до крещения святого держал, зараз довѣдался…Ты того не ведаешь, как князь великий Ягайло посылает к нам часто Войдыла и уже записался с нами, как бы тебя зсадити с твоих мест, а ему досталось».**

Кейстут адважыўся на дзяржаўны пераварот: 1 лістапада 1381 г. нечакана напаў на Вільню, захапіў у палон Ягайлу з маці і малодшымі братамі і зрушыў яго з вялікакняскага пасаду. **« Кестут збройною рукою впал до Виляя... Взял Вилно и опановал, а Крево на сторону его, часть отцевскую, и Витебск, часть материнскую, зоставил».**

Ягайла быў змушаны прысягнуць, што ніколі не ўзброіцца супраць Кейстута, не выйдзе з яго волі, пасля чаго быў адпраўлены з раднёй у Віцебск на бацькоўскі ўдзел. У 1381-82 гг. Ягайла падпісваўся як князь віцебскі, крэўскі і лідскі. **“Ксянже на Витебску, Креве и Лиде”**.

Восем месяцаў 85-гадовы Кейстут кіраваў Вялікім Княствам. Увесь гэты час Вайдыла з жонкай жылі ў Дуброўні пад Лідаю, і трэба лічыць **“стояти против князя Кейстута”** не перасталі. У чэрвені 1382 г. Кейстут напаў на Дуброўню, захапіў Вайдылу ў палон і загадаў яго павесіць: **“Войдила того ... поимавши, же межи них тую кость вкинул ненависти и неприязни великой, казал повесити на шибеници”.**

Ягайла адваяваў пасад. Смерць свайго дарадцы сям’я не прабачыла. Стары Кейстут быў задушаны залатым шнурком ад феразі ў Крэўскім замку і з вялікай урачыстасцю спалены па язычаскім абрадзе ў даліне Свінтарога ў Вільні. Жонка Кейстута Бірута была ўтоплена, два сваякі чацвяртованы, многія прыхільнікі пазбаўлены жыцця.

***В. Сліўкін.***

# Верхлідзе - больш за 425 гадоў

*Вёска **Верхліда (Верхняя Ліда)** Крупаўскага сельсавета Лідскага раёна ў гісторыі асабліва нічым не вызначылася. Але выйшла з друку 70-я кніга Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага (1582 - 1585), дзе справа 59 утрымоўвае прывілей караля польскага і вялікага ккнязя літоўскага Стэфана Баторыя пісару канцылярыі Флерыяну Алешку на маёнтак Верхліду Лідскага павету.*

## МЕТРЫКА

### Вялікага Княства Літоўскага
### Кніга 70 (1582 - 1585). Справа 59.

***Прывілей кар. пол. і в.к.л. Стэфана Баторыя пісару канцылярыі каронай Флерыяну Алешку на маёнтак Верхліду Лідскага павету ленным правам.***

**Прывилей Флерыяну Олешку на именичко Верхълиду ленънымъ правомъ.**

Стефан, Божю м(и)л(о)стью корол полский, великий кн(я)зь литовский.

Ознаймуемъ симъ листомъ нашымъ всимъ вобецъ и кождому зособна кому того ведати належыть, нинешнимъ и напотомъ будучымъ.

Иж мы маючы ласкавый взгляд на службы шляхэтного Флерияна Олешка, писара канцлереи н(а)шое коронное, которими он от немалого часу в канцляреи н(а)шой справы н(а)шы г(о)с(по)д(а)рьские и Речи Посполитое добре, верьне и цнотливе и уместне справовал, потому ж и въ войнах н(а)шыхъ, такъже в посторонных панства бываючы заховал, и тыми всими поступками свои|ми ласку н(а)шу пильне заслуговал.

А такъ мы г(о)с(по)д(а)рь по увесь векъ панованья н(а)шого не опущаючы ни одного особы заслуги в Речы Посполитоы такъ и оного самого пречоного Флерияна Олешка, взглядомъ таковыхъ цнотливых и добрыхъ службъ его на противко намъ г(о)с(по)д(а)ру и Речы Посполитой з ласки н(а)шое г(о)с(по)д(а)рьское вперод помененому Флерияну Олешку дали есмо ему и симъ листомъ нашымъ даемъ именьичко называемое Верхълиду в повете Лидскомъ лежачое, которое держал неякий Анъдрей, спадокъ до столу н(а)шого г(о)с(по)-д(а)рьского по неякомъ чеху.

Маеть пречоное именичко Флериян Олешко и въ его потомъстве мужского рожаю ленным правомъ, яко и первей того верху помененому было дано, который без потомства змер держати и вжывати вечными часы зо всими пожытками и доходами якося з давныхъ часовъ само в собе в кгрунтехъ, границахъ и в обыходехъ своихъ маеть.

И на то есмо вышей речоному Флерияну Олешку дали сес нашъ листъ рукою нашою королевскою подписавшы, до которого на сведецство и печат н(а)шу притиснути есмо казали.

Писан у Городне, лета Бож(его) нарож(енья) 1584, м(е)с(я)ца февраля 20 дня.

Подпис руки г(о)с(по)д(а)рьское.

Венцлав Акгрипа писар.

**Прывілей Флерыяну Алешку на маёнтак Верхліду ленным правам.**

Стэфан, Божаю міласцю кароль польскі, вялікі князь літоўскі.

Азнаямляем гэтым лістом нашым усіх разам і кожнага асобна, каму тое ведаць належыць, цяперашнім і на потым будучым.

Мы маючы ласкавы погляд на службы шляхетнага Флерыяна Алешкі, пісара канцылярыі нашае каронная, каторымі ён ад немалога часу ў канцылярыі нашай справы нашы гаспадарскія і Рэчы Паспалітай добра, верна і бездакорна і ўмела справаваў, да таго ж і ў войнах нашых, таксама ў замежных дзяржавах бываючы захаваў, і тымі ўсімі ўчынкамі сваімі ласку нашу пільна заслужыў.

А паколькі мы, гаспадар, па ўвесь век панавання нашага не апушчаючы ні адной асобы заслугі ў Рэчы Паспалітай, так і гэтага самага названага Флерыяна Алешкі, з улікам такіх бездакорных і добрых служб яго на карысць нам гаспадару і Рэчы Паспалітай з ласкі нашае гаспадарскае раней названаму Флерыяну Алешку далі яму і гэтым лістом нашым даём маёнтачак названы Верхліду, які размешчаны ў павеце Лідскім, і які трымаў нейкі Андрэй, спадчына да стала нашага гаспадарскага па нейкім чэху.

Названы маёнтачак Флерыян Алешка і ў яго нашчадках мужчынскі пол мае ленным правам, як і перад тым вышэй названаму, які без нашчадкаў памёр, быў дадзены трымаці і карыстацца на вечныя часы з усімі пажыткамі і прыбыткамі, які з даўніх часоў сам ў сабе ў грунтах, граніцах і ў абыходах сваіх мае.

І на тое вышэй названаму Флерыяну Алешку далі гэты наш ліст, рукой нашаю каралеўскаю падпісаўшы, да якога на сведчанне і пячатку нашу прыцісную казалі.

Пісаны ў Гародні, года Божага нараджэння 1584, месяца лютага, 20 дня.

Подпіс рукі гаспадарскае.

Венцлаў Акгрыпа, пісар.

*Безумоўна, Верхлідзе больш гадоў, бо, як выцякае з прывілею, да 20 лютага 1584 года маёнткам ужо валодалі нейкі Андрэй і нейкі чэх. Але паколькі за дату заснавання населенага пункта прынята лічыць першую пісьмовую згадку, то, пакуль не будзе знойдзена больш ранняя дата, гістрыю Верхліды можна адлічваць ад гэтага **20 лютага 1584 года.***

***Станіслаў Суднік.***

# Ліда. 1839 год

Ліда - горад, цэнтр Лідскага павету, які ўваходзіць у склад Гарадзенскай губерні Расійскай імперыі. На чале Расійскай дзяржавы імператар Мікалай I. Гарадзенскі губернатар - Рыгор Гаўрылавіч Допельмайер. Лідскі гараднічы - палкоўнік Стугін. Лідскі спраўнік - палкоўнік фон Берг. Прайшло 8 гадоў пасля лістападаўскага паўстання 1830 г. і 11 гадоў пасля ўказу аб высяленні яўрэяў з усіх вёсак у гарады і мястэчкі. Ідзе працэс перабудовы ўніяцкіх цэркваў у праваслаўныя.

Размешчаны горад на міжрэччы паміж двума вадацёкамі - Лідзейкай і Каменкай, на кожным з вадацёкаў па драўляным мосце. 4 вуліцы: Віленская, Замкавая, Каменская і Крывая, першыя дзве з брукам. Дзве немошчаныя плошчы: Рынак і Школьны Двор. Каля 300 дамоў, 5 з іх мураваныя: замак, два касцёлы, будынкі скасаванага кармеліцкага кляштара і зачыненага касцёла Бязгрэшнага зачацця Панны Марыі.

Павятовы скарб (казначэйства).

Дзве гарбарных фабрыкі. 35 рамеснікаў.

23 крамы. 2 карчмы. 60 гандлёвых лавак (ятак). Правіянцкі склад.

Павятовая паштовая кантора 2 класа на вул. Віленскай у хаце прапаршчыка Дароднага з 5 службоўцамі: паштмайстар, памочнік і 3 паштары.

Павятовая дваранская пяцікласная навучальня для хлопчыкаў, з 1836 г. навучанне вядзецца на рускай мове. Дазорцам навучальні быў тытулярны дарадца Ф. Падэрн. 11 настаўнікаў, каля 100 навучэнцаў-дваран. Пансіён для вучняў. Яўрэйская школа.

Лякарня Прыказу грамадскага прыгляду (гошпіталь). У год лячылася да 250 хворых. Прыватная аптэка. Лазня.

Два дзейныя рымска-каталіцкія храмы - фарны Крыжаўзвіжанскі і піярскі Язэпаўскі, могілкавая драўляная капліца Святой Барбары, праваслаўны храм, сінагога. Двое могілак: хрысціянскія і іўдзейскія. Лідскі дэкан Вінцэнт Лінкін (Лінкен), святар Фарнага касцёла ксёндз Вайшвіла. Лідскі Дабрачынны Сампсон Брэн, святар (вікарый) Лідскай царквы Іаан Ваўчковіч (Валачковіч). Рабін Мэйлер (Элімеліх) Гіршавіч Камянецкі.

2 прыватныя сады плошчай 1,5 дзесяціны, 52 агарода, 65 студняў пры хатах.

3235 жыхароў: 1909 мужчын, 1326 жанчын. Высакародныя-4, штаб-афіцэры -3 муж., 1 жан.; обер-афіцэры- 18 муж., 2 жан. Цывільнага ведам-ства: штаб-афіцэры - 1 муж., 1 жан.; обер-афіцэры -18 муж., 9 жан.; не якія маюць 14 класа -17 муж., 5 жан. Адстаўныя вайсковага ведамства: обер-афіцэры -2 муж., 2 жан.; адстаўныя цывільнага ведамства: обер-афіцэры -2 муж., 2 жан. Разначынцы (людзі разумовай працы)- 8 муж., 5 жан. Купцы 1 гільдыі (з капіталам звыш 50 тысяч рублёў) -1 муж.,1 жан; купцы 2 гільдыі (з капіталам ад 20 да 50 тысяч рублёў) - 5 муж., 5 жан. Мяшчане і пасадскія - 1123 муж., 1129 жан. Ніжнія вайсковыя чыны пры службе - 629 муж., 135 жан.; кантаністы (салдацкія сыны, якія лічыліся з дня нараджэння за вайсковым ведамствам) - 28 муж.; 3 жан., адстаўныя - 12 муж., 10 жан. Службоўцы -25 муж.,10 жан. Спавівальныя бабкі-2. Настаўнікі -11 муж., 6 жан.

У горадзе жылі яўрэі з прозвішчамі Беніямінавіч, Бярковіч, Баруховіч, Вінаград, Епштэйн, Заруховіч, Ілютовіч, Калмановіч, Камянецкія, Каплун, Кажэўнік, Левінта, Ліпшыц, Меяровіч, Мейлаховіч, Маўчацкі, Мураванскі, Натковіч, Падольскі, Пупко, Радунскі, Файншрайбер, Файнштэйбер. Яны аб'яднаныя ў кагал. Кагальны старшына Абрам Ізраелавіч Маўчацкі, дэпутат кватэрнай камісіі - Гірш Еліяшавіч Падольскі, навуковец - Абрам Беркавіч Каплун, стараста - Юдэль Шмуйлавіч Камянецкі, скарбнік - Герш Шлёмавіч Файнштэйбер.

За год у горадзе ўзята 26 шлюбаў, з іх 16 шлюбаў халастых з дзяўчынамі, 7- удаўцоў з дзяўчынамі, 3 - халастых з удовамі. Найбольшая колькасць шлюбаў узята ў студзені, 2 шлюбы ўзяты паміж жыхарамі Ліды і прыезджымі праваслаўнымі, 23 каталіцкага, уніяцкага і іудзейскага веравызнання. Нарадзілася 128 хлопчыкаў і 93 дзяўчынкі.

Спажываў горад 12800 чвэрцяў збожжа, 4180 пудоў мяса, 2100 вёдраў гарэлкі, 100 сажаняў дроў.

У сучасных межах горада ў 1839 г. размяшчаліся:

Двор Лідскага староства - за 200 м на поўдзень ад замка.

Прадмесце Каменка (уздоўж сучаснай вул. Ленінскай): жылыя будынкі з агародамі, вартавы дом "і пры гэтым шляўмбаўм", турэмны замак (гарадавы астрог), тутака ж агарод Лідскай інваліднай каманды плошчай у 2 дзесяціны і сенажаць фальварка Зарэчча.

Скарбовы фальварак Зарэчча (цяпер вул. Калініна і прылеглыя вуліцы ды завулкі).

Фальварак і вёска Куроўшчына (цяпер мікраараён Касманаўтаў), якія належалі Фарнаму касцёлу.

Ваколіца Вісьмантаў (уздоўж вул. Энгельса).

Гарадскі Выган плошчай 29 гектараў (цяпер гарадскі парк).

Фальварак Пастаўшчына, вёскі Расляі і Крыўцы (цяпер мікраараён Расляі).

Скарбовая вёска Дварцовая Слабада (цяпер мікраараён Слабада).

Засценак Мастоўшчына і вёска Лайкоўшчына (цяпер вуліца генерала Бяды).

Вёска Стругі (цяпер раён вуліцы Свярдлова).

Урочышча Сойкішкі (цяпер раён вул. Хасанаўская).

Вёска Навапрудцы (цяпер вул. Другая Навапрудская).

***В. Сліўкін.***

# Першыя калгасы вясны 1949 года

Пасляваенная сітуацыя на Лідчыне была небяспечнай для жыцця, дзейнічалі шматлікія тэрарыстычныя групы, яны забівалі ўчастковых, старшыняў сельсаветаў, упаўнаважаных, падатковых інспектараў, сельскіх дэпутатаў і ўсіх падазраваных у супрацоўніцтве з савецкай уладай. Гэта быў самы складаны для жыхароў раёна час, нябожчыкаў хавалі амаль кожны дзень. У калгасы ўступаць сяляне не жадалі - баяліся і ўжо мелі горкі досвед даваеннага калгаснага будаўніцтва.

З вялікімі высілкамі з парабкаў маёнтка Жырмуны 4 чэрвеня 1948 г. у Аполінскім сельсавеце (цяпер Крупаўскі) быў створаны першы пасляваенны калгас імя Сталіна.

Увосень таго ж года ў Вангаўскім сельсавеце былі арганізаваныя тры калектыўных гаспадаркі - "Світанак" у в. Вангі (16.09.1948), імя Булганіна ў Панямонцах (29.12.48) і "30 гадоў БССР" у Андрусоўшчыне і Чэхаўшчыне (29.12.48). Але Вангаўскі сельсавет тады ўваходзіў у склад Жалудокскага раёна.

На 1 студзеня 1949 г. у Лідскім раёне ў адзіным населеным пункце з трох сотняў вёсак і некалькіх тысяч хутароў існаваў калгас. Калектывізацыяй, як тады пісалі, былі ахоплены 73 чалавекі, з іх 39 дзяцей, з 45 тысяч сельскіх жыхароў раёна.

Са студзеня 1949 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі пачалася прымусовая калектывізацыя, якая працягвалася 5 гадоў і разбурыла ўвесь створаны стагоддзямі ўклад сялянскага жыцця. Калектывізацыя праходзіла вельмі цяжка, сяляне не з'яўляліся на сходы, падчас сходаў паводзілі сябе пасіўна, адмоўчваліся, у вокны пастрэльвалі невядомыя, упаўнаважаных чакалі засады, некаторыя калгасы назаўтра пасля рэгістрацыі разбягаліся, жывёлу імкнуліся пакідаць ва ўласных хлявах. Але для пасляваенных камуністаў - пераможцаў не было нічога немагчымага. Мала - памалу калгасны лад упаўзаў на Лідчыну.

5 студзеня ў в. Дворышча-1 Цвермскага сельсавета і Дворышча-2 Гярвенікскага сельсавета быў арганізаваны калгас "Новы шлях". Старшынём абралі Людвіга Іванавіча Догеля (Дагеля).

8 лютага 11 гаспадарак в. Даліна Траццякоўскага сельсавета, якія мелі 7 коней, 1 карову, 1 авечку і 1 мацёру, аб'ядналіся ў калгас "Новае жыццё". Старшынём абралі М.А. Шлюхо.

У першай палове лютага ў в. Аўсядава быў арганізаваны калгас "17 верасня", старшынём абралі Б. Пілінгу.

8 сакавіка арганізаваны калгас "Радзіма" у в. Гуды. Старшынём абралі Вацлава Антонавіча Роўбу. Газета "Уперад" аб арганізацыі калгасу паведаміла загадзя - у нумары ад 13 лютага ("Ідучы насустрач XIX з'езду КП(б) Б …"). Гэтыя тры калгасы былі створаныя да пачатку Х1Х з'езду КП(б) БССР.

20 сакавіка ў Агародніках Ганчарскага сельсавета 58 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Кірава. Стар-шынём абралі М.А. Курылава.

Да 23 сакавіка ў Масявічах Ганчарскага сельсавета арганізаваны калгас "Сонечны прамень". Старшынём абраны Говар Уладзімір Пятровіч. Гэты калгас праіснаваў нядоўга, у кастрычніку 1950 г. яго стваралі зноўку.

24 сакавіка ў Сяльцы Нёманскага сельсавета 32 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя Варашылава, старшынём абралі Федюкевіча Сцяпана Ульянавіча.

Такім чынам, за тры месяцы 1949 г. у Лідскім раёне, у тагачасных межах, былі арганізаваныя 6 калгасаў.

З красавіка 1949 *г.* лідская газета *Уперад*" стала пастаянна інфармаваць чытачоў аб поспехах калгаснага сялянства: *"Пачаў палявыя работы калгас «Радзіма». Толькі за адзін дзень 7 красавіка калгаснікі тт. Ненартовіч і Станкевіч узаралі па 35 сотых гектара глебы пад пасев яравых культур. У дапамогу маладому калгасу з Лідскай МТС прыбыў трактарыст Дзенісенка на трактары У-2. Члены сельскагаспадарчай арцелі абавязаліся правесці ўсе палявые работы ў сціслыя тэрміны і на высокім агратэхнічным узроуні"*. ( Уперад № 44 (687) ад 10 красавіка 1949 г.). Тут жа паведамлялася, што прыступілі да палявых работ таксама і сяляне: *"Гарбач (в. Сліжы), Федаровіч (в. Гімбуты) узаралі больш як па гектару"*. На 25 красавіка ў калгасе "Новыя шлях" было пасеяна 24 гектары, у тым ліку 18 гектараў збожжавых. *"Члены арцелі т. Мікавоз, Маслоўскі, Гяцэвіч штодзённа выконваюць нормы выпрацоўкі на 170-200 %"*

У Жалудокскім раёне, які быў расфармаваны ў 1962 г., калектывізацыя праходзіла больш паспяхова, там за люты - травень 1949 г. на тэрыторыі, якая пасля будзе перададзеная Лідскаму раёну, былі арганізаваныя калгасы: "Светлы шлях"(16 лютага) у в. Феліксава; "Чырвоны барацьбіт" (26 лютага) у в. Баяры Дзікушскія; "Перамога" (26 лютага) у в. Буцілы; "Чырвоны світанак" (26 лютага) у в. Агароднікі Ходараўскага сельсавета; "Воля" (2 сакавіка) на хутары Збляны; "Чырвоны Сцяг" (2 сакавіка) у в. Конюшаны; "Чырвоны бераг" (3 сакавіка) у в. Зблянь; "Сцяг" (16 сакавіка) у в. Шпількі; "ХІХ партз'езд" (16 сакавіка) у в. Ігнаткаўцы; "За Радзіму" (16 сакавіка) у в. Макары; імя Крупскай (13 красавіка) у в. Голдава; "Чырвоны прамень" (13 красавіка) у в. Мастаўляны і "Чырвоны партызан" (13 красавіка) у в. Пескаўцы. Вясновая кампанія па стварэнні новых калектыўных гаспадарак у Жалудокскім раёне завяршылася 11 траўня ў в. Роўбы, там быў створаны калгас "Праца".

***В. Сліўкін.***

# Лідскія юбіляры 2009 года



*Канстанцін Горскі*

**ГОРСКІ Канстанцін Антоні Кіпрыянавіч** (Канстанцінавіч, 13.06.1859 -31.05.1924) нарадзіўся ў Лідзе. Пачаў навучанне ў Гародні, працягнуў у Першай філалагічнай гімназіі ў Вільні. Музычную адукацыю атрымаў у Музычным інстытуце Апалінарыя Концкага ў Варшаве, затым у Кансерваторыі ў Санкт-Пецярбурзе, якую скончыў у 1881 годзе па класе скрыпкі, атрымаўшы Вялікі срэбны медаль і званне "Вольны мастак". Педагогам яго быў вядомы вугорскі скрыпач Леапольд Аўэр. Годам пазней К. Горскі скончыў клас кампазіцыі і інструментоўкі выбітнага рускага кампазітара Мікалая Рымскага-Корсакава. У 1890 годзе, здзейсніўшы доўгае (на працягу 8 гадоў) вандраванне па Расіі і Грузіі, праз Пензу, Саратаў і Тыфліс (сённяшні Тбілісі, пражыў там сем гадоў) Канстанцін Горскі прыбыў у Харкаў, каб застацца ў гэтым горадзе на 29 гадоў. Гэты перыяд у жыцці кампазітара стаў часам актыўнай дзейнасці. Яму выдатна ўдавалася сумяшчаць педагагічную працу (выкладаў у Харкаўскай музычнай навучальні, адным з яго вучняў у гэтай навучальні быў будучы славуты савецкі кампазітар Ісаак Дунаеўскі) з грамадскай (быў адным з заснавальнікаў культурнага таварыства "Дом Польскі" у Харкаве) і канцэртнай дзейнасцю (быў дырыжорам сімфанічнага аркестра, а таксама кіраваў касцельным і польскім хорамі, заснаванымі ім жа ў каталіцкім прыходзе). Пры гэтым Канстанцін Горскі заставаўся любімым публікай скрыпачом і інтэрпрэтатарам твораў іншых кампазітараў, за што меў ад іх вялікую пашану (вялікую павагу меў да яго Пётр Ільіч Чайкоўскі, лічачы К. Горскага адным з лепшых выканаўцаў яго скрыпічнага канцэрту D-dur № 1). Перажыўшы ў Харкаве дзве рэвалюцыі, голад, не бачачы магчымасці працягу тут творчай дзейнасці, К. Горскі разам з сям'ёй перабраўся ў Польшчу. Спачатку ў Варшаву, дзе працаваў тапёрам у кінатэатрах "Калізей" і "Вадэвіль", а затым пераехаў у Познань, дзе на пасадзе канцэртмайстра аркестра Вялікага тэатра ім. Ст. Манюшкі прапрацаваў да канца жыцця. Ужо пасля смерці кампазітара на сцэне тэатра ў 1927 г. была пастаўленая яго опера "Маргер". У міжваенны перыяд былі выкананы і іншыя яго творы, у тым ліку Missa Solemnis Es-dur (выканаўцы - хор ім. Ст. Манюшкі, у Познані), сімфанічная паэма "Зачараванае кола" і "Арганная фантазія" f-moll. Гэты твор К. Горскага выконваецца да сённяшняга дня з неаслабным поспехам.

Канстанцін Горскі быў узнагароджаны ордэнамі Святога Станіслава III ступені (1897) і Святой Ганны III ступені (1905).

Канстанцін Горскі пакінуў багатую творчую спадчыну. Да самых вядомых яго твораў адносяцца:

- Арганная фантазія f-moll, якая лічыцца адным з шэдэўраў арганнай літаратуры позняга рамантызму, "годная, а можа, і праўзыходзячая лепшыя творы Мечыслава Сужынскага і Фелікса Нававейскага";
- Дзве імшы: a-moll і Missa Solemnis Es-dur;
- Больш за 100 рамансаў, у тым ліку 12 песень на словы М. Канапніцкай, Ул. Сыракомлі, Зд. Дэмбіцкага і інш. для меца-сапрана і тэнара ў суправаджэнні фартэпіяна.
- Вакальныя творы і творы на рэлігійныя тэксты, у тым ліку Ave Maria, Salve Regina, Salutation a la Sainte Vierge, Зряще мя безгалосая (праваслаўная памінальная песня a capella для змешанага хору);
- Сімфанічныя паэмы: "На Алімпе" па навэле Г. Сянкевіча, "Зачараванае кола" па казцы Люцыяна Рыдэля;
- Дзве оперы: "Маргер" - у 3 актах, па паэме Ул. Сыракомлі, "Па хлеб" - у 2 актах, па навэле Г. Сянкевіча;
- Творы для скрыпкі і фартэпіяна: Souvenir de Nadrzecze. Premiere Mazurka, Petite Etude - Spiccato, Seconde Mazourka, Sur des chants polonais, Aria, Gavotte, Romance, 3-leme Mazourka, 1-ere Polonaise de Concert D-dur, 2-de Polonaise de Concert A-dur, Poeme Lyrique.

**Бібліяграфія:**

- Edward Wrocki. Konstanty Gorski. Zycie i dzialalnosc 1859-1924, Warszawa 1924.
- Эдвард Уроцкі, Канстанцін Горскі: жыццё і дзейнасць (13.06.1859 - 31.05.1924 гг.). Лідскі летапісец, № 3-4 (27-28), 2004.
- Z polskiej muzyki organowej XIX/XX w., red. Feliks Raczkowski i Jerzy Golos, Polskie Wydawnictwo Muzyczne, Warszawa 1981.
- Michal Zur, Irena Kozeniaszewa, Okres charkowski w zyciu Konstantyna Gorskiego, [w:] Diaspora polska w

Charkowie. Historia i wspolczesnosc, Charkow 2004, s. 130-134.
- Michal Zur, Irena Kozeniaszewa, Zapomniany kompozytor. Charkowski okres w zyciu Konstantego Gorskiego, [w:] Znad Wilii, nr 3 (35), Wilno 2008, s. 115-117.
- Т. Бахмет, Т. Гончаренко, Польские нотные издания XIX — нач. XX ст. из фонда редких изданий Харьковской городской специализированной музыкально — театральной библиотеки им. К. С. Станиславского. В “Харьков и Польша: люди и события”, Харкаў, 2006, с. 165-176.
- Р. М. Аладава, Канстанціна Горскага і яго опера “Маргер” у кантэксце беларускай культуры, Мінск. 2005.

**ГАЛІНА** (сцэн. псеўд.; дзявочае Грудзінская, па мужу Александроўская) **Вольга Уладзіміраўна** [11 (23).3.1899, м. Жалудок Лідскага павету - 4.12.1980], беларуская актрыса. Нар. артыстка БССР (1946). Сцэнічную дзейнасць пачала ў 1919. У 1921—22 у трупе палітаддзела 45-й стралковай дывізіі. У 1923-62 у Бел. тэатры імя Я. Купалы. Педагог студый пры тэатры, у 1948-55 і 1960-63 Бел. тэатр.-маст. ін-та. Выканаўца роляў гераінь і характарных.



***Вольга Галіна***

Актрыса вял. сцэнічнай культуры. Створаныя ёй вобразы вызначаліся інтэлектуальнасцю, багаццем і шматграннасцю сцэнічных характарыстык. Стварыла высокамастацкія вобразы ў нац. рэпертуары: Ганна, графіня Стэмбоўская («Машэка», «Кастусь Каліноўскі» Е.Міровіча), Яворская, Альдона («Мост», «Вір» Я. Рамановіча), пані Яндрыхоўская, Марозава, Прымаковіч («Партызаны», «Пяюць жаваранкі», «Людзі і д’яблы» К. Крапівы). Грамадзянскасць, сацыяльная глыбіня вызначаюць Г. ў ролях Паляжаевай («Неспакойная старасць» Л. Рахманава), Полазавай («Маскоўскі характар» А. Сафронава), Ганны Піхты («Змова асуджаных» М. Вірты), Гарыцвет, Мар’і Тарасаўны («Крылы», «Платон Крэчат» А. Карнейчука) і інш. Мужнасць, гераічную самаадданасць жанчыны-маці ярка раскрыла ў вобразах Кашавой («Маладая гвардыя» паводле А. Фадзеева), Марыі Мікалаеўны («Рускія людзі» К. Сіманава) і інш, Велічнасць рускай маці, яе здольнасць на самаахвяраванне, глыбокую любоў і разуменне свайго народа паказала Г. ў вобразе Марыі Аляксандраўны Ульянавай («Сям’я» І. Папова). Сакавітасцю, гумарам, сатырычнай завостранасцю вызначаліся створаныя Г. характарныя ролі: Барабашовай («Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага), Цалаванневай («Зыкавы» М. Горкага), пані Дэндальскай («Дамы і гусары» А. Фрэдры), Пампеевай («Гібель Пампеева» Вірты). Найб. значныя ролі, выкананыя ў класічным рэпертуары: Купавіна («Ваўкі і авечкі» Астроўскага), Соф’я («Апошнія» М. Горкага), Ранеўская, Аркадзіна («Вішнёвы сад», «Чайка» А. Чэхава), Карэніна («Жывы труп» Л. Талстога), Карміцелька («Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра), Тэадора («Дурная для іншых, разумная для сябе» Лопэ дэ Вэгі).



**В.У.Галіна.** Партрэт мастака Л.Рана. 1960.

**Літ.:** ГаробчанкаТ. Я. Вольга Галіна.— Мн., 1980; Бірыла С. Аблічча актрысы (В. У. Галіна).— У кн.: Майстры беларускай сцэны. Мн., 1960; Сабалеўскі А. Жыццё тэатра: Мастацтвазнаўчыя артыкулы, рэцэнзіі.— Мн., 1980, с. 181—187.

***Т.Я. Гаробчанка.***

**САЛАВЕЙ Павел Аляксандравіч** ( 20.01.1929-18.03.2006) нарадзіўся ў Нясвіжскім раёне. Скончыў СШ (1948), лесагаспадарчы факультэт Беларускага лесатэхнічнага інстытута (1953). Працаваў ляснічым Задворскага лясніцтва Слонімскага раёна (1953-58), старшым ляснічым Слонімскага лясгаса (1958-66), дырэктарам Лідскага лясгаса (1966-91). У лясгасе ў гэтыя гады былі пабудаваныя дрэваапрацоўчы цэх, цэх АВМ, шышкасушылка, адкрыты базісны гадавальнік. Лясгас стала займаў перадавыя месцы ў абласным, рэспубліканскім і Ўсесаюзным сацыялістычным спаборніцтве. Салавей П. А. узнагароджаны медалём “За доблесную працу …” (1970). Заслужаны лесавод БССР (1985).



*Павел Аляксейчык*

**АЛЯКСЕЙЧЫК Павел Вікенцьевіч** (1.04.1929- 15.12.2000) нарадзіўся ў в. Вялікія Мервіны Клецкага раёна. Скончыў Менскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1947-53) па спецыяльнасці лекар-лячэбнік. Лекар Курылавіцкай участковай бальніцы Мастоўскага раёна (1953-54), загадчык Іўеўскага раённага аддзела аховы здароўя (1954-58), галоўны лекар Іўеўскай раённай бальніцы (1958-60), галоўны лекар Лідскай гарадской бальніцы (1960-64), загадчык Лідскага гарадскога аддзела аховы здароўя (1964-67), галоўны лекар Лідскай цэнтральнай райбальніцы (1967-90), галоўны лекар Лідскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання (1990-93), лекар-метадыст райпаліклінікі (1993-97), лекар-траўматолаг міжкалгаснага санаторыя "Радон" (1999-2000). "Выдатнік аховы здароўя" (1966), "Заслужаны лекар БССР" (1968). Абіраўся чальцом гаркаму, дэпутатам гарсавету. Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і Кастрычніцкай Рэвалюцыі.



*Людміла Мягкова*

**МЯГКОВА Людміла Міхайлаўна** нарадзілася 26.04.1929 г., скончыла Ленінградскую вышэйшую мастацка-прамысловую навучальню імя Мухінай. З жніўня 1959 г. працавала на шклозаводзе "Нёман" у якасці галоўнага мастака. Мастак-прыкладнік у сферы мастацкага шкла. Неаднаразова ўдзельнічала ў выставах. Яе працы экспанаваліся ў Гародні, Менску, Маскве, Санкт-Пецярбурзе, Смаленску, Нямеччыне, Вугоршчыне, Чэхаславакіі, Фінляндыі, Францыі, Англіі, Грэцыі, Аўстрыі, Югаславіі. Працы знаходзяцца ў беларускіх музеях і музеях Масквы, Санкт-Пецярбурга, Шаўляя, Смаленска, Нямеччыны. Сябар Саюза мастакоў БССР (1964). "Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР" (1977). Срэбны медаль Мастацкай Акадэміі СССР.



*Уладзімір Ваўчок*

**ВАЎЧОК Уладзімір Іванавіч** нарадзіўся 2.04.1939 у в. Красляны Шчучынскага павету ў сялянскай сям'і. Скончыў сямігодку ў в. Дуброва Шчучынскага раёна (1954), навучальню механізацыі сельскай гаспадаркі № 15 у в. Мураванка Гарадзенскага раёна (1956). Працаваў па спецыяльнасці трактарыста-машыніста на цалінных землях Казахстана (1957-58). Падчас службы ў СА скончыў вячэрнюю сярэднюю школу і захапіўся вольнай барацьбой. Скончыў Беларускі інстытут фізічнай культуры (1963-67). Трэніраваўся ў заслужанага трэнера СССР Паўла Васільевіча Грыгор'ева.

У Лідзе з 1967 г., працаваў трэнерам па вольнай барацьбе ў спартовых таварыствах "Спартак", "Чырвоны Сцяг", з 1985 г у ДЮСШ. Майстар спорту СССР па вольнай барацьбе (1964). Чэмпіён БССР (1965), пераможца адкрытага чэмпіянату РСФСР (1965), пераможца турніру Дз. Карбышава (1969). Суддзя рэспубліканскай катэгорыі па вольнай барацьбе (1973). Судзіў Усесаюзныя і міжнародныя турніры, чэмпіянаты БССР, чэмпіянат Еўропы ў 1999 г. "Заслужаны трэнер БССР" (1994). Падрыхтаваў 42 майстроў спорту па вольнай барацьбе, сярод іх Ваўчок І.Л., Гатоўка Ў.П., браты Талдыкавы, Пацко Г.Р., Шостак А.М., Звяжынскі Ю.І.

**ПАТАПЕЙКА Аляксандр Мацвеевіч** нарадзіўся ў траўні 1949 г. у Восіпавічах Магілёўскай вобласці. Скончыў Беларускую кансерваторыю па класе баяна. Працаваў салістам інструментальнага ансамбля Белтэлерадыё пад кіраўніцтвам Л. Смялкоўскага.

Выкладчык Лідскай музнавучальні з дня заснавання (1973 г). Інструментаваў каля 200 твораў і песень. Асобныя пералажэнні ўвайшлі ў рэпертуар прафесійных аркестраў. Кіраваныя ім самадзейныя калектывы тройчы ўганароўваліся званнямі лаўрэатаў Усесаюзнага агляду самадзейнай мастацкай творчасці. Аркестр рускіх народных інструментаў Лідскага музнавучальні неаднаразова станавіўся лаўрэатам абласных і рэспубліканскіх конкурсаў і фэстаў. Запісаў праграму на Беларускім тэлебачанні.

Выпусціў са свайго класа 50 баяністаў, 18 з іх паступілі ў кансерваторыі Менска, Ленінграда, Масквы і Гановера. Яго вучні станавіліся лаўрэатамі рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў: Іосіф Гойдзь -нацыянальнага конкурсу імя Жыновіча, Таццяна Булан - міжнароднага конкурсу ў Кастельфедардо, Уладзімір Нехвядовіч - міжнародных конкурсаў у Нямеччыне, Італіі, Іспаніі, Англіі. Узнагароджаны медалём ВДНГ.

# Протаіярэй Іосіф Каяловіч

## 90 -год з дня смерці

Нарадзіўся айцец Іосіф Каяловіч 4/17 траўня 1835 года ў мястэчку Кузніца Гарадзенскай губерні (зараз Рэспубліка Польшча, Беластоцкае ваяводства) у сям'і святара Іосіфа Васільевіча Каяловіча.

Яго старэйшы брат Міхаіл Восіпавіч Каяловіч (1828 -1891), вядомы царкоўны гісторык Заходне-Рускага краю і грамадскі дзеяч, прафесар грамадзянскай і царкоўнай гісторыі Санкт-Пецярбургскай Духоўнай акадэміі. З дзяцінства братам Каяловічам прышчаплялася любоў да праваслаўнай веры, да рускага народу, да сваёй Айчыны. Любоў да Радзімы зблізіла іх бацьку са знакамітым мітрапалітам Іосіфам Сямашкам, які быў арганізатарам уз'яднання ўніятаў з праваслаўнай царквой у 1839 годзе. У 1840 годзе святар Іосіф Васільевіч Каяловіч памёр. У гэты час Міхаілу было 12, а Іосіфу 5 гадоў. Шляхі братоў пасля разышліся, але яны выконвалі адну і тую ж місію: служылі Богу.

Спачатку Іосіф Іосіфавіч вучыўся ў Жыровіцкай Духоўнай навучальні, а затым паспяхова скончыў у 1857 годзе Літоўскую Духоўную Семінарыю. Далей ён на працягу трох гадоў выкладаў рускую мову і гісторыю ў Кобрынскай духоўнай навучальні.

У 1860 году Іосіф Каяловіч ажаніўся з Лізаветай Ільінічнай і ў гэтым жа годзе 26 снежня быў рукапалажаны мітрапалітам Іосіфам (Сямашкам) у іярэі і накіраваны ў г. Ліду. У 1862 годзе айцец Іосіф быў прызначаны памочнікам Лідскага дабрачыннага, а з 1863 г. быў чальцом камітэта Лідскага павету па ўладкаванні праваслаўных цэркваў. Неўзабаве, у 1866 г. а. Іосіф Каяловіч быў прызначаны дабрачынным Лідскай акругі і пераведзены ў Свята-Міхайлаўскі сабор. Сан протаіярэя ён атрымаў у 1869 годзе, у веку 34 гадоў.*

Трэба сказаць, што бацюшка старанна выконваў свой пастырскі абавязак: быў дбайным святаром, выдатным адміністратарам, выдатным педагогам. З боку святароў карыстаўся аўтарытэтам і павагай, вядома ж, быў вельмі любімы вернікамі. Таксама быў у пашане і ў свецкіх уладаў. Хоць сам а. Іосіф не займаўся гісторыка-навуковай дзейнасцю, аднак дапамагаў у зборы матэрыялу свайму брату Міхаілу. Бацюшка ездзіў у Пецярбург на прыём да обер-пракурора К. П. Пабеданосцава, з просьбай адчыніць у Вільні духоўную акадэмію, але нажаль, станоўчага адказу не атрымаў.

У гады Першай Сусветнай вайны, быўшы ўжо ў старэчым веку айцец Іосіф папрасіў дабраславення ў архіепіскапа Віленскага Ціхана (Белавіна) (будучага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі), застацца з паствай і не эвакуявацца ў глыб краіны, на што атрымаў станоўчы адказ. Перажыўшы тры гады акупацыі і тры месяцы савецкай улады, а. Іосіф прыняў пакутніцкую смерць. На трэці дзень Вялікдня падчас здзяйснення Боскай Літургіі ў храм уварваліся польскія легіянеры. З крыкамі: "Было ваша права, а зараз наша!" - яны пачалі ламаць іканастас і выкідваць абразы. На яго вачах адбывалася апаганенне святынь і захоп храма, у якім з пачатку яго заснавання ён і служыў. Вернікі, якія бачылі ўсе гэтыя беззаконні, плакалі, але зрабіць нічога не маглі. Затым адрэзалі святару бараду, падпалілі і кінулі яе ў акно. На наступны дзень протаіярэй Іосіф Каяловіч са слядамі збіцця быў знойдзены мёртвым у царкоўным доме. Такім чынам, у красавіцкія дні 1919 года праваслаўныя лідзяне страцілі горача любімага пастыра і пазбавіліся Свята-Міхайлаўскага храма.



Пахаваны быў шаноўны пастыр ля алтарнай часткі Свята-Георгіеўскага храма ў магільным склепе роду Каяловічаў. Са страху, нажаль, на магіле нават не ўсталявалі крыж і не пазначылі месца пахавання. Пахаваны ён быў як належыць святару: у святарскім уборы.

Вось так, па-пакутніцку, скончылася зямное жыццё протаіярэя Іосіфа Каяловіча, але пачалося іншае, дзе "няма ні хваробы, ні смутку, ні ўздыхання, але жыццё бясконцае".

**У матэрыяле выкарыстоўваліся наступная літаратура і крыніцы:**

1. Кліравая ведамасць Лідскай саборнай Арханёла - Міхайлаўскай царквы за 1881 год.
2. Кліравая ведамасць Лідскай саборнай Арханёла - Міхайлаўскай царквы за 1882 год.
3. Кліравая ведамасць Лідскай саборнай Арханёла - Міхайлаўскай царквы за 1890 год.
4. Кліравая ведамасць Лідскай саборнай Арханёла - Міхайлаўскай царквы за 1912 год.
5. Асвячэнне храма ў г. Ліда //Літоўскія епархіяльныя ведамасці. 1863. №17. С. 629-632.
6. Даклад Літоўскай Епархіяльнай Рады ад 19.07.1919 г.
7. Успаміны Горбач І. С. Рукапіс, г. Ліда, 1988 г.
8. Успаміны Клімко Н. Г. Рукапіс, г. Ліда, 1988 г.
9. Успаміны Астрейка С.Р. Рукапіс, г. Ліда, 1988 г.
10. Раіна Павел, дыякан. Гісторыя Пінскай епархіі. Курсавое сачыненне. Ленінград, 1956.
11. Чарапіца Ў. Н., праф. Міхаіл Восіпавіч Каяловіч. Гародня, 1988.

***Падрыхтавана Свята-Георгіеўскім храмам-помнікам.***

* Падрабязны паслужны спіс протаіярэя Іосіфа Іосіфавіча Каяловіча пададзены на стст. 7-8 часопіса "Лідскі летапісец" № 1(33) за 2006 год.

# Генерал Кіпрыян Кандратовіч

## (150 гадоў з дня нараджэння)

***Мужыцкай нацыі каравую лічыну***
***Мы ўбок адсоўваем памалу...***
***З вякоў вяртаюцца ў сваю Айчыну***
***Яе князі і генералы...***



Генералъ-маіоръ Кондратовичъ.

**КАНДРАТОВІЧ Кіпрыян** (Цыпрыян Антонавіч, 28 красавіка 1859, в.Зіневічы, Лідскі раён — 31 кастрычніка 1932, маёнтак Гародна, Воранаўскі р-н) — расейскі і беларускі вайсковы дзеяч, сябар Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады, міністр Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Скончыў павятовую школу ў Лідзе. Рос і выхоўваўся з сынам князя Трубяцкога. Пайшоў па вайсковай лініі. Зрабіў бліскучую вайсковую кар'еру. Генерал ад інфантэрыі. Не парываў сувязі з радзімай, купіў маёнтак Гародна ў Лідскім павеце (цяпер Пагародна Воранаўскага раёна). Каля 1910 г. ажаніўся з Адай Рыхтэр, 1884 г.н. - курляндскай баранэсай, дачкой рыжскага генерала фон Рыхтэра. Тут, у Гародна, у 1912 г. нарадзілася дачка Вера.

Перажыў разгром расійскага войска ва Ўсходняй Прусіі ў 1914 годзе. У 1917 годзе перайшоў на бок беларускіх нацыянальных сілаў. У 1917 г. на з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту генерал ад інфантэрыі Кіпрыян Кандратовіч быў абраны ў Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду (ЦБВР). У структурах БНР супрацоўнічаў з беларускімі правымі: Раман Скірмунт, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, князь Альбрэхт Радзівіл, генерал А. Багдановіч, Эдвард Вайніловіч і інш.

На пачатку траўня 1918 г. была створана Рада Міністраў БНР пад кіраўніцтвам Рамана Скірмунта. Міністрам вайсковых спраў у гэтай радзе быў прызначаны генерал К. Кандратовіч.

У 1919 годзе генерал Кандратовіч браў удзел у складзе дэлегацыі БНР у мірнай канферэнцыі ў Парыжы.

Памёр у Гародна ад цяжкага інсульту. Быў пахаваны на Лідскіх праваслаўных могілках. У 1997 г. парэшткі генерала перапахаваныя ў Воранава. Жывыя два ўнукі: Георг жыве ў Лондане, Аляксандр Рэйні - у Францыі.



*Генерал Кіпрыян Кандратовіч*
*на службе БНР, 1918 г.*

Постаць генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча стала вядома шырокай грамадскасці пасля шэрагу публікацый 2002 - 2007 гг. Аўтарам большасці гэтых публікацый з'яўляецца лідскі краязнавец Лявон Лаўрэш. *Асноўныя публікацыі:* "Спадчына" №1, 2002. С. 161-166; "Наша слова", № 9(596), № 10(597), № 11(598), 2003 г.; "Наша слова", № 10(645), № 2004 г.; "Лідскі летапісец", № 4(32), 2005 г. С. 12-26; кніга Лявона Лаўрэша "Генерал Кіпрыян Кандратовіч". Ліда. 2007. 44 с. Недаступным для даследчыкаў застаецца дзённік генерала, які захоўваецца ўнукам у Англіі.

Стаўленне да генерала К. Кандратовіча неадназначнае.

Адны лічаць яго нацыянальным героем, іншыя абвінавачваюць у тым, што ён не стаў дыктатарам, не стварыў войска, якое б адстаяла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, як гэта зрабілі Пілсудскі і Менергейм, дзеячы многіх іншых краін, што заснавалі незалежныя дзяржавы на крушнях рухнуўшых імперый.

І ўсё ж. Поўны генерал Расійскай імперыі, магчыма, княжацкай крыві, кавалер многіх ордэнаў стаў міністрам дзяржавы, народ якой у большасці сваёй не ведаў назвы гэтай дзяржавы і не разумеў, як можна жыць і без Расіі, і без Польшчы. Народ гэты і праз 70 гадоў не разумеў як Беларусь можа быць незалежнай, не ведаў што з незалежнасцю рабіць, атрымаўшы яе. Генерал у сваёй свядомасці шлях да Беларусі прайшоў вельмі хутка. Ён мог пайсці да бальшавікоў, мог пайсці да палякаў. Ён пайшоў да сваіх, да цёмных, сляпых, зашораных, але да сваіх, да амаль нерэальных беларусаў, за што **гонар яму і слава!**.

# Паслужны спіс генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча

На службу паступіў 07.05.1875 у г. Вільня.

У 1878 г. скончыў 2-ю вайсковую Канстанцінаўскую навучальню. Юнкеры гэтай навучальні вывучалі, у асноўным, дакладныя навукі: матэматыку, аналітычную геаметрыю, дыферэнцыяльнае і пачатак інтэгральнага вылічэнняў, фізіку, хімію, механіку, чарчэнне.

Акрамя агульнаадукацынных і спецыяльных вайсковых навук, юнкеры навучаліся пешаму і коннаму шыхту, статутам, гімнастыцы, верхавой яздзе і фехтаванню. У лагерах праходзілі практычны курс стральбы і тапаграфіі, з рашэннем тактычных задач.

16.04.1878 г. выпушчаны падпаручнікам і прыпісаны да лейб-гвардзейскага Егерскага палка. Затым пераведзены ў лейб-гвардзейскі Ізмайлаўскі полк прапаршчыкам (прапаршчык гвардыі прыраўноўваўся да падпаручніка арміі).

Удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1877-78 гг. у шэрагах грэнадзёрскага корпуса.

29.07.1879 г. атрымаў чын падпаручніка гвардыі.

З 28.03.1882 г. паручнік гвардыі.

У 1884 г. скончыў Мікалаеўскую Акадэмію Генеральнага Штаба па 1-му разраду (г. зн. - быў сярод лепшых). Выпуск 1884 г. - 20 афіцэраў.

З 25.03.1884 г. штабс-капітан гвардыі, затым пераведзены ў капітаны Генеральнага Штаба (зноў пры пераходзе з гвардыі ў армію, аўтаматычна атрымаў чын на адну прыступку вышэй). Служыў пры штабе Маскоўскай Вайсковай акругі.

З 08.11.1884 па 02.04. 1888 афіцэр для адмысловых даручэнняў пры штабе Грэнадзёрскага корпуса ў Маскве. Дзеля павышэння па службе афіцэр абавязаны быў прайсці ўсе прыступкі камандавання, выканаць камандзірскі цэнз на ўсіх прыступках. Таму з 01.12.1885 па 01.10.1886 цэнзавае камандаванне ротай адбываў у 1-м лейб-грэнадзёрскім Екацерынаслаўскім палку.

З 24.04.1888 г. - падпалкоўнік.

Штаб-афіцэр для даручэнняў пры штабе Маскоўскай Вайсковай акругі (02.04.1888-12.12.1889).

Штаб-афіцэр для адмысловых даручэнняў пры камандуючым войскамі Маскоўскай Вайсковай акругі (12.12.1889-15.11.1897).

Палкоўнік (з 28.03.1893). Цэнзавае камандаванне батальёнам адбываў у 6-м грэнадзёрскім Таўрычаскім палку (01.05.-01.09.1895).

15.11.1897-02.02.1901 гг. начальнік штаба 2-й грэнадзёрскай дывізіі ў Маскве.

У 1884-1900 гг. супрацоўнічаў у газеце "Маскоўскія ведамасці" у якасці вайсковага аглядальніка.

Камандзір 2-й брыгады 36-й пяхотнай дывізіі (07.02.1901-11.07.1902).

Удзельнічаў у кітайскай кампаніі 1900 г.

У Кітаі ў траўні 1900 г. года ўспыхнула магутнае сялянскае паўстанне. Ініцыятарам паўстання з'явілася таемнае рэлігійнае таварыства "Іхэцюань" ("Кулак у імя справядлівасці і згоды"). У сувязі з тым, што ў назоў таварыства ўваходзіла слова "цюань" (кулак), замежнікі назвалі паўстанцаў "баксёрамі" а само паўстанне - "баксёрскім".

Паўстанцаў падтрымалі кітайскія вайсковыя часткі. У чэрвені "баксёры" дайшлі да Пекіна, па дарозе знішчаючы ўсіх замежных грамадзян і хрысціянаў-кітайцаў. Аблозе падвергнуўся еўрапейскі квартал, дзе знаходзіліся дыпламатычныя місіі. Урады дзяржаў, якія мелі эканамічныя інтарэсы на кітайскія ўзбярэжныя тэрыторыі, не маглі абыякава пазіраць на тое, што адбывалася. Асабліва калі пачала ліцца кроў еўрапейцаў. У мэтах вызвалення абложаных у Пекіне дыпламатычных місій, зацікаўленыя краіны пачалі спешна рыхтаваць узброеную інтэрвенцыю. Адзінае рашэнне было прынята ў еўрапейскіх сталіцах вельмі хутка бо "баксёры" не рабілі адрознення паміж еўрапейцамі: яны бязлітасна знішчалі ўсіх "белых чарцей".

Была вырашана адправіць ў Пекін саюзныя воінскія кантынгенты. На пост галоўнакамандуючага міжнароднай карнай экспедыцыяй германскі імператар Вільгельм II прапанаваў 68-гадовага генерал-фельдмаршала Альфрэда фон Вальдерзее. Але, пакуль германскі генерал-фельдмаршал прыбыў на тэатр ваенных дзеянняў, барацьба з "баксёрамі" была ў асноўным ужо завершаная. З порта Цяньцзінь на сталіцу Цынскай імперыі Пекін выступіў міжнародны 20-тысячны экспедыцыйны корпус пад камандаваннем рускага генерала М.П. Ліневіча і адмірала Я. І. Аляксеева (9000 японцаў, 4000 рускіх, 6000 ангельцаў, амерыканцаў, французаў і іншых). Саюзнікі штурмам авалодалі кітайскай сталіцай і вызвалілі дыпламатычны квартал, абаронцы якога мужна вытрымалі 54-дзённую аблогу кітайцаў. У каштоўнай крыніцы аб падзеях гэтага часу ў Кітаі, кнізе «У стен недвижного Китая. Дневник корреспондента "Нового Края" на театре военных действий в Китае в 1900 году» Зміцера Янчавецкага (СПб-Порт-Артур. 1903 г.) на старонцы 472 чытаем: *"24-га жніўня ў Пекін на тройцы прыбыў камандуючы войскамі віца-адмірал Я. І. Аляксееў, сустрэты перад варотамі Пекіна начальнікам вайсковых шляхоў палкоўнікам Кандратовічам. Прыняўшы рапарт* (Кандратовіча - заўв. аўтара), *адмірал праехаў у Імператарскую Расійскую місію ..."*

У 1900 г. з фармулёўкай "за баявыя адзнакі", раней тэрміну, Кандратовічу прысвоена званне генерал-маёр.

Але ў ліпені 1900 года "іхэтуані" (у іх ліку апынуліся і мясцовыя кітайскія войскі) напалі на Ўсходне-Кітайскую чыгунку: з 1300 вёрст чыгуначнай каляі было разбурана каля 900! Сотні мірных людзей - чыгуначнікі і члены іх сем'яў былі забітыя. Справа дайшла нават да таго, што войскі ціцікарскага губернатара Шоў Шаня перапраўіліся цераз Амур і атакавалі горад Благавешчанск і ўзялі ў аблогу сталіцу Ўсходне-Кітайскай чыгункі (КВЖД) горад Харбін, спрабуючы знішчыць расейскіх будаўнікоў чыгункі. Гэта былі сапраўды драматычныя падзеі.

У Маньчжурыю былі ўведзеныя расейскія войскі. Падчас баёў з атрадамі "баксёраў" расейскія войскі

страцілі 242 чалавекі забітымі і 1283 параненымі. Рэгулярныя войскі праціўніка былі хутка разбітыя. Для барацьбы з шматлікімі дробнымі аддзеламі былі створаныя лятучыя атрады расейскага войска. З. Янчавецкі на старонках 604-607 піша: *"23 верасня выйшаў з Мукдэна лятучы атрад пад начальствам Генеральнага Штаба генерала Кандратовіча, начальніка вайсковых шляхоў, у складзе пяхоты і артылерыі (падпалкоўнік князь Крапоткін), конніцы (есавул Мадрытаў) і сапёраў. Мэтай гэтага атрада было ўсталяваць зносіны па рацэ Ляохэ і яе прытоку Хунхэ, які праходзіць побач Мукдэна, для таго, каб дастаўляць транспарты вадою ...*

*Генерал Кандратовіч прайшоў увесь прызначаны шлях, меў у многіх месцах перастрэлку з кітайскімі войскамі і баксёрамі і ўпершыню ўсталяваў сувязь па рацэ Ляохэ паміж Мукдэнам і Інкоў. На генерала Кандратовіча ў кампанію 1900 года была ўскладзена вельмі цяжкая, складаная і адказная справа: забеспячэнне вайсковых шляхоў зносін і арганізацыіі тылу на вялізнай вобласці - ад Пекіна да Мукдэна.*

*Дзякуючы яго старанням, неўзабаве пасля ўзяцця Пекіна і Мукдэна нашымі сапёрамі быў праведзены рускі вайсковы тэлеграф паміж Порт-Артурам і гэтымі гарадамі. Таксама дзякуючы настойлівасці генерала Кандратовіча хутка быў адноўлены кітайскі тэлеграф, разбураны ў Манчжурыі "баксёрамі". З дапамогай гэтага тэлеграфа былі ўсталяваны прамыя тэлеграфныя зносіны паміж Порт-Артурам і Сібір'ю, дзякуючы чаму Пецярбург атрымаў магчымасць мець сувязь непасрэдна з Манчжурыяй і Квантунам па рускім тэлеграфе, не звяртаючыся да замежных кабеляў. Пасля генерал Кандратовіч быў начальнікам атрадаў, якія пасылаліся ў глыб Манчжурыі для ўціхамірвання краіны ... цяжкія і працяглыя экспедыцыі генералаў Кандратовіча, Цярпіцкага і Каўльбарса ў горы Манчжурыі толькі раскідалі гнёзды "баксёраў", але не знішчылі іх. Некалькі тысяч "баксёраў" і іх галоўны правадыр ... Ліўданьцзр (па-беларуску: шэсць шрацінак) здаліся рускім ... Але тысячы іх яшчэ хаваліся ў лясах і скалах Манчжурыі для рабавання і гвалту."*

* * *

З 11.07.1902 г. па 24.12.1903 г. генерал Кандратовіч знаходзіўся ў распараджэнні камандуючага войскамі Квантунскай вобласці. З 24.12.1903 г.па 31.01.1904 г. - у распараджэнні Намесніка на Далёкім Усходзе.

Начальнік 9-й Усходне - Сібірскай стралковай брыгады (31.01-22.02.1904), разгорнутай ужо пасля пачатку руска-японскай вайны ў дывізію.

Камандзір 9-й Усходне-Сібірскай стралковай дывізіі (22.02.1904-05.03.1905).

Паранены ў баі 13.02.1905 г. на камандным пункце 1-га Сібірскага корпуса. Аб раненні камандзіра дывізіі паведамляла газета "Рускі інвалід" 18.01.1905, №13, С.3.

20.08.1904 г. "за баявыя адзнакі" (зноў датэрмінова) прысвоена званне генерал- лейтэнант.

Зноўку камандзір 9-й Усходне-Сібірскай стралковай дывізіі (05.03.1905-04.07.1906).

З 04.07.1906 г. па 02.01.1907 г.быў пры Галоўным Штабе.

17.07.1906 узнагароджаны ордэнам Св. Георгія 4-й ст. "За адзнаку ў справах супраць японцаў". У загадзе аб узнагароджанні было напісана: *"Затое, што, будучы 16-га і 18-га жніўня 1904 г. начальнікам баявога ўчастка на перадавых Ляалянскіх пазіцыях ля вёскі Фанцзятунь, ён, дзякуючы добраму кіраванню, асабістай мужнасці і ўмеламу выдаткоўванню сіл свайго малога атрада, адбіў шматлікія шалёныя атакі праціўніка, які пераўзыходзіў у шмат раз у ліку наш слабы атрад; 18-га жніўня, калі з прычыны велічэзнага змяншэння людзей у дывізіі, становішча атрада стала крытычным і прарыў пазіцыі супраціўнікам зрабіўся непазбежным, генерал-лейтэнант Кандратовіч, па асабістай сваёй ініцыятыве і насуперак загаду камандзіра корпуса, зрушыў бліжэйшыя да пазіцыі часткі карпуснога рэзерву (2 батальёны 18-га Ўсходне-Сібірскага стралковага палка), асабіста накіраваў іх на больш пагражальныя ўчасткі пазіцыі, чым абараніў пазіцыю і выратаваў ад непазбежнай згубы рэшткі сваёй дывізіі"*.

02.01.-25.01.1907 камандзір 2-га вайсковага корпуса. Штаб корпуса ў Гародні.

З 25.01.1907 г. па 01.01.1910 г. памочнік Туркестанскага генерал-губернатара і камандуючага войскамі Туркестанскай акругі, генерала Самсонава. Адначасова начальнік штаба Сямірэчанскага казачага войска ў г. Ташкент.

06.12.1910 атрымлівае найвышэйшае вайсковае званне Расейскай імперіі ў мірны час "генерал ад інфантэрыі".

Камандзір 1-га Каўказскага армейскага корпуса (01.01.1910-15.08.1913). Адначасова - памочнік генерал-губернатара ў Тыфлісе.

З 15.08.1913 г. камандзір 23-га армейскага корпуса.

Удзельнік паходу ва Ўсходнюю Прусію ў жніўні 1914 г. Па выніках баёў 30.08.1914 г. (катастрофа расейскіх войскаў) адхілены ад пасады.

Верагодна быў звольнены ў адстаўку, бо ў Спісе Генеральнага Штаба 1916 г. значыцца сярод вызначаных на службу з запасу і адстаўкі.

Знаходзіўся ў рэзерве чыноў пры штабе Менскай Вайсковай акругі (з 25.11.1915 г.) і такім чынам жыў у Беларусі. Верагодна, менавіта ў гэты час генерал зблізіўся з беларускай інтэлігенцыяй і дзеячамі беларускага адраджэння.

З 08.05.1917 г. камандаваў 75-й пяхотнай дывізіяй, якая дыслакавалася ў Беларусі.

Травень 1917 г. - не лепшы час для таго, каб генералу ад інфантэрыі ва ўзросце 59 гадоў аднаўляць сваю вайсковую кар'еру. Расейская армія развальвалася, генералаў масава здымалі з пасад, да 1 траўня 1917 г. былі адхіленыя ад займаных пасад 3 з 5 галоўнакамандуючых войскамі фронту (60%), 7 з 14 камандуючых арміямі (50%), 39 з 77 камандзіраў карпусоў (50,5%), каля трацінны начальнікаў дывізій (75 з 240), такім чынам больш паловы вышэйшага каманднага складу

былі выкінутыя з войска. У траўні 1917 г. зафіксаваныя першыя забойствы генералаў на фронце. 17 траўня група салдат арыштавала і забіла камандзіра 177-й пяхотнай дывізіі генерала Я.Я. Любіцкага. Тады ж загінуў ад рук сваіх салдат камандзір 184-й пяхотнай дывізіі генерал П.А. Шкарпэтак. Таму, можна выказаць здагадку, што вяртанне Кандратовіча ў войска было выклікана перспектывай беларусізацыі войска і ўдзелам у гэтым генерала. Тым больш цікава, што ў канцы верасня 1917 г. Часовы ўрад чамусьці запланаваў 75-ю дывізію, якая дыслакавалася ў Беларусі і мела камандзіра-беларуса падвергнуць ‘’мусульманізацыі”. Па планах 75-я пяхотная дывізія павінна была камплектавацца татарамі з Казані. Пры такім раскладзе, Кандратовіч не змог бы заставацца камандзірам дывізіі.

За 42 гады службы ў Расейскім войску генерал К. Кандратовіч быў узнагароджаны ордэнамі:

Св. Станіслава 3-й ст. (1885);
Св. Ганны 3-й ст. (1891);
Св. Станіслава 2-й ст.(1896);
Св. Ганны 2-й ст. (1899);
Св. Уладзіміра 3-й ст. з мячамі (1902);
Св. Станіслава 1-й ст. з мячамі (1904);
Св. Ганны 1-й ст. з мячамі (1905);
Залатая зброя (1906);
Св. Георгія 4-й ст.(17.07.1906);
Св. Уладзіміра 2-й ст. (04.06.1909; 03.07.1909);
Белага Арла (06.12.1912).

# Занатоўкі да біяграфіі генерала Кіпрыяна Кандратовіча

На пачатку 1919 г. генерал Кандратовіч разам з дэпутатам Дзяржаўнай думы Расіі Азнабішыным выязджае ў Парыж. У траўні гэтага ж года яны ўручылі старшыні канферэнцыі мемарандум ураду БНР і атрымалі дазвол на прыезд беларускай дэлегацыі ў Парыж. Пасля прыбыцця дэлегацыі, генерал працаваў у яе складзе.

БЭ піша, быццам Кандратовіч К.А. застаўся жыць у Парыжы, і яго далейшы лёс невядомы. Такую ж інфармацыю дае і літоўская гістарычная энцыклапедыя выдадзеная ў Бостане.

І падобна на тое, што генерал насамрэч застаўся ў Парыжы. На нейкі час ...

Пакуль што ў мяне ёсць мінімум інфармацыі пра сына генерала - Кандратовіча Ўладзіміра Кіпрыянавіча. Але дакладна вядома, што ён нарадзіўся не ад шлюбу з Адай фон Рыхтар. Адзінае згадванне пра яго я знайшоў у кнізе. “З Масквы ў Маскву праз Парыж і Варкуту” Угрымава А.А: *“Лёс гэтага чалавека* (Кандратовіча У.К. - заўвага аўтара) *тыповы для нашага часу. Сын генерала Кандратовіча, ён быў младаросам у юнацкай “спартовай групе”* (младаросы - правая палітычнай плынь у рускай эміграцыі заснаваная на ідэях еўразійства - заўвага аўтара). *Прыгожы, статны, вясёлы хлопец... У 1939 годзе пайшоў добраахвотнікам у французскае войска і служыў у драгунскім палку - матарызаванай кавалерыі. Ваяваў усю кампанію 1939-1940 гадоў ... Быў узяты ў палон разам з Данзасам, таксама младаросам, які ў 1941 годзе пайшоў да немцаў, а Кандратовіч адмовіўся і вярнуўся ў Францыю толькі пасля вайны. У агульнай хвалі імкнення вярнуцца ў Расію і расчараваны Францыяй, рэпатрыяваўся ў канцы 1947 года.*

*Бадзяўся па Савецкім Саюзе ў надзеі знайсці нейкую працу ў сельскай гаспадарцы. Быў выселены з Крыму, дзе, было, зачапіўся. Спрабаваў мяне знайсці ў Саратаве, калі я быў ужо арыштаваны. Быў сам пасаджаны і асуджаны “тройкай” на прымусовыя працы на Варкуце. Быў паранены пры “беспарадках” на 29-й шахце, але застаўся пасля вызвалення, каб зарабіць грошы для жыцця з жонкай, якая прыехала да яго ў Варкуту пасля невераготна цяжкіх гадоў, пакуль ён “сядзеў”. Пазней пачаў працаваць на гарбарнай фабрыцы ў Асташкаве і знайшоў мяне па падручніку французскай мовы маёй дачкі. Захварэў ракам стрававода. Я ездзіў да яго ў Асташкаў і зрабіў, што мог, бо хатнія ўмовы ў яго былі цалкам дрэнныя. Яго, пры маім удзеле, змясцілі ў ... анкалагічную лякарню... у амаль безнадзейным стане. Ён усведамляў, што хварэе ракам і памірае. Ён памёр у мяне на руках з прычыны кровазліцця пасля апрамянення. Кандратовіч быў ахвярай таго патрыятычнага псіхозу, які нас ахапіў пасля перамогі ў вайне, перамогі і веры, што зараз Расія заквітнее! Урачыстае адпяванне Ўладзіміра было ... у царкве Пятра і Паўла ў Ляфортаве.”*

Неабходна дадаць, што заснавальнік плыні рускай думкі еўразійства Трубяцкі Мікалай Сяргеевіч (адзін з найбольш універсальных мысляроў рускай эміграцыі, лінгвіст, філолаг, гісторык, філосаф, палітолаг) прыходзіцца Ўладзіміру Кандратовічу далёкім сваяком у чацвёртай стрэчы. Прыхільнасць да палітычнага крыла гэтай плыні фатальна паўплывала на лёс сына генерала Кандратовіча.

Такім чынам, магчыма, што недзе яшчэ і ў Расіі зараз жывуць унукі генерала.

***Лявон Лаўрэш.***

***Скарыстаная літаратура:***


Военная энциклопедия издания Сытина. Т. 13. С.105. СПб., 1914

Список старшим войсковым начальникам, начальникам штабов: округов, корпусов и дивизий и командирам отдельных строевых частей. С.-Петербург. Военная Типография. 1913.

Список Генерального штаба. Исправлен на 01.01.1916. Петроград, 1916

Дмитрий Янчевецкий. «У стен недвижного Китая. Дневник корреспондента “Нового Края” на театре военных действий в Китае в 1900 году» СПб-Порт-Артур. 1903

Шишо А.В. «Неизвестные страницы русско -японской войны: 1904-1905 гг.» Москва; 2004 С.9-15.

Угримов А. А. Из Москвы в Москву через Париж и Воркуту / сост., предисл. и коммент. Т. А. Угримовой. – М. : Изд-во «RA», 2004. С.299.

# *На пасадзе старшыні вершы шчырыя складаў*

## (100 гадоў з дня нараджэння Пятруся Граніта)

**ГРАНІТ Пятрусь** (ІВАШЭВІЧ Іван Пятровіч) - (11(24).01.1909 - 14.01.1980) нарадзіўся ў в.Зачэпічы Лідскага павету (цяпер Дзятлаўскага раёна) у сялянскай сям'і, вучыўся ў Беліцкай вячэрняй школе ў 1930-я гады. У 1927-39 г. працаваў дарожным рабочым, у 1930 -я ўступіў у шэрагі КПЗБ. Прымаў удзел у нелегальным з'ездзе беларускіх пісьменнікаў у Вільні ў 1933. Арыштоўваўся. Пасля аб'яднання працаваў старшынём Беліцкага сельсавета (1940-41). У гады Вялікай Айчыннай вайны быў сувязным партызанскай брыгады "Барацьба". Скончыў Наваградскую педнавучальню (1950), працаваў настаўнікам, загадчыкам пачатковай школы ў Зачэпічах (1945-71). У друку ўпершыню выступіў у 1933 г. у "Беларускай газеце". Публікаваўся ў газетах "Наша воля", "Беларуская газета", "Папросту", у часопісах "Асва", "Беларускі летапіс", "Шлях моладзі". Выдаў кнігу вершаў для дзяцей "Сцяжынка" (1978). Цыклы вершаў апублікаваныя ў зборніках "Сцягі і паходні" (1965), "Ростані волі" (1990), друкаваўся ў лідскіх газетах "Сцяг працы" і "Уперад" у 1963-76 гг.

**Іван Івашэвіч..**. У свой час імя гэтага чалавека было шырока вядома ў лідска-дзятлаўскім рэгіёне. А аматары паэзіі ведалі яго па літаратурным псеўданіме **Пятрусь Граніт**. Натуральна, ён часта наведваўся да лідскіх журналістаў і друкаваў свае вершы ў раённай газеце. Упершыню я сустрэўся з Іванам Пятровічам у рэдакцыі газеты "Сцяг працы", папярэдніцай якой была газета "Уперад". Новае выданне з'явілася ў траўні 1962 года як орган Гарадзенскага абкаму партыі і, акрамя Лідскага, распаўсюджвалася таксама ў Воранаўскім раёне.

Пятрусь Граніт зачароўваў сваіх суразмоўцаў прастатой і абаяльнасцю і, канешне, вершамі. Калі ён пераступаў парог рэдакцыі, вакол яго адразу ж "кучкаваліся" малады паэт Лёня Казачэўскі, старэйшы ў нашым калектыве журналістаў, Віктар Кучынскі, які таксама спрабаваў пісаць вершы, іншыя супрацоўнікі.

І. Івашэвіч паходзіў з сям'і беднага селяніна. Нарадзіўся, вырас і жыў у вёсцы Зачэпічы, гэта недалёка ад Беліцы, толькі па іншы бок Нёмана. Дарэчы, вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Калеснік назваў згаданую вёску гняздом паэтаў. Бо там жа жылі і тварылі яшчэ два літаратары: Аляксандр Лебедзеў (Васіль Струмень), таксама шчыры сябра лідскай газеты, і Іван Пышко (Герасім Прамень). Усе трое актыўна працавалі ў мясцовым гуртку сялянска-работніцкай грамады, адстойвалі святое права звацца беларусамі, змагаліся за лепшае жыццё народа. Яны ж разам з іншымі актывістамі наладжвалі ў вясковых хатах ці проста на дварэ спектаклі па п'есах беларускіх драматургаў. На такія канцэрты ў Зачэпічы прыходзілі сяляне і з вёсак на правым беразе Нёмана.

За сваю літаратурную дзейнасць і падпольную работу Івашэвіч, як і яго таварышы па барацьбе, зведаў ператрусы, арышты, катаванні. Але дух паэта быў нязломны. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР ён працаваў старшынём Беліцкага сельсавета. У гады ж нямецкай акупацыі - сувязны партызанскай брыгады "Барацьба". Пасля вайны Іван Пятровіч доўгі час быў дырэктарам Зачэпіцкай школы. І пастаянна, аж да сваёй смерці ў 1980 годзе, заставаўся сябрам літаб'яднання пры рэдакцыі лідскай газеты "Уперад", рэгулярна друкуючыся на яе старонках.



Яшчэ крыху аб літаратурнай дзейнасці Пятруся Граніта. Яго першыя творы пабачылі свет у 1933 годзе ў Вільні ("Беларуская газета", "Літаратурная старонка", "Наша воля"...). Асноўная тэма тагачасных твораў - лёс вясковай беднаты, крытыка палітыкі нацыянальнага ўціску, заклікі да ўз'яднання з БССР. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў паэта пераважапі грамадска-публіцыстычная лірыка, вершы для дзяцей. Менавіта ім, сваім выхаванцам і нашчадкам, Іван Пятровіч пакінуў паэтычны зборнік "Сцяжынка" (выдавецтва "Мастацкая літаратура", 1978 г.).

Сёлета споўніліся сотыя ўгодкі з дня нараджэння паэта-земляка. Думаецца, гэтую дату не позна адзначыць больш шырока. Добра было б правесці ў Лідзе і Беліцы вечарыны чытачоў, прысвечаныя памяці Івана Пятровіча. Тым больш, што ў нашым горадзе жыве ўнучка знакамітага чалавека, а ў Зачэпічах - дачка. Сталі лідзянамі Уладзімір Калодка і Аляксандр Калодка, былыя кіраўнікі музычнай школы і аддзялення ДАІ, іншыя вучні настаўніка. Можа, варта назваць імем Івана Івашэвіча адну з вуліц в. Беліца. Словам, для яго ўшанавання хацелася б зрабіць больш: ён таго заслугоўвае. Гэта, як кажуць, патрэбна не нябожчыкам, а жывым.

***Алесь Жалкоўскі.***

# *Ён Лідчыне, як і Валыні, блізкі*

## (95-год з дня нараджэння Васіля Струменя)

Гэта быў багаты чалавек. На добрыя пачуцці і шматлікіх сяброў. Людзей-аднадумцаў меў у Лідзе і Гародні, Дзятлаве і Бярозаўцы, у прынёманскіх вёсках Зачэпічы, Сялец, Беліца... З такімі ж сябрамі-таварышамі **Васіль СТРУМЕНЬ** быў заручаны і на Валыні, куды з бацькамі пераехаў з Зачэпічаў у 1938 годзе.

В. Струменя (сапраўднае імя **Аляксандр Мікалаевіч Лебедзеў**) ведаюць як беларускага і ўкраінскага пісьменніка. Свае першае творы ён апублікаваў у пачатку 1930-х гадоў у віленскіх беларускамоўных выданнях. У гэты ж час ён заяўляе пра сябе і як грамадскі дзеяч, устаўшы ў шэрагі барацьбітоў за волю і лепшае жыццё працоўных Заходняй Беларусі. Імкненне да праўды і справядлівасці прыводзіць юнага Аляксандра ў падпольныя ячэйкі камсамолу і камуністаў.

У 1935-1936 гг. А. Лебедзеў працаваў на шклозаводзе “Нёман”. І тут , як раней у Зачэпічах і навакольных вёсках, малады чалавек застаецца ў віхуры нацыянальна-вызвольнага руху. Вядзе сярод гутнікаў агітацыйную работу. Выступае ў акцыях пратэсту супраць бяспраўя рабочых і селян, піша вершы. За антыўрадавыя публікацыі і ўдзел у забастоўках В. Струмень быў зняволены ў турмах Глыбокага, Вілейкі, Ліды. Пасля ўлады аддалі яго ў салдаты. Але і там юнак заставаўся самім сабою: адкрываў праўду жыцця жаўнерам 77-га пяхотнага палка, за што зноў трапіў у астрог, а дакладней у Лідскую гарнізонную турму.

Звыш паўстагодзя жыццёвыя пуцявіны Аляксандра Мікалаевіча былі цесна звязаны з Украінай. Дапамагаў бацькам весці сялянскую гаспадарку. У гады акупацыі ўдзельнічаў у руху супраціўлення, а пасля вызвалення пайшоў на фронт, у баях з ворагам двойчы атрымаў раненні. Вярнуўшыся з арміі, прысвяціў сваё жыццё настаўніцкай працы. Валынская і Ровенская вобласці сталі для В. Струменя такімі ж роднымі і блізкімі, як і наша Прынёманне. Пісаў вершы на беларускай мове, з якімі выступаў рэгулярна ў друку і на сустрэчах з чытачамі. Часта публікаваўся і ў Беларусі.

Будучы ўжо ў сталым узросце, Васіль Струмень часта наведваў Лідчыну, Дзятлава, Менск. Адразу ж з чыгуначнага вакзала Ліды шпарка ішоў у рэдакцыю мясцовай газеты “Уперад”. Кожнага супрацоўніка, творчага і тэхнічнага, лічыў тут сваім прыяцелем. Даведаецца аб нашым жыцці-быцці, потым распытвае пра сваіх сяброў яшчэ даваеннага часу. У іх ліку часта называў Вікенція Салыгу з Феліксава, колішняга актывіста Беларускай сялянска-работнікаў грамады і Таварыства беларускай школы, Івана Івашэвіча (Пятруся Граніта), вернага паплечніка з Зачэпічаў, актывіста КПЗБ Ісака Карабельніка з Ліды, Васіля Камянеўскага (Міхася Ліста) з Краснай і многіх іншых. І тут жа мяркуе, як і дзе з імі сустрэцца.

З цеплынёй у сваёй старэючай душы ўспамінаю сустрэчы з прыстойным і добразычлівым чалавекам: у рэдакцыі газеты “Уперад”, у маёй лідскай кватэры, на адкрыцці ў Дзятлаве помніка Ігнату Дварчаніну, пра якога так узнёсла расказваў Аляксандр Мікалаевіч у таварыскіх гутарках і апублікаваных успамінах. У час кожнага прыезду ў Ліду Васіль Струмень заўжды запрашаў мясцовых журналістаў наведацца да яго ў Сарны. Першы раз я адправіўся туды разам з таварышам па рабоце паэтам Пятром Макарэвічам у сувязі з 70-годдзем пісьменніка.



Мне выпаў гонар павіншаваць юбіляра ад калектыву газеты “Уперад” і ўручыць яму прывітальны адрас ад “Гродзенскай праўды”, што было зроблена па просьбе яе рэдактара Аляксандра Богуша, майго папярэдніка па пасадзе рэдактара газеты “Уперад”. А Пятро Макарэвіч прывітаў старэйшага сябра ад імя лідскіх літаратараў.

Пазней я наведаўся ў Сарны з жонкаю і ўнучкай Насцяй. І зноў была радасная незабыўная сустрэча. Аляксандр Мікалаевіч пазнаёміў нас з Сарнамі, а затым угаварыў з’ездзіць у Роўна і Астрог. З любасцю і пяшчотай расказваў наш гаспадар і гід пра гэтыя гарады і іх славутых людзей. Асабліва ўразіў Астрог, утульны і прыгожы горадок, адзін з першых цэнтраў усходнеславянскай пісьменнасці са сваімі музеямі. І яшчэ пару слоў пра Сарны і руплівую ды гасцінную гаспадыню Тамару Лебядзеву. Яна частавала нас адмысловымі прысмакамі, а, даведаўшыся пра недамаганні маёй жонкі Валі з хворай нагою, схадзіла з гасцей да знаёмай народнай лекаркі. І, о дзіва , пасля гэтага візіту боль той знік зусім.

1 красавіка 2009 года Васілю Струменю споўнілася б 95 гадоў. А пакінуў ён наш свет 25 кастрычніка 1992 года. Памёр ад інсульту, пахаваны у Сарнах. Апошнюю дату напісаў таму, што ў бібліяграфічным слоўніку “Беларускія пісьменнікі” (том 5), іншых выданнях указаны недакладныя звесткі аб сконе нашага слыннага земляка. Памяць пра Аляксандра Мікалаевіча жыве і на Гарадзеншчыне, і на Валыні. Яму нададзена, ў прыватнасці, годнасць Ганаровага грамадзяніна Дзятлаўскага раёна. У сувязі з юбілеем паэта-змагара ёсць такая думка. У Зачэпічах, вёсцы – гняздзе паэтаў, як яе назваў Уладзімір Калеснік, пустуе дом, пабудаваны Петрусём Гранітам з дапамогай В. Струменя. Добра было б адкрыць там грамадскі музей мясцовых пісьменнікаў. Паспрыяў бы ён, мяркую, і развіццю аграгарадка.

***Алесь Жалкоўскі.***

# Родам з Ліды

## 70 гадоў з дня нараджэння Георгія Вярбоўскага

*Георгій Вярбоўскі нарадзіўся 8 чэрвеня 1939 года. Выхаванец юнацкай каманды "Лакаматыў" (Ліда). Гуляў за "Харчавік" і "Балтыку" (Калінінград, 1956-62, 69, 185 гульняў, 10 галоў), "Крылы Саветаў" (Куйбышаў, 1963-68, 88 гульняў, 3 галы), "Аўтамабіліст" (Нальчык, 1970-72, 91 гульня, 8 галоў). У 1962 годзе выступаў у міжнародных матчах у складзе зборнай РСФСР, за што атрымаў званне майстра спорту.*

*Працаваў другім трэнерам каманд майстроў "Крылы Саветаў" (Куйбышаў, 1975-79), "Волга" (Горкі, 1981-83), "Нарт" (Чаркеск, 1985-87), СКД (Самара, 1993), галоўным трэнерам СКД (Самара, 1994, 95), "Нафтавік" (Пахвістнева, 1999), з 2000 года - трэнер у дзіцячых і юнацкіх камандах Самары.*



70 гадоў споўнілася вядомаму ў мінулым гульцу і трэнеру "Крылаў Саветаў" Георгію Вярбоўскаму.

Трэнерскі штаб куйбышаўскіх "Крылаў Саветаў" у 60-х гадах мінулага стагоддзя славіўся "кропкавай" селекцыяй, а ў выпадку з запрашэннем Георгія Вярбоўскага і зусім патрапіў у "дзесятку". Паўабаронца, запрошаны з калінінградскай "Балтыкі", практычна адразу ж упісаўся ў асноўны склад каманды і размаляваў яе гульню новымі фарбамі.

Першыя крокі ў футболе Георгій рабіў у дзіцячай камандзе "Лакаматыў" з горада Ліда. Урокі майстэрства атрымліваў у юнацкай камандзе "Авангард" горада-анклава Калінінграда, куды сям'я пераехала ў 1954 годзе. Праз два гады 17-гадовы паўабаронца быў запрошаны ў каманду майстроў "Харчавік". Здольны хлопец, невысокі, хударлявы і рухавы мужнеў ад матчу да матчу, асабліва дзівіла ягонае, не па гадах, бачанне поля. Адрозніваўся ён і дакладным пасам, і ўменнем прыкрыць лідэраў супернікаў, рэзкасцю і манеўранасцю. Менавіта гэтыя якасці прывялі Георгія да вялікіх вышынь. Вярбоўскага клікалі ў знакамітыя сталічныя клубы ЦСКА, "Лакаматыў", а ён двойчы спрабаваў перайсці з калінінградскага клуба ў куйбышаўскі. У 1960-м годзе пераход федэрацыя забараніла, а газета "Калінін-градскі камсамолец" у сваім артыкуле пад загалоўкам "Адысея Вярбоўскага" назвала Георгія здраднікам, рвачом, які пагнаўся за трыдзевяць земляў па доўгі рубель.

Другая спроба капітана "Балтыкі" і гульца моладзевай зборнай РСФСР стаць футбалістам "КС" завяршылася поспехам у пачатку 1963-га і звязала Вярбоўскага з горадам на Волзе на доўгія тры дзесяткі гадоў. У Куйбышаве Георгій ажаніўся, тут ён стаў бацькам дваіх дзяцей - Дзяніса і Анжалікі.

Дзіўная працавітасць, невычэрпная энергія, вывастраная тэхніка, выразнае тактычнае мысленне характарызавалі Георгія Вярбоўскага - паўабаронцу "Крылаў Саветаў" падчас яго выступу ў вышэйшай лізе. У найскладаных сітуацыях знаходзіў ён правільнае рашэнне. У памяці аматараў футболу назаўжды застануцца сустрэчы, у якіх Георгій выяўляў несуцішную спартовую злосць і самаадданасць. Успомнім двубой "Крылаў" з маскоўскім "Тарпедам" у верасні 1967 года.

*- Мая задача ў той гульні была - "прыклеіцца" да Эдуарда Стральцова, та-ды зоркі першай велічыні савецкага футболу і, як гаварыў наш галоўны трэнер Віктар Карпаў, нейтраліза-ваць яго,* - успамінае Георгій Пятровіч. *- І я з ёй справіўся. Заслужыў пахвальную ад-знаку сваёй гульні і ад трэнера, і ад прэсы, і ад заўзятараў. А за перамогу над "Тарпеда" нам заплацілі сціплую прэмію ў памеры 80 рублёў.*

Скончыўшы кар'еру гульца, Георгій Вярбоўскі зарэкамендаваў сябе нядрэнным трэнерам (чатыры гады працаваў у "Крылах Саветаў" на пару з Віктарам Кіршам) і выхавальнікам маладых талентаў.

Георгій адораны на рэдкасць ураўнаважаным характарам, дзякуючы чаму карыстаўся бясспрэчным аўтарытэтам у сваіх таварышаў-футбалістаў і калегаў-трэнераў. Футбалісты лічылі яго другім бацькам, прыходзілі дзяліцца самымі патаемнымі думкамі і спадзевамі, ён заўсёды стараўся прыйсці на дапамогу.

...Вывучаю турнірную табліцу чэмпіянату Самары сярод малодшых юнакоў. На першым месцы ГУДО СДЮШОР, трэнер Георгій Вярбоўскі. Дасведчаны настаўнік прышчапляе дух пераможцаў 14-гадовым футбалістам.

*- Я сваім хлапчукам пастаянна гавару,* - разважае Георгій Пятровіч, *- што ў спорце толькі падобраму нахабныя людзі дамагаюцца вышынь. Толькі так можна стаць зоркай: злым на полі і добрым, спагадным у побыце.*

*(Зната з аднаго з Інтэрнэт-сайтаў.)*

# Рэктар Яўген Роўба

## 60 гадоў з дня нараджэння

**РОЎБА** Яўген Аляксеевіч нарадзіўся 1.4.1949 г. у в. Андрушоўшчына Лідскага р-на Гарадзенскай вобл. Беларускі матэматык. Д-р фіз.-матэм. н. (1999), праф. (2001). Скончыў БДУ (1971). З 1974 у Гомельскім ун-це (з 1977 заг. кафедры). З 1979 у Гродзенскім ун-це (у 1994—98 заг. кафедры; у 1980—86, 1992—94, з 1998 прарэктар, з 2008 рэктар). "За шматгадовую плённую навукова-педагагічную дзейнасць па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў, значны асабісты ўклад у развіццё сістэмы адукацыі, навукі і культуры Гарадзенскай вобласці" у 2008 годзе ўзнагароджаны медалём Францішка Скарыны. Навук. працы па вывучэнні інтэрпаляцыйных рацыянальных аператараў і рацыянальных шэрагаў Фур'е.



*Рэктар Яўген Роўба і мітрапаліт Філарэт*

**Тв.:** Высшая математика. Гродно, 2000 (разам з С.А.Мінюком); Интерполяция и ряды Фурье в рациональной аппроксимации. Гродно, 2001. Интерполяционные рациональные операторы типа Фейера и Валле-Пуссена // Матем. заметки. 1993. Т. 53, № 2; Сумматорные рациональные операторы типа Джексона // Матем. заметки. 1997. Т. 61, № 6; Orthogonal Systems of Rational Functions on the Segment and Quadratures of Gauss-Type // Math. Balcanica. 1999. V. 13, № 3-4.

Будучы рэктар Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэтам імя Янкі Купалы, доктар фізіка-матэматычных навук Яўген Аляксеевіч Роўба вырас у невялічкай вёсачцы Прынёманскага краю - Чахоўшчыне.

Пачатковую адукацыю ён атрымаў у Вангінскай школе, а затым сярэднюю - у Моцевіцкай сярэдняй школе. На сённяшні дзень гэта Пескаўская школа-сад.

Школьныя гады Яўгена Аляксеевіча былі вельмі цікавымі і насычанмі яркімі падзеямі. Яшчэ ў дзяцінстве маладому кемліваму хлопцу-шасцікласніку напрарочыў быць матэматыкам адзін з самых любімых яго настаўнікаў Мікалай Іосіфавіч Гота. І дагэтуль Мікалай Іосіфавіч успамінае свайго вучня і ганарыцца яго поспехамі. Школьнік Яўген Роўба быў, вельмі актыўным: браў удзел у шматлікіх мерапрыемствах піянерскіх і камсамольскіх арганізацый, абараняў гонар свайго краю ў спартыўных мерапрыемствах на раённых спаборніцтвах. Гэты мэтанакіраваны хлапец не баяўся ставіць перад сабой мэты і ўпарта ісці да іх.

Яўген Аляксеевіч і дагэтуль прытрымліваецца наступнага меркавання: "Калі ёсць талент то нельга ленавацца яго развіваць". Гэты ўжо сталы, дасведчаны чалавек, які дасягнуў вышынь у навуцы і кар'еры, удзячны сваім бацькам, простым сельскім працаўнікам за тое, што яны дапамаглі яму "знайсці сваю дарогу ў жыцці". *"Простыя працавітыя людзі - мае бацькі, не толькі прылучылі мяне і маіх двух братоў да працы - яны марылі, каб іх сыны абавязкова сталі вучонымі лю-дзьмі. І нам вельмі хацелася, каб іх надзеі апраўдаліся".*

Паступіўшы ў Віленскі ўніверсітэт, і, правучыўшыся там два курсы, хоць і не без цяжкасцяў, але перавёўся на механіка-матэматычны факультэт у БДУ. Захопленасць матэматыкай і поспехі ў вучобе праклалі шлях у навуку. Пасля аспірантуры, яго запрасілі на працу ў Гомельскі ўніверсітэт, дзе праз два гады быў абраны загадчыкам кафедры. Але, нажаль, у родным краі, у бацькоў удавалася бываць вельмі рэдка. Таму разам з сям'ёй прынялі рашэнне пераехаць у Гародню.

Ужо 30 год працуе Яўгеній Роўба ва ўніверсітэце, пяты год узначальвае самую буйную ўстанову адукацыі Гародзеншчыны, адну з найстарэйшых ВНУ краіны - у лютым 2010 года ГРДУ імя Янкі Купалы будзе святкаваць 70-годдзе з дня заснавання.

Падрыхтоўка маладых спецыялістаў - гэта справа ўсяго яго жыцця. Доктар фізіка-матэматычных навук Яўген Роўба, лічыць, што асабліва важна ў наш час гадаваць уласныя кадры, падтрымліваць маладых навукоўцаў, стымуляваць іх і маральна, і матэрыяльна. У свой час яму, маладому навукоўцу, які абараніў кандыдацкую дысертацыю ў 26 год, настойліва раілі працягнуць займацца навуковай дзейнасцю вядомыя беларускія навукоўцы. Яўген Аляксеевіч добра памятае іх імёны, удзячны сваім настаўнікам за ўдзел у яго лёсе. Сёння прафесар Роўба таксама пільна сочыць за навуковай кар'ерай сваіх вучняў.

У такім шчыльным працоўным графіку цяжка парою даводзіцца знайсці вольны час, каб прысвяціць яго сабе і сваёй сям'і. Але і тут, Яўген Аляксеевіч імкнецца ўсё паспяваць і быць актыўным. Вось ужо некалькі гадоў ён займаецца тэнісам. Любіць бываць на лецішчы, якое размешчана ў маляўнічым месцы каля Нёмана. Некалькі разоў у год атрымоўваецца з'ездзіць на рыбалку.

Яўген Аляксеевіч Роўба, гэты таленавіты ва ўсіх адносінах чалавек, вельмі шчаслівы. Бо ў яго ёсць любімая праца і сям'я. Дзве яго дачкі сталі таксама матэматыкамі, яны займаюцца эканамічнай кібернетыкай. Часта збірацца ўсёй сям'і не ўдаецца, але цёплыя адносіны з дочкамі ад гэтага толькі мацнеюць. Шчаслівы ён і таму, што апраўдаў надзеі сваіх бацькоў. Класічная аксіёма шчасця - гэта калі раніцай з задавальненнем ідзеш на працу, а ўвечар - дахаты. Праўда, якая ў яго лёсе не патрабуе доказаў.

***Юлія Грыб.***

# Кампазітар Вячаслаў Пыпець

## 50 гадоў з дня нараджэння

**ПЫПЕЦЬ Вячаслаў Анатольевіч** нарадзіўся ў Лідзе 23.04.1959 года. Бацька працаваў на заводзе электравырабаў, маці - бухгалтарам у аддзеле адукацыі. Маці мела музычныя здольнасці, але праявіць іх ёй не ўдалося.

Пайшоў вучыцца ў сярэднюю школу №10. Спяваць пачаў яшчэ ў дзіцячым садку. Затым песенныя здольнасці выяўляў у школьнай мастацкай самадзейнасці. Вось тады настаўнікі і параілі бацькам аддаць сына вучыцца ў музычную школу. Зрэшты, хлопец і сам быў не супраць гэтага. Спасцігаць асновы музычнай граматы яму падабалася.

Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Лідскую музычную навучальню.Адслужыў тры гады ва Ўзброеных Сілах, вярнуўся ў Ліду. Узначаліў групу "Кворум" пры чыгуначным клубе. Далей лёс звязаў з аркестрам "Панарама". Потым кіраваў мастацкай часткай калектыву польскай культуры "Лідзяне". У 1995 годзе прыйшоў працаваць у раённы (а на той час гарадскі) Дом культуры. Спачатку адказваў за музычную частку тэатра "Какос".

У 1996 годзе арганізаваўся тэатр песні "Ліда-мюзікл", які і ўзначаліў Вячаслаў Пыпець. У калектыў увайшлі аднадумцы ў творчым плане, якія працавалі ў Доме культуры. А назва лідскаму тэатру песні прапанаваў старшыня асацыяцыі кампазітараў Гарадзеншчыны Віталь Радзівонаў. У калектыў аб'ядналіся людзі творчыя. А пытання, хто ўзначаліць тэатр песні, неяк не ўзнікала. Атрымалася гэта як бы само сабой. Тады ля вытокаў "Ліда-мюзікл" стаялі Наталля Шурмей, Андрэй Ус, Ігар Іванчанка, Анжаліка Гурская, Святлана Мельнікава (зараз Святлана Пыпець, жонка Вячаслава), Зміцер Быструхін, Галіна Піваварчык. Пазней прыйшоў Дзяніс Варановіч.

У 1997 годзе калектыў прадставіў на суд гледачоў музычны спектакль - аўтарскую праграму Вячаслава Пыпеца - і з гэтага часу пачаўся адлік дзейнасці "Ліда-мюзікл". З выступленнямі калектыў аб'ехаў амаль усю Беларусь. Давялося ўдзельнічаць у "Славянскім базары". Выступалі на фэстах "Песні юнацтва нашых бацькоў", "Галасы мяжы".






*Тэатр песні "Ліда - мюзікл"*

Першыя музычныя творы пачаў складаць у музычнай школе. Тады, як і потым, некаторы час Вячаслава цягнула пісаць больш складаныя рэчы. А вось з пачатку 90-х перайшоў да песеннага жанру. З таго часу напісаў музыку да 15 спектакляў, стаў аўтарам музыкі больш чым 200 песень, сярод якіх шмат песень прысве-чаных гораду Лідзе. Першую песню пра родны горад Вячаслаў Пыпець напісаў у 80-х гадах на вершы Веры Ляцецкай. Затым пісаў песні на вершы Віктара Бочарова, Леаніда Вінніка, Станіслава Судніка, Міхася Мельніка. Нядаўна паклаў на музыку верш аб Лідзе Ганны Баборык.

Вячаслаў Пыпець - лаўрэат II міжнароднага конкурсу дзіцячай песні "Дзень нараджэнні" у Санкт - Пецярбурзе (2000). Дыпламант рэспубліканскіх конкурсаў за лепшую аранжыроўку песень. Аўтар песні-пераможцы конкурсу да 685-годдзя горада Ліды.

Стварыў аб'яднанне кампазітараў Лідчыны арт-майстэрню "Музальянс". У 2008 годзе аб'яднанню прысвоілі званне "народнае", і зараз яго поўная назва - Народнае аматарскае аб'яднанне арт-майстэрня "Музальянс". Майстэрня аб'ядноўвае больш за сорак аўтараў і выканаўцаў. Удзельнікі майстэрні абмяркоўваюць свае творы, раяцца, дапамагаюць адзін аднаму. Прадстаўляюць гледачам зборныя праграмы, творчыя аўтарскія вечары ўдзельнікаў "Музальянса".

Плануецца выпусціць зборнік песень кампазітараў "Музальянса", асобна выдаць зборнік лідскіх аўтараў "Песні дзецям". "Музальянс" плануе праводзіць у Лідзе шмат мерапрыемстваў, сярод якіх і адкрыты гарадскі фэст кампазітараў і паэтаў-спеўнікаў.

***Паводле Л. Петрулевіч.***

***Валеры Сліўкін***

# Смаленскія Рурыкавічы на Лідчыне

У другой палове 14 стагоддзі Смаленскае княства па ўсёй сваёй заходняй мяжы межавала з Вялікім Княствам Літоўскім, а па ўсходняй - з Маскоўскім. І змушанае было ўжывацца з агрэсіўнымі суседзямі. Вялікі князь смаленскі **Святаслаў Іванавіч (Рурыкавіч у XVI калене)** кідаўся паміж двух агнёў. Ён склаў мірную дамову з Вялікім князем Маскоўскім і тут жа ў 1368 г. прыняў удзел у паходзе Вялікага князя Літоўскага Альгерда на Маскву. За парушэнне дамовы быў адлучаны мітрапалітам Аляксеем ад царквы, што пацвердзіў у 1370 г. канстанцінопальскі патрыярх. Губляць не было чаго, і ў 1370 г. Святаслаў ізноў удзельнічаў у паходзе Альгерда на Маскву. Праз пяць гадоў, у 1375 г. Святаслаў ужо на баку Масквы прыняў удзел у паходзе супраць Цверы, дзе княжыў брат Юльяны - жонкі Альгерда. Пакаранне прыйшло неадкладна - на наступны год Альгерд спустошыў смаленскія землі.

У 1386 г. Святаслаў Іванавіч вырашыў падтрымаць бунт князя Андрэя Альгердавіча Полацкага супраць малодшага брата Ягайлы, які стаў польскім каралём і католікам. 22 сакавіка смаленскія дружыны ўвайшлі на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага і 18 красавіка аблажылі Мсціслаў, які абараняў князь Карыгайла Альгердавіч. На дапамогу абложанаму Мсціславу паспяшаліся князі Скіргайла, Карыбут і Лінгвен Альгердавічы, а таксама князь Вітаўт Кейстутавіч са сваімі дружынамі. 29 красавіка 1386 г. на беразе Вехры, недалёка ад Мсціслава адбылася бітва, у якой смаленскія войскі былі ўшчэнт разбітыя. Святаслаў Іванавіч загінуў: ***«копием от едного литвина зостал на вылиот пробитым»*** *(ПСРЛ. 1975. Т.32. С. 66).* Смаляне заплацілі прыстойны водкуп. Старэйшы сын Глеб Святаслававіч быў вывезены на Літву, вялікім князем быў прызначаны яго брат Юры Святаслававіч: ***«… князя Юрия князь велики Скиргайло исцели от ран и приведе его ко городу Смоленску ко матери его великой княгини Светославли, и посади его на великом княжении Смоленском»*** *(ПСРЛ. 1975. Т.32. С. 145-146).*



***Першыя смаленскія манеты са стаўпамі (трызубцам) і львом Рурыкавічаў***

**Глеб Святаслававіч на Літве**

**Глеб Святаслававіч** (каля 1353-12.08.1399) - **Рурыкавіч у XVII калене**, у бітве пад Мсціславам быў узяты ў палон і вывезены на Літву, з жонкай і дзецьмі Дзмітрыем і Іванам. Жыў у Вільні пры двары Вялікага князя Скіргайлы. У 1390 г. у бітве ліцвінаў з крыжакамі пад Вільняй патрапіў у палон да Вітаўта *(ПСРЛ. 1975. Т.32. С.146)*. Верагодна, разам з Вітаўтам улетку 1392 г. пакінуў Прусію. Вітаўт, пасля таго як стаў Вялікім князем Літоўскім, Рускім і Жамойцкім дазволіў яму вярнуцца як старэйшаму ў родзе на Вялікае Княства Смаленскае: ***«Как вышол з Немец и князь велики Витолт на великое княжение, так отпустил тыстя (нятца) своего, князя Глеба Святославовича на великое княжение ко Смоленску. А князю Юрию Святославовичу дал город Рославль»*** *(ПСРЛ. 1975. Т.32. С. 148).* Юры Святаслававіч і малодшыя браты Аляксандр, Іван, Хведар і Васіль вялікай радасці з гэтай нагоды не выявілі, пачаліся канфлікты з-за доляў. Юры Святаслававіч змушаны быў з'ехаць з Смаленска да цесця свайго князя Алега Іванавіча разанскага *(Салаўёў С.М. Сачыненні. М.1968, Т.4 . С.363).*

**Далучэнне Смаленскага княства**

Увосень 1395 г. Вітаўт пусціў слых, што ідзе міма Смаленска на Тамерлана: ***«...сіе же слово пронесе того ради, да быша Смолняне оплошилися к нему»*** *(ПСРЛ. 1975. Т.11. С. 162).* Глеб Святаслававіч з баярамі прыехаў у літоўскі стан, і быў прыязна прыняты Вітаўтам, які заявіў, што жадае быць пасярэднікам паміж князямі смаленскімі і пагадніць іх. Пакуль смаленскія князі ездзілі да Вітаўта на паклон, а гараджане, ***"оплошившись"*** прывіталі ліцвінскія дружыны, Вітаўт 28 верасня ***«...лукавьством градъ взя и все княженіе Смоленское за себе, и посади во градъ Смоленскъ наместники своя, князя Якова, нарицаемого Ямонта»*** *(Там жа)*, і вядомага па бітве 1392 г. ля Дакудава Васіля Барэйкавіча (Барэйкава).

У снежні разанскі, пронскі, казельскі і мурамскі князі з Юрыем Святаславічам ***«... поиде ратью на Литву и много зла сътвориша им»*** *(Там жа)*. Вітаўт з адказам не затрымаўся, у студзені-лютым 1396 г. схадзіў на разанскія землі. Шэсць гадоў - да жніўня 1401 г. пражыў Юры Святаслававіч на Разаншчыне, пакуль цесць сумесна з саюзнымі яму князямі не вярнуў яму Смаленск. ***«В лето 6909 князь Юрьи Святославович да князь Олегъ Рязанскыи приидоша к Смоленску, а в Смоленскъ мятеж и крамола. Смоляне же взяша князя Юрья Святославичя и предашася ему»*** *(ПСРЛ. М.1965. Т.30.С.130).* Князь Юры жорстка расправіўся з прыхільнікамі Вітаўта: намес-

ніка Рамана Міхайлавіча Бранскага забіў, ***«...воевод Ляхов изсъче... бояръ Брянскихъ и Смоленскихъ изби, которые не хотъли его»*** *(ПСРЛ. 1965. Т.11. С. 186).*

Вітаўт не мог змірыцца з стратай: чатыры тыдні ў тую ж восень ён спрабаваў адбіць горад. У 1402 г. па загадзе Вітаўта князь Сымон-Лінгвен Альгердавіч ***«приходил к Смоленску ратию и к Вязьме»*** *(ПСРЛ. 1975. Т.30. С. 130).* Вязьму ўзяў, князя Івана Святаслававіча ***"поимал и в Литву привёл"*** *(ПСРЛ. 1975. Т.30. С. 130)*. У 1404 г. ліцвінскія князі Вітаўт Кейстутавіч, Карыбут-Зміцер, Сымон-Лінгвен і Свідрыгайла Альгердавічы з усёю сілаю хадзілі да Смаленска, стаялі ўсю вясну, гарматамі білі і ***«много ся тружав и не возможе ничто же, иде прочь»*** *(ПСРЛ. 1965. Т.11. С. 189)*, і нарэшце 26 чэрвеня 1405 г. ***«князь Витовтъ взял Смоленескъ... и княгиню полонил, княж Юрьеву, а князь Юрьи съ сыном своим Феодором бъжа в Новъгород»*** *(ПСРЛ. 1975. Т.30. С. 130).*

Смаленскім княствам ізноў пачалі кіраваць Вітаўтавы намеснікі. ***«Винных всех… позабивал до троих тысяч, и, абы в Смоленску не было болшей уж бунтов, а княжество обернул в воеводство».*** Смаленск атрымаў магдэбургскае права, , ***«...людемъ Смоленьским лготу многу чинити, отводя ихъ отъ князя Юрья..., чтобы Витофта вся земля Смоленскаа и хотъла и любила, а князя Юрья Святославича Смоленскаго не хотела и не любила»*** *(ПСРЛ. 1965. Т.11. С. 190).*

**Алена Алегаўна з дзецьмі - вязні Лідскага замка**

Жонка і дзеці Юрыя Святаслававіча разам з вернымі ім баярамі былі вывезеныя ў Літву і паселеныя ў Лідскім замку. ***"Жонка гэтага князя з дзецьмі знаходзілася ў Лідскім замку ў няволі"*** *(ПСРЛ. Т. 25. С. 232; Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno, 1839, T. 5. Dodatek I. Cokolvek z historyi miasta Lidy. S. 2; Wolff. S. 460-461).* Лідскі замак да гэтага моманту быў перабудаваны, збудавана паўночна-усходняя вежа, з паўночнага боку выкапаны роў, Лідзейка перагароджана дамбай, тэрыторыя вакол замка затоплена. Гэтакі непрыступны варыянт замка Іў.

Каго ж Вітаўт у 1405 г. трымаў у Лідскім замку?

Юры Святаслававіч быў жанаты на разанскай князёўне, дачцы Вялікага князя разанскага Алега Іванавіча (1336 - 05.07.1402) і княгіні Еўпраксіі або Ефрасінні (каля 1338 - 05.12.1405). Звалі яе Алена Алегаўна, і было ёй ледзь больш за 40 гадоў. У хроніцы Быхаўца сцвярджаецца, што: ***«была за князем Юрием дочка старшое сестры Скиргайловы»*** *(ПСРЛ. 1975. Т.32. С. 146).* Атрымліваецца, што Еўпраксія народжаная Альгердаўна?

Дзяцей у Юрыя Святаслававіча і Алены Алегаўны па радаводах было трое - Хведар, Анастасія і Алена. Хведар застаўся з бацькам. Анастасія ў 1399 г. была выдадзеная замуж за князя Юрыя Дзмітрыевіча Галіцкага і пасля нарадзіла чатырох знакамітых дзеячаў сярэдзіны 15 ст. Васіля Касога, Дзмітрыя Шамяку, Івана і Дзмітрыя Чырвонага.

З Аленай Алегаўнай у зняволенні магла быць толькі Алена Юр'еўна. Але гаворыцца ў Т. Нарбута - ***"з дзецьмі"***, мабыць, у Юрыя Святаслававіча былі яшчэ дзеці.

**Юры Святаслававіч спрабуе вызваліць сваю жонку**

Юры з'ехаў у Ноўгарад, дзе жыхары прынялі яго і далі трынаццаць гарадоў, Юры і наўгародцы цалавалі адзін аднаму крыж - не разлучацца ні ў жыцці, ні ў смерці *(Салаўёў С.М. Сачыненні. М.1968, Т.4 . С.367).*

5 жніўня 1406 г. князь Юры Святаслававіч, жадаючы вызваліць сваю сям'ю з палону, на чале буйнога ўзброенага аддзела напаў на Ліду, ***"… разрабаваў яе і спаліў, штурмаваў замак, але дарэмна… стараста тамтэйшы Якуб з Селіцы адсутнічаў, але неўзабаве падаспеў з Голдава і, разбойнікаў разграміўшы, адагнаў; яны зніклі ў лясах Салешніцкіх, а потым напалі на кляштар францысканцаў у Вільні і Панны Марыі на Пясках, у якім, адшукваючы каштоўнасці, забілі манахаў, усіх каго заспелі ў кляштары"*** *(Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno, 1839, T. 5. Dodatek I. Cokolvek z historyi miasta Lidy. S. 2-3).*

***В лето 6915** (1407)**…князь Юрьи Смоленский преставися»*** *(ПСРЛ. М.1965. Т.30. С.130)*

Лёс Алены Алегаўны невядомая, сустракаюцца паведамленні, што яна памерла ў 1404 г. Яе дачка Алена Юр'еўна (пам. да 1430) быццам бы стала жонкай князя Свідрыгайлы Альгердавіча. А паколькі Свідрыгайла - родны брат Скіргайлы, то Ефрасіння - бабуля Алены Юр'еўны не магла быць Альгердаўнай, у тыя часы яшчэ не жаніліся на ўнучатых пляменніцах.

Смаленскія падзеі паказваюць, што дзяржаўныя інтарэсы для Вітаўта былі важней за сваяцкія і сямейныя. Князі Глеб і Юры Святаслававічы - родныя браты жонкі Вітаўта Ганны Святаслаўны, якая выратавала свайго мужа са зняволення ў Крэўскім замку. У 1393 г. Юры Святаслававіч прыходзіў са сваёй дружынай на дапамогу Вітаўту пад Віцебск на задушэнне бунту князя Свідрыгайлы. Ні сваяцкія сувязі, ні сумесныя бітвы не перашкодзілі Вітаўту захапіць Смаленскае княства. Князь Хведар Юр'евіч - пляменнік Ганны Святаслаўны



***Пенязь смаленскі з кірылічнай літарай "Ю" і львом, манета апошняга смаленскага князя***



***Цытадэль смаленскага замка ў XV ст. (паводле Г.А. Ластоўскага)***

ў студзені 1413 г. змушаны быў пакінуць Ноўгарад, паколькі Вітаўт і Ягайла даслалі наўгародцам разметныя граматы, у якіх выказалі незадаволенасць яго знаходжаннем на Наўгародчыне. ***«И отъѣха въ Нѣмцы съ плачемъ и со многыми слезами».*** Па-хрысціянску і пачалавечы цяжка ацэньваць дзеянні вялікіх дзяржаўных мужоў. Жыццё кароткае, яны спяшаюцца, ім патрэбны прыжыццёвы поспех. У выніку хітрасці, дыпламатычных і сілавых высілкаў Вялікае Княства Літоўскае далучыла княства Смаленскае. На 109 гадоў.

**Дзмітры Глебавіч атрымлівае Жыжму**

Глеб Святаслававіч атрымаў ад Вялікага князя Вітаўта ў удзел Палоннае. У складзе войскаў ВКЛ загінуў у бітве з татарамі на Ворскле 12 жніўня 1399 г. *(ПСРЛ. Т.11. С.174; Т.32.С.148).* У хроніцы літоўскай і жамойцкай памылкова запісана, што Глеб Святаслававіч загінуў пад Вільняю ў бітве з крыжакамі і ліцвінамі Вітаўта ў 1390 г. *(ПСРЛ. 1975. Т.32. С.68).*

Яго сын **Дзмітры Глебавіч** (? -пасля 1433) - Рурыкавіч у XVIII калене атрымаў у вотчыну маёнтак Жыжма на р. Жыжма. ***«И въ Смоленское разорение какъ Великий Князь Витофтъ Литовской Смоленескъ взялъ, Князь Иванъ и братъ его большой Князь Дмитрей заведены въ Литву; и отъ Князя Дмитрея повелись Жижемские Князи».*** Герб Жыжамскіх - звернуты ў левы бок леў на задніх лапах, з высунутым языком і паднятым хвастом, традыцыйны смаленскі леў, такі ж, як і на смаленскіх манетах розных часоў. Такі самы леў і на лідскім гербе.

Маёнтак Жыжма размяшчаўся там, дзе зараз размяшчаецца Жыжамская царква, побач Вялікія і Малыя Князікоўцы.

**Князі Жыжамскія ў гісторыі ВКЛ**

У Дзмітрыя Глебавіча было два сыны - абодва Іваны ***(XIX калена Рурыкавічаў).*** **Іван Дзмітрыевіч** з мянушкамі "Мал, Малаг, Манько, або Манька", першым прыняў прозвішча Жыжамскі - ён і з'яўляецца родапачынальнікам князёў Жыжамскіх. Меў двух сыноў Міхаіла і Івана. А Іван малодшы Дзмітрыевіч "Шах" - (-1469) родапачынальнік князёў Шаховічаў *(Пазнякоў, ЭГБ)*, Саламірэцкіх *(Вольф)*. Меў сыноў Хведара і Сямёна. (Івана).

**XX калена Рурыкавічаў**

**Міхаіл Іванавіч** "Маньчыч або Мамчыц" **Жыжамскі** (? - каля 1530) - Рурыкавіч XX калена, стайнік ВКЛ, пры каралі Аляксандры ўваходзіў у склад Гаспадарскай Рады. Дзейнічаў у 1482-1528 гг. Меў 5 сыноў: Зміцера, Данііла, Васіля, Цімафея і Багдана і двух дочак Ганну і Анастасію. У 1528 г. Міхаіл Іванавіч Жыжамскі з дзецьмі выстаўлялі 8 коней. ***«Кнази Жижемъскии мают ставити 8 коней».*** *(Перапіс войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 года. Мінск. 2003. С. 54).* Адзін конь ставіўся ад 8 сялянскіх служб або 24 дымоў (па тры ў службе). Дым - мінімум сем душ. Гэта значыць, што яны мелі каля 1,5 тысяч сялян.

Яго брат **Іван Іванавіч Жыжамскі** (?- 1532)

сыйшоў на Маскву і быў ваяводам.

**XXI калена**

**Дзмітры Міхайлавіч Жыжамскі** (?-1556); у 1508 г. з братамі Глінскімі выехаў да Вялікага князя Маскоўскага Васіля Іванавіча. Разам з Андрэем Лукомскім вадзіў аддзелы ракашан і маскалёў да Наваградка. У 1554 г. ваявода ў Вяцкай зямлі, паставіў драўляную цвердзь Дзядзілаў з шасцю вежамі. Меў сына Аляксандра.

**Даніл Міхайлавіч Жыжамскі** (? - 1554). Жыў у ВКЛ, меў уладанні на Валыні і двух сыноў Сямёна і Андрэя.

**Васіль Міхайлавіч Жыжамскі** (? -1548) выехаў у 1508 г. з братамі Глінскімі да Вялікага князя Маскоўскага Васіля Іванавіча. Ваявода. Меў двух сыноў Міхаіла і Пятра.

**Цімафей Міхайлавіч Жыжамскі** (? - пасля 1542) - жыў у ВКЛ, за ім заставалася Жыжма, меў сына Івана і дачку Тамілу.

**Багдан Міхайлавіч Жыжамскі** (?- каля 1542) - жыў у ВКЛ, меў уладанні на Валыні і адзінага сына Пятра.

**Ганна Міхайлаўна** - жонка князя Хведара Іванавіча Карэцкага (? - 1532 або 1522). Сын іх Богуш - Яўхім Фёдаравіч Карэцкі (каля 1510 -1576) - староста житомірскі (з 1539), брацлаўскі і вінніцкі (з 1548), луцкі (з 1559) , ваявода валынскі (з 1572); дачка Ганна Фёдараўна (?-1532) замужам за І.У. Масальскім.

**Анастасія Міхайлаўна** - жонка князя Ўладзіміра Багданавіча Глінскага-Пуціўльскага.

**XXII калена**

**Аляксандр Дзмітрыевіч Жыжамскі** (? - 1552)- **убили его Горние люди изъ Свияжска города**. У чэрвені-ліпені 1552 г., калі па кірунку да Казані ўжо пачалі рухацца асноўныя сілы рускіх войскаў на чале з Іванам IV, авангарду рускіх прыйшлося ўступіць у разлютаваную бітву. Вялікія страты былі з абодвух бакоў, падчас бою загінуў князь Аляксандр Жыжамскі, але, у рэшце рэшт, рускія **«потоптали горних людей»** *(ПСРЛ. 1965. Т.13. С.198).* **.**

**Сямён Даніілавіч Жыжамскі** (?- пасля 1585). Палкоўнік пры абароне Гомеля, у 1557 - чалец амбасады Зміцера Вішнявецкага да цара *(ПСРЛ. 1965. Т.13. С.276).* У 1571-72 гадах "дозирал" (складаў дазорныя кнігі) у Ніжагародскім павеце, намеснік шацкі (1576-77), аблогавы ваявода ў Мцэнску (1581), разанскі землеўладальнік у 1584-85 гг.

**Андрэй Даніілавіч Жыжамскі** (згадваецца ў 1589) меў сына Аляксандра.

**Міхаіл Васільевіч Жыжамскі** (?-1567) - ваявода на Кашыры ў 1559-60 гг., ваявода ў Карачаве ў 1563 г, на наступны год у Бранску. Памёр бяздзетным.

**Пётр Васільевіч Жыжамскі** (? - пасля 1564).

**Іван Цімафеевіч Жыжамскі** (? -1565) меў сыноў Яраша і Сільвестра, дачку Міраславу. Уладальнік Жыжмы.

**Таміла Цімафееўна** (згадвалася ў 1551).

**Пётр Багданавіч Жыжамскі** (? -1551) нашчадкаў не меў.

**XXIII калена**

**Аляксандр Андрэевіч Жыжамскі** (?- пасля 1595), жанаты на Марыне Гастомскай. Мелі дзяцей.

**Яраш (Геранім) Іванавіч Жыжамскі** (?- 7.02.1589, у ЭГБ 1598) - каралеўскі ротмістр, староста рэчыцкі з 1576 (1587). Валодаў маёнткамі Вярбковічы ў Менскім павеце, Навасёлкі ў Мазырскім павеце, Копысь і Жыжма. Быў жанаты на кн. Багдане Рыгораўне Друцкай - Горскай (у першым шлюбе Есьман). Вызначыўся тым, што на Менскі **«збор евангелицкий» пожертвовал «…дом свой власный в месте Менском лежачий».** Меў 4 сыноў Івана, Пятра, Яраша і Адама.

**Сільвестр Іванавіч Жыжамскі** (?- пасля 1599) - кобрынскі ляснічы ў 1582, удзельнік з'езду праваслаўных у Вільні ў 1599. Спадчыннікаў не пакінуў.

**Міраслава Іванаўна** (?- пасля 1610).

**Соф'я … Жыжамская** (каля 1560 - пасля 1600) - жонка Васіля Мікалаевіча Цяпінскага (1536 - забіты ў 1599), вядомага пісьменніка, гуманіста і кнігавыдаўца, валодала маёнткам Латыголь, у 1600 г. мела трох дарослых сыноў Абрама, Табіяша і Кастуся.

**XXIV калена**

**Іван Ярашавіч Жыжамскі**(? - 1601) чаркаскі падстараста (1600-01). Жанаты быў з князёўнай Ядвігай Кірыкаўнай Ружынскай з Нарымунтавічаў (? - пасля 1619). Дзяцей не меў. Удава яшчэ тры разы выходзіла замуж.

**Пётр Ярашавіч Жыжамскі** (? -1618, да 1609 у ЭГБ) старэйшы сын Яраша Іванавіча, па маці з Друцкіх - Горскіх, староста рэчыцкі (1598 -1618). Прымаў удзел у Віленскім з'ездзе (1599) супрацiўнікаў уніі. Ажаніўся ў 1600 г. з Крыстынай Багданаўнай Саламірэцкай. . **«Того ж року 99, месеца генваря 6 дня у волторок, князь Петр Жижемский, староста речицкий, рачил заручити панну Крыстину у его милости князя Богдана Соломерецкого, старосты крычевского и олучицкого; а веселе было року 1600, по светом Крещении в неделю»** *(ПСРЛ. 1975. Т.32. С.184)*. У іх нарадзіліся трое сыноў - Крыстоф, Адам і Ян. У 1609 г. быў соймавым камісарам па размежаванні Рэчыцкага павету з Аршанскім.

**Яраш Ярашавіч Жыжамскі** (?- 1630) - спраўца мазырскага староства, мазырскі войскі з 1595 і мазырскі падкаморы да 1609 г. Католік. Жанаты быў з Гальшкай Войцехаўнай Радзімінскай. У 1622 г. менскі гарадскі суд разбіраў заяву князя Яраша Жыжамскага аб "крыўдзе" свайго падданага і служкі Яна Фёдаравіча.

**Адам Ярашавіч Жыжамскі** (? - пасля 1640) - мазырскі харунжы з 1621 г

**XXV калена**

**Крыстоф Пятровіч Жыжамскі** (?-1633) - менскі падсудак, жанаты з князёўнай Аленай Андрэеўнай Сангушка. Мелі дзяцей Аляксандра і Тамаша.

**Адам Пятровіч Жыжамскі** (?- каля 1640) - мазырскі харунжы і падкаморы. Меў дзяцей.

**Ян Пятровіч Жыжамскі** ( ?- каля 1635 або пасля

1645) - падкаморы менскі, спадчыннікаў не меў.

**Ян Ярашавіч Жыжамскі** (? -1645) - стольнік менскі да 1630 г., дэпутат Трыбуналу ВКЛ у 1642 г. Меў сына Адама.

### XXVI калена

**Аляксандр Крыштафавіч Жыжамскі** ( ?- крас. 1645) -сын Крыштафа Пятровіча (Ярашавіча - у ЭГБ) - каралеўскі шляхціц, ляснічы аранскі і пералайскі, стольнік менскі з 1634, чашнік ВКЛ у 1640-43, падстолі ВКЛ з 1643 г.

**Тамаш Крыштафавіч Жыжамскі** (? - каля 1675) - сын Крыштафа Пятровіча (Ярашавіча - у ЭГБ), менскі падкаморы з 1647, удзельнік вайны з Расіяй (1654-67).

**Адам Янавіч Жыжамскі** (?- пасля 1683) сын Яна Ярашавіча, стольнік менскі, з 1677 г. лоўчы. Удзельнічаў у элекцыі караля Яна III Сабескага.

### XXVII калена

**Ян Тамашавіч Жыжамскі** (? - каля 1700) падкаморы менскі, удзельнічаў у элекцыях каралёў Яна III Сабескага і Аўгуста II.

**Тэафіл Адамавіч Жыжамскі** (?- пасля 1736) менскі гарадскі пісар, з 1724 земскі пісар, затым чашнік, з 1731 г. земскі сурагатар.

**Дамінік Янавіч Жыжамскі** (? - каля 1751) падчашы трокскі, ротмістр менскі.

### XXVIII калена

**Міхаіл Тэафілавіч Жыжамскі** (? - пасля 1770) каралеўскі шляхціц, падсудак менскі ў 1726, дэпутат Трыбуналу ВКЛ у 1732 г., чашнік старадубскі, падчашы менскі з 1748, войскі з 1764, падкаморы з 1767.

Наступныя звесткі пра Жыжамскіх адрывістыя. **Жыжамскі Людвік і Жыжамскі Ціт** 1842 гн. - шляхціцы Віленскай губерні, удзельнікі паўстання 1863-64 гг. Жыжамскі Ціт быў сасланы без пазбаўлення правоў на жыхарства ў Сібір, з 1865 г. знаходзіўся ў Табольску, затым у Омску, у 1867 г. выехаў у Царства Польскае.

У наш час Жыжамскія жывуць у Менску, на Ўкраіне і ў Расіі.

**Падвядзём вынікі.**

Жыжамскія - княжы род, які вёў паходжанне ад смаленскай галіны Рурыкавічаў, а тыя ў сваю чаргу ад Уладзіміра Манамаха. Прозвішча паўстала ад назвы родавага маёнтка Жыжма ў Лідскім павеце. Жыжмай валодалі з 1433 г. да 1630-х гадоў, было паведамленне, што двор Жыжма перайшоў ва ўласнасць Войцаха Ясінскага ў 1551 г. *(Шымялевіч М. Горад Ліда і Лідскі замак. 1905, с.12)*. У розны час валодалі таксама маёнткам Бобрыкі (сяр. 15 ст) у Менскам павеце, с. Парахонскае (15-17 ст) у Пінскам павеце, участкамі ў Іўі (сяр. 17 - першая палова 19 ст; *ЭГБ. Т.3. С.510*), в. Засулле (17-18 ст.; *ЭГБ. Т.3. С.414*) на дарозе Менск - Мір у Менскім павеце (цяпер Стаўпецкі раён), Свіранамі на Віленшчыне, Вярсокамі на Лідчыне. Валодалі таксама землямі ў Мазырскім павеце, на Ўкраіне. Некаторыя Жыжамскія з'ехалі ў Маскоўскае княства, былі там ваяводамі, іншыя засталіся ў Вялікім Княстве Літоўскім. З разрастаннем роду яго прадстаўнікі бяднелі, переставалі карыстацца княжым тытулам. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай князі Жыжамскія, як і ўся мясцовая шляхта, павінны былі даказваць сваё высакароднае паходжанне. Род быў прызнаны ў расійскім дваранстве без княжага тытулу, занесены ў VI частку дваранскага радаводу кнігі Менскай губерні.

Разам з тым, Жыжамскія з'яўляюцца самым шляхетным родам з цяпер існых Рурыкавічаў, бо з'яўляюцца наўпроставымі нашчадкамі Вялікіх князёў Смаленскіх. Усе іншыя Рурыкавічы паходзяць ад удзельных і служылых князёў.

### Шлюбы смаленскіх вялікіх князёўнаў з ліцвінскімі князямі

Смаленскія Рурыкавічы па жаночай лініі прыкметна ўзмацнілі радавітасць ліцвінскіх князёў. **Агрыпіна Святаславаўна** (каля 1350 -?) каля 1365 г. стала жонкай князя Івана Альгімунтавіча Гальшанскага. Яе дачка **Ульянія Іванаўна** (каля 1378-1448) - у другім шлюбе (пасля 1418) трэцяя жонка Вялікага князя Літоўскага Вітаўта, а яе ўнучка **Соф'я Андрэеўна** (1405-54) - з 1422 г. жонка польскага караля Ягайлы Альгердавіча.

**Ганна Святаславаўна** (1353-1418) - другая жонка Вялікага князя Літоўскага Вітаўта. Яна выратавала яго з зняволення ў Крэўскім замку ў 1382 годзе. Яе дачка Анастасія-Соф'я Вітаўтаўна - Вялікая княгіня Маскоўская, ад яе вялікія князі маскоўскія аж да Івана Грознага.

**Ульянія Святаславаўна** (каля 1360- ?) - з 1376 па 1390 г. жонка Таўцівіла-Конрада Кейстутавіча, малодшага брата Вітаўта. Пасля 1390 г. замужам за Манівідам.

**Алена Юр'еўна** - дачка Юрыя Святаслававіча - магчыма, жонка Вялікага князя Літоўскага Свідрыгайлы Альгердавіча.

**Літаратура.**


Любимов С. В. Опыт исторических родословий: Гундоровы, Жижемские, Несвицкие, Сибирские, Зотовы и Остерманы. Пг., 1915. С. 14-34.

Пазднякоў В. Жыжэмскія. // ЭГБ. Т.6. Кніга 2. С. 383-384.

Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Мінск. 2003. С. 54.

Петров П.Н. История родов русского дворянства. Том I, С.-Петербург, 1886 г.

ПСРЛ. 1965. Т.11. С. 162, 165, 186, 189, 190.

ПСРЛ. 1965. Т.13. С. 198, 276.

ПСРЛ. 1949. Т.25 С. 232 і 237.

ПСРЛ. 1965. Т.30. С.130.

ПСРЛ. 1975. Т.32. С.66, 145, 146, 148, 184.

Соловьев С.М. Сочинения. М.1968, Т.4. С.363, 367.

Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок. 1905, с.12.

Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno, 1839, T. 5. Dodatek I. Cokolvek z historyi miasta Lidy. S. 2-3.

Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od konca czternastego wieku. Warszawa. 1895. S. 627—629.

***Валеры Сліўкін***

# Мабілізацыі на Лідчыне ў першай палове 20 стагоддзя

*"Мы тыя бедныя рэкруты,*
*Гарматна мяса на вайну".*

**Мабілізацыя 1904 года**

27 студзеня 1904 г Расійская імперыя ўступіла ў вайну з Японіяй. У адпаведнасці з Палажэннем "Аб усеагульным вайсковым абавязку" *«оборона границ Отчизны»* лічылася *«священной обязанностью каждого русского поданного»*. У войска прызываліся мужчыны ў веку ад 22 да 49 гадоў.

*Загудзелі лясы, боры,*
*Засвісталі ветры ў полі!*
*Застагналі бацькі, браты,*
*Зажурылісь кумы, сваты;*
*Загаласілі жонкі, маткі*
*Заплакалі і дзяўчаткі.*

*Аб'явіў бо цар па сёлах,*
*І па месцах, і па дворах*
*Сабірацісь ўсім мужчынам*
*Запасным бо "ніжнім чынам"*
*І ў Манчжур'ю дзесь ступаці,*
*Кроў гарачу праліваці.*
*Карусь Каганец.*

У Лідскім павеце вызвалялі ад мабілізацыі прызыўнікоў, якія мелі больш за 4 малагадовых дзяцей. Стаўленне да вайны з японцамі было негатыўным. У разгар вайны не з'явілася да прызыву без паважлівых прычынаў (на 1000 чалавек): рускіх - 2, латышоў - 43, эстонцаў - 57, армян - 73, грузін - 76, палякаў - 113, літоўцаў - 275, габрэяў - ад 300 да 400. Як тады пісалі аб выніках мабілізацыі: *«Не пожелав помочь армии, рука об руку с русским племенем победить внешнего врага, эти племена, очевидно, не имеют права рассчитывать на одинаковые с русским племенем права на службу государственную и службу выборную в высших правительственных учреждениях. Война была для этих племен экзаменом их политической и военной благонадежности, и евреи, литовцы, а за ними поляки этого экзамена не выдержали». (Куропаткин А.Н.. Русско-японская война 1904-1905: Итоги войны.)*. Гэтыя "плямёны" складалі значную частку жыхароў Лідскага павету.

Мне вядомыя два выхадцы Лідскага павету, якія ўдзельнічалі ў руска-японскай вайне - Восіп Іванавіч Махнач родам з Дакудава і генерал-маёр Кіпрыян Антонавіч Кандратовіч з маёнтка Місевічы. К.А. Кандратовіч камандаваў Дзевятай Усходне-Сібірскай дывізіяй. Быў паранены і ўзнагароджаны Ордэнам Святога Георгія 4 ступені. В.І. Махнач таксама быў паранены - атрымліваў пенсію.

Вайна скончылася паразай расійскага войска. Выбухнула першая руская рэвалюцыя.

**Дапамога сем'ям прызваных і загінулых**

У адпаведнасці з законамі, якія тады дзейнічалі земскія ўправы абавязаныя былі аказваць дапамогу сем'ям салдатаў, якія змагаліся на Далёкім Усходзе. Жонкам выдзялялася штомесячная дапамога ў памеры 2 рублёў на чалавека. Прызначэнне дапамогі ажыццяўлялася на падставе вусных просьбаў.

16 чэрвеня 1905 г. імператар Мікалай II зацвердзіў **«Правила об обеспечении судьбы детей лиц, погибших в войну с Японией»** і ўсклаў клопаты па аказанні матэрыяльнай дапамогі сем'ям на Аляксееўскі Галоўны Камітэт, якому падпарадкоўваліся губернскія і павятовыя камітэты. У склад павятовых камітэтаў уваходзілі старшыні земскіх упраў. Камітэты загадзя падрыхтавалі імянныя спісы і адмысловыя карткі на сірот з указаннем колькасці, узросту і месца жыхарства. У спісы, нараўне з дзецьмі салдат, уключаліся таксама дзеці санітараў, царкоўных служак, дружыннікаў і дабраахвотнікаў.

З 1 кастрычніка 1906 г. пачалася выдача з дзяржаўнага скарбу дапамогаў сіротам у памеры 18 руб. у год да дасягнення 16-гадовага ўзросту.

Нараўне з гэтым было утворана таварыства паўсюднай дапамогі пацярпелым на вайне салдатам і іх сем'ям. У лютым 1908 г. Віленскі губернатар Д. Любімаў прапанаваў Лідскаму павятоваму маршалку шляхты графу Людвігу Ўладзіслававічу Грабоўскаму прыняць на сябе працу па арганізацыі Лідскага аддзела таварыства паўсюднай дапамогі пацярпелым на вайне салдатам і іх сем'ям. У кастрычніку 1909 г. Л.У. Грабоўскі атрымаў квітанцыйныя кніжкі і падзяку за арганізацыю дабраахвотнага таварыства.

Першымі ў яго ўступілі калежскі асэсар прыстаў другога павятовага стану Фёдараў, кантралёр Віленскага акцызнага кіравання пятай акругі Якаўлеў, земскі начальнік першага ўчастка Багамолаў. Больш высокае начальства, у прыватнасці, павятовы спраўнік Гротэ дэ Буко, столаначальнікі павятовага паліцэйскага кіравання Адольф Феліксавіч Урбановіч і Віктар Андрэевіч Сцяпура, земскі начальнік 8-га ўчастка Г.А. Забелін уступаць у таварыства і плаціць штогадовы ўнёсак у суме 3 рублі адмовіліся.

У сакавіку 1911 года ў таварыства з просьбай выдзеліць яму дапамогу звярнуўся Восіп Іванавіч Махнач з Дакудава і атрымаў адмову, паколькі *"атрымлівае пенсію і працуе ў майстэрнях" (НГА ў Гародні, Ф. 1144, воп. 2 спр. 10, арк. 80).*

20 красавіка 1912 г. упаўнаважаны па арганізацыі ў Лідзе мясцовага аддзела Таварыства паўсюднай дапамогі пацярпелым на вайне салдатам і іх сем'ям Л.У. Грабоўскі зрабіў даклад агульнаму сходу сяброў таварыства. На сходзе прысутнічалі: В.В. Бруханаў, М.М. Скосыраў, У.Ю. Красціцкі, М.І. Шымялевіч, К.М. Хагемайер і П.Ф. Калеснік. Л.У. Грабоўскі паведаміў, што ў сябры таварыства прыцягнута 30 чалавек, сабрана 90 рублёў сяброўкіх унёскаў, з якіх 72 рублі ўнесены ў Лідскі скарб, а астатнія 28 рублёў знаходзяцца ў яго на руках. Старшынём таварыства абралі Л.У. Грабоўскага, сакратаром П.Ф. Калесніка *(там жа, арк. 87-88)*. На гэтым дзейнасць таварыства па арганізацыі дапамогі пацярпелым у руска-японскай вайне і завяршылася.

**Ліпеньская мабілізацыя 1914 года**

У чацвер, 17 ліпеня 1914 г. у Лідзе была атрымана дэпеша аб мабілізацыі. Конная паліцыя за ноч развезла па валасцях мабілізацыйныя позвы. У пятніцу, 18 ліпеня Ліда і ўсе селішчы ў павеце ўпрыгожыліся каляровымі мабілізацыйнымі плакатамі. Жыхары былі апавешчаныя аб салідарнай адказнасці за захаванасць чыгункі, тэлеграфа і іншых сродкаў камунікацыі і сувязі. Быў забаронены продаж алкаголю.

У суботу, 19 ліпеня з самай раніцы з самых аддаленых кутоў Лідскага павету ўсімі дарогамі паспявалі на вазах і пешшу тысячы прызваных у войска людзей і вядзёных коней. На вакзале былі адменены ўсе пасажырскія цягнікі, якія праходзілі праз Ліду. У Ліду з іншых чыгунак прыбылі брыгады машыністаў, кандуктараў і ўсякага роду чыгуначных спецыялістаў, лакаматывы.

Увесь цяжар размяшчэння мабілізаваных упаў на канцылярыстаў Магістрата, галоўным чынам на пашпартыста Іосіфа Якубоўскага. Без ежы і адпачынку бегаў ён па горадзе, вызначаў кватэры, арганізоўваў кухні і гарбатныя, будаваў конавязі, назапашваў фураж для коней. Усе гарадскія пякарні былі задзейнічаны пад выпечку хлеба для мабілізаваных. На пастой для прыбывалых людзей былі рэквізаваны гімназіі на вул. Камерцыйная і Каменская, пачатковая школа ля замка, абедзве прыходскія школы, ешыбот, клуб таварыства пажарнікаў, піўныя і іншыя памяшканні.

Пяцітысячны людскі натоўп і двухтысячны конскі абрынуліся на Ліду. Рэгістрацыя і агляд мабілізаваных адбываліся ў гарадскім парку на вул. Каменскай, зацененым у той час стогадовымі алешынамі. Там стаяла дашчаная вялікая буда з лаўкамі для сядзення пад адкрытым небам - летні тэатр. Тут засядалі камісіі з лекарамі і грувасціўся прыгнечаны і бязвольны натоўп людзей, адарваных ад дому і сваіх штодзённых клопатаў і работ. З шумлівага натоўпу часамі даносіўся безнадзейны енк жанчыны, альбо дзіцячы плач. Адначасова на Выгане каля праваслаўных могілкаў і на навагрудскай дарозе пры каталіцкіх могілках адбываўся адбор коней. Большасць ахвотна збывала коней за добры кошт, але шмат было і такіх, што плакалі, расстаючыся са сваімі ўлюбёнцамі. Камісіі працавалі, як машыны. Прыдатных у войска мужчын з пункта турылі ў замак, дзе іх па родах войскаў размяркоўвалі падафіцэры вайсковага каменданта, а адтуль пешшу адпраўлялі ў казармы Паўночнага гарадка, іншыя віды войскаў і народнае апалчэнне малодшых узростаў - да цягнікоў і далей у невядомым кірунку. Афіцэры рэзерву і вайскоўцы пенсіянеры накіроўваліся з картамі прызыву ў вайсковае ведамства.

20 ліпеня Віленская губерня была названая сярод губерняў, якія знаходзяцца ў стане вайны, было таксама апублікавана пастанова аб ваеннай цэнзуры і вэксальным маратотыі. Па ўказанні зверху ў касцёле, царкве і сінагозе здзяйсняліся набажэнствы за перамогу, на якія з'яўляліся толькі асобы афіцыйныя; была адпраўлена тэлеграма імператару з выражэннем вернападданніцкіх пачуццяў ад абывацеляў, збіраліся капейкавыя і рублёвыя ахвяраванні на правядзенне вайны, на Чырвоны Крыж і да т.п. Абшарнікі, па выпадку пачатку войны, падпісалі ў Вільні адрас з прысягай імператару.

У чацвер 24 ліпеня ў казармах на палкавым пляцы перад зшыхтованым 172 Лідскім пяхотным палком праваслаўны святар прачытаў малітву за перамогу, а камандзір палка палкоўнік Уладзімір Раманавіч Раманаў абвясціў аб выступленні на вайну. Граў палкавы аркестр. Шэрай нерухомай масай стаяў тысячны натоўп дзяцей, жанчын, родных і знаёмых. Пры развітанні паўстаў такі жудасны енк і плач, што ніхто з прысутных не мог утрымацца ад слёз. Полк пабатальённа, у суправаджэнні музыкі, прайшоў да чыгункі, пагрузіўся ў цягнікі і адбыў на фронт. Пры адыходзе чарговага цягніка паўтараліся незабыўныя сцэны развітання з дарагімі людзьмі, якія адпраўляюцца на смерць.

Разам з прызваным рэзервам Лідскі полк налічаў каля 4000 штыкоў. З народнага апалчэння старэйшага кантынгенту, якія адбывалі дзейную службу і былі пераведзены ў народнае апалчэнне з рэзерву, была сфармаваная 385 Віленская пешая дружына, камандзірам якой прызначылі Адольфа Малеўскага, а намеснікам Баляслава Гейштаўта, абодва лідзяне, падпалкоўнікі ў адстаўцы. Тады ж была сфармавана 66-я конная сотня на чале з падпалкоўнікам у адстаўцы Пізанім. Віленская дружына адпраўлена ў Вільню, конная сотня - у Эйшышкі.

Пасля вайны і рэвалюцыі вярнулася на Лідчыну ледзь толькі пятая частка шарагоўцаў і толькі некалькі афіцэраў Лідскага палка. Большасць з прызваных больш не ўбачылі сваіх дзяцей. *(Szymielewicz M. Lida w latach wielkiej wojny.// Ziemia Lidzka.1939 № 7-8. S.187-198).*

**18-20 ліпеня 1914 г. сярод гэтых 5 тысяч былі прызваныя:**

**Белавус** Мацвей Вікенцевіч;

**Бердаўскі** Вікенці Адольфавіч - з фальварка

**Статыстыка.** У 1914*г.* у Лідскім павеце, плошч якога складала 5616 км кв. жыло 260 тыс. жыхароў. Сярэдняя шчыльнасць насельніцтва 45 чал на км кв.

Відаўка;

**Бердаўскі** Яўстафі - шляхціц маёнтка Багданаўшчына;

**Бердаўскі** Восіп Адольфавіч - з ваколіцы Відаўшчына;

**Валасевіч** Вікенці Іванавіч;

**Варановіч** Восіп Сямёнавіч - служыў у 43 Лідскай апалчэнцкай роце;

**Вараноўскі** Элья Зэльманавіч - яўрэй маёнтка Лябёдка;

**Ёдзік** (Йодзік) Іван Юр'евіч;

**Канапелка** Восіп Феліксавіч - селянін мястэчка Беліца;

**Кумпяк** Восіп Грыгор'еў - селянін в. Масявічы;

**Мікалайчык** (Нікалайчык) Аляксандр Міхайлаў - селянін сяла Мыто;

**Мікалайчык** (Нікалайчык) Міхаіл Міхайлаў - селянін сяла Мыто;

**Мікалайчык** (Нікалайчык) Восіп Міхайлаў - селянін сяла Мыто;

**Насевіч** Іосіф Міхайлавіч;

**Пятроўскі** Вацлаў Восіпавіч;

**Пракоп** Вікенці Ігнаццеў - селянін в. Паперня;

**Рахоўскі** (Аржахоўскі) Пётр Фадзееў - селянін в. В. Канюшаны;

**Рамановіч** Іван Ігнаццеў - селянін в. Серафіны;

**Рушлевіч** Вікенці Каэтанаў - селянін в. Паперня;

**Сцяцкевіч** Уладзіслаў Восіпавіч;

**Сымановіч** Адам Сямёнаў - селянін в. Пятры;

**Тракала** Іван Антонавіч;

**Урбан** Піліп Міхайлаў - з в. Сялец;

**Цыліндз** Юры Антонавіч.

*(РДВГА Ф. 8595, воп.1, спр. 18, НГА у Гародні. Ф. 669, воп. 1. спр. 79; воп. 5. спр. 60).*

У 1914 г. былі праведзеныя яшчэ 5 шматлюдных мабілізацый: 19-23 верасня, 26 кастрычніка (навабранцы), 12 лістапада, 12 снежня, 20 снежня; у 1915 г. прызывалі кожны месяц аж да акупацыі Лідскага павету ў верасні 1915 г.

**Прызваныя 19-20 верасня 1914 года** *(НГА у Гародні. Ф. 669, воп.1, спр. 79, 133):*

**Ажэйка** Франц Міхайлавіч - Фалькавічы;

**Апанасік** Станіслаў Міхайлавіч - в. Раклёўцы;

**Ашмянчук** Ігнат Францаў - маёнтак Ваверка;

**Бобрык** Вікенці Міхайлаў - в. Пескі;

**Бобрык** Іван Ігнаццеў - в. Вялічкі;

**Брылеўскі** Баляслаў Карлаў - в. Забор'е;

**Буель** Людвіг Станіслававіч - в. Агароднікі 1;

**Букіш** Вікенці - в. Цацкі;

**Буяк** Іван Іванаў - в. Агароднікі 1;

**Бялеўскі** Іван - в. Агароднікі 1;

**Бярнацкі** Міхась Антонаў - ваколіца Станкілішкі;

**Вадэйка** Антон Матвееў - в. Абрамішкі;

**Вадэйка** Антон Станіславаў - в. Мешкалы;

**Вадэйка** Вікенці Ігнаццеў - в. Рулевічы;

**Вадэйка** Ізыдор Міхайлаў - в. Гаранцы;

**Вадэйка** Пётр Антонаў - в. Гаранцы;

**Вайтукевіч** Баляслаў Восіпаў - в. Рулевічы;

**Валынец** Аляксандр Міхайлаў - в. Навасёлкі;

**Вайцюк** Браніслаў Міхайлавіч - в. Фалькавічы;

**Вайцяк** Міхаіл Гаўрылаў - в. Масявічы;

**Васілевіч** Казімір Станіславаў - в. Серафіны;

**Вашкевіч** Людвік Юр'еў - в. Серафіны;

**Вінча** Венедыкт Андрэяў - ваколіца Верх - Ваверка;

**Германовіч** Кастусь Іваноў - в. Агароднікі;

**Гілевіч** Іван Венедыктаў - в. Гаранцы;

**Грос** Нікадзім Васільеў - в. Даржы;

**Грос** Сцяпан Іваноў - в. Жамойдзі;

**Гук** Іван Адамаў - в. Ганчары;

**Гяльвей** Восіп Станіславаў - в. Паперня;

**Данейка** Аляксандр Адамаў - в. Ганчары;

**Драгун** Адольф Андрэеў - в. Вялічкі;

**Жоль** Іван Антонаў - в. Паперня;

**Заека** Іван Міхайлаў - в. Бенявічы;

**Заека** Якаў Восіпаў - в. Даржы;

**Заяц** Сямён Адашаў - в. В. Конюшаны;

**Зыбень** Восіп Восіпаў в. В. Конюшаны;

**Залескі** Восіп Камільянаў - ф. Дайнава;

**Казак** Іван Піліпаў - в. Бенявічы;

**Казёл** Рыгор Паўлаў - в. Бенявічы;

**Казёл** Іван Акімаў - в. В. Канюшаны

**Казёл** Іван Сцяпанаў - в. Любары

**Казёл** Пётр - в. Агароднікі 1;

**Казлоў** Якаў - в. Бенявічы;

**Карабач** Васіль Сцяпанаў - в. Барвічы;

**Карабач** Сцяпан Зміцераў - в. Пескі;

**Каравайка** Восіп - в. Бенявічы;

**Карчэўскі** Іван Пятроў - в. Жучкі;

**Касцюкевіч** Восіп Іванаў - в. Жучкі;

**Кіман** Аляксандр Іванаў - в. Бахматы;

**Кіман** Валяр'ян Антонаў - в. Бахматы;

**Кіман** Фелікс Антонаў - в. Бахматы;

**Клейда** Іван Фёдараў - в. Сялец;

**Клім** Іван Андрэяў - в. В. Канюшаны;

**Клім** Міхаіл Міхайлаў - в. В. Канюшаны;

**Клімовіч** Павел Васільеў - в. Навасёлкі;

**Кудаш** Кастусь Пятроў - в. Навасёлкі;

**Кудла** Юльян Адамаў - в. Дроздава;

**Кулеш** Мацвей Грыгор'еў - в. Істакі;

**Купрашэвіч** Восіп Ксавер'еў - в. Рулевічы - служыў у 20-ай пешай Валагодскай дружыне;

**Купрашэвіч** Пётр Іваноў - ваколіца. Радзівілаўцы;

**Кухарскі** Адольф Юр'еў - в. Ганчары;

**Кухарскі** Вікенці - в. Даржы;

**Кучынскі** Браніслаў Восіпаў - в. Янаўляны;

**Лайбіс** Валяр'ян Антонаў - в. Навасёлкі;

**Лявончык** Сігізмунд Станіславаў - в. Паперня;

**Лявончык** Сцяпан Міхайлаў - в. Паперня;

**Ляпеша** Аляксандр Іванаў - в. Мыто;

**Ляшчынскі** Міхась Антонаў - в. Навасёлкі;

**Ляшчынскі** Мікалай Пятроў - в. Навасёлкі;

**Макарэвіч** Пётр Васільеў - в. Навасёлкі;

**Малышка** Міхась Казіміраў - в. Радзівілаўцы;

**Малышка** Станіслаў Станіславаў - в. Радзівілаўцы;

**Марцюк** Кузьма Фёдараў - в. Жамойдзі;

**Мікянец** Пётр Якаўлеў - в. Гірдзеўцы;

**Місь** Цімафей - в. Бенявічы;

**Мулінскі** Міхась Іванаў;
**Мурын** Восіп Фадзееў - в. Пескі;
**Мурын** Міхаіл Пятроў - в. Жамойдзі;
**Наркевіч** Канстанцін Восіпаў - в. Пескаўцы;
**Нацэвіч** Іван Антонаў - Новая Жыжма - служыў у абмундзіровачнай майстэрні;
**Ненартовіч** Адольф Юльянаў - мястэчка Беліца;
**Ненартовіч** Канстанцін Францаў - в. Жучкі;
**Палейчык** Станіслаў Юр'еў - в. Паперня;
**Палейчык** Іван Міхайлаў - в. Серафіны;
**Пастарняк** Адольф Антонаў - в. Смалокі;
**Падзевіч** (Пагдзевіч) Вікенці Станіславаў - маёнтак Каспорава;
**Пазняк** Аляксандр Міхайлаў - Дроздава;
**Памаха** Міхаіл - Ганцавічы;
**Пятроўскі** Антон - урочышча Паповае поле;
**Пятроўскі** Кастусь Сігізмундаў - Агароднікі 1;
**Радзюкевіч** Іван Сцяпанаў - В. Канюшаны;
**Раміновіч** Восіп Салюноў - ф. Гердзяўцы;
**Расюк** Восіп Міхайлаў - в. Манцэвічы;
**Рогель** Антон Міхайлаў - в. Сямейкі
**Рулько-Лявінік** Восіп Сідаравіч - Шамякоўшчына;
**Саўка** Канстанцін Міхайлаў - ф. Масявічы;
**Сапешка** Казімір Міхайлаў - в. Рулевічы;
**Сянкевіч** Баляслаў Антонаў - в. Дылева;
**Сянкевіч** Восіп Міхайлаў - в. Красноўцы;
**Серафінаўка** Вікенці Вікенцеў - в. Паперня;
**Славінскі** Іван Каятанаў - Забор'е;
**Салабуда** Міхась Восіпаў - в. Абрамішкі, служыў у 22 корпусе, у палявой вайсковай пякарні № 45;
**Танкевіч** Адольф Дамінікаў - в. Красноўцы;
**Таратута** Мацвей Фёдараў - Ерамеевічы
**Трапіла** Міхась Вікенцеў - Дроздава;
**Трусіла** Восіп Антонаў - сяло Ваверка;
**Урбановіч** Іван Вікенцеў - Руда;
**Урбановіч** Казімір Вікенцеў - Руда;
**Хромін** Андрэй Андрэяў - В. Канюшаны;
**Ціхно** Станіслаў Аўгустынаў - хутар Рулевічы;
**Ціховіч** Казімір Міхайлаў - в. Рулевічы;
**Ціховіч** Юльян Станіславаў - в. Рулевічы;
**Чылек** Уладзімір Ксавер'еў;
**Шастайла** Пётр Іваноў - в. Касілаўцы;
**Шэўчык** Восіп Сцяпанаў - Навасады;
**Шылкоўскі** Антон Іванаў - сяло Мыто;
**Шостак** Уладзіслаў Юльянаў - в. Паперня;
**Янушэвіч** Іосіф Іосіфавіч - Руда, шляхціц Ковенскай губерні Ковельскага павету;
**Ярашэвіч** Аляксандр - Агароднікі 1;
**Яўнейка** Ігнат Лявонаў - в. Красноўцы;

**23 верасня 1914 г.** на дзейную вайсковую службу ў 385-ю пешую Віленскую дружыну дзяржаўнага апалчэння **былі прызваныя** *(РДВГА Ф.8595, воп.1, спр.18.):*
**Арабчык** Міхаіл Антонавіч;
**Дубатоўка**;
**Жалабоўскі** Ігнат Вікенцевіч;
**Корзун** Казімір Іосіфавіч;
**Мацюта** Міхаіл Восіпавіч;
**Маўшэвіч** Моўша Нісонавіч;
**Рымко** Натан Андрэевіч;
**Сцяцкевіч** Клеменці Іосіфавіч;
**Турло** Іван Іванавіч.

**26 кастрычніка мабілізаваныя навабранцы 1893 года нараджэння:**
**Кулеша** Франц Адамаў родам з Радашковіч Вілейскага, католік, халасты, пісьменны;
**Балінскі** Пётр Уладзіславаў родам з Воранава, католік, халасты, непісьменны;
**Нажапчук** Франц Іваноў родам з ваколіцы Цяцянцы, католік, халасты, непісьменны;
**Краеўскі** Сігізмунд Антонаў родам з ваколіцы Бараніхалейкі, католік, халасты, непісьменны;
**Краеўскі** Іосіф Адольфаў з Касцянева, католік, халасты, непісьменны і г.д.
*(НГА у Гародні, Прызыўны спіс 1914 года. Ф. 1544, воп.1. спр.8)*

**8 лістапада 1914 г.** прызваны **Шмара** Адам Пятроў з в. Любары.
**27 лістапада** прызваны **Навіцкі** Фелікс Казіміраў і Снігір Іван Вікенцеў з в. Серафіны;
**30 лістапада** прызваны **Ішкула** Андрэй Андрэяў з в. Навапрудцы;
**1 снежня** прызваны **Ціхно** Станіслаў з в. Манцэвічы.
**У той жа дзень** у Петраградзе прызваны **Макіцкі** Восіп з Паперні.
**У студзені 1915 г.** прызваны **Якубоўскі** Станіслаў Казіміраў з хутара Касоўшчына.
**24 лютага** прызваны **Шот** Аляксандр Ігнаццеў з в. Кянці.
**У канцы сакавіка** прызваны **Кізюль** Іван Іванаў з Ваверкі.

**Дапамога сем'ям прызваных і загінулых**

У кожнай з воласцяў, пачынаючы з верасня 1914 г., праводзілася абследаванне сем'яў, чые мужы і дзеці былі мабілізаваныя ў дзейнае войска. Прыкладам дакумента, па якім вызначалася неабходнасць у выдачы дапамогі, з'яўляецца гэты акт.

***Акт***

*1914 кастрычніка 4 дня. Чальцы апякунства ад Мытлянской воласці па прыгляду за сем'ямі прызваных на вайсковую службу ніжніх вайсковых чыноў, на падставе 66 арт. Палажэння 25 ліпеня 1912 г., праводзілі абследаванне асабовага складу сям'і прызванага на дзейную вайсковую службу пры мабілізацыі 23 верасня 1914 г. селяніна Мытлянской воласці, які жыў у в. Гірдзеўцы Пятра Якаўлева Мікянца, пры чым аказалася, што сям'я гэтая складаецца з жонкі Алена 25 гадоў, дзяцей -, сыноў - гадоў, дочак Мар'яна 4,5 года, Баніслава 3 гадоў, бацькі - гадоў, маці - гадоў, дзеда - гадоў, бабкі - гадоў, братоў Людвіка 50 гадоў, Міхаіла 54 гадоў, і сясцёр - гадоў. З іх жонка і дзеці прызванага маюць законнае*

*права на дапамогу ад скарбу, іншыя ж чальцы сямейства брат Людвік і Міхаіл працай узятага на вайсковую службу не ўтрымоўваліся, працаздольныя, у прыглядзе патрэбы не маюць. Аб чым запісаны гэты акт.*

*Старшыня апякунства Васіль Гулевіч.*

*Чальцы: А. Чыжык, Ф. Марціновіч, Ф.Чапля.*

*Справавод.*

*(НІА у Гародні. Ф.669, воп. 5, спр.77, арк. 1.)*

У Лідскай воласці дапамогі былі прызначаныя сем'ям 87 салдат *(НІА у Гародні.Ф. 669. воп. 5. спр. 73)*:

**Адасюк** Васіль Данілаў, селянін - в. Меляшы;

**Адынец** Іван Вікенцеў - Пурсці;

**Астравухаў** Восіп Іванаў - ваколіца Калясішча;

**Банцэвіч** Адам Восіпаў - Навіцкія;

**Баран** Іван Казіміраў - Клебанцы;

**Бебка** Станіслаў Антонаў - Плясовічы;

**Бічэль** Адам Антонаў - Левашы;

**Богдан** Антон Юр'еў - Новая Жыжма;

**Болтуць** Франц Адольфаў, дваранін Касоўшчына;

**Барысевіч** Мікалай Юр'еў - Малыя Князікоўцы;

**Букатка** Віктар Станіславаў - Козічы;

**Бурнос** Станіслаў Вікенцеў - хут. Няцеч;

**Вінча** Канстанцін Марцінаў - Цвермы;

**Войшніс** Іван Казіміраў - В. Князікоўцы;

**Вароня** Браніслаў Антонаў - Няцеч;

**Гербедзь** Адольф Юр'еў - Астроўля;

**Гольмант** Восіп Восіпаў - Навіцкія;

**Гурчын** Вікенці Станіславаў - Пурсці;

**Гурчын** Восіп Антонаў - Пурсці;

**Дубраўскі** Адам Іванаў - Гарні;

**Дубраўскі** Адам Аўгустын - Качанова;

**Жолудзь** Станіслаў Іванаў - Бельскія;

**Завала** Ігнат Антонаў - Агароднікі;

**Змітровіч** Браніслаў Адамаў - Гарні;

**Зубрыцкі** Баляслаў Пятроў - Дуброўка;

**Ішкула** Казімір Вікенцеў - Мальгі;

**Казанскі** Аляксандр Іванаў - Дайнава;

**Казлоўскі** Іван Марцінаў - Козічы;

**Капачэль** Восіп Аўгустынаў - Капачэлі;

**Капачэль** Фелікс Аляксандраў - Капачэлі;

**Карэва** (Карэйва) Міхась Феліксаў - Бельскія;

**Карэва** (Карэйва) Станіслаў Восіпаў - Бельскія;

**Каханоўскі** Ігнат Пятроў - Гарні;

**Каханоўскі** Станіслаў Юр'еў - Зухвальня;

**Кодзік** Ігнат Хрыстафораў - Дайнава;

**Круповіч** Адольф Адамаў - маёнтак Колышкі;

**Кудаш** Каэтан Іванаў - Яўсеевічы;

**Кудаш** Вікенці Францаў - Яўсеевічы;

**Кучынскі** Адольф Марцінаў - Козічы;

**Лапко** Юры Восіпаў - Бельскія;

**Лукуць** Канстанцін Юр'еў - Яўсеевічы;

**Любарчык-Алетуровіч** Восіп Аўгустынаў - Навіцкія;

**Марцэвіч** Браніслаў Іванаў - Плясовічы;

**Мерча** Восіп Сямёнаў - Дварцовая Слабада;

**Маляўскі** Адольф Марцінаў - Козічы;

**Новік** Іван Мікалаеў - Малыя Князікоўцы;

**Новік** Канстанцін Восіпаў - В. Князікоўцы, 2 звяз, 4 рота, 24-я пешая Аланецкая дружына;

**Пазняк** Уладзімір Якаўлеў - Заполле;

**Паляк** Восіп Карлаў - маёнтак Траццякоўцы;

**Парфеньчык** (Парфіяновіч) Міхась Міхайлаў - Споркаўшчына;

**Паўлюкевіч** Браніслаў Вікенцеў, Абрубы

**Паўлюкевіч** Восіп Мацвееў - Заполле, 185-ы палявы рухомы шпіталь;

**Паўлюкевіч** Марцін Пятроў - Заполле;

**Паўлюкевіч** Восіп Якаўлеў - Заполле;

**Пахалка** Міхаіл Сігізмундаў - Дварцовая Слабада;

**Півута** Аляксандр Якаваў - Харужаўцы;

**Півута** Восіп Фёдараў - Харужаўцы;

**Пуйдак** Іван Марцінаў - Навапрудцы;

**Пуйдак** Юльян Міхайлаў - Няцеч;

**Рамейка** Аляксандр Мартынаў - Яўсеевічы;

**Сарока** Восіп Міронаў - Меляшы;

**Свідэрскі** Восіп Адамаў - Касоўшчына;

**Скерсь** Канстанцін Антонаў - Дварцовая Слабада;

**Сокал** Восіп Мікалаеў - Зухвальня;

**Співак** Ігнат - Татарцы;

**Сямак** Іван Міхайлаў - маёнтак Траццякоўцы;

**Ткач** Восіп Іваноў - Малыя Князікоўцы;

**Трацяк** Восіп Вікенцеў - Мальгі;

**Тэжык** Станіслаў Францаў - Верх-Ліда

**Федаровіч** Іван Антонаў - Пурсці;

**Хітрун** Восіп Іванаў - Курасоўшчына;

**Хітрун** Тафіль Антонаў - Касіль;

**Хадыка** Адам Адамаў - Зухвальня;

**Хадыка** Сцяпан Вікенцеў - Плясовічы;

**Чайка** Антон Міхайлаў - Козічы;

**Чыслаўскі** Казімір Адольфаў - Лайкаўшчына;

**Шэўчык** Восіп Казіміраў - Рапейкі;

**Шышкоўскі** Ігнат Антонаў - Астроўля;

**Шпейгер** Андрэй Данілаў - Дуброўка;

**Шурмей** Мацвей Аляксандраў - Шайбакі;

**Эйсьмант** Канстанцін Францаў - ваколіца Чэрнікі;

**Якупчык** Адольф - Хутныя.

У Ганчарской воласці з кастрычніка 1914 па студзень 1915 г. былі абследаваныя і складзеныя акты на 69 сем'яў *(НІА у Гародні. Ф.669 воп. 5 спр. 59)*, у Мытлянскай - на 68 сем'яў.

Нярэдка бацькі самі звярталіся з прашэннямі да земскіх начальнікаў.

*"Яго Высокавысакароддзю*
*Спадару Земскаму Начальніку*
*1 участка Лідскага павету*
*ад селяніна Вікенція Францавіча Чарнеля і*
*Марыі Чарнель,*
*жыхароў в. Шайбакі Лідскай воласці.*

*Прашэнне.*

*Падчас мабілізацыі быў узяты на вайсковую службу мой сын Іван Вікенцеў* ***Чарнель****, які карміў мяне і маю састарэлую жонку Марыю. У цяперашні час мы*



***Расейскія вайскоўцы ў нямецкім палоне ў Першую Сусветную вайну, сярод іх Іван Лапко. Фатаграфія перададзена А. Рэдзькам . Публікуецца ўпершыню.***

*прытуліліся ў дачкі сваёй, але з улікам таго, што муж дачкі не жадае нас карміць і праганяе, найпакорней прашу Ваша Высакароддзе прызначыць дапамогу, якая выдаецца сем'ям запасных, паколькі мы абодва вельмі старыя і ні ў якім разе не можам зарабіць на свой пражытак."*

Прызначана 5 руб. 62 кап.

Дапамогі прызначаліся і ў некаторых складаных сітуацыях. Так дапамога ў суме 1 руб. 41 кап. была прызначана 5 лістапада 1914 г. сыну старэйшага ўнтэр-афіцэра **Якімовіча** Ўладзіміра Валяр'янава, прызванага ў 1911 г. у Арол у 142-гі пяхотны Звенігародскі полк, які быў забіты пад Ілінштэйнам у 13 корпусе. Жонка з Арла прывезла дзіця дзеду Валяр'яну.

**У Першай Сусветнай вайне таксама ўдзельнічалі:**

**Бенька** Баляслаў Аляксандравіч - 16 стралковы сібірскі батальён;

**Бубен** Іван Фёдаравіч (1895, Кір'янаўцы);

**Глускі** Васіль: *"У Першую Сусветную быў на фронце. 23.08.1916 наступалі на Галіч блізка ад Львова. Быў тады ўзнагароджаны медалём і Георгіеўскім крыжам 4 ступені за заслугі - хадзілі ў выведку 14 чалавек. Ваяваў у войсках пад камандаваннем Брусілава, наступалі на Залатую Ліпу і на Гнілую Ліпу. Тады ж быў паранены. Ляжаў у шпіталі ў Маскве. У Маскве ў сакавіку1917 г. заспела рэвалюцыя. Мы параненыя, 120 чалавек, чакалі пратэзаў пасля папраўкі. Загадчыца нас зачыніла і з'ехала. Тады мы з акна кінулі цыдулку студэнту, які праходзіў міма, у якой напісалі, што жадаем волі і паказалі адрас загадчыцы. Загадчыца хутка прыйшла, выдала нам вопратку. Дэманстранты ў гэты дзень ішлі па вуліцах з песняй. Мы параненыя, узяўшыся за рукі, ішлі наперадзе дэманстрантаў. Калі падышлі да Пятроўскіх казармаў, царскі афіцэр закамандаваў: "За зброю!". Але ў салдат апусціліся рукі, яны не сталі страляць у параненых, а афіцэра закалолі багнетам. Нам далі машыну, і мы з песняй паехалі.*

*У другую рэвалюцыю мяне пасылалі ў выведку праз Маскву - раку, якую цяжка было перайсці. Тады мяне схапілі керанцы, пытаюць: "Куды ідзеш?" Адказваю:: "На вуліцу Пакроўка, у шпіталь" і назваў нумар. "Правільна" - сказалі керанцы, і адпусцілі мяне. Я перайшоў мост, выглядзеў, дзе размешчаныя кулямёты і інш. Вярнуўся і распавёў усё рабочым, якія пасылалі мяне ўсё выведаць. Гэта было ўвосень у кастрычніку, ужо выпаў, памятаю, снег. Мяне накіроўвалі на вучобу. Але я не стаў вучыцца, а вярнуўся дадому. У 1918 г. тут яшчэ былі немцы, таму мне прыйшлося ў Оршы пераходзіць праз мяжу.*

*Быў у мяне ў Маскве брат у Чырвонай гвардыі, загінуў, калі на Саветы наступаў Дзянікін. А другога брата ў Сібіры забілі калчакаўцы";*

**Германовіч** Кандрат Кандратавіч (1896, Ганчары -1975): *"Прызваны ў войска ў 1914 г., ваяваў з немцамі пад Маладзечна, Нарачч, Дзвінскам, Бабруйскам. У 1917 г. удзельнічаў у баях на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. 17 лютага полк быў адрэзаны немцамі ў Эстоніі.*

*23 лютага ўдзельнічаў у баі пад Нарвай, дайшлі ў Калінін. Быў чальцом Савета рабочых і салдацкіх*

*дэпутатаў. 19 красавіка полк перабазаваўся ў Луганск. На станцыі Федакова ўступілі ў бой. Затым былі баі пад Новачаркаскам і Растовам. Быў пераведзены ў атрад Афанасенкі. У 1918 г. удзельнічаў у баях на поўдні Ўкраіны (Перакоп, Салькова, Новачаркаск, Растоў). Ваявалі супраць Дзянікіна. У красавіку 1919 г. прымаў удзел у фарсіраванні Перакопа. 25 красавіка прынялі бой з ангельцамі і французамі на Крымскім перашыйку. У траўні 1919 г. 5-ы Задняпроўскі ўкраінскі полк фарсіраваў Сіваш і выйшаў пад Керч. Затым полк накіравалі на Кахоўку і назад у Днепрапятроўск. Тут быў бой з казакамі, таксама ўдзельнічаў у баях пад Кіевам і Манастыршчынай. У 1919 г. быў паранены. Прабыў некаторы час у шпіталі. У 1919 г удзельнічаў у баях у Сібіры на пасадзе камандзіра роты супраць Калчака ад Ішыма да Іркуцка. У 1921 г. дэмабілізаваўся і вярнуўся на радзіму ў Ганчары".*

У лістападзе 1967 г. Германовіч К.К. узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

**Германовіч** Аляксандр Кандратавіч (1893, Ганчары - 1980).

*"5-ы Задняпроўскі ўкраінскі савецкі полк заняў с. Міхайлаўку, дзе жылі бацькі Германовічаў, тады байцом гэтага палка стаў і Аляксандр. Добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, ваяваў у адным палку з братам Кандратам, граміў дзянікінцаў, банду Махно. Ён ваяваў у артылерыі. Разам з батарэяй абвандраваў усю Ўкраіну, удзельнічаў у баях супраць дзянікінцаў пад Курскам. У 1921 г. вярнуўся дадому."*

**Дзевяты** І.І. (1894, Ганчары -) *"Падчас Першай Сусветнай шэсць 16-гадовых падлеткаў перайшлі Нёман, дайшлі на ст. Стоўбцы. З гэтай станцыі адпраўляўся таварны цягнік у Адэсу. У Адэсе іх размеркавалі ў камітэт уцякачоў. Там ім прапанавалі працу і адправілі ў Кахоўку на саляныя промыслы. Праз некаторы час прывезлі ў ваенкамат і адправілі на фронт. Патрапіў я ў Брэсцкі полк 49 арміі. Пасля першага навучання адправілі на Балгарскі фронт. Затым патрапіў у Першую конную армію Будзённага. Вялі баі пад Стаўрапалем. Патрапілі да Блюхера. Пад камандаваннем Тухачэўскага загналі Калчака да Томска. Пад Растовам быў паранены ў ногі кулямётнай чаргой. Бачыў Чапаева. У Ганчары вярнуўся ў 1919 г."*

**Дзікевіч** Аляксандр Канстанцінавіч з в. Дзітрыкі Ганчарскага с/с, загінуў пад Гародняй у 1914 г. Яго жонка Ганна ў польскі час атрымлівала 40 злотых па мужы.

**Дзікевіч** Іпаліт Канстанцінавіч з в. Дзітрыкі. У 1914 годзе пайшоў у расійскае войска. Падзеі 1917 года сустрэў на поўдні Расіі ў Кушцы. Там прадаўжаў службу, дэмабілізаваўся, жаніўся, пераехаў у Менск.

**Дудзіч** Уладзімір Адамавіч (1897, Моцевічы -);

**Казак** Іван Георгіевіч (1893, Ганчары -1986): *«З пачаткам вайны служыў ў царскай арміі. Перад кастрычніцкімі падзеямі апынуўся ў Петраградзе. Штурмаваў Зімні палац. Было такое, што салдаты не ведалі, супраць каго яны ваююць. Камандаванне часткі мянялася, аб іх дзеяннях салдаты даведваліся са спазненнем. У далейшым ваяваў у складзе РСЧА. У 1921 годзе беларусаў-заходнікаў прывезлі ў Менск, забралі ўсе дакументы, царскія і бальшавіцкія ўзнагароды і адправілі дамоў. Выдалі толькі паперку, у якой значылася, хто ён такі і куды едзе».*

**Карпук** Іван Іванавіч (1896, Пацукі - 19.02.1981, Пацукі). Служыў фельдфебелем Першага рэвалюцыйнага Варшаўскага палка, які ахоўваў Маскву і пазней Крэмль. Асабіста сустракаўся з Леніным, Калініным, Дзяржынскім. Ездзіў з імі на паляванне. Вярнуўся на радзіму ў 1921 г. У лістападзе 1967 г. узнагароджаны медалём "За баявыя заслугі".

**Клейда** Іосіф Міхайлавіч (1892, Сялец - )

**Клімко** Сцяпан Іосіфавіч (каля 1895, Ліда - ) - служыў у 30 -м Сібірскім стралковым палку.

**Кірэль** Міхась Васільевіч (?, Карытніца -)

**Крыпец** Данііл Аляксандравіч (1896, Дакудава) Удзельнік Першай Сусветнай вайны, штурму Зімовага палаца, сустракаў Леніна на Фінляндскім вакзале ў красавіку 1917 г., прымаў удзел у ахове Смольнага. Удзельнік грамадзянскай вайны, ваяваў з амерыканцамі пад Архангельскам, кантужаны, паранены, страціў вока.

**Крыпец** Іван Яўстаф'евіч (24.06.1886, Дакудава-28.04.1987, Ждановічы). Салдат царскага войска (1914-17), у Чырвонай Арміі (1917-21), старшыня Савета рабочых дэпутатаў аддзела кіравання інжынернабудаўнічых дружын Заходняга фронту ў Менску і Маскве (красавік 1918-люты 1919), рэдактар абласной газеты ў Чарнігаве, старшыня Рэвалюцыйнага Трыбуналу на Ўкраіне (1921-24). Узнагароджаны ордэнамі Леніна (1967), Дружбы Народаў (1986).

**Кунцэвіч** Аляксандр Сцяпанавіч (?, Баяры Смалоцкія -). Удзельнік Першай Сусветнай вайны, Добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. Камандзір звязу кулямётчыкаў Першага Маскоўскага прадпалка Першай Маскоўскай дывізіі ў траўні 1918 г.

**Лапко** Іван - быў у палоне ў немцаў у Першую Сусветную вайну.

**Лоўкіс** Андрэй Адамавіч (10.1886, Астроўля -): *"Калі мне споўнілася 27 гадоў, пачалася вайна. Я быў прызваны ў Лідскі ваенкамат на 14 жніўня 1914 г. Адразу пасля абмундзіравання нас паслалі на Германскі фронт у 172 Лідскі пяхотны полк. Праходзілі поруч ст. Вержболава, ля г. Гумбінен, падышлі пад Мазурскія азёры. Калі разбілі наш 172 полк, застаўшыхся салдат далучылі да 10-га Фінляндскага палка, куды патрапіў і я. Гэтым палком камандаваў немец Родэндорф, які добра разбіраўся ў вайсковай справе. У студзені нас перакінулі на Аўстрыйскі фронт, які праходзіў за Львовам у Карпатах, поруч цвердзі Перамышль. Палонныя аўстрыйцы гаварылі: "Навошта гэтая вайна? - бо мы такія ж людзі, як і Вы! Навошта мы ваюем?". Пасля Аўстрыйскага фронту ў 1916 г. нас перакінулі на Турэцкі фронт. 1 красавіка 1916 г. рабілі наступленне на г. Арыжыжан. Наступленне доўжылася 5 сутак. З палка было ўсяго толькі 11 чалавек забіта і паранена, страты не так ужо і значныя, камандаваў палком палкоўнік Маслоўскі - па нацыянальнасці паляк, які добра разбіраўся ў вайсковай справе. За ўзяцце горада Башурт і Мамахатум атрымаў Георгіеўскі крыж 3-яй ступені, за г. Байбурт і за горад Мамахатум - 4-ай ступені . У 1917 г выехалі на адпачынак, каб падцягнуць сілы*

*пасля 3-гадавых ваенных дзеянняў. Адпачываць выехалі на Кубань у пас. Гульневічы. Там нас заспела рэвалюцыя. 22 красавіка 1918 г прыязджаў прадстаўнік з Масквы. Ён быў пасланы ад Леніна. Мы стаялі ў варце. Ён праводзіў мітынг. 153-ці полк уступіў у Чырвоную Армію. Ваявалі супраць Каледзіна, Карнілава, Дзянікіна. У жніўні 1918 г. за Растоў біліся 3 дні. Камандаваў палкоўнік Казбекаў. Выбівалі немцаў з Батайска. У 1919 г., калі немцы з'язджалі, я быў дэмабілізаваны і прыехаў дадому".*

**Лянцэвіч** Хведар Антонавіч (1893, Беліца -) удзельнік Першай Сусветнай і грамадзянскай войнаў.

**Майніч** Аляксей Андрэевіч (16.10.1893, Мастаўляны - 22.03.1970, Мастаўляны): *"У 1915 г. прызваны ў царскае войска, служыў у 16-ым Сібірскім стралковым палку ў г. Канску Енісейскай губерні. Там скончыў вучэбную каманду і завочна скончыў пачатковую гарадскую вучэльню, якая давала права паступлення ў афіцэрскую школу. У канцы 1916 г. нас 200 чалавек з Канска, закончыўшых вучэбную каманду, накіравалі ў распараджэнне камандуючага Заамурскай вайсковай акругай у г. Харбін. Я быў накіраваны ў штаб акругі пекарам. У 1917 г. пры ўзяцці ўлады працоўнымі быў старшынём палкавога камітэта рабочых, салдацкіх дэпутатаў. Кіраўнікам КУЧ (КВЖД) быў генерал Харват, ён жа консул Расійскай імперыі ў Пекіне. Савецкая ўлада прызначыла кіраўніком КУЧ студэнта медыцынскага факультэта бальшавіка Славіна. Калі Харвату тэлеграмай ЦВК прапанавалі перадаць уладу Славіну, Харват заявіў у Пекін, што бальшавікі рабуюць Харбін. Харбін лічыўся міжнародным горадам. Ён быў падзелены на 4 часткі. Кітайскі ўрад накіраваў 40 тысяч адборнага войска пад камандаваннем японскіх афіцэраў, якія нас акружылі і прапанавалі здаць зброю. Палкоўнік Давыдаў з 2-га Заамурскага палка, у якім я лічыўся, не здаваўся. Ён чакаў распараджэнняў ад камандуючага акругі генерала Пераверзева. Палкоўнік Давыдаў быў забіты тут жа пры тэлефоне японскім афіцэрам. Пасля забойства кіраўнікі частак пачалі выкідваць белыя сцягі. Усім штабам кітайцы прапанавалі падрыхтаваць дакументы на кожнага вайскоўца ў асобнасці. Пасля 3 сутак, якія мы знаходзіліся пад арыштам, па заканчэнні падрыхтоўкі дакументаў, усе рускія войскі пад канвоем былі пагружаныя ў цягнікі і да мяжы канваяваліся. Усё гэта было ў снежні 1917.*

*Цягнік ішоў на Іркуцк. Бальшавікі ў Іркуцку раззбройвалі кадэтаў, якія не здаваліся. Да нас у цягнік прыбыла дэлегацыя бальшавікоў і прапанавала дапамагчы раззброіць кадэтаў. У нас зброі не было. Бальшавікі Іркуцка нас узброілі, і мы зрушыліся да кадэцкіх карпусоў. Кадэты, бачачы ... нашыя сілы, выкінулі белы сцяг.*

*З Іркуцка я выехаў як дэмабілізаваны ў Петраград у снежні 1917 г. З-за загружанасці чыгункі ў Петраград я прыехаў у канцы студзеня 1918 г. У Петраградзе я прыехаў да дзядзькі, брата бацькі Майніча Пятра Фаміча. Дзядзька працаваў на Пуцілаўскім заводзе сталяром. Калі я адпачыў, дзядзька мне прапанаваў пайсці на завод на мітынг, дзе будзе выступаць Ленін. Гэта было ў канцы студзеня - пачатку лютага 1918 г. Калі б дзядзька не папярэдзіў, што гэта Ленін, я б сам не падумаў. Так, ён быў у паношаным паліто, у вельмі простай шапцы. Ленін заклікаў да падрыхтоўкі па абароне рэвалюцыі. "Рыхтуйцеся да абароны і аднаўляйце гаспадарку". Другі раз я бачыў Леніна на мітынгу ў Зімовым палацы ў канцы лютага 1918 г. Трэці раз я яго бачыў на Марсавым полі ў канцы красавіка 1918 г ізноў жа на мітынгу, на пахаванні Пляханава,* (Пляханаў памёр 30 траўня 1918 г.) *або некага іншага, дакладна не памятаю. Па закліку Леніна ў першых днях траўня 1918 г. я добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію разам з тав. Кунцэвічам Аляксандрам Сцяпанавічам з в. Баяры Смалоцкія.*

*Нас накіравалі ў Тамбоў, дзе фармавалася Першая Маскоўская дывізія (камдзіў Пебутаў). Мы атрымалі прызначэнне ў першы Маскоўскі прадполк. Я быў прызначаны камандзірам 1 роты. Кампалка быў Якубчык (выхадзец з Вільні). Кунцэвіч быў прызначаны камандзірам звяза кулямётчыкаў. Хоць наш полк зваўся прадполк, але мы душылі афіцэрскую змову ў Тамбове ў ліпені або жніўні 1918 г. У Маршанску Тамбоўскай губерні паўстала таксама змова. Яе ўзначальваў фабрыкант тытунёвай фабрыкі Сіўцоў. Мая рота была кінутая на задушэнне гэтай змовы. Пасля Моршанску я быў кінуты на задушэнне банды Антонава (зялёнае войска) на ст. Сасова г. Елацьма і ў інш. нас. пунктах.*

*У верасні 1918 г. нас, усе роты, раскінутыя па Тамбоўскай вобласці, кампалка Лепен Эдуард Давыдавіч (латыш, штабс-капітан старога войска), які змяніў Якубчыка, склікаў па тэлеграфе ў Тамбоў. Пагрузіліся ў вагоны і накіраваліся ў Варонеж фармавацца. Уначы Варонеж мы праехалі, спыніўся цягнік на шляху. Кампалка Лепен усіх камандзіраў рот і батальёнаў склікаў у свой вагон. Лепен сказаў, што паступіла распараджэнне заняць абарону пад Бабровам Варонежскай вобласці. Выдаў палявыя карты і тэатральныя біноклі.*

*Потым мы накіраваліся на ст. Давыдаўка, пасля бою з белымі пад Давыдаўкай на ст. Ліскі Варонежскай вобласці. Пасля бою пад Ліскамі - разбілі 13 палкоў белых пад Ліскамі, мы накіраваліся ў г. Калач. Пасля ўзяцця Калача ў канцы снежня 1918 былі накіраваны на ст. Бутурлінаўка. Каля Бутурлінаўкі ў пачатку студзеня 1919 г. я быў паранены ў ногі, але ў шпіталь не пайшоў. Мне далі працу пісара ў 37 стр. палку 15 Інзенскай дывізіі. У сакавіку ізноў паранены. Знаходзіўся 2 месяцы ў шпіталі ў Тамбове на лячэнні. Пасля перавялі ў Калугу ў 2-гі савецкі шпіталь. Па заканчэнні лячэння было дадзена 3 месяцы адпачынку і пасля да канца 1919 г. з-за незажывання раны рукі - пабітая костка левай рукі вышэй локця і парваныя звязкі - да канца 1919 г. карыстаўся адпачынкам. Пасля быў накіраваны ў працоўнае войска, якое фармавалася ў г. Казлове (Мічурынск) і адпраўлены ў Данбас на шахты. Па прыбыцці ў Данбас мяне з батальёнам, я быў прызначаны камбатальёна, накіравалі ў г. Аляксандраў-Гружэўск (Шахтнае) у*

*руднік РТПІГ (Рускае таварыства параходства і гандлю) і дзве роты ў першы дзяржаўны руднік (б. Парамонаўскі). Да канца 1922 г. перакідвалі з батальёнам па Данбасе па рудніках. У канцы 1922 г. выйшаў загад аб дэмабілізацыі шараговага складу старых узростаў, а камандны склад накіраваны ў штаб Юр'еўскай вайсковай акругі. Там я атрымаў прызначэнне ў 15-ю Сівашскую Чырванасцяжную дывізію ў 43 стралковы полк на пасаду камбатальёна. У лютым 1923 г. быў дэмабілізаваны па загадзе Мінабароны, па старасці веку. Дазвол на права выезду ў Польшчу атрымаў праз ЦК Украіны (старшыня прэзідыюму Пятроўскі, сакратар ЦК Хрушчоў). Пятроўскі ўгаворваў не ехаць. Але ў мяне тут былі бацькі, і я павінен быў ехаць да старога бацькі".*

**Макарэвіч** Васіль Фёдаравіч (1889, Гасцілаўцы - ). Працаваў на Тульскім зброевым заводзе, дзе выраблялiся гарматы і патроны. Быў ахоўнікам Іосіфа Броз Ціта і інш ваеннапалонных (1915). У 1916 г. пераехаў у Маскву да сваякоў, працаваў у канторы ганцом, затым у краме. У 1917 г. прызваны на службу ў войска, служыў інструктарам па навучанні кулямётчыкаў. Сустракаўся з Троцкім і Дзяржынскім. У 1919 г вярнуўся на радзіму ў Гасцілаўцы.

**Мулінскі** Аляксандр Міхайлавіч.

**Пыпець** Марк Іосіфавіч - служыў у 109 Волжскім палку г. Коўна.

**Салыга** Вікенці Антонавіч (22.02.1896, Феліксава - 1983). У жніўні 1914 г. прызваны ў войска, прызначаны ў Двінскую цвердзь на артылерыйскі склад. Цвердзь была здадзеная немцам без бою, Дзвінскі артылерыйскі склад быў эвакуяваны ў Бранск, з Бранска ў Чарацін, з Чарацiна ў г. Ялец. Патрапіў у палон да генерала Мамантава, дзён сем сядзеў у турме, уцёк. *"У 1919 г вучыўся ў вайсковым тэхнікуме пры Смаленскім палітэхнічным інстытуце. У 1920 г. поблізу Полацка фармавалі перадавую вогнебазу для барацьбы з Пілсудскім. Маім начальнікам быў Іван Іванавіч Сідараў - начальнік забеспячэння Заходняга фронту, былы слесар Пуцілаўскага завода. Пазней служыў у Ржэўскай артбазе справаводам".*

У 1923 г. ад рэвалюцыйнага голаду вярнуўся да бацькоў у в. Феліксава.

**Свіб** Цімафей Іванавіч - з в. Пескаўцы.

**Сарока** Мікалай Васільевіч (1894, Ліда -3.10.1967, Ліда): *"Я быў прызаны ў войска і ўдзельнічаў у Першай Сусветнай вайне. У 1918 г. у сяле Жоўтае Вехнеўнераўскага павету Екацерынаслаўскай губерні арганізаваўся атрад чырвонаармейцаў у 1500 чалавек. Гэты атрад увайшоў у склад Екацерынаслаўскага палка з рабочых Пятроўскага завода. У гэтым атрадзе і палку я лічыўся партработнікам. У палку я знаходзіўся нядоўга. Нас перафармавалі і кінулі на Каменскае. У траўні 1919 г. я выбыў з гэтага атрада ў шпіталь у Новамаскоўск. Шпіталь эвакуявалі. На ст. Пяціхатка я выйшаў са шпіталя і пайшоў да сям'і ў сяло Заруддзе каля с. Жоўтае. У Заруддзе, пакуль я быў у царскім войску, эвакуявалася ад немцаў мая сям'я. У Заруддзе была арганізавана камуна. Мае бацька і маці знаходзіліся ў гэтай камуне. Пры наступленні Дзянікіна камуна пачала эвакуявацца, у Роўна нас захапілі палякі. У 1920 г. вярнуўся дадому ў Ліду кантужаным".*

**Урбановіч** Уладзімір Іванавіч - атрымліваў у польскі час 70 злотых за раненне ў Першую Сусветную вайну.

**Урбановіч** Рамуальд Адольфавіч (1892, Даліна - ). У царскае войска прызваны ў 1913 г. Удзельнічаў у Першай Сусветнай вайне. Рэвалюцыя заспела яго на фронце, удзельнічаў у раззбраенні афіцэраў. З фронту прыехаў да сям'і ў Смаленск. Працаваў у міліцыі. У 1919 г. прызваны ў Чырвоную Армію. Удзельнічаў у баях супраць Дзянікіна, на Ўкраіне супраць банды "Марусі". Захварэў і быў накіраваны на лячэнне. У 1922 г. вярнуўся на Лідчыну.

Ацэначна, з Віленскай губерні былі мабілізаваныя 13 % мужчынскага насельніцтва і каля 34 % усяго працаздольнага насельніцтва *(Карнялюк. С. 179-180)*. Калі гэта сапрады так, то з Лідскага павету на Першую Сусветную вайну прызвалі каля 17 тысяч мужчын (130 тыс. мужчынскага насельніцтва х 0,13 = 16, 9 тысяч). Па спісах сямей якія атрымоўвалі харчовую дапамогу па законе ад 25 чэрвеня 1912 г. упэўнена магу сцвярджаць, што па Лідскаму павету мабілізавана было больш за 6000 мужчын.

1 верасня 1915 г. харчовую дапамогу па Лідскім павеце атрымлівалі 5323 сямей ніжніх чыноў на 14 769 поўных пайкоў і 337 сямей на 905 поўных пайкоў па г. Лідзе *(Ф. 669, воп.1, спр. 134, арк.101)*.

Першая Сусветная вайна таксама, як і рускаяпонская ,была прайграная. Яна вылілiся ў Лютаўскую, і ўслед за ёй і ў Кастрычніцкую рэвалюцыю. Пачалася грамадзянская вайна. Немцы таксама прайгралі Першую Сусветную вайну і ў студзені 1919 г пакінулі тэрыторыю Лідскага павету.

**Дабраахвотнікі Войска Польскага студзеня 1919 г.**

У пачатку лістапада 1918 г. у Лідзе падпаручнік **Вацлаў Шукевіч** таемна ад немцаў стварыў аддзел польскага войска, які неўзабаве быў ператураны ў Самаабарону Лідскай Зямлі. Ганаровае кіраўніцтва гэтай арганізацыяй прыняў выхадзец з в. Дзітрыкі генерал **Адам Макрэцкі**. У сярэдзіне лістапада нямецкія ўлады пагадзіліся на існаванне Лідскай Самаабароны. Немцы перадалі Шукевічу 80 карабінаў і дазволілі сфармаваць "Крэйсміліц". Пачалася вярбоўка дабраахвотнікаў і іх вайсковая падрыхтоўка. Штаб Крэйсміліц (Самаабароны) размяшчаўся ў хаце Эдварда Янушкевіча на перакрыжаванні вуліц 17 красавіка (цяпер Камсамольская) і Палескай. У суседняй хаце былі ўладкаваныя казармы. Паміж гэтымі хатамі падпаручнікі Міхал Пацэвіч, Зянон Багатка і падхарунжы Юстын Макрэцкі праводзілі вайсковыя заняткі. У пачатку снежня Лідская Самаабарона налічала 60 чалавек. Яна была падзеленая на звязы і размешчаная на тэрыторыі крэйсамта. Штаб і адзін звяз (12 чалавек, камандзір падпаручнік Багатка) заставаліся ў Лідзе, звяз

з 15 чалавек (камандзір падпаручнік Пацэвіч) размясціўся ў Няцечы, звяз паручніка Выспянскага з 10 чалавек размясціўся ў ваколіцы Гейштаўты, а кавалерыйскі звяз з 16 чалавек пад камандаваннем харунжага Стэфана Крыдла абасноваўся ў маёнтку Аполін.

23 снежня ў Ліду з Вільні прыбыў капітан Мяніцкі, які прыняў у генерала Макрэцкага Лідскую Самаабарону. 31 снежня Лідская Самаабарона ў сувязі ў набліжэннем Чырвонай Арміі пакінула горад і сканцэнтравалася ў Заполлі. Пасля ўступлення частак Заходняй дывізіі Чырвонай Арміі ў Ліду 8 студзеня перайшлі з Заполля ў Гурнофель. На гэты час Самаабарона налічала 89 чалавек. У Вавёрцы далучыліся некалькіх мясцовых дабраахвотнікаў.

У Гурнофель прыходзілі дабраахвотнікі з Ліды, Беняконяў, Жырмун, Беліцы, Аполіна. Тут праходзілі трэніроўкі. Пасля злучэння са Шчучынскай Самаабаронай атрад налічаў 164 пехацінцы і 33 кавалерысты.

Уначы 16 студзеня чырвонаармейцы напалі на Лябёдку, дзе знаходзіўся невялікі аддзел Лідскай Самаабароны. Яны захапілі ў палон вартавых: 16-гадовага гімназіста Самуэля Каставіцкага і Лявона Барташэвіча і занялі стайню з конямі. Акружыўшы з трох бакоў лябёдскую хатку з соннымі ўланамі, чырвонаармейцы адкрылі агонь. 6 уланаў былі забітыя, 4 уцяклі, 7 патрапілі ў палон. Целы загінулых: харунжага Стэфана Крыдла, капралаў Станіслава Шалевіча і Юзафа Мейлуна, уланаў Віктара Шкопа, Юльяна Лібаха, Станіслава Вайцахоўскага пахавалі на Шчучынскіх могілках. Пазней бацькі Шкопа і Мейлуна перапахавалі парэшткі сваіх дзяцей у сямейныя магільныя склепы на Лідскіх каталіцкіх могілках.

17 студзеня Лідская Самаабарона ўлілася ў аддзел маёра Дамброўскага, аддзел пераправіўся пад Орляй цераз Нёман і сыйшоў на злучэнне з польскімі войскамі. *(Dziczkaniec J. Samoobrona ziemi Lidzkiej. Lida. 1938)*.

**Дабраахвотнікі Чырвонай Арміі: студзень -красавік 1919 г.**

Тры месяцы - з 6 студзеня па 17 красавіка 1919 г. - у Лідзе ў казармах Паўночнага гарадка размяшчаўся 3-ці Сядлецкі полк Заходняй дывізіі Чырвонай Арміі. 17 красавіка ў баях за горад з легіянерамі генерала Лясоцкага загінула палова каманднага складу палка, шмат салдат, а таксама першыя лідскія камсамольцы Сямён Камянецкі, Міша Камёнскі і Юліс Ілютовіч. Частка чырвоных лідзян: Смаргонскі Бенцыян Рахмілевіч, Падземскі, Шыфмановіч, Калясінскі і інш. пакінулі Ліду разам з чырвонаармейцамі.

Некаторыя з іх прынялі ўдзел у грамадзянскай вайне.

**Говар** Іван з в. Масявічы Тарноўскага с/с. Служыў у 1-м рэвалюцыйным пяхотным палку Аршанскага Савета дэпутатаў.

**Говар** Сцяпан Восіпавіч (1888, Масявічы - 1943). У Гомелі ў 1917 г. уступіў у партыю бальшавікоў, у 1918-19 гг. быў камісарам адміністрацыйнай часткі Гомельскага аддзела Заходняй акругі Народнага камісарыяту шляхоў зносін, у пачатку красавіка 1919 г. пераведзены ў Віленскі аддзел Заходняй акругі НКШЗ, затым накіраваны ў Ліду. Інструктар і арганізатар Лідскага чыгуначнага вузла. Улетку 1920 г. уваходзіў у склад Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Лідскага павету, узначальваў зямельны аддзел.

**Кудзі** Іван Адамавіч (1896-) - удзельнік грамадзянскай вайны.

**Сегень** Адольф Сцяпанавіч (1880 -1943) - чалец Лідскага Часовага рэўкаму ў снежні 1918 - красавіку 1919 гг., вярнуўся, быў асуджаны ў 20-я гады.

**Клімкоў** Іван Іосіфавіч (1903, Ліда - пасля 1968, Уладзівасток): *"У 17 гадоў у 1919 г. сыйшоў дабраахвотна з Ліды, уцёк з салдатамі ў Саратаў - працаваў дзе давядзецца, гандляваў газетамі, працаваў рассыльным - 2-ая Паволжская партыя, у пачатку рэвалюцыі працаваў у Саратаўскім губпрасветсавеце рассыльным. У 1919 г. уцёк на фронт. Ваяваў супраць Дзянікіна, панскай Польшчы ў 1920 г. Сустракаўся ў г. Лідзе ў жніўні 1920 з братам Сцяпанам Клімковым. Калі мы адыходзілі з Ліды ў 1920 г. усе мае суседзі гаварылі - заставайся ў нас Янка, але я вырашыў пайсці з Чырвонай Арміяй. Пасля ваяваў на Ўрангелеўскім фронце ў Крыме, затым на Далёкім Усходзе ў 1922 г. супраць японцаў. Служыў у 4 арміі РСЧА - 4 рота сувязі штаба 4 арміі. У сваім жыцці сустракаўся з віднымі паплечнікамі Леніна тт. Кірсанавай - жонкай Яраслаўскага, генеральным сакратаром Прафінтэрна Лазоўскім, палкаводцамі тт. Фрунзе, Званавым і Блюхерем, Черняхоўскім, Ракасоўскім і многімі іншымі.* "За актыўны ўдзел у вайне 1917-22 гадоў" узнагароджаны медалём "За адвагу".

**Прызыў у Войска Польскае: красавік 1919 - ліпень 1920 г.**

7 сакавіка 1919 г. Польскі сойм ухваліў мабілізацыю ў войска шасці ўзростаў.

**Прызыў у Чырвоную Армію: ліпень -верасень 1920 г.**

Падчас савецка-польскай вайны 1920 г. Ліда ізноў апынулася ў руках Чырвонай Арміі. 29 ліпеня прадстаўнікамі 3 арміі быў створаны Лідскі Павятовы вайсковы камісарыят, функцыянаваць пачаў з 1-га жніўня. Пры Паветваенкамате былі сфармаваныя: канцылярыя, аддзел забеспячэння і мабілізацыйнае аддзяленне пры 32 супрацоўніках. 3-га жніўня была сфармаваная вартавая рота з 58 чырвонаармейцаў, прызначаныя камандзір роты і малодшы камсклад. Да 8 жніўня былі створаныя 13 валасных ваенкаматаў. 12 жніўня быў утвораны перасыльна - зборны пункт для адпускных па хваробе і мабілізаваных. Прызначаны загадчык пункта; знойдзена памяшканне на сто чалавек перасыльных, уладкованы агмень і ўмазаны кацёл для падрыхтоўкі ежы на 80 чал. Прызначаны таксама намеснік старшыні камісіі па барацьбе з дэзертырствам.

За час функцыянавання Лідскага Паветваенкамата выканана наступная праца:

1. Разасланы загады па воласцях аб пераарганізацыі валасных вайсковых аддзелаў у валасныя

ваенныя камісарыяты, а тых месцах, дзе вайсковых аддзелаў яшчэ няма - аб арганізацыі ваенкаматаў;

2. Разасланы загады па воласцях аб добраахвотнай яўцы дэзерціраў, а ў выпадку іх нез'яўлення, аб прыняцці адпаведных мер;

3. Праведзена рэгістрацыя былых афіцэраў і службоўцаў па горадзе і павету;

4. Праведзена рэгістрацыя медыцынскага і ветэрынарнага персаналу;

5. Зроблена распараджэнне воласцям аб рэгістрацыі грамадзян, якія служылі ў белапольскім войску, але па адыходзе яго пакінутых у сваіх вёсках;

6. Праведзена рэгістрацыя па павеце былых унтэр-афіцэраў, службоўцаў, фельчараў як медыцынскіх, так і ветэрынарных, а таксама былых афіцэраў і юнкераў;

7. Зроблена распараджэнне аб зборы вайсковага рыштунку і зброі, абмундзіраванні, сёдлаў і ўсёй наогул вайсковай маёмасці, пакінутай белапольскім войскам, а гэтак жа пакінутай Чырвоным Арміяй, частка зброі і сёдлаў ужо сабрана;

8. Праведзена праца, хоць і не скончаная, па забеспячэнні Паветваенкамата памяшканнямі;

9. Праз перасыльны пункт прайшло пакуль каля 200 чал., некаторыя забяспечаныя хлебам, рыбай і кіпенем.

10. Карны звяз папоўнены паступіўшымі дабраахвотнікамі з ліку перасыльных чырвонаармейцаў, уцякачоў з польскага палону і даведзены да 50 чал.

11. Неабходна праводзіць улік ваеннаабавязаных і коней для павету.

12. Прызначаны перапіс усяго насельніцтва ад 18 да 40 гадоў (працаздольнага).

Лідскім павятовым вайсковым камісарам быў прызначаны Мядзведзеў Васіль Мікіціч, пам. Паветваенкама Кузьміч (Кузьмін) Аляксей Мікалаевіч, ваенкіраўніком - Бізюкоў Аляксандр Мацвеевіч, памваенкіраўніком - Германюк Мікалай Мікіціч.

У Лідскім павеце былі арганізаваныя 13 валваенкаматаў на чале з ваенкамамі: Лідскі - Сяргеенкаў, Лябёдскі - Вітоль, Беліцкі - Уладзіміраў, Мытлянскі - Шырынкін, Васілішскі - Запарожскі, Дакудаўскі - Сіманаў, Жалудокскі - Мяркураў, Астрынскі - Новікаў, Жырмунскі - Шчарбін, Шчучынскі - Зырынт, Тарноўскі - Сапела, Навадворскі - Поліўка, Ганчарскі - Говар. У астатніх дзесяці валасцях валваенкаматы не арганізаваныя з-за адсутнасці сувязі, для арганізацыі пасланы памваенкама Кузьміч. *(ЦГАСА. З дакладаў Лідскага Павятовага Камісарыята па вайсковых справах. Ф 165. Воп. 1. Ст. 54).*

**Прызыў дабраахвотнікаў у Войска Польскае ў 1920 г.**

15 верасня ў горад увайшлі польскія часткі, неўзабаве быў арганізаваны павятовы ваенкамат. Пасля вайны тыя, хто праявіў мужнасць у баях з Чырвонай Арміяй, атрымалі зямельныя надзелы і сталі асаднікамі.

**Мулінскі** Іосіф Сцяфанавіч з в. Дзітрыкі - атрымліваў 18 злотых за пераломам нагі ў польскім войску.

У в. Ёдкі ў 1950 -60 -е гады жыў **Хруль** Канстанты, ён хадзіў на драўлянай мыліцы, меў бравы выгляд, граў на скрыпцы і за святочным сталом спяваў песні легіянераў.

**Другая Сусветная вайна. Жнівеньская мабілізацыя 1939 г.**

Другая Сусветная вайна, як вядома, пачалася 1 верасня 1939 г. У адрозненне ад правадыроў Савецкага Саюза, для якіх нямецкі напад 22 чэрвеня з'явіўся поўнай нечаканасцю, Польскі ўрад да вайны пачаў рыхтавацца за тыдзень да яе пачатку.

Трывожная мабілізацыя была абвешчаная 23 жніўня 1939 г., праводзілася яна планава і арганізавана. Падраздзяленні 77 пяхотнага палка, размешчанага ў Паўночным гарадку, прызываліся па мабілізацыйным плане і павінны былі быць гатовымі: 1 і 2 батальён, супрацьтанкавая рота да 23 гадзін 25 жніўня, камандаванне, гаспадарчая рота, выведрота, звяз сувязі, сапёрны і артылерыйскі звязы да 9 гадзін 26 жніўня; 3 батальён да 17 гадзін 26 жніўня, чыгуначная рота, калоны рухомага складу да 5 гадзін 27 жніўня.

Мабілізацыя праходзіла ў цэлым вельмі арганізавана. Яўка рэзервістаў, пераважна беларусаў 100 % ва ўказаны час. Маральныя якасці - вельмі высокія. Здараліся малаважныя спазненні ў гатоўнасці асобных падраздзяленняў з-за позняй падачы коней з Размеркавальнай Камісіі. Коні дробныя для артылерыі, амаль цалкам не каваныя. Вазы амаль выключна аднаконныя, малыя і нетрывалыя. Збруя - цалкам непрыдатная для войска.

Рэляцыі афіцэраў пацвярджаюць, што мабілізацыя праходзіла планава: рэзервісты прыходзілі нават загадзя, а набор матэрыяльны сутыкнуўся з праблемамі ва ўсіх падраздзяленнях дывізіі. Бракавала значнай колькасці коней, а частка пастаўленых была вельмі слабая. Недахопы гэтыя датычылі артылерыі і абозаў. Былі таксама праблемы з укамплектаваннем камандзірскіх пасад і з пэўным недахопам зброі. Большасць недахопаў удалося ўхіліць да 28 жніўня, калі першы цягнік палка быў загружаны ў чыгуначныя транспарты (1 і 2 батальёны). На наступны дзень зрушыліся астатнія падраздзяленні. Пераезд па трасе Ліда - Чарамша - Варшава -Ловіч адбыўся без парушэнняў і перашкод - працягваўся каля 19 гадзін. 30 жніўня полк высадзіўся ў раёне Ловіча і прайшоў каля 15 км на поўдзень ад гэтага горада, дзе да 1 верасня дыслакаваўся ў раёне мясцовасці Ежуў.

З паўдня 2 верасня да вечара 3 верасня полк пешым ходам перайшоў пад Петркаў Трыбунальскі, ад нямецкіх бамбардзіровак з'явіліся першыя параненыя

**Статыстыка.** Пасля завяршэння Першай Сусветнай, грамадзянскай і савецка-польскай вайны ў Лідскім павеце, плошча якога адміністрацыйна была скарочаная да 4257 км кв., жылі ў 1921 г. 148 тысяч жыхароў. Сярэдняя шчыльнасць насельніцтва складала 35 чал. на км кв. За час з 1914 па 1921 г. Лідчына страціла 22 % насельніцтва.

і забітыя. 4 верасня полк заняў пазіцыі ў раёне лесу Любень-Ленчна. Раніцай 5 верасня полк уступіў у судотык з немцамі. 6 верасня значная частка палка патрапіла ў акружэнне, пасля 8 верасня перастала існаваць як воінская адзінка. Асобныя групы прарываліся да Віслы. Большасць патрапіла ў нямецкі палон, многія былі забітыя. Да 10 верасня вайна для 77 пяхотнага палка была скончаная. *(Markert W. 77 pulk piechoty Strzelcow Kowienskich. // Ziemia Lidzka. № 53, s. 9-13)*

**Выхадцы Лідчыны, якія загінулі і памерлі падчас службы ў Польскіх узброеных сілах у 1939-1945 гг**.
*(газета "Новы час". № 13-16 (18-21) 2003)*

**Вайскова-Марскія Сілы.**

**Сапко** Баляслаў (22.02.1916, Ліда -6.12.1942, Францыя) - капрал ВМС;

**Троцкі** Антон (26.09.1919 Пусяворы - 8.10.1943) ст. матрос на падводнай лодцы "Аркан".

**Першая адмысловая парашутная брыгада.**

**Жукоўскі** Вацлаў (23.06.1912, Вяліконічы-22.10.1945, Нямеччына) - бамбардзір.

**Аддзелы ў Вялікабрытаніі.**

**Белапятровіч** Вацлаў (10.05.1919, Матынічы - 2.08.1944, Эдынбург, Шатландыя) - стралец.

**Першая танкавая дывізія.**

**Грынкевіч** Гедзімін (5.05.1916, Утрышкі - 16.09.1944 Аксель, Галандыя) - стралец;

**Ляскоўскі** Альфонс (11.04.1920, Жылянка - 5.04.1945, Тыльбург, Галандыя) ст. стралец;

**Сянкевіч** Франц (22.05.1905, Пушча -18.08.1944 Ланганеры, Францыя) - звязавы;

**Урбановіч** Антон (10.02.1919, Вангі - 31.08.44 Ланганеры, Францыя) - стралец.

**Польскае войска пад камандаваннем генерала Ўладзіслава Андэрса.**

**Аўтасевіч** Браніслаў (1905, Войлагі - 10.07.1942 Кермінэ) - стралец 7 пп;

**Барко** (Борка) Емяльян (1901, Яшавічы -20.12. 1941, Катлубянка) - стралец;

**Бялоцкі** Станіслаў (28.03.1902, Макавічы - 15.07.1942, Кермінэ) - капрал 7 пп;

**Вывел** Сігізмунд (1915, Ліда -17.08.1942, Кітаб, Узбекістан) - стралец;

**Гайдукевіч** Антон (15.06.1923, Крапоўшчына - 17.03.1942, Нарпай) - стралец;

**Здановіч** Казімір (3.03.1923, Белагруда - 15.09. 1942, Khanaqin) - стралец;

**Качаноўскі** Люцыян (4.01.1922, Сламянка - 28.08.1942, Тэгеран) - кананір;

**Ліпінскі** Антон (1900, Ліда - 12.04.1942, Гузар) - стралец;

**Міхаловіч** Уладзіслаў (1894, Ліда - 3.04.1942, Пехлеві) - кананір;

**Сантоцкі** Альберт (15.05.1905 Вял. Сантакі -13.04. 1943 ?) - ст. стралец;

**Філіпчык** Баляслаў (12.05.1923, Ваверка -18.07. 1942, Кенімех) - стралец;

**Хартановіч** Уладзімір (11.06.1911, Бабры - 21.11. 1942, Тэгеран) - кананір;

**Юндзіл** Эдмунд (5.02.1902, Бідунцы - 9.03.1942, Чакпак) - паручнік;

**Якубоўскі** Іосіф (5.07.1919, Жвірблі - 5.02.1942, Тацішчава) - маёр;

**Янкоўскі** Ігнацы (1904, Конюхі - 2.08.1942, Кітаб) - стралец.

**2 гі Польскі корпус.**

**Астрэйка** Кастусь (23.12.1918, Эйтуны - 22.05. 1944, Монтэ-Касіна) - стралец;

**Баршчэўскі** Валянцін (12.05.1914, Дакудава - 14.04.1945, Болоння) - стралец;

**Барысевіч** Аркадзь (09.1908, Новая Жыжма - 12.05.1944, Монтэ-Касіна) - стралец;

**Гразінскі Віталь** ( 9.02.1904, Даўгілаўшчына - 17.05.1944, Монтэ -Касіна) - стралец;

**Грыцкевіч** Іосіф (11.02.1918, Ерамевічы -24.12. 1944, Балоння) - кананір;

**Дудзевіч** Станіслаў ( 1913, Гіркі - 3.07.1944, Лярэта) - стралец;

**Дудзінскі** Ян (9.02 (11). 1906, Буцілы -18.11.1944, Болоння) - кананір;

**Жукоўскі** Пётр (10.06.1914, Вінцукі - 8.09.1945, Касамасіма) - ст. стралец;

**Звярко** Сцяпан (26.12.1924, Германішкі - 22.12. 1944, Болоння) - шараговец;

**Івуць** Віктар (5.04.1912, Некрашы - 2.08.1944, Лярэта) - кананір;

**Канарскі** Баляслаў (29.08.1918, Васілевічы - 16.08.1942, Рамлех) - стралец;

**Капачэль** Кастусь (14.09.1914, Дуброўка - 21.11. 1945, Болоння) - бамбардзір;

**Кароль** Эдуард (23.10.1907, Ліпнішкі - 24.12.1944, Болоння) - стралец;

**Квяткоўскі** Ян (15.02.1912, Ліда - 25.11.1944, Касамасіма) - капрал;

**Келмуць** Фелікс (4.09.1905 - 20.08.1944, Лярэта) - ст. стралец;

**Клюкевіч** Ян (3.11.1906, Вайнілавічы - 15.01.1945, Болоння) - стралец;

**Коміч** Кастусь (15.05.1922, Ліпканцы - 29.10.1944, Болоння) - стралец;

**Лапата** Тадэвуш (10.06.1912, Бурдукі - 23.10.1944, Болоння) - ст. стралец;

**Лебядзевіч** Юльян (06.1917, Ракі - 17.05.1944, Монтэ-Касіна) - стралец;

**Марчук** Сігізмунд (15.09.1909, Лосевічы- 13.11. 1944, Болоння) - звязавы;

**Мышка** (Мышко) Станіслаў (5.08.1919, Ліда - 17.03.1943, загінуў пры тарпедаванні карабля "Empress of Canada") - стралец;

**Пашкоўскі** Іосіф (8.12.1909, Куры - 27.12.1945, Болоння) - ст. стралец;

**Пташынскі** Юльян (1912, Эйшышкі - 7.07.1944, Лярэта) - стралец;

**Райка** Іосіф (12.03.1900, Істакі - 4.12.1944, Болоння) - ст. стралец;

**Рум** Уладзімір (1.08.1910 - 11.06.1944, Усходняя Кантара) - стралец;

**Сантоцкі** Ян (19.03.1908, Вялікія Сантакі 12.05. 1944, Монтэ-Касіна) - капрал;

***Р. М. Аладава***

# Опера К. Горскага «Маргер» у кантэксце беларускай культуры

У беларускай культуры апошняй трэці XX ст. пачынаецца бурны працэс вяртання на Радзіму мастацкай спадчыны суайчыннікаў, чыя дзейнасць праходзіла па-за межамі рэспублікі. На хвалі нацыянальнага адраджэння як здабыткі беларускай музыкі пазіцыяніруюцца творы А. Радзівіла, Ю. Казлоўскага, М. К. Агінскага, С. Манюшкі, К. Горскага. Такая практыка патрабавала свайго тэарэтычнага асэнсавання ў рэчышчы праблемы міжкультурных узаемадзеянняў. Адказам на гэта патрабаванне з'явілася наша манаграфія [1]. У дадзеным артыкуле мы прапануем некаторыя вынікі гэтага даследавання.

На постаць Канстанціна Кіпрыянавіча Горскага (1859–1924 гг.) як аднаго з народжаных на Беларусі музыкантаў, што неслі пецярбургскія музычныя традыцыі ў іншыя гарады і краіны, першым звярнуў увагу І.У. Мацієўскі [2]. Сапраўды, «геаграфія» творчай дзейнасці знакамітага на мяжы XIX і XX ст. скрыпача, аўтарытэтнага настаўніка, менш вядомага ў кампазітарскай іпастасі, уражвае! Нарадзіўся Горскі ў **Лідзе**. Гады навучання праходзілі ў Гародні, Вільні, Варшаве, Санкт-Пецярбурзе, дзе ён скончыў кансерваторыю па класу Л. Аўэра і браў урокі кампазіцыі ў М. Рымскага-Корсакава; потым Пенза, Тыфліс, Саратаў, амаль на 30 гадоў затрымаўся ў Харкаве; апошнія пяць гадоў працаваў у Польшчы.

Музычная спадчына Горскага-кампазітара сведчыць аб моцных сувязях з польскай культурай. У Познані пасмяротна адбылася прэм'ера оперы «Маргер» — своеасаблівай справы ўсяго яго жыцця. Высока ацэньваючы гэты твор, рэцензент рэкамендаваў оперу да пастаноўкі на ўсіх польскіх сцэнах, перадаўсім — на сталічнай [3]. Парадаксальна, але ж менавіта «Маргер», зніtаваны з культурай Пецярбурга, дае найбольш важкія высновы для выявы «беларускага субстрату» творчасці кампазітара.

Звонку оперны стыль Горскага пазбаўлены рысаў свядомай этнанакіраванасці, у ім адсутнічаюць фальклорныя элементы — традыцыйныя для даследчыкаў беларускай музыкі паказальнікі нацыянальнага. Ментальнасць аўтара музычна-драматычнага тэксту праяўляецца ў яго глыбінных структурах. Гэтая акалічнасць вызначыла метадалагічную базу даследвання, якая складаецца ў сінтэзу вядучых парадыгм сучаснай культуралогіі: структурна-семіятычнай (культура як «семіясфера», метатэкст), гісторыка-культурнай (культура як памяць), глыбінна-псіхалагічнай (архетыпы калектыўнага неўсвядомленага як аснова сімволікі). Аптымальнасць такіх падыходаў абумоўлена міфалагічнай асновай опернага феномена і падцверджана операзнаўчымі даследваннямі А. Баевай, Н. Бекетавай, Л. Перфір'евай, М. Чэркашынай і інш.

Напісаная ў 1905 г. па матывах аднайменнай паэмы У. Сыракомлі (Л. Кандратовіча) опера «Маргер» распавядае пра гераічны эпізод з летапіснай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага XIV ст., часу барацьбы ліцвінаў супраць крыжакоў за сваю незалежнасць. Сімвалічны сэнс набывае прысвячэнне твора: «Памяці лірніка вясковага» — пад гэтым імем Сыракомля ўцвердзіўся ў польскай літаратуры як пясняр беларускай вёскі [4]. Праз паэта Горскі далучаецца да спецыфічнай гістарычнай формы ліцвінскай самасвядомасці, тыповай для сярэдзіны XIX ст. — значнага этапа фармавання нацыянальнай свядомасці беларусаў. Важным кампанентам «ліцвінства» выступае ідэя салідарызацыі з польскім нацыянальна-вызвольным рухам.

Лібрэтыст оперы, на нашу думку, сам кампазітар, даволі дакладна прытрымліваецца сюжэтных перыпетый літаратурнай першакрыніцы, зберагае нацыянальную характаралогію галоўных герояў [5]. Разам з тым у лібрэта ідэйна-маральная канцэпцыя оперы набывае новыя рысы: тут «завострана» ідэалагічная тэндэнцыя, што адбіваецца на трактоўцы вобразаў ліцвінскіх герояў Лютаса і Эгле, якія сімвалізуюць Радзіму ў яе міфалагічных мужчынскай і жаночай іпастасях.

Культура Беларусі — гэта культура памежжа, перакрыжывання. Заходнееўрапейскія і рускія ўплывы, успрынятыя праз прызму ментальнасці нацыі, складаюцца ў комплекс этнічных пераваг і набываюць рысы нацыянальна-адметнага. Аналіз з гэтых пазіцый музычна-драматычнага тэксту «Маргера» дазваляе зрабіць некаторыя высновы ў галіне адлюстравання беларускай ментальнасці ў канцэпцыі і музычнай драматургіі «Маргера» як культурнага артэфакта.

Кампазітар вызначае жанр «Маргера» як «драматычная опера». Але маштабнасць опернай задумы, дзе героіка, нацыянальная міфалогія, філасофска-маральная і рэлігійная праблематыка пераплятаюцца з псіхалагічна насычанай лірычнай драмай дазваляе ўбачыць тут складанасастаўную, шматузроўневую сістэму: нацыянальна-рамантычная — гістарычная — вялікая опера. Калі ў музычнай драматургіі заходнееўрапейскай оперы гэтага тыпу валадарыць любоўна-лірычная лінія, а ў рускай класіцы акцэнтуюцца эпічны план, духоўныя інтэнцыі, то ў «Маргеры» гэтыя драматургічныя складальнікі знаходзяцца ў раўнавазе. Такая жанравая дваістасць адбіваецца на развіцці міфалагемы кахання прадстаўнікоў варожых бакоў (Эгле і крыжак Рансдорф), якое пачынаецца ў рамантычным ключы, але ў фінале набывае класіцысцкае вырашэнне: абавязак вышэй за каханне.

Тыповыя для гістарычнай вялікай оперы рэлігійныя матывы ў паэтыцы «Маргера» прадстаўлены ў апазіцыі «паганства — хрысціянства». У творы Горскага паганскае светаўспрыманне ліцвінаў адлюстравана праз структуру касмаганічнага міфа ў пантэоне найбольш старажытных прыродных багоў: Перкуна, Зніча, Поклюса. Архаіка ўвасабляецца ў рытуальна-абрадавых сцэнах. Хрысціянская тэма знаходзіць паслядоўнае ўвасабленне ў развітай сістэме харальнай музыкі, якая парадаксальным чынам лучыць антаганістычныя вобразы крыжакоў і ліцвінаў. У святле хрысціянскай канцэпцыі оперы паказальна параўнанне блізкіх па ідэі фіналаў «Хаваншчыны», «Падання пра нябачны горад Кіцеж і дзеву Фяўронію» і «Маргера», які завяршаецца сцэнай узыходжання ліцвінаў на ахвярнае вогнішча дзеля паўстання з мёртвых Радзімы. Фіналы опер Мусаргскага і Рымскага-Корсакава «дают чисто русский смиренный ответ на катастрофу реальности: неприятие исторической правды, утверждение идеи сверхбытия» [6]. У гэтым пункце канцэпцыя «Маргера» разыходзіцца з рускай традыцыяй, набліжаецца да заходнееўрапейскага канцэпту — смерцьзбавенне. Але там ён традыцыйна выяўляецца праз індывідуальныя лёсы герояў. Успамянём адэпта гэтай філасофска-маральнай і рэлігійнай максімы Р. Вагнера, уплыў якога на паэтыку і музычную мову «Маргера» даволі адчувальны. Горскі пераносіць гэтую максіму ў сферу эпічнага, дзе адбываецца вызначэнне лёсу народа, станаўленне ліцвінскага самаўсведамлення. Так праяўляецца айчынная культурная традыцыя, гуманістычная накіраванасць беларускага ўсведамлення, якое, згодна з У. Конанам, «не зямлю “растварала” ў небе, а наадварот, зямлю адушаўляла, зазямляючы само неба» [7].

Значным паказальнікам сувязяў з беларускай культурнай традыцыяй з’яўляецца наяўнасць у паэтыцы «Маргера» архетыпаў беларускага менталітэту, перадусім, міфалагемы Роднага Дому [8]. Яна выступае ў розных формах. Напрыклад, у аркестравай інтрадукцыі гукапіснага характару, дзе прадстаўлены вобраз Нёмана, адвечная плынь якога разносіць «рэха старажытных легендаў і думаў» (з лібрэта). Сімфанічная карціна становіцца ўступам да маналогу-эмблемы Лютаса — своеасаблівага «голаса ад аўтара». Гэта спецыфічна тэатральны прыём — выхад за мяжу часу, у Вечнасць. Медыятарам двух светаў тут выступаюць прыродныя сімвалы жыцця і смерці — рака і курган. У маналогу Лютаса канцэнтруецца і музычная сімволіка. Яна прадстаўлена алюзіямі паланэза Шапэна і мазуркі Дамброўскага, якія выступаюць знакамі героіка-патрыятычнага і канкрэтызуюць у ідэалагічнай канцэпцыі оперы ідэал дзяржаўнасці. У ролі міфалагемы Роднага Дому прадстае таксама харавая песня літоўскіх дзяўчат, адзін з найбольш самабытных па музыцы фрагментаў оперы. Усходнеславянская музычная інтанацыйнасць, элементы рускай песеннасці адчувальныя ў музычнай характэрыстыцы Эгле.

На музычна-драматургічнам ўзроўні оперы выяўляецца яшчэ адзін вызначальны для беларускай культуры і мастацтва архетып – міфалагема палявання. У «Маргеры» яна, дзякуючы свайму скразному развіццю, набывае статус спецыфічнай метафарычнай формы выявы канфлікту. Яе музычнымі знакамі-сімваламі становіцца разгалінаваная сістэма сігнальнай музыкі. Высокі градус драматычнага напруджання канфлікту абумоўлены яго ўнутранай амбівалентнасцю — функцыянальнай дваістасцю герояў, што аб’ядноўваюць у сабе і паляўнічага, і ахвяру.

Сярод іншых знакаў «беларускасці», якія прысутнічаюць ў паэтыцы «Маргера», назавём баладнасць, якая надае драматургіі оперы адметнасць. У гэтай сувязі зазначым, што менавіта тэксты балад Міцкевіча «Свіцязянка», якая пабудавана на матывах беларускіх народных балад, і «Дазор» (у перакладзе Пушкіна) інспіравалі нараджэнне ў рускай музыцы 1890-х гг. новых жанраў: вакальна-сімфанічнай (Рымскі-Корсакаў) і сімфанічнай («Ваявода» Чайкоўскага) балады. З беларускай кампазітарскай школай музычны стыль Горскага лучыць таксама рэтраспектывізм (апора на нормы музычнай стылістыкі першай паловы XIX ст.) і эклектызм (пры тым, што яўныя ўплывы стылю Чайкоўскага, Вагнера, італьянскай опернай музыкі ўсё ж не шкодзяць цэласнасці музычнай драматургіі) [9].

Усе гэтыя прыкметы стануць характэрныя для беларускай вялікай оперы, якая нараджаецца ў 1930-х гг. Такім чынам, «Маргер» К. Горскага выступае як прадвеснік беларускай нацыянальнай оперы XX ст.

**Літаратура:**


[1] Аладова Р.Н. Константин Горский и его опера «Маргер» в контексте белорусской культуры (рыхтуецца да публікацыі ў выдавецкім аддзеле Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі).

[2] Мацієўскі І.У. Беларуская мастацкая плынь у фармаванні еўрапейскага абрысу музычнай культуры Санкт-Пецярбурга // БС. Вып. 1. СПб., 1998. С. 39.

[3] Kronika artystyczna // Rytm. 1927. № 2.

[4] Цвірка К.А. Слова пра Сыракомлю. Быт і культура беларусаў у творчасці «вясковага лірніка». Мн., 1975;

[5]Мархель У.І. Лірнік вясковы. Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні. Мн., 1983.

[6] Барсова М. «Китеж» в Брагине: вопрос, оставшийся без ответа // Окно в Европу. 1995. № 2. С. 2.

[7] Конан У. Архетыпы беларускага менталітэту: спроба рэканструкцыі паводле нацыянальнай міфалогіі і казачнага эпасу // Беларусіка — Albaruteniса. Кн. 2. Мн., 1992. С. 22.

[8] Аладова Р.Н. Оперная поэтика Анатолия Богатырева. Мифологема Родного Дома // А.В. Богатырев. Личность, творец, учитель: Сб. док. и ст. Мн., 2005).

[9] Лихачев Д.С. Очерки по философии художественного творчества. 2-е изд. СПб., 1999. С. 87.

***Памяці Вясковага Лірніка***

# МАРГЕР

***Драматычная опера ў трох актах***
***(6-ці карцінах)***

**Змест паводле паэмы Л. Кандратовіча (Ул. Сыракомлі)**
**Лібрэта склаў В. В. Г. (Вальгер)**
**Музыка Канстанціна ГОРСКАГА**
**1905 г.**
***Пераклад лібрэта на беларускую мову Васіля Сёмухі***

**АКТ І**

**КАРЦІНА 1**

Інтрадукцыя

**Сцэна 1**
*Зала ў замку Пулен*

**Хор (І, ІІ)**
Перамог і помсты бог
хай прымае гонар зніча,
шмат Літве ён дапамог,
сілай моцы ваяўнічай.
Адагнаны вораг прэч,
сіла лютая прапала,
і крыжацкі доўгі меч,
бостваў нашых не дастала.
І упаў тэўтонскі крыж,
напаткала кара звера,
зноў нам зніч палае звыш.
Мы — ўгары! і наша вера.

Рушым, аголім свой меч,
рушым жа, воіны славы —
вось яно поле крывавых,
лютых і жудасных сеч.
Толькі знішчэнне наўкола,
вёскі гараць і бары,
песні не чутна вясёлай,
смутна стаяць ваяры.

**Ваяры (Мужчынскі хор)**
Вытаптаў плён нашых ніў
жорсткі нахабны крыжак,
плач нашых дзетак, жах
прагнай рукі не спыніў.
Стане сцяною ліцвінаў брацтва,
ўсе як адзін, бараніць свае хаты,
зведае вораг, што план яго кляты
скончыцца крахам, бой выйграць не ўдасца.

Жыві, наш Маргер! ён меч расплаты,
кулак жалезны ў сталь, у латы,
як гром, карае
як гром ,
лютыя зграі
крыжацкіх цел.

Расплата, расплата.
Смерць ім у бітве!
Расплата, расплата.
Згуба, смерць ім у бітве
і помста ім, і помста ім.
Пакуль шалее зло ў нашай Літве —
супроць стаім!

**Маргер (Хор )**
Будзь пэўны, мой народзе верны,
што міласэрны
ва ўсіх баях
не буду я.

Пакуль меч мой трымае рука,
прысягнуць вам на ім я гатовы —
паплыве долам кроў крыжака,
і пакоцяцца з немцаў галовы!
Абляціць вестка радасці люд,
што зламана крыжацкая сіла,
што свой гонар Літва ўбараніла,
не надзеўшы нявольніцкіх пут.

**Маргер (з хорам)**
Абляціць вестка радасці люд,
што зламана крыжацкая сіла,
што свой гонар Літва ўбараніла,
не надзеўшы нявольніцкіх пут.

Палонных, што ўзялі на полі сечы,
багам магутным у ахвяру дам
хай зноў спашлюць багі удачу нам!

**Лютас**
Жыццём плаціў, хто намі паланёны,
бо не мінаў яго ліцвінаў меч.
Рансдорфа ж не аддаў я на закол:

пад вартай ён цяпер . І ў ранах ён — сакол!

**Маргер**
Лютасе, дзякую! Палонны знакаміты;
Як мне сустрэцца з ім?...
*(Да ваяроў)*
Сюды яго, сюды!

**Мужчынскі хор**
У ковах рыцар, злы палон
трывае Рансдорф магутны,
не грозны болей ён,
бяссільны і пакутны.

**Сцэна 2**

**Эгле**
Туга ў вачах і боль на твары
паказваюць, як церпіць дух,
які ў душы паморак шары!..

**Рансдорф**
Якую злосць, жуду, агіду
на тварах бачу ў дзікуноў:
жывы адсюль я ўжо не выйду,
хай прыме смерць мяне з акоў!

**Маргер** *(Рансдорфу)*
Рансдорфе, мне скажы, што вас вяло
аж да замкавых муроў,
дзе ў люду й пана ў жылах кроў
адной прыроды! Сукінсыны!
прыйшлі з вайною без прычыны
на шыю нам надзець ярмо,
ды веру продкаў і свабоду
забраць у нашага народу
ніколі мы чужынцам не дамо...

Вы пад знакам крыжа,
бога каб абараніць,
на нашы хаты, нашы нівы
прынеслі гром, пажар жахлівы,
прыйшлі жанок і дзетак біць.
Праклён за гэта вам! Пагарды
тым большай кожны з вас тут варты,
дык на сабе яе насі.
За крыўду плату ты дасі,
не знае помста прабачэння,
цярпецьмеш мукі паганьбення
аж па астатні дзень жыцця!

**Рансдорф**
Задужа слоў, пагрозаў дужа,
аднак, жыццё кідае цень
на духа, што у целе ў мужа...
Ты муж, ваяр ці люты кат?
Чаго шкадуеш — ніваў? хат?
Калі ваяр ты мужны, бравы,
дык, як і ты, такі і я —
зацяты вёў з табою бой.
Скажы: хто большай варты славы,
душа мая ж бо не струхлела,
хоць маладосць мінула,
а ты ўсё любіш авантуры
і шлеш палонных на тартуры.

**Маргер**
Судзіў нам бог закон ахвярны,
каб кожны, трапіўшы ў палон,
крывёй абмыў памост алтарны,
каб гэтым сілы даў нам ён.

**(Хор)**
Крыжак расплаціцца славуты,
і ў помсце рады будзе люд,
люд пакутны
хай гляне тут,
пакутны люд хай гляне тут
на смерць Рансдорфа і пакуты!

**Рансдорф**
Не страш мяне!

**Эгле**
О бацька мой!
Не дазволь жа смерцю ліхой
бяссіламу памерці!

**Маргер**
А ён не сеяў жахаў смерці?
Суймі свой жаль! Не сэрца рэч
судзіць, дзе права правіць меч!

**Эгле**
Слабы, адважны і ў адчаі!...

**Маргер**
Ён рыцар! Мужнасць увянчае
пакутнай смерцю...

**Эгле**
О, богі, богі!

О. колькі ж, богі, колькі будзем
у лютым гневе зноў і зноў
мы праліваць людскую кроў,
о колькі ж будуць біцца людзі!?
Агонь і дым, пажар, пагром,
і смерць вартуе нас варожа.
Пяруне грозны, моцны божа,
спыніся ўжо, суцішы гром,
суцішы гром!

**Рансдорф**
За дар свабоды дарагое
вянок лаўровы не да твару, —
жыццё аддам я за свабоду,
а ў ланцугах не бачу дару,
бо ў смерці бачу ўзнагароду;
што ж да цаны жыццю майму,
цаною ганьбы,
цаною ганьбы — не прыму,
цаною ганьбы — не хачу,
жыцця такога не прыму!

**Маргер**
Юнача! Важкія мне словы
дайшлі да сэрца глыбіні,
я б, можа, нават адмяніў
прысуд табе такі суровы,
але нязменна слова божа,
яго змяніць нішто не можа,
бо слова гэтае — закон,
і служыць ён Літве спакон.

**Лютас**
Так! рыцар ты з вялікім гартам,
высакародны маеш дух.
О каб жа нам з табою ўдвух
было сябрамі звацца варта!

**Хор**
Праціўнік моцнае адвагі,
ён варты нашае павагі.

*Тэнары, Басы*
Хадзем, патрэбны нам спакой,
бо заўтра нас пакіча бой!

**Сцэна 3-я**

**Рансдорф**
А заўтра, можа, смерць мяне з жыцця дастане,
і я не ўбачу дзённага святла,
Як кропля ў моры хваль, жыццё у моры тла,
маё жыццё, у вечнасці растане.
Жыццё аддаць магу, памру са славай, смела,
як герой, а не стаптаны гад.
Змагацца я хачу, хоць лёс мне даў загад
узнесці на алтар змагання цела.

Не адкрыты тут бой, каб плаціў я уласнай крывёй,
зброю вырвалі з рук, і далёка сябры, не са мной,
і падступны удар з цела душу дастане мне,
мушу гінуць, як звер, што абраны на луп;
будзе харчам мой труп,
для паганскіх багоў,
бо іх божышчы смокчуць, як цмок,
кроў з ахвяраў ліхіх перамог.

У край свой не вярнуся ўжо сваёй пары
і не пабачу больш бацькоўскай роднай хаты
па-над ракой; не мне гараць закаты
і ў моры тонуць у агнях зары.
Бывайце ж, мілыя, спакуслівыя панны,
з якімі лучыць успамін пра слодыч кроз,
нас рознымі павёў шляхамі звадны лёс,
вам жыць і жыць далей, а мне... мне скон ахвярны.

О маці, маці! табе ж бо колькі слёз
з вачэй пральле ліхая сына доля!
Усцеш яго, твая хай будзе воля
ў апошнім сне, ў апошнім сне,
перш чым скарае лёс!
Усцеш яго, твая хай будзе воля
ў апошнім сне!

**Лютас**
Над галавой тваёй завіснуў меч няўмольны,
і ты схіліў, горды ўнізіў карк,
мацуй свой дух, не згінеш тут бяздольны,
абыдзе лёс ліхі, не трэба марных скарг.

**Рансдорф**
Абыдзе лёс! Ба! можаш кпіць удосыць,
бо знаеш ты, што я не ўбаранюся тут,
дык што пачаў — канчай, мой боль цябе не ўпросіць,
адкрыта бі, каб я пазбыцца мог пакут.

**Лютас**
Спакойны будзь: мой меч цябе не ўразіць,
а я хацеў бы лепей сябрам быць,
цябе шкада, бо мужнасць ты на полі паказаў!

**Рансдорф**
Хто ж дапамог мне ўдала, ці Лютас сам?

**Лютас**
Не я, а Рансдорф, — ён.
Дачка правадыра з сардэчнаю тугой
вось тут нядаўна бацьку палка умаўляла
і з ворагам з'яднаць у міры спрабавала,
развеяць гнеў яго, развеяць гнеў багоў.

Ад просьбаў даччыных Маргера мякне воля,
і загадаў ён мне цябе з акоў раскуць.
Зноў вернеш сілу, адыдзе ўраз нядоля,
закладнікам затое верным нашым будзь.

Дай клятву мне, што хоць ты не звязаны,
уцёкамі не спляміш гонар свой
і сплаціш доўг удзячнасці тым самым,
а за цябе зарукай,
за цябе зарукай гонар мой.

**Рансдорф**
Клянуся я!

**Лютас**
Я веру! Мы ужо не ворагі цяпер,
А можа, долі злой па волі бога ты унікнуць зможаш,
і зменіцца прысуд, і ты дыхнеш лягчэй,
А можа долі злой па волі бога ты унікнуць зможаш,
і зменіцца прысуд, і ты дыхнеш лягчэй,
надзеяй добраю абернецца трывога.

**Рансдорф**
О, Эгле, да глыбінь твая даброць кранае;
а чым жа, чым табе аддзячу я?
Ах, чым жа, чым табе аддзячу я?
З цялесных путаў дух мой вызваляе,
ахвярай будзе хай душа мая,
ахвярай будзе хай душа мая.

**Рансдорф**
А мне спачыць пара ад цяжкіх бітваў
мой дух зачэрпне сіл з малітвы слоў,
цярплівасць жа знайду я у малітвах,
забуду клопаты, як Эгле ўбачу зноў.

**Лютас**
Табе спачыць пара ад цяжкіх бітваў
і сіл зачэрпнуць,
і сіл зачэрпнуць з душаўцешных сноў;
табе спачыць пара ад цяжкіх бітваў,
зачэрпнуць сіл, зачэрпнуць сіл са сноў.
З крывавых ран здымі ярмо малітвай,
з крывавых ран здымі ярмо млітвай,
і хутка мужнасць ты здабудзеш зноў,
і хутка мужнасць здабудзеш,
мужнасць ты здабудзеш зноў!

**Рансдорф**
А мне спачыць пара ад цяжкіх бітваў,
дух сіл зачэрпне;
дух сіл зачэрпне мой з малітвы слоў,
бо мне спачыць пара ад цяжкіх бітваў,
мой дух зачэрпне сіл з малітвы слоў
цярплівасць знойдзе цела у малітвах,
цярплівасць знойдзе цела у малітвах,
забуду клопаты, як Эгле ўбачу зноў.

**КАРЦІНА 2**

*Скалісты і лясісты бераг Нёмана, які знікае ўдалечыні. Сярод сцэны стары галінасты свяшчэнны дуб, пад ім грубая выява боства. Дуб і божышча аздобленыя ахвярамі, прынесенымі вернікамі. Направа ўзвышаецца скала, паўразбураная часам, знікае за кулісамі.*

**Сцэна 1**

*Рансдорф і Лютас сядзяць на камені.*

**Лютас**
Задумаўся? Чаго?

**Рансдорф**
Не знаю сам, Лютасе.
Няясна ўсё, душы чагосьці брак,
нязнаны рай нібы тугой азваўся,
так вабіць гэты свет, надзеі будзіць,
толькі ўсё як бы не ў часе!..

**Лютас**
Пакуль жывы, сваёй будзь долі рад.

**Рансдорф**
Жыць!.. што з таго мне!? ...
Памерці мне не страшна,
калі ж суцешыць хочаш, раскажы
пра Эгле мне!

**Лютас** *(паказваючы ўделечыню)*
Ды вось яна, з дзяўчатамі ідзе
свяшчэнны дуб наведаць ;
іх малітоўны спеў напоўніць гэты гай.

**Рансдорф**
Нязвыклы звычай ваш і мне пабачыць дай.

**Лютас**
Стань побліз дзе, за тою вунь скалой.

*Рансдорф хаваецца за скалу справа. Лютас выходзіць.*

**Сцэна 2**

*Эгле і дзяўчаты-ліцвінкі ў вянках і з кветкамі ў руках.*

**Хор дзяўчат**
Устае раненька сонца,
гоніць морак шары,
на дзявочыя сардэнькі
насылае чары.
Адшумела, адгрымела
над Літвою бура,
збеглі госці-ліхадзеі
хмараю панурай,
размяло густыя цені
як лісцё віхура.

Каб жа толькі мой каханы
быў жывы,
я абмыю раны,
дам жывун-травы.
Выйду стрэць-сустрэць яго
з дубовых варот,
выпіць піва дам,
залацісты мёд,
паднясу да вуснаў смяглых
поўны рог,
каб міленькі мой мядухі
выпіць мог.
Вой, схілі стамлёна голаў
да грудзей,
і забудзь пра бой крывавы,
шчасцечка ідзе.

*Усе, апрача Эгле, разыходзяцца па лесе.*

**Сцэна 3**

**Эгле**
Дзіўна як!.. Душу вярэдзіць мне
міжволі песенька сябровак!..
А ў сэрцы смутак, цьмяны сон, і мара,
мову адбірае.
Магла б адкрыцца толькі аднаму:
як цяжка жыць, як цяжка жыць,
журбу стаіўшы ў сэрцы.

Я не люблю яго, о не!
Хто ж любіць ворага? А мне
тым больш ніяк не выпадае,
бо бацька мой, кіроўца краю,
забараніў бы мне кахаць,
дачцэ не змог бы даравацьь,
бо лепей смерць, бо лепш загуба,
чым ганьба ёй, дачушцы любай.
Мне ў сэрца жаль пранік глыбока,
ахвотна б я дапамагла,

хоць у душы я зберагла
і жаль і літасць! Ён далёка,
і мне шкада, што моц тугі
на ім вісіць, як ланцугі!

Можа, маці недзе, можа, ёсць сястра,
можа, тужаць, можа, слёзы льюць дарма!
Тут і краіна чужая, чужы і бог,
каб маліцца богу свайму ён мог.
О мой бацька добры, волю дай яму,
і хай рыцар слаўны вернецца дамоў,
О мой бацька добры, волю дай яму,
і хай рыцар слаўны вернецца дамоў,
і хай рыцар слаўны вернецца дамоў!
І тады пагодна заяснеюць дні,
толькі ўжо кахаць я не змагу ані.

**Сцэна 4**

**Рансдорф**
О Эгле, дай прамовіць слова!..

**Эгле**
Чаго ты тут?

**Рансдорф**
Не будзь суровай!
Цябе, я толькі сню адзіна,
майму ты сэрцу як святыня,
жывеш у ім, нібы багіня,
якой малюся я няспынна,
бо толькі ты любоў мая,
бо толькі ты, о Эгле,
ты любоў мая!

**Эгле**
Чакай!.. Не трэба лішніх слоў!..
Хоць вораг ты, чужое веры,
але ў маім жывеш даверы,
і я не прагну кары, не.

**Рансдорф**
Калі што лёс прызначыць мне,
дык назаўсёды праўдай стане,
ў табе адзінай — маё каханне.
Ты першы ясны промень дзён,
і сэрца боль мой, і журбота,
ты сэрца боль мой і журбота
вачэй лагода і пяшчота
жыццё, і смерць,
жыццё даеш і смертны скон.

**Эгле**
Такія словы слухаць люба,
яны звястуюць новы май,
звястуюць сэрцу новы май,
ды, Эгле, ты ж увагі дай,
бо ў іх затоеная згуба,
бо ў іх затоеная згуба,
о так, о так, на жаль у словах
твая затоеная згуба!

**Рансдорф**
Кахаю Эгле я, ах! палка кахаю,
усё аддам за шчасця квет,
бо без цябе нашто мне свет!
Няволю з радасцю прымаю,
з радасцю прымаю,
о так, о так, няволю з радасцю прымаю,
няволю з радасцю прымаю.

**Эгле**
Ты вораг, рыцар, помні то!

**Рансдорф**
Сказаць мне так!.. Не, Эгле, хто
другі сказаць так права мае.

**Эгле**
А праўда ў тым якраз святая,
што ты навёў нам чужакоў.

**Рансдорф**
І чую столькі горкіх слоў.

**Эгле**
Ах, рыцар бравы,
сваёй будзь годны добрай славы!

**Рансдорф**
Цябе кахаю!

**Эгле**
А я!? А мне?! Не можна!..

**Рансдорф**
Ах! сэрца, як табе трывожна,
суймі парыў... суймі парыў!

**Эгле**
Табе я шчыра
дапамагчы хачу, павер!

І хай багі цябе аслоняць.

**Рансдорф**
Дарма!.. усё памерла,
апроч тваёй, апроч тваёй,
тваёй адплаты,
і ўдар смяротны з рук тваіх,
як з неба гром, як з неба гром
па мне б'е клята;
сыходжу я адсюль навек,
навек!

**Эгле**
Рансдорфе! О жорсткі!.. Сыходзіць!..
У час!.. Бо так і трэба,
збыліся ўсе выракі неба!
(Бяссіла апускаецца на камень)
Мае дзяўчаткі, станьце ўкола,
(Дзяўчаты абступаюць яе)
пацешце песенькай вясёлай!..
Ды не!! Заўтра буду рана,

а сёння думкі стынуць хай,
а заўтра вернемся у гай
пад дуб! Як цяжка! ах! як забуду!?

**Дзяўчаты** ***(выходзячы з Эгле)***
Устае раненька сонца,
гоніць морак шары,
на дзявочыя сардэнькі
насылае чары,
насылае чары!

**А К Т II**

*Шырокі падземны храм. Злева, справа і ўглыбіні цёмныя праходы і сталактытавыя гроты. Скляпенні і сцены пачарнелыя ад куродыму з ахвярнага вогнішча. У глыбіні сцэны каменны алтар, на якім гарыць зніч, час ад часу выбухаючы крывава-чырвонымі языкамі полымя. Каменныя груба часаныя выявы багоў. Па сценах развешаны ахвярніцкія прылады і рознае начынне. Глыбокая ноч, храм слаба асветлены полымем зніча.*

**КАРЦІНА III**

**Сцэна 1**

**Марці** *(у малітоўным экстазе каля ахвярніка)*
Поклюсе грозны, што за сны?
Чаму жахлівыя зраніцы
твае шпурляюць бліскавіцы,
за што твой гнеў такі буйны?
Табе ахвяраў новых трэба,
што ўжо відны праз навісь дыму
выявы грознага уздыму
і анідзе прасветлін неба.
Бо прадчуваю сілай духа
я божы морак, неспакой,
грукоча воддаль бітва глуха,
навала, вораг, кроў ракой.

*(Сыходзіць з прыступкаў ахвярніка)*

О Маргер! ты Літве аплот,
і ты бароніш свой народ,
дык уратуй ад бед яго,
пад корань вынішчы ўсё зло,
уберажы літоўскі гмах,
не дапусці пад княскі дах
нягод ліхіх, пад княскі дах.
Рансдорфа ахвяруй багам,
уславі іх ахвярнай песняй,
тады наноў Літва ўваскрэсне
лягчэй тады ўздыхнецца нам.
Замоўкнуць злыя рыкі бітваў,
палі дадуць багаты збор,
і новы бляск нябесных зор
хвалой засвеціцца нязвыклай...
Ахвяру дай, іначай нам,
іначай гора ўсёй краіне,
звядзецца ўвесь ліцвінскі род,
ахвярай смерці, ахвярай смерці
стане... наш народ!..

**Сцэна 2**

**Марці**
Вось ідуць!

**Хор жрацоў** *(за сцэнай)*
На твой заклік прыйшлі мы скарыцца,
каб пакору сваю паказаць.
Службу, і жыццё ў нас можаш узяць,
божай ласкі свяшчэнная жрыца.
*(На сцэне)*
Хто з нас мае ахвяраю быць,
хай твой абвяшчае нам вырак,
мы крывёю улашчым куміра,
каб гарэў ясным полымем зніч!
Каго выбраць: юнака ці падстарка,
каб шугала полымя ярка,
калі боству ўспадобіцца кроў, —
скажы слугам, мы ўсе пагатоў.

*Храм шумна напаўняецца: люд, ваяры і дзяўчаты.)*

**Марці**
Богі неба, падземныя богі,
вось заклёнаў наблізіўся час:
ублагаць хоча гнеўлівых вас
люд ахвярамі — даць дапамогі.

**Сцэна 3**

*Маргер, Эгле, Лютас і ваяры ўваходзяць праз сярэдні ход.*

**Марці** *(да Маргера)*
Я вітаю цябе, мужны віцязь!
Ведай: ворага не пакарай,
дык твая памылковая літасць
можа ўраз запрапасціць наш край...

**Маргер**
Каб сілай злоўжываць, няхай бог крые мілы!
Так! вязень мой павінен мець свабоду,
бо гонару няшмат з бяссілым важыць сілы!?
*(Холадна:)*
Дарма, урэшце, тут шукаць у Марці згоду,
не трацьма слоў, ахвяра ёсць ахвяра,
вайсковае усё — ў руках у ваяў,
а ўсё ля алтара — ёсць Марці зброя,
малітвамі адольвай, верай ...

**Эгле**
О, тата мой! О, Літвы княжа,
з табой і смерць прыняць не страшна!

**Марці**
Таму хай бог і вырашае,
каму з вас жыць, каго ж — карае.

**Лютас**
Наш правадыр і муж лагодны,

наш правадыр,
ты славы і пашаны годны!

**Марці**
З хвілі гэтай вы, хто тут прысутны,
ты, дачка твая, плоць тваёй плоці,
а над вамі бог Поклюс магутны,
вы пад моцай ягонай даброці.
Ён нам волю сваю тут аб'явіць,
як пачуе маіх слоў закляцці,
мо цябе пад сякеру паставіць.
мо захоча ахвяры дзяўчаці,
будзь гатоў, і з табою ліцвіны,
зрабіць так, як зрабіць вы павінны.

**Хор**
Каму смерць за свой край прыпадае,
таму суджаны ў небе край божы,
яго сіла падхопіць святая,
панясе у краіну раскошы...

*Invocatio. Выкліканне бога пекла Поклюса. Марці падкідае зёлак у агонь, з якога высока ўгору шугае полымя і дым.*

**Марці і Хор жрыц**
Пеклам абранае боства,
ты адно а ці мноства
ў ятры лютай і вострай.
нам аблічча яві!..
Вось ужо гром грукоча,
Поклюс выйсці к нам хоча.
У агні, ці ў крыві
гнеўны вобраз прымі...
У маланцы ці ў громе
акажыся відомы,
волю ўведаць дай, —
хто аддасць плоць, кроў,
каб на край няшчасны наш
мір вярнуўся зноў!

*(*У полымі і ў дыме з'яўляецца страшная постаць Поклюса. Маргер, тулячы ў абдымках дрыготкую ад жудасці Эгле, пільна ўглядваецца ў прывід, як і Лютас. Усе астатнія падаюць тварам да зямлі.)*

**Марці** *(Хор жрацоў)*
Выдай вырак суровы
на благальнікаў ласкаў,
вунь, схілілі галовы
перад пеклавым бляскам;
мецьмеш кроў у ахвяру,
ты, адвеку бажышча,
адкладзі толькі кару,
хай люд мір сабе зышча.

**Поклюс** *(4 галасы за сцэнай. Тэнары)*
Прагну: хай Рансдорф згіне!
І Літву пошасць пакіне!!

*(Прывід знікае)*

**Марці** *(Хор устае)*
Загіне, праміне,
яму ратунку ўжо няма, о не!
Цень сумневу бог
зняў і даў нам раду,
і хто цяпер бы мог
не прызнаць загаду!?

**Хор** *(у вялікім узрушэнні)*
І зноў у радасці палаюць твары,
Няхай жыве алтар і кроў ахвяры!
Ахвярніка на стод!
Зямлі нямецкай плод!
Чым меней пражыве,
тым меней зробіць шкод.
Нявернага крывёй зальём мы стос,
а вецер праху справіць лёс.
Так рабіў наш дзед даўным даўно,
даўным даўно.
Трэба нам, трэба нам
ісці ў ягоны след.
Біць крыжакаў! Біць крыжакаў!

**Эгле**
Я першая! І я!

**Маргер**
Служу загаду!
І хай шкада мне юных дзён хлапечых,
ды тут жрацам я аддаю уладу.

**Маргер**
Ані думайце!
Вам загадваць тут права служыць мне.
Не дазволю я разбойны чын,
хоць асуджаны чужынскі сын
хутка смерць прыме ён.
Не на мукі выдаецца вам у рукі.
Заўтра сам выдам вязьня вам,
ён прыме тут смерць
з рук божае жрыцы.
А тым часам ні слова пра гэта,
каб ахвярны спакойны меў сон,
цяжка бо з юным жыццём расстацца.

Таму гора і смерць таго звяжа,
хто рыцараў гонар зняважыць,
яму потым пра ўсё тут лёс скажа.

**Эгле**
Я не знаю, чаму непрыемна,
душна мне, сэрца сціскае страх,
сэрца жаль раздзірае і жах,
я дрыжу перад сілай таемнай,
аднак я ганю смерць яго,— не!
Бо каму трэба кроў маладая?
І ці сапраўды боству яна,
боству яна?
Ах! ты, жрыца, ты злая сама.

**Марці**
Багам Літвы хвала аддаецца.

Марці дбае пра гэты закон,
як страшны ўдар,
страшны ўдар Рансдорфа кранецца,
Поклюс возьме з таго сабе плён.
Боства помсты падыме правіцу,
каб крыжацкі закончыўся род,
і тады мае ўбачаць зяніцы
наш даўні зніч!
наш даўні зніч свяшчэнны,
аплот!
Смерці Рансдорфа.

**Маргер**
Няхай споўніцца вырак свабодна,
калі бог патрабуе таго,
гэта дасць моцы слугам яго
захаваннем іх веры народнай.
Ці сапраўды юначай крыві
прагне Поклюс, як мы тут пачулі,
знае Марці адна! Скажы, Марці,
і не пакрыві!
Бо сумненні ў душы не заснулі.
Смерці Рансдорфа.

**Лютас**
Чараўніца на зло падбівае,
скача, махае, гнеў плешча ў ёй,
дабаўляе ў стан вязьня бяспраўя,
люд запляміцца гэтай крывёй,
але я вам не жрэц ліхой славы,
каб наш вязень стаў марнай доляй расплат.
Хай аціхне імпэт іх крывавы, —
люд ліцвінскі нікому не кат.

**Жрацы, Жрыцы, Люд**
Багам слава на месцы алтарным,
пакуль Літва з ахвярамі йдзе,
хай яны умацуюць людзей
прад абліччам пагрозы каварнай,
хай нам ясна зара засвітае,
ахіне нам святлом далягляд,
а ахвяра з крывёю верне,
верне мір і айчыне лад.
Край прагне цэлы,
і ліцвінскі жадае народ:
пасароміць крыжакаў навалы,
як адпорам ім блісне усход!

### Карціна 4

*Бераг Нёмана пад мурамі замка Пулен. З правага боку выступ вежы, пад якой падземны ход на другі бок ракі. Справа — высокі курган. Углыбіні — далёкія палі і занямонскія лясы.*

### Сцэна 1

**Лютас** *(сядзіць на высокім кургане ў глыбокай задуме)*
Коцяцца Нёмана воды,
шэпча таемна іх шум,
рэхам прадаўняй прыгоды
голас паданняў і дум.
*(Устае і падыходзіць да авансцэны.)*
Нёман! ты помніш, як орды
ворагаў тут пераймаў,
як у кіпучыя воды
стрэламі бітых прымаў.
Тут гартаваў я у бітвах
меч на крыві крыжакоў,
ах! і пакінуў многа
магілаў братоў.
Дзе ж вы, сябры баявыя,
верныя, мужныя вoi!
Дзе вашы душы жывыя,
дух дзе лунае, героі!
Можа, мне наканавана
коштамі вашага болю
зведаць тут позна ці рана
роднай Літвы маёй волю.

Веру ў святасць нашай справы
веру ў светлы дзень,
як Літва у поўні славы
ворагаў змяце.
І убачыць люд хрышчоны,
што жыве ліцвін,
вольналюбны і нязломны,
хрысціянскі сын,
што ліцвін зусім не гіне
ад няўдач і скрух,
бо жыве ў адважным сыне
прабацькоўскі дух.
Можна ўліць у веру смуты,
зманлівых аблуд,
а накінуць нельга путы
на ліцвінскі люд.
Як бацькі, так сёння дзеці
хочуць вольна жыць,
лепш памерці,
вольнымі памерці,
чым у рабстве быць

### Сцэна 2

*За сцэнай чуецца бразгат зброі.*

**Эгле**
Лютасе! Дай ратунку вязьню,
прашу цябе, ратуй яго!

**Лютас** *(занепакоена)*
Кажы хутчэй, дзіця, — каго?
Няма прычын дрыжаць з баязьні.

**Эгле**
Рансдорфа! Чуй, спяваюць зноў!

**Хор**
На твой покліч прыйшлі мы,
каб засведчыць пакорай сваёй,
жыццём нашым,
жыццём нашым судзі і крывёй,
ласкі божай,
ласкі божай вялікая жрыца!..

**Эгле**
Злавесны хор спявае ў змроку,
як з-пад сякеры хлыне кроў,
са слёз маіх не будзе толку.
Май літасць!.. Будзь ласкавы!

**Лютас**
Злая справа,
бо хоць агнём душа гарыць,
а сіл не маю зло ўхіліць:
мне помста жрыцы — што забава,
а як забыць пра божы гнеў
і слова, Маргерава слова?!

**Эгле**
О, гора! зноў кроў і змрочны спеў!
І смерць, і пашча пекла злога!
Суйміся, сэрца, не дрыжы!
шукай сабе другога бога,
ад злых багоў сваіх бяжы!..

**Лютас**
Адкуль прыйшла ў цябе трывога!?
Эгле, што табе наўме!
Шаленства сэрца дапускаю,
ён вораг, ты блюзніш ці не?
Ён вораг наш!

**Эгле**
Яго кахаю!

**Лютас**
Крыжак! Не забывай таго!

**Эгле**
Дзявоча сэрца не забудзе!
Ах! толькі ўладная любоў,
нянавісць, вось што ў сэрцы будзе,
калі мужчын заводзіць бой,
мяне ж не возьме проста змора,
павер жа мне, нічога ў свеце
любові ўладнай не пабора,
любові ўладнай Эгле не пабора.
І ты ж любіў Рансдорфа дзецем...

**Лютас**
Чым тут парадзіць!? Мне няўцям.

**Сцэна 4**

*Лютас і Эгле; да іх набліжаюцца Маргер і Марці; жрацы з паходнямі, жрыцы, ваяры і люд з шумам запаўняюць сцэну.*

**Хор**
Дзе вязень? Можа, збег бяскарна?
Хто ў змове з ім!? Хто ў змове з ім!? Хто ў змове!?
Хто ў змове з ім!? Хто ў змове з ім!?
Хто з ім? Хто з ім?
Хто ў змове з ім!? Хто ў змове з ім!? Хто ў змове!?
Хто ў змове з ім!? Хто ў змове з ім!? Хто ў змове!?
Хто з ім?
Смерць! Хто з ім!?
Смерць! Хто з ім!?

**Маргер**
Хто б ён ні быў, загінь ахвярна!

**Марці**
А ты на слове стой сваім!

**Маргер**
Не жрыцы Марці тут рукамі
чапацца слова!
*(Заўважыўшы Эгле, здзіўлена)*
Эгле! І ты тут? Дрыжыш! Чаго дрыжыш?..

**Маргер**
І Лютас тут!.. Не можа быць...

**Эгле**
Маўчы, Лютасе! Я сама
суду аддамся і прысуду,
я сама суду аддамся і прысуду,
я сама суду аддамся і прысуду,
я сама, о так!
Я сама суду аддамся і прысуду,
падбала добра ці дарма.
А ты патрэбны краю, люду, ах!
А ты патрэбны краю, люду.

**Марці**
Закон стаптаны продкаў нашых,
чакае край наш горкі лёс
праз Эгле?
Чакае край наш горкі лёс,
і гэта ўсё не горкі лёс нам спляжыў,
айчыну зла чакае лёс,
гэта ўсё праз Эгле.
Дык хай ідзе на смерць, на стос,
на смерць, на стос!

**Маргер**
Не можа быць, каб Эгле сорам свой забыла,
а Лютас планы здрады плёў.
Не можа быць, каб Эгле сорам свой забыла,
калі ж бы... калі ж бы... скрые ўсё магіла,
а з ёю скрые ганьбы сляды,
скрые ўсё магіла,
а з ёй і ганьбы след,
а з ёй след ганьбы!

**Лютас**
Не! як што вінны нехта з нас,
адна не можаш гінуць марна,
адна не можаш гінуць марна.
Не! На смерць усіх! на смерць усіх
пайду і я, на смерць усіх пайду і я.
На смерць усіх пайду і я!

**Хор**
Жахлівая у нас правіна,
жахлівая у нас правіна,

і марна ў спрэчку ўлезлі вы,
бо тут трымалася злачынна
найпершая з дачок Літвы,
бо тут трымалася злачынна
найпершая з дачок Літвы,
найпершая, з найпершых,
з літоўскіх, з дачок Літвы!

**Маргер** *(да Эгле)*
Цябе пытаюся, дзяўчына, —
хто паказаў таемны лёх?

**Эгле**
Мой бацька! праўду я скажу,—
віна мая.

**Маргер**
Дачка-злачынка пад бацькаву сякеру йдзе!
*(Кідаецца з сякерай да Эгле, Лютас адкідае яго сякеру сваёй. Абураны Маргер хапаецца за меч.)*
*(Да Лютаса:)*
Дарогу помсты заступаць мне —
нягожа !

**Эгле**
О Божа мой!

**Лютас**
Каб спыніць злачынства.

**Маргер**
І ў час!

**Хор і Марці**
Хай згіне!

**Марці**
О Маргер, божы вырак цвёрды,
не думай адмяняць яго
па волі Поклюса — галоўны
калі уцёк з турмы палонны,
хай ганьбу змые Эгле кроў!
Інакш нам лёс бяды адмераў —
пацерпяць люд, краіна, вера.

**Эгле**
Мой бацька!

**Маргер**
Хай будзе так!

**Марці**
Падземны ўладца хоча так!

**Лютас**
Не! Не!

**Хор**
Падземны ўладца хоча так!

**Маргер** *( да дачкі)*
На смерць! Ахвярны стос палае,
ты прымеш смерць на золку год!
А я — віна тваіх прыгод —
адпрэчыць лёс твой сіл не маю!
Калі жыццём заплаціш тут
за справядлівасць, радасць мецьмеш,
палёгку мецьмеш ад пакут,
ад бацькі ж — радасці заледзьве...

*(да людзей)*

Сцеражыце,
і хоць бы упрошваў я варту
і ў ногі вам упаў,
каб злагодзіць ёй лёс,
не слухайцеся бацькі,
ягоных пагроз, —
вінаватая хай прыме смерць...
Хай так будзе!

**Хор**
Хай сплыве яе кроў
на алтарнай спарудзе..

**Эгле** *(да бацькі)*
Жыцця шкода і дзён юных шкода,
але міламу будзе палёгка.
Хутка згасне дзён гэтых пагода,
ў даль туманную думкі,
думкі вымкнуцца лётка,
ў даль туманную вымкнуцца лётка,
калі ў пыл ужо,
калі попелам-пылам стану,
тады, бацька, слязой тваёй гляну.
Тады, бацька, слязой тваёй гляну.

**Марці**
Не гняві сябе, бог, не гняві,
і хай гнеў твой нас больш не маркоціць,
калі хочаш ты нашай крыві,
калі хочаш ты нашай крыві,
Марці хутка ахвярай аплоціць,
ахвяруе, хутка сплоціць.
Лічы, Эгле, у вязьніцы дні,
сцеражыце яе, камяні...

**Маргер**
Адвядзіце яе як найдалей.
Цяжка сэрцу стрываць, сэрцу бацькі,
цяжка сэрцу стрываць, сэрцу бацькі,
хто яго пашкадуе у жалі,
хто суцешыць у горы жабрацкім.

**Лютас**
Не, не магу я аддаць цябе богу,
не дапусціць крывавай ахвяры,
не дапусціць крывавай ахвяры,
меч стары табе ўторыць дарогу,
убароніць ад лютае кары,
меч стары табе шлях утаруе,
альбо ўдасца мой план, калі ж— не,
дык вазьміце жыццё і ў мяне.

**Хор**
Не гняві сябе, бог, не гняві,
і хай гнеў твой нас больш не маркоціць,
калі хочаш ты нашай крыві,
калі хочаш ты нашай крыві,
Марці хутка ахвярай аплоціць,
ахвяруе, хутка сплоціць.
Лічы, Эгле, у вязьніцы дні,
сцеражыце яе, камяні...
Лічы, Эгле, у вязьніцы дні,
сцеражыце яе, камяні...

*Эгле выводзяць, за ёю выходзяць усе.*

**А К Т III**

**Карціна 5**

*Вялікая гатычная зала ў замку Мальборк. Углыбіні трон Вялікага Магістра, над якім баявы штандар Закона. Абапал трона сядзенні для членаў капітула. Справа і злева высокія стрэльчатыя дзверы, каля якіх стаяць ахоўнікі і пахолкі. Зала ўпрыгожана трафеямі, зброяй і інш*

**Сцэна 1**

*Ажыўленыя групы рыцараў, ваяроў і пахолкаў. Рансдорф, самотны і задуменны, пазбягае натоўпу.*

**Тэнары I, II; Басы I, II**
Хадзілі ўжо атрады нашы
Да Вільні брам!
Пыхлівы ж Маргер з ардой сваёй
Плён перамогі ў нас украў!
Пара падумаць пра паходы,
пра помсту з добрае нагоды,
каб ні кала, каб ні двара
ім не было. Пара! Пара!

**Рыцар I** *(да Рансдорфа)*
Адзін ты здольны ў бездарожжы
здабыць нам перамогу зноў,
чаго ж тады шкадуеш слоў,
чаго ж задумлівы, варожы?
Ці не на лютню трубадура
ты хочаш меч свой памяняць,
ці, можа, Маргера дачура
красой так здолела звязаць?
Смялей!
Праз тайны лёх ліцвінаў
у крэпасць ход нам пакажы!

**Рансдорф**
Каб вужам здрады ваш паход
з балот на панямонскі бераг
знянацку выпаўзці там мог!?
Не! Не!

**Рыцар I**
Рвучы вузлоў далёкіх ніць
для нейкай дзеўкі, для паганкі,
ты варт літоўскае каханкі,
нам жа застаешся братам быць.

**Рансдорф**
Далей ні слова! Толькі Бог
судзіць нас можа справядліва,
а з вас ніхто, бо знае хто,
да чога сэрца так чулліва.
Бунтуе вас захопаў шал,
але зацятасць войн трымае;
падступства цешыць вас, не жаль,
бо сродак мэту асвятляе.
А мой інакшы Бог, ваш гнеў
майго не дасягае неба,
пагарда мне бунтуе кроў,
мне кроў за гэта сёння трэба!

*(Рансдорф збіраецца кінуць пальчатку, у гэты момант шырока расхінаюцца дзверы справа, і ўваходзіць герольд.)*

**Герольд**
Вось Магістр Вялікі!

*Рыцары (становяцца ў рад, прапускаючы В.Магістра да Рансдорфа)*

Кроў – не вода, кроў – выгода,
але будзе згода,
як пойдзе чарка ў рукі з рук!..

**Сцэна 2**

*Уваходзіць Вялікі Магістр са світай, несучы меч і крыж. Рыцары шаноўліва нахіляюць галовы. Вялікі Магістр сядае на трон; капітула займае свае месцы.*

**В. Магістр**
Хай будзе з намі Бог!
Яму ўзнясём благанне
пра добрых рад высланне.
Хай жа стане
як Найвышэйшы скажа сам;
Ён – Бацька нам!

**Хор рыцараў** *(у пабожнай паставе)( Малітва)*
О, Душасвяты, дай святла нам,
сэрцам дай слодыч, Тваім сынам,
будзь нам паходняй міласці годнай!
цяжкім паходам мы за Табой
пад знакам крыжа рушым у бой,
каб добрай славы ўкласці у справы.
Рыцарам крыжа правадыром
будзь і паганскіх скінь з алтароў
божышчаў і – нам святло шлі!

*(Усе сядаюць)*

**В. Магістр**
Не нам прыстала
цешыцца славай,

бо кожны дзень
так! Бо штораз
нашых параз
множыцца цень
на ўсім мінулым,
нашых заслугаў, на нас!
Чакае помста нас;
Літва! Хай пойдзе прахам
за свой супор!

**Хор**
Пагібель! Пагібель!
На бой! На бой! На бой!

**В. Магістр**
Святыя ёсць у нас правы,
а наш магістр за гонар іх
не пашкадуе галавы,
як правадыр і як айцец па духу.
Літва ж якраз закону падпадае,
дык хай канае
за нораў свой!
Пагібель! Пагібель!
На бой! На бой! На бой!

**В. Магістр**
Рансдорфе, ўваж,
што той, хто крые штось,
прагне ён са страху ці з гардыні
і нам не йдзе з дакладам,
чыніць зло, ён сам загіне,
бо тоіцца ў ім здрада.
Ён сам загіне!

**Рансдорф** *(да В. Магістра)*
Нядобры чын справы дзеля
па праве ты караеш тут.
Калі душа пакіне цела,
калі на божы пойдзе суд,
віны не ўтою там. Не знаю,
ці можна мне было кахаць,
я і цяпер агнём палаю
і не хацеў бы дагараць,
але прысяг сваіх рахунак
не адмяню – такі закон.
Мне сведка Бог, а ў Ім ратунак,
бо і любоў сама – ёсць Ён!

**В. Магістр**
Рансдорфе! Сатана
так думаць спасабляе,
ў думках блудзіць,
ў слабой душы пачуцці будзіць,
каб завалодаць і душой.
Рансдорфе! Добра ўсё. Паросту,—
да Эгле правядзеш,
калі ж яна папросіць хросту,
яе нявестай назавеш!

**Рансдорф**
Не ўводзь мяне у спакушэнне,
мой пане! Гэта ж – райскі блуд.
Збавіцель праўды абвяшчэнне
праз смерць нам даў, явіўшы цуд.
Не! Не! Прысягі не парушу,
умольна я прашу у вас,
дазвольце ўмацаваць мне душу
перш чым памерці прыйдзе час,
прашу я вас! *(Схіляе галаву).*

**В. Магістр** *(убок)*
Апантаны! Так! Але з трывогай,
жадае мужна ён смерці строгай.
Што зробіш? Выхад ёсць… патайны лёх!..
Ну, *(пакутліва)* што ж: паможам, каб ён змог!
І пойдзе сам!
*(Да стражнікаў, уголас)*
Прывесці ліцвіна!

**Сцэна 3**

*Тыя самыя і ліцвінскі ваяр, закаваны ў кайданы.*

**В. Магістр**
Скажы яшчэ раз нам, які
адказ ты даў быў у катоўні,
што Маргер кару спраўна споўніў
за здраду роднае дачкі.

**Палонны**
На Эгле не бацькоўскі суд,
а божы вырак шле ёй кару,
на стосе свой акупіць грэх
складзе ахвяру!

*(Рансдорф кідаецца на палоннага, хапае яго за плечы і ўпіваецца ў яго вачыма).*

**Рансдорф**
Ты хлусіш, паганскі пёс ушчуты!

**Палонны** *(з годнасцю)*
Палонны воін, хоць закуты,
няпраўдай не запляміцца!

**Рансдорф**
Ну так, ну так! О Божа!
На мне след ганьбы ад крыві нявіннай,
за гэта волю я здабыў.
О, Эгле! Любая, нанесці ўдар
я ворагам павінны,
цябе з цямніцы вырваць мушу,
калі і як, не знаю сам,
але усё ў ахвяру дам
і смерць прыму, прадаўшы душу.
Затрыумфуеш, шайтане!
Клянуся, слова не забуду,
Пайду на вечную асуду,
а Эгле вольная стане!
Прыйшла пара. *(Да палоннага)* Эй! Скажы мне,
калі на стос?

**Палонны**
Праз дзве зарніцы.

**Рансдорф**
Хвала Айцу й Святому Духу –
паспею вывесці з цямніцы!..
Хай праз д'ябла ўладу тую,
я скарыць хачу злы лёс.
*(Да рыцараў)*

Вас на Пулен правяду я,
Абярну паганскі стос…
*(Хапае штандар і, укленчыўшы, падае яго В. Магістру)*

Пане мой! Вядзі на згоду,
перамога кліча нас,
і паганскаму выроду
прыйдзе згуба ўадначас!

**Вялікі Магістр**
*(уручаючы штандар герольдам)*

Хай Закон пабачыць любы
пераможны мой штандар,
загадайце граць у трубы.
На паход наш, на удар.
Гэй! Крыжацкая кагорта,
станавіся ўсе за мной,
воляй Божаю і горда
павяду я вас у бой!
Хто ўстае за веру Пана,
зышча славу, гонар той,
на зямлі яму пашана –
хто загіне, той – герой!
На бой! Так! На бой! На поле сечы,
панямонскі возьмем край,
о, дарма, ліцвін галечны,
ад расплаты не ўцякай…
Гэй! На бой! Гэй! На бой!
О дарма, ліцвін галечны,
Ад расплаты не ўцякай!
Гэй! На бой! Гэй! На бой!

**Рансдорф**
Гэй! На бой!

**Карціна 6**

**Сцэна 1**

*Пулен. Углыбіні сцэны цвердзевы мур з вежай, пад якою патайны ход. Злева — вежа — месца ўвязнення Эгле, справа — храм зніча. Каля ўваходу ў яго сігнальныя літаўры. Перад храмам ахвярны стос для Эгле. На замкавым муры ходзіць ахоўнік. Месячная ноч.*

**Эгле** *(у вежы)*
Мамка мая, мамка
кажа-наракае,
што я ўкрай-бяскраю
мару пра каханка.
Ах, каб жа ж я знала,
сэрцу што далегла,
ах, нябога Эгле
без яго прапала.
Вось, ужо світае,
асалода воку —
міленькі здалёку
сонейкам вітае.
А ўначы не спіцца —
прылятае зноўку
мілы мой да золку
зоркай Мілавіцай.
*(Падыходзіць да вежавага акна)*
А што ў будні, свята
мне адным-адненькім,
мне адным міленькім
галава занята.
Кожнай хвіляй сутак
праглядаю вочы,
слухаю ахвоча,
а на сэрцы смутак.
*(Заўважае стос)*
Ах! вось на сёння шлюбны ложак!
Ды не мужу, сцелюць мне,
Марці моц дае — падножжа!
Дзе ж ты, міленькі мой, дзе!?

Сёння напэўна памру я,
тут мой завершыцца лёс,
тут за цябе ахвярую,
тут узыду я на стос...
Мілы мой! жаліцца годзе,
клопат забудзь, кахай вельмі,
доўга жыві, пры нагодзе
часам успомні пра Эгле...

**Сцэна 2**

*Маргер імкліва падыходзіць да стоса і, стаўшы перад ім, закрывае рукамі твар.*

**Эгле**
Будзь мужны, тата,
бо шкода слёз,
і не пара заломваць рукі!
Адыдуць жалі праз і скрозь,
адыдуць доччыныя мукі,
ты споўніў, што павінен быў,
а я — што сэрца падказла,
не трацьма сілы на парыў,
бо блізка смерць, а часу мала.
Мяне адно гняце:
што прычына я твайго засмучэння!
Жыцця не прагне так дачка,
як атрымаць тваё, мой татка, прабачэнне.

**Маргер**
Так! Сэрца бацькі прабачае,
бо сіл няма хаваць любоў;
злы лёс, табе смерць вызначае,
а з сэрца бацькі точыць кроў.
Так мусіць быць! Ды не самотна
пад камень ляжаш, не адна,
але адыдзеш незваротна,
са мною ты, у край цямна!

**Эгле** *(раптоўна)*
О не! О не!

**Маргер**
Хто мае права
мне загадаць, не загадаць?
Ідзі!.. Світае ўжо крывава.
*(Эгле знікае)*
Жыццё дзень гэты можа даць —
але праз бой!
Але праз бой!
*(Б'е ў літаўры.)*

**Сцэна 3**

*На заклік Маргера адусюль сыходзяцца ваяры і Лютас. У дзвярах храма з'яўляецца Марці, за ёю жрыцы.*

**Маргер**
Ланцуг насіць — не наша доля,
не сцерпяць гвалту ліцвіны,
ярмо накласці не дазволяць,
хутчэй гарэцьмуць тут яны.
Без страху патрапляем смерці
у твар глядзець, і так спакон
сабою поле бітвы мецім,
будзь перамога там ці скон!
Калі ж ліхі, зламысны лёс
загрозіць бацькаўшчыне мілай,
хай лепш ахвярнай жрыцы стос
нам, вольным, зробіцца магілай!

**Лютас**
На мур! У рукі лук, тапор,
хай кожны стрэне іх, паклятых,
дастане праз любыя латы
крыжацкіх сэрц Літвы адпор!

**Хор**
На мур! На мур!
За лук, тапор!
У рукі лук, тапор,
хай кожны стрэне іх, праклятых,
дастане так,
дастане і праз латы,
*(Аддаляюцца: Маргер, Лютас і ваяры на муры, Марці і жрыцы ў храм)*
крыжацкіх сэрц Літвы адпор,
каб кожны стрэл,
каб кожны стрэл іх сустрэў,
іх сустрэў Літвы адпор!

**Сцэна 4**

*Сцэна нейкі час пустая. Чуваць шум далёкай бітвы. З патайнага ходу даносіцца бразгат зброі. Паяўляецца Лютас каля ўваходу ў падземны ход, на яго націскаюць ворагі, абараняецца невялікая жменька ліцвіноў.*

**Лютас**
Тут здрада! гора нам!
Бывайце, ўсе сюды!
Тут вораг, гора нам!

**Ліцвін** *(адбіваючыся)*
Змагацца сіл няма,
праз тайны напор!
Сатром на пыл, сатром!
Мацней трымаць мячы, —
рубай, калі, сячы!
Замала нас!..
Нямнога —
ды мужным перамога!

**Рансдорф**
*(прабіваецца са сваім атрадам у цвердзь, б'е Лютаса, той падае)*

Памры, ліцвін!
*(Убачыўшы, што нанёс удар Лютасу, уражана)*
Твой суд, мой Пане!
Мры, сучы сын!
Назад, назад!
О, пазнаю цябе,
ў тым стане...
*(Да параненага Лютаса)*

Ён быў мне тут амаль як брат,
вярнуў жыццё мне і свабоду,
паверыўшы ў маю прысягу,
і вось яму узнагарода:
удар смяротны.

**Лютас** *(з цяжкасцю прыўзнімаецца)*
Я жывы!
Але ты можаш, зняўшы маску,
дабіць мяне па-хрысціянску.
Свой меч у грудзі ўбі, я ж вораг,
вужака грэлася дзе ў сненні,
і дай мне смерць, забі свой гонар,
як ты забіў яго ў сумленні!
Не вінен звер, калі не сыты,
здабычы новай толькі рады,
ды горшы звер людское здрады,
калі у сэрца не дабіты...
*(Непрытомна апускае галаву на камень. Рандорф нерухомы).*

Калі ля вечнасці парога,
гляджу на ўсё жыццё свядома,
таму, хто дзеяў вераломна,
багі адпомсцяць вельмі строга.
Што знойдзеш тут? Свой гонар? Славу?
Ці, можа, Эгле у няволі?
Памылка! твой чын крывавы
табе згрызотай дух расколе.
*(Збірае сілы)*
Праклятым будзь... і я загіну,
бо быў з адступцам у хаўрусе,
пакрыў жалобаю краіну...
навек у пекле праклянуся,

калі пайду на суд як здрайца,
за мною ганьба пойдзе ў смерць!
І следам ты! Бог не даруе,
ні твой, ні мой , хто б як ні плакаў,
здраднікам і ваўкалакам
і мілатой іх не ратуе!
І зло, і свет, мінецца й сонца,
а ты у пекле гары бясконца!

**Рансдорф**
Так! Так бясконца! Я знаю, чую...
ды зараз Эгле маладую,
калі знайду я, уратую,
без перашкоды.
За мной! За мной! На мур! На мур!
*(Урываецца ў вязніцу Эгле са сваім атрадам).*

**Сцэна 5**

*Маргер, Марці і жрыцы з паходнямі, ліцвінскія правадыры, ваяры і люд. Маргер у горасным задуменні спыняецца каля Лютаса.*

**Маргер**
Загінуў ён геройскай смерцю.
Да пабачэння!
Тое й нам!
Магільны дол напэўна мецьмы,
ахвяраў дух чакае там.
*(Цела Лютаса выносяць)*
Як што дом твой больш не вольны.
лепш наслаць яму агонь;
ты абараніць няздольны,
выпусціўшы меч з далонь.
*(Цалуе і адкідае меч)*
Не абуць ліцвіна ў путы,
а прасцей забіць яго,
бо калі твой край закуты,
гэта гнеў тваіх багоў.
Нашы модлы, нашы мукі
не адвернуць лёс благі,
хай нас прыме смерць на рукі
як матуля ў час ліхі.
*(Бярэ паходню ў жрыцы і кідае, каб запаліць агонь).*

**Усе**
Божа нябесны, божа падземны!
шлях пакажы нам ў край патаемны,
вызвальце з прахлых пут.
Хай тут успыхне стос на ўзмацненне,
будучай Літве на адраджэнне
з горкіх пакут!
Божа падземны, божа вячысты,
ты пакажы нам нам шлях прамяністы,
вырві з цялесных пут, з пут
вызвалі з пут,
вызвалі з цела і з пут.

*(У цвердзі разгараецца пажар)*

**Сцэна 6**

*Рансдорф трымае на руках Эгле, яго рыцары. Эгле вырываецца з рук Рансдорфа і кідаецца ў абдымкі бацькі.*

**Эгле**
Ратуй мяне! На ім жа кроў,
і здрадаю палаюць вочкі,
на вуснах кленічы замоў!
А попел прэч, знішчэнне ўпрочкі.

*(Бачыць пажар)*

**Маргер**
Адвага ганьбы не адсуне.

**Эгле**
Дзе кроў плыве, любоў там стыне,
*(Як звар’яцелая, з жахам глядзіць на Рансдорфа)*
не ведаю таго шаленца!
Кахала я, ён быў не той,
гляджу з агідаю на немца,
ды сіл не маю даць нагой!

**Маргер**
Грэх акупіць ты можаш,
калі на бацькаў ступіш след...
на стос!
*(Паказвае на палаючы стос)*

**Эгле**
Дачка падзеліць бацькаў лёс!

**Эгле**
Загінем мы!

**Рансдорф**
Мая ты зараз,
бо трафеем з лёха ўзяў!

**Маргер**
*(да ваяроў)*
Рушайма!
Загінеш сам!

*(Цаляе ў яго стралой з лука. Рансдорф падае. Крыжакі авалодваюць мурам. Маргер з паўнепрытомнай Эгле ўзыходзяць на стос.)*

За мной! На стос!
Прыняць за Літву трэба годна смерць,
памерла шчасце ў ёй, а гонар — цвердзь!

**Хор**
Божа падземны, божа вячысты,
ты пакажы нам нам шлях прамяністы,
вырві з цялесных пут!...

*Ліцвіны ўскокваюць на стос на прыклад правадыра, Марці падымае сякеру над галавой Маргера. Усё знікае ў клубах дыму. Крыжакі, якія ўварваліся ў цвердзь, стаяць, уражаныя нечаканым відовішчам.*

***Ірына Шпак***

# Курс «Краязнаўства Лідчыны» і яго вывучэнне ў адукацыйных установах

**УВОДЗІНЫ**

*Стольная Ліда! Хіба толькі сніцца*
*Тая вяршыня гістор'і тваёй,*
*Колісь была ты Дайнавы сталіцай,*
*Радзіла слаўнай, свабоднай зямлёй...*
*С. Суднік.*

Лідчына – старадаўні край, які славіцца прыгожымі мясцінамі і мае багатую гісторыка-культурную спадчыну. Здаўна прываблівае ён навукоўцаў і аматараў даўніны, раскрываючы ім свае таямніцы. Існуе адносна вялікая колькасць даследаванняў па гісторыі і культуры гэтай зямлі, назапашаны шыкоўны краязнаўчы матэрыял, які неабходна ў поўнай меры выкарыстаць у асвеце.

Курс падзелены на раздзелы. У першым раздзеле аналізуюцца творчасць прафесійных даследчыкаў, навукоўцаў, фальклярыстаў, распавядаецца пра гісторыю вывучэння Лідчыны; у другім падаецца змест праграмы, тэарэтычны матэрыял, які мэтазгодна выкладаць у курсе «Краязнаўства Лідчыны»; у трэцім – прадстаўлены метадычныя парады і рэкамендацыі да зместу дадзенага курса, а таксама разнастайныя арганізацыйныя формы і сродкі навучання. Вялікая ўвага надаецца экскурсіі, як адной з найбольш эфектыўных формаў вывучэння роднага краю, а таксама фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі.

Праграма курса «Краязнаўства Лідчыны» мае ўніверсальны характар: яе можна ажыццяўляць пры вывучэнні асобных прадметаў (гісторыя, літаратура і г.д.), у спецыяльным курсе, а таксама на факультатыўных занятках і ў гуртках. Курс пададзена ў трох раздзелах, якія падзелены на тэмы. Ён дае вучням align разнабаковыя веды па краязнаўству і культуры Лідскай зямлі. Асноўнымі формамі працы школьнікаў з'яўляюцца тэарэтычныя заняткі, практычныя заданні, самастойная праца, экскурсіі, паходы, экспедыцыі.

Уключэнне краязнаўства ў вучэбную праграму з'яўляецца сродкам вырашэння праблемы страчвання сваёй спадчыны. Веды па краязнаўству выхоўваюць патрыятызм, далучаюць вучняў да агульначалавечых каштоўнасцяў, абараняюць ад эгаізму, абыякавасці, шкоднага ўплыву сучаснай масавай культуры, выхоўваюць пачуццё гонару і адказнасці за здабыткі матэрыяльнай і духоўнай культуры продкаў.

Чалавек не можа быць паўнавартасным, не валодаючы звесткамі пра свой край. Народ можа заставацца народам толькі да таго часу, пакуль будзе захоўваць уласную самабытнасць. Уключэнне ў сусветную, агульнапланетарную культуру неабходна пачынаць са спасціжэння ўласных этнанацыянальных культурных набыткаў.

**Раздзел I**

**ГІСТОРЫЯ ВЫВУЧЭННЯ ЛІДСКАГА КРАЮ**

Сапраўдную цікавасць да гэтага краю абуджаюць даследчыкі XIX ст. Тэрытарыяльная блізасць Лідчыны да Польшчы, традыцыйны інтарэс польскай інтэлігенцыі да Панямонскага рэгіёну абумовілі з'яўленне ў канцы XIX - пач. XX ст. шматлікіх публікацый па гісторыі, этнаграфіі і фальклору Ліды і яе ваколіц у такіх польскамоўных часопісах, як «Вісла», «Земя», «Земя наша», «Земя Лідзка». Усе этнаграфічныя публікацыі выходзілі то ў Вільні, то ў Варшаве.

У саракавых гадах XIX ст. у Расійскай імперыі ўзнікла патрэба глянуць у этнаграфічне люстэрка: што мы за народ? У 1845 г. было заснавана Імператарскае Рускае геаграфічнае таварыства, з дзейнасцю якога пачаўся сапраўдны этнаграфічны бум. Першы «Этнаграфічны зборнік» РГТ пабачыў свет у 1853 годзе. У ім значыцца артыкул **Івана Юркевіча** «Астрынскі прыход». Тут даследчык апісаў мову, норавы, быт, фальклор жыхароў Лідскага павету [61, с. 10].

З 1914 года членам этнаграфічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства быў **Рыгор Раманавіч Шырма** (1892 - 1978), ураджэнец в. Шакуны Пружанскга раёна, вядомы фалькларыст, харавы дырыжор, педагог, публіцыст, музычны і грамадскі дзеяч. Вёў культурна-асветніцкую і літаратурна-публіцыстычную дзейнасць у Заходняй Беларусі. У 1914 годзе працаваў настаўнікам у Агародніцкай школе царкоўнага пісьменства Лідскага павету. З 1933 года Р.Р. Шырма – арганізатар, выдавец і аўтар часопіса «Летапіс Таварыства беларускай школы» (з 1936 - «Беларускі летапіс») [6, с.7].

Гісторык, археолаг **Тодар Нарбут** (былы маёнтак Шаўры Лідскага павету, зараз Воранаўскі раён; 1784-1864) займаўся пытаннямі старажытнай міфалогіі, этнаграфіі. Апублікаваў шэраг артыкулаў пра Ліду, Наваградак і інш. У 1820 адкрыў ямнае пахаванне непадалёку ад в. Шаўры Лідскага павету. Даследаваў Лідскі замак. Збіраў і вывучаў помнікі археаграфіі. Аўтар «Гісторыі Літоўскага народа» (т. 1-5, 1835-1841; давёў падзеі да 1569), у 1-ым томе змясціў табліцу сваіх знаходак [32, с. 5].

Збіральніцай, даследчыцай і папулярызатарам фальклору Лідчыны ў другой палове XIX ст. была **Амелія Даравінскя** (1863-1891). Нарадзілася ў в. Ройсталі непадалёку ад Вільні. У шэрагу сваіх прац яна выступала пад псеўданімам **Бірута**. Настаўнічала, запісвала

беларускі фальклор, вяла этнаграфічнае даследаванне Лідскага павету. Друкавалася ў часопісе «Вісла», дзе ў 1889 г. змясціла апісанне дажынак з песнямі з в. Шаўры Лідскага павету, манаграфію «Народ Лідскага павету» (на жаль, цэнзура забараніла яе, рукапіс не захаваўся), паданне «Сосны ў Лідзе» [8, с. 3]. Рукапісы Біруты зберагаюцца ў архівах Варшавы і Вільні. Яе запісы ўвайшлі ў тамы серыі БНТ «Жартоўныя песні» [16, с. 25], «Вяселле. Песні» [10, с. 4] «Сацыяльна-бытавыя песні» [41, с.45].

Вялікім аматарам гісторыі роднага краю, гісторыкам, археолагам і этнографам быў **Вандалін Шукевіч** (1852-1919). Нарадзіўся ён у пасёлку Нача Лідскага павету, дзе і пражыў амаль усё жыццё. Усе доследы ён праводзіў пераважна ў Лідскім павеце. Вядомы тры яго асноўныя этнаграфічныя працы: «Народныя вераванні і абрады (забабоны, прымхі, прадказанні і інш.), сабраныя ў Віленскай губерні», «Некаторыя вераванні, прымхі і забабоны нашага народа, легенды і паданні» (змяшчае 15 легенд, паданняў, у якіх расказваецца пра кралеву Бону, пра ваенныя дзеянні з татарамі, шведамі, французамі і інш., 159 вераванняў і прымхаў), «Старажытныя лекавыя сродкі» (у аснову яго ляглі матэрыялы, тарыманыя даслечыкам ад свайго дзеда **Мацея Карачэўскага**.). Некалькі легенд і частка вераванняў, якія надрукаваў Шукевіч, былі запісаны яго дачкой **Вандай Нарбут**, заўчасная смерць якой пазбавіла нас многіх цікавых знаходак [50, с. 31].

У 1901 годзе аўтар артыкулаў па этнаграфіі **Ежы (Юры) Іваноўскі** надрукаваў матэрыял «Батлейкі ў Лідскім павеце Віленскай губерні», дзе даў апісанне так званых «Жывых батлеек», у якіх гралі людзі (трупа налічвала 10-15 чалавек). Ён адзначыў, што батлейка здаўна вядома ў Лідскім павеце і сумежных землях. На Каляды, Новы год моладзь абыходзіла вёскі і двары з лялечнымі тэатрамі. Змест дзеяў быў рэлігійны з устаўкамі сцэн народнага жыцця. Прадстаўленне заўсёды суправаджалася песнямі. Хор з трох-пяці галасоў складалі мясцовыя жыхары. У час прадстаўлення было шмат гумару. Батлеечнікі ўносілі ажыўленне ў аднастайнае вясковае жыццё. Але ў пачатку XX ст. яны пачалі знікаць [56, с. 34].

Этнаграфічным вывучэннем Лідчыны займаўся таксама філосаф і этнограф **Уладзіслаў Вярыга** (1868 - 1916). Ён збіраў беларускі фальклор. У 1889 г. у часопісе «Збор звестак па айчыннай антрапалогіі» апублікаваў працу «Беларускія думкі з вёскі Глыбокае Лідскага павету Віленскай губерні, запісаныя ў 1885 годзе», у якой змясціў 45 беларускіх народных песень. Яшчэ вядома, што друкаваўся ў часопісе «Вісла». Выдаў кнігу «Беларускія паданні» ў Львове ў1889 г., дзе змясціў 32 беларускія казкі з Лідскага павету [56, с. 32].

Унікальная з'ява ў Лідскім краязнаўстве - **Шымялевіч Міхал Іванавіч** (Szymielevicz Michal) - лепшы знаўца гісторыі Лідчыны 20-га стагоддзя. Найзначнейшая праца М. Шымялевіча "Горад Ліда і Лідскі замак" была апублікаваная ў 1905 г. у друкарні "Рускі Пачын" у Вільні, і праз год перавыдадзеная ў часопісе "Віленскі каляндар". У 1936-39 гг. Міхал Шымялевіч быў чальцом рэдакцыйна - выдавецкага камітэта часопіса "Ziemia Lidzka". Апублікаваў у часопісе 30 краязнаўчых артыкулаў, у кожным нумары друкаваўся яго матэрыял. Артыкулы розныя па тэматыцы: гістарычныя, геаграфічныя, этнаграфічныя. Грунтуюцца на велізарным фактычным матэрыяле. У 1933-1937 гг. Міхал Шымялевіч зрабіў цікавыя запісы вясельных песень Лідчыны У артыкуле «Вяселле» аўтар дэтальна разглядзеў падрыхтоўку да вяселля ў хаце маладога [35, с. 492].

У рэгіянальна-краязнаўчым месячніку «Ziemia Lidzka» за гады існавання (1936-1939) было апублікавана шмат каштоўных краязнаўчых матэрыялаў. Адзін з такіх артыкул **Адама Хоміча** «Наваградская вёска і яе багацце». Трэба прыгадаць, што ў 1921-1939 гг. Ліда з'ўлялася цэнтрам павету Наваградскага ваяводства, у якое яшчэ ўваходзілі Баранавічы і Слонім. Адам Хоміч даў апісанне тыповай вёскі на Наваградчыне, якое сведчыць пра трывалае захаванне яшчэ ў канцы 30-х гг. традыцыйнай беларускай культуры. Яго артыкул быў прысвечаны матэрыяльнай культуры беларусаў. Але значна болей «Ziemia Lidzka» друкавала звесткі па духоўнай культуры.

У 1939 годзе ў часопісе «Ziemia Lidzka» № 26 былі надрукаваны «Народныя прыказкі, запісаныя ў вёсцы Пудзіна, у гміне Дакудава, Лідскага павету» за імем **Уладзіміра Урбановіча**. Падборка ўключае 83 прыказкі, якія надрукаваны на беларускай мове польскай лацінкай. Большасць з гэтых прыказак мае агульна-беларускую вядомасць, і кожная сама па сабе не з'яўляецца нечым унікальным. Але запіс 83 прыказак у адной невялікай вёсцы сведчыць пра багацце беларускага фальклору ў сярэдзіне XX-га стагоддзя. А тое, што большасць прыказак мае агульнабеларускую вядомасць, падкрэслівае агульнасць культурнага пласту Лідчыны з усебеларускім культурным пластом [50, с. 35].

У часопісе **«Ziemia Lidzka»** было апублікавана шмат артыкулаў па геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі Лідчыны, людзей, праславіўшых гэтую зямлю – пра лідскага старасту і будаўніка Мірскага замка Юрыя Ільініча, археолага з вёскі Нача Вандаліна Шукевіча, батаніках і заолагах, прафесарах Віленскай акадэміі Станіслава Баніфацыя Юндзіла, доктара Напалеона Чарноцкага, лідскіх піяраў і інш. Шмат звестак было пра рэвалюцыйныя рухі XVIII – XIX стст., пра этнаграфічныя асаблівасці, лад жыцця і побыт. Былі апублікаваны мемуары Мірона Браніслава Нарбута пра жыццё лідзян у сярэдзіне XIX стагоддзя. «Ziemia Lidzka» лічылася самым лепшым краязнаўчым часопісам Заходняй Беларусі і адным з найлепшых у Польшчы. Выпуск газеты «Ziemia Lidzka» адбываецца і ў нашы дні. У 1990 годзе яе аднавілі **А. Колышка, А. Сямёнаў, С. Ушакевіч, Ю. Адамскі**. Выдаецца на польскай мове, да сярэдзіны 1994 года друкавалася ў Любліне. З газетай актыўна супрацоўнічаюць ураджэнцы Лідчыны, якія зараз жывуць у Польшчы [43, с.12].

У пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя ў Варшаве выйшла кніга **Земавіта Фядэцкага** "Цёплыя вечары ды халодныя ранкі czyli co spiewano w Feliksowie". (Феліксава - вёска ў Лідскім раёне). Кніга выдадзена з нотамі на беларускай мове на кірыліцы і польскай

лацінцы. У яе ўвайшлі 72 песні, сабраныя Фядэцкім у час Вялікай Айчыннай вайны [15, с. 8]. Вядомы ў Польшчы пісьменнік, перакладчык і крытык Земавіт Фядэцкі нарадзіўся 24 верасня 1923 года. Дзіцячыя і юнацкія гады Земавіта прайшлі на Лідчыне. Жыў у маёнтку бацькоў Лебяда. У гады акупацыі знайшоў прытулак у сям'і Уладзіміра Мальца ў Феліксаве. Тут ён і запісаў песні, якія ўвайшлі ў кнігу. Пасля вайны працаваў у пасольстве Польшчы ў Маскве, дзе пазнаёміўся з вядомымі літаратарамі. Дзесяткі гадоў аддаў літаратурнай творчасці. Першы у свеце апублікаваў фрагменты рамана "Доктар Жывага" Б. Пастарнака (у перакладзе на польскую мову). З беларускай мовы пераклаў нямала вершаў Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Максіма Багдановіча. А землякі - лідзяне ўдзячныя знакамітаму творцу за згаданую кнігу песень, якая ў Італіі была названа "Песнямі Атлантыды", за яго ўклад у зберажэнне і захаванне нашай спадчыны, за дабрыню і чалавечнасць.

У верасні 1997 года пад кіраўніцтвам **С. Судніка, В. Сліўкіна** і **А. Казака** пачаў выдавацца ілюстраваны краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс «Лідскі летапісец». Гэта выданне, на мой погляд, сапраўдная скарбніца ведаў пра мінулае і сучаснаць Лідскага краю. Нумары часопіса ўтрымліваюць каштоўныя звесткі пра хроніку Ліды, лёс яе жыхароў і людзей, чыё жыццё было звязана з Лідчынай, гістарычны каляндар, лідскіх юбіляраў, гісторыка-культурныя помнікі, усебаковыя падзеі мінулых часоў і падзей сучаснасці . Яго рэдактарам з'яўляецца **Суднік Станіслаў Вацлававіч** (1954 г.н.) – беларускі пісьменнік, журналіст, актыўны грамадскі дзеяч. У 1997 г. ён аднавіў у Лідзе выпуск рэспубліканскай газеты «Наша слова», якая раней выходзіла ў Менску. С.В. Суднік з'яўляўся таксама рэдактарам газет «Голас з Ліды» і «Тэлескоп», заснавальнік часопіса «Ад лідскіх муроў» і рэдактар асобных нумароў. Выдаў «Шыхтовы статут беларускага войска», зборнік вершаў «Пагоня за мову», «Расейска-беларускі вайсковы слоўнік», кнігі вершаў "Пагоня за мову", "Мой Грунвальд", "Лідскія скрыжалі". Выдаўпершы ў свеце падручнік па стэнаграфіі на беларускай мове. Публікаваўся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Лідскі летапісец», «Роднае слова», газетах «Рокаш», «Літаратура і мас-тацтва», «Лідская газета», «Пагоня, «Наша слова», «Тэлескоп», «Новы час». Акрамя гэтага, Станіслаў Суднік – старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ГА «ТБМ імя Ф. Скарыны», старшыня Лідскага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь» і інш.

Старэйшы навуковы супрацоўнік Лідскага гісторыка-мастацкага музея **Валеры Васільевіч Сліўкін** найбольш дасведчаны і аўтарытэтны спецыяліст у вобласці даследавання Лідчыны. Яго пяру належаць дзесяткі артыкулаў, многія з якіх маюць высокі навуковы ўзровень. Сярод іх такія як «Заснаванне Ліды», «Найстаражытнейшыя пасяленні Лідчыны», «Грамадзянская вайна на Лідчыне ў 1944-1954 гг.», «Хрысціянства на Лідчыне», «Лідскія гарадскія харонімы», «Лідскія гарадскія гадонімы і агаронімы», «Знішчэнне лідскіх яўрэяў» і інш. В. Сліўкін напісаў практычна ўсю гістарычную частку кнігі «Памяць. Ліда і Лідскі раён». Узначальвае арганізацыю Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута.

**Аляксандр Колышка** нарадзіўся ў Лідзе ў 1960 г. Пасля заканчэння сярэдняй школы № 8 вучыўся ў інстытуте замежных моў, а пасля працаваў некалькі год настаўнікам англійскай мовы ў школах Карэліцкага і Лідскага раёнаў. Падчас вучобы пачаў займацца горным і лыжным турызмам і праз турызм прыйшоў да краязнаўства. З'яўляецца інструктарам горнага, лыжнага і пешага турызму. Быў арганізатарам і першым дырэктарам Лідскага цэнтра дзіцячага і юнацкага турызму і экскурсій. З 1994 г. працуе кіраўніком турыстычных і краязнаўчых гурткоў Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі. З'яўляецца адным з заснавальнікаў першай польскай арганізацыі ў Беларусі, а з 1991 г. старшынём Таварыства польскай культуры на Лідчыне, ініцыятар і адзін з заснавальнікаў у 1990 г. гістарычна-краязнаўчай газеты «Ziemia Lidzka», з 1996 г. яе галоўны радактар. Ініцыятар ушанавання памяці ксяндзоў, якія былі растраляныя за ўдзел у паўстанні 1863 г. на Лідчыне. Ініцыятар і выдавец серыі "Знакамітыя палякі Лідчыны", у якой ў 1999 г. у саатарстве з Паўлам Камароўскім, выдаў томік пра Людвіка Нарбута.

Прафесар, доктар навук **Ірэна Стасевіч-Ясюкова** нарадзілася ў Лідзе, гісторык навукі і культуры. Пасля заканчэння факультэта польскай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта праз усё жыццё звязана з Польскай акадэміяй навук і alma mater. З 1990 г. да цяперашняга часу – старшыня Камітэту гісторыў навукі і тэхнікаі ПАН, у 1975-1987 гг. была галоўным рэдактарам "Квартальніка гісторыі навукі і тэхнікі". Аўтар 10 індывідуальных і рэдактар шматлікіх публікацый і кніг, м. ін. *"Wkiad pijaryw do nauki i kultury w Polsce XVII - XIX wieku"*, 1993, *"Wkiad jezuityw do nauki i kultury w Rzeczypospolitej Obojga Narodyw i pod zaboram"*, 2004, *"PoglNdy na paukк w Polsce okresu Oњwiecenia na tle ogylnoeuropejskim"*, 1967, *"Cziowiek i obywatel w piњmiennictwie naukowym i podrкcznikach polskiego Oњwiecenia"*, 1979, *"Onufry Kopczycski - wspyipracownik Komisji Edukacji Narodowej. Studium o spoiecznej roli uczonego w Polsce stanisiawowskiej"*, 1987, *"Encyklopedia uniwersalna Ksikcia Biskupa Warmicskiego"*, 1994, *"Wiktor Dega znany i nieznany"*, 2000, *"Problems ofthe Teaching the History of Science"*, 1981, *"Dzieje nauczania historii nauki i techniki w Polsce"*, 1983, *"The Founders of Polish Schools and Sciencific Models write about their Works"*, 1989, *"La contribuciyn de los Padres Escolapiios a la ciencia y la cultura polacas en los siglos XVII-XIX"*, Salamanca 1996

З 1999 рэдактар серыі "Знакамітыя палякі Лідчыны", у якой выдадзены: Павел Камароўскі, Аляксандр Колышка "Людвік Нарбут", 1999, Ядвіга Гарбоўска, Кшыштаф Якубоўскі "Ігнацій Дамейка", 2000, Ванда Грэмбецка "Станіслаў Баніфацый Юндзіл", 2003, Ірэна Стасевіч-Ясюкова "Казімір Нарбут", 2004, Ганна Мар'я

Келяк “Пра крэсавы гербарый Элізы Ажэшкі”, 2006, Яраслаў Куркоўскі “Мацей Догель”, 2006, Ірэна Стасевіч-Ясюкова “Станіслаў Роек”, 2007. У 2008 г. у бібліятэцы „Ziemi Lidzkiej” пад нумарам 1 выйшлі ў свет успаміны Ірэны Стасевіч-Ясюковай пра маму. Аўтар шматлікіх артыкулаў у „Ziemi Lidzkiej”.

**Ганна Энгелькінг**, этнограф, мовазнаўца, выкладчык Кафедры Этналогіі і Антрапалогіі Культуры Варшаўскага універсітэта разам са сваімі студэнамі вяла навуковыя даследаванні ў 1993-1994 гг. на тэрыторыі Гарадзеншчыны (Лідскі і Воранаўскі раёны). Яны даследавалі самасвядомасць мясцовых грамадзянскіх супольнасцяў сумежных культур, абрадавасць і фальклор [57, с. 32].

Былы дырэктар Лідскага музычнага вучылішча **Марыян Баяровіч** выдаў дзве кнігі па фальклору: шырокафарматны нотны зборнік «Беларускія народныя песні і танцы» і «170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны». Пра яго дзейнасць добра піша **Алесь Жалкоўскі** [14, с. 5]. А.В. Жалкоўскі з’яўляецца аўтарам артыкулаў пра Земавіта Фядэцкага, а таксама іншых краязнаўчых артыкулаў, якія друкаваліся ў розных выданнях.

Ураджэнкай Лідчыны **Хрысцінай Лялько** (беларускай пісьменніцай), былі апрацаваны мясцовыя, беларускія народныя казкі. З 1996 г. яна галоўны рэдактар часопіса «Наша вера».

Living Рознабаковую краязнаўчую і даследчую дзейнасцю вёў **Антось Савук** (сапр. Антон Уладзіміравіч Саук, 1968-2003), карэспандэнт часопіса «Лідскі летапісец», сябар Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў, сябар Лідскага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута. Склаў дастаткова шырокі Лідскі біяграфічны даведнік, апублікаваў шэраг краязнаўчых даследаванняў, асноўная праца з якіх «Гісторыя Лідскага вайсковага аэрадрома» [38, с.17].

Сярод лідскіх краязнаўцаў трэба таксама адзначыць **Станіслава Ушакевіча, Міхася Бурачэўскага, Аляксандра Колышку, Уладзіміра Круцікава, Анатоля Куляша, Лявона Лаўрэша, Уладзіміра Хрышчановіча, Міхася Мельніка, Анастасію Каладзяжную, Наталлю Хацяновіч, Тамару Зенюкевіч, Аляксандра Кашуціна, Міколу Дзікевіча** (Сялец), **Віктара Кудлу** (Дворышча), **Анатоля Крупу** (Бердаўка), **Міколу Герасімовіча** (Бярозаўка), **Івана Гівойну** (Крупава)**, Казіміра Нехвядовіча** (Польшча) і інш. Імкнене, як мага лепш пазнаць гісторыю свайго краю аб’ядноўвае вялікую колькасць людзей, прафесіяналаў і аматараў.

Сёння ў горадзе дзейнічаюць краязнаўчыя арганізацыі: краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута, краязнаўчае таварыства «Павет», Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Таварыства польскай культуры. Гэтыя арганізацыі займаюцца даследаваннем Лідчыны, сістэматызуюць здабытыя веды, друкуюць іх. Лідчына мае свае інтэрнэт-сайты, асаблівую цікавасць сярод якіх уяўляе сайт «Pawet», на якім змешчана гістарычная інфармацыя пра тутэйшыя мясціны.

**Раздзел II**

## ЗЯМЛЯ НАШЫХ ПРОДКАЎ

### ПАШПАРТ ЛІДЧЫНЫ

Ліда – горад у Гарадзенскай вобласці, на р. Лідзейка (бассейн ракі Нёман). Цэнтр Лідскага раёна. Вузел чыгунак на Гародню, Вільню, Маладзечна, Баранавічы. Плошча больш за 23,5 кв.км. Насельніцтва 98,2 тыс.чалавек (2007). Сярод буйных прадпрыемстваў горада РУП «Лідскі завод электравырабаў», ААТ «Лідахарчканцэнтраты», ААТ «Лідскае піва», РУП «Лідааграпрамммаш і іншыя. Маюцца 15 агунаадукацыйных сярэдных школ, вячэрняя школа, ліцэй, гімназія, Лідскі каледж, тры ПТВ, дашкольныя ўстановы. Працуюць тры паліклінікі, цэнтральная раённая бальніца, міжабласная псіханеўралагічная бальніца [35, с.10].

Тэрыторыя раёна знаходзіцца ў межах Лідскай раўніны і Нёманскай нізіны. Паверхня раўнінная, пераважаюць вышыні 130 -180 м, найвышэйшы пункт 207 м (за 8 км на поўнач ад г. Ліды). Карысныя выкапні: торф, пясок, жвір, гліна, мел. На тэраторыі раёна прцякае рака Нёман з прытокамі Гаўя (з Жыжмай), Дзітва (з Лідзейкай), Лебяда, Нарва. Глебы сельгасугоддзяў дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя, дзярновыя і дзярнова-карбанатныя забалочаныя. Пераважаюць лясы хваёвыя, яловыя, бярозавыя. Заказнікі: рэспубліканскага значэння біялагічны - Дакудаўскі, мясцовага – гідралагічныя Хвалькоўшчына, Тарноўскі, Бярэзіна. Помнікі прыроды: рэспубліканскага значэння парк «Бальцінікі» і ўрочышча Гаік каля в. Крупава, насаджэнне (дуб, асіна, елка) ва ўрочышчы «Аступ» каля в. Мінойты; мясцовага – парк «Гарні» ў в. Гарні. На тэрыторыі раёна знаходзіцца 38 помнікаў гісторыі і культуры, якім нададзена катэгорыя, і шэраг помнікаў, якім катэгорыя не нададзена.

Вывучэннем Лідчыны займаюцца мясцовыя краязнаўцы, такія як В.Сліўкін, С.Суднік, М.Бурачэўскі, А.Жалкоўскі, Л.Лаўрэш, А.Колышка, У.Круцікаў і іншыя. У горадзе дзейнічаюць краязнаўчыя арганізацыі: Лідскае краязнаўчае таварыства імя Т. Нарбута і Лідскае краязнаўчае таварыства «Павет», якія займаюцца зборам краязнаўчага матэрыялу, які апрацоўваюць, сістэматызуюць, а потым і друкуюць у мясцовых газетах і часопісах ( «Наша слова», «Лідскі летапісец», “Лідская газета”, «Прынёманскі весці”).

Акрамя краязнаўчых таварыстваў, мясцовага краязнаўчага музея, друку лідзяне ганарацца сваімі рыцарскімі клубамі «Дайнава» (прымаў удзел у здымках знакамітага расійскага фільма «Начны дазор») і «Дыес Магнус».

На гэтай зямлі па-сяброўску суседнічаюць беларусы, палякі, татары, яўрэі, рускія, вернікі розных канфесій. Хрысціянская рэлігія рускага веравызнання была ўведзена ў гэтым краі з вельмі даўніх часоў; капліца ў замку існавала ад пачатку яго будаўніцтва. Лацінскае веравызнанне ўвялі францысканцы з мэтаю навяртання ліцьвінаў, што былі яшчэ ў паганстве. Калісьці русіны зусім не ўмешваліся ў пытанні мясцовага веравання,

таму паміж імі былі ўзаемныя мір і цярпімасць.

Францысканцы каля 1376 года прынеслі з сабою абраз Маці Божай з горада Візны, гэты абраз найстаражытнейшы каталіцкі абраз на Беларусі, і да гэтага часу славіцца цудамі ў прыходскім касцёле. Існуе мясцовая легенда, што менавіта гэтым абразам Ягайла хрысціў Літву, што хрышчэнне Літвы пачалося менавіта з Ліды і таму на гербе Ліды змешчана выява ключоў Святога Пятра, сімвала адамкнёных варотаў у рай пасля хрышчэння [47, с. 13].

Лідчына ганарыцца сваімі славутымі землякамі (Бірута, Вандалін Шукевіч, Хрысціна Лялько, Поля Ракса, Браніслаў Ямант, Ежы Путрамент і г.д.), а таксама помнікамі гісторыі і культуры. Цікавасць уяўляюць такія помнікі Лідскага раёну як: Ваверскі касцёл, Царква Нараджэння Багародзіцы ў Голдаве, Крыжаўзвіжанская царква ў Беліцы, Міхайлаўскі касцёл у Белагрудзе, палац графа Маўраса ў Тарнове, палац А. Дамбавецкага ў Бердаўцы, Пакроўская царква ў Радзівонішках. У самой Лідзе знаходзяцца таксама помнікі культуры і гісторыя, якія ўяўляюць сабою значную частку агульнанацыянальнай спадчыны (Лідскі замак, Касцёл Узвіжання Святога крыжа, Свята-Міхайлаўская царква, помнікі Францішку Скарыну, Адаму Міцкевічу і інш.)

## ВУЧЭБНЫЯ ТЭМЫ

### Тэма 1. Лідчына ў старажытнасці

Засяленне Панямоння старажытным чалавекам (12-10 тыс. гг. да н.э.). Першыя людзі на Лідчыне. Узнікненне першых населеных пунктаў на тэрыторыі Лідчыны.

Характарыстыка археалагічных культур (месца рассялення, прылады працы і заняткі, вераванні). Каменны век: стаянкі свідэрцаў, яніславіцкая культура. Неаліт: нёманская археалагічная культура. Бронзавы век: фармаванне культуры шнуравой керамікі, тшцінецкая археалагічная культура. Жалезны век: фармаванне культуры штрыхаванай керамікі. Пачатак ранняга сярэднявечча: банцараўская культура, патрыярхальна-родавая абшчына.

Першыя помнікі мастацтва: статуэткі, арнамент на гліняным посудзе, малюнкі на косці, жаночыя ўпрыгожванні і г. д.

Язычніцкія вераванні: анімізм, фетышызм, татэмізм, культ агню, пакланенне вужам, вера ў магічную сілу камянёў. Язычніцкія святы, пантэон. Міфы пра курганы-валатоўкі, пра каменныя магілы.

Сацыяльна-палітычныя і культурныя абставіны на Лідскай зямлі напярэдадні стварэння Вялікіга Княства Літоўскага. Мясцовыя князі.

### Тэма 2. У складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай

Станаўленне дзяржавы: барацьба галіцка-валынскіх і літоўскіх князёў за валоданне Панёманскімі землямі. Першае пісьмовае згадванне Лідчыны. Заснаванне горада. Пабудова замка Гедзімінам у 1323-1328 гг. Уваходжанне замка ў лінію абароны супраць крыжакоў: Навагрудак-Крэва-Меднікі-Трокі. Уладары Лідскай зямлі: Гедзімін, Кейстут, Альгерд, Вайдыла, Ягайла, Вітаўт, Дзмітрый-Карыбут, залатаардынскія ханы Тахтамыш і Даўлет Хаджы-Гірэй. Востраўскае пагадненне 1392 г.

Небяспека з паўночнага захаду: нашэсце крыжакоў 1391 і 1394 г., лідзяне ў Грудвальскай бітве 1410 г.

Лёс горада пад час грамадзянскай вайны 1432-1439 гг.

Гаспадарчае і грамадскае развіццё Лідчыны ў XIV-XV стст.: пераход зямель у прыватную ўласнасць, запрыгоньванне сялян. Нацыянальная прыналежнасць лідчан. З’яўленне прозвішчаў.

Лідчына ў 1569-1795 гг. Люблінская унія, магдэбургскае права (1590 г.), герб горада. Спусташэнні на Лідчыне пад час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай (удзел лідскай харугвы, захоп Ліды, разбурэнне замка ў 1659 г. рускімі войскамі, прымусовая прысяга лідскай шляхты цару, народнае апалчэнне супраць рускай арміі Івана Хаванскага) і ў час Паўночнай вайны (захоп Ліды, рабаванне, гвалт).

Падзелы Рэчы Паспалітай. Сацыяльна-палітычная становішча на Лідчыне напярэдадні паўстання 1794 года і яго вынікі. Ваеннае становішча ў Лідскім краі. Дзейнасць арганізацыі «Канфедэрацыя Лідскага павету». Паўстанне Т. Касцюшкі. Лідскае апалчэнне, дзейнасць І. Сцыпёна дэль Кампа. Штурм Ліды. Пераход Лідчыны да Расійскай імперыі.

Развіццё дробнай рамеснай вытворчасці. Стварэнне прамысловых прадпрыемстваў, эканамічная, сацыяльная, канфесійная характарыстыка. Этнічны склад жыхароў.

### Тэма 3. Лідчына ў складзе Расійскай імперыі

Палітычнае і сацыяльна-эканамічнае змены на Лідчыне пры імператрыцы Кацярыне II (Ліда– павятовы цэнтр Слонімскай губерні Літоўскага генерал-губернатарства) і пры імператары Аляксандры I (Ліда і Лідскі павет увайшлі ў склад Гарадзенскай губерні).

Вайна 1812 года. Сялянскія бунты ў Лідскім павеце. Дзейнасць прэфектуры (І. Скіндэр), муніцыпальнага кіравання (мэр А. Крыдзел), лідскага атраду жандармерыі (М. Радзівіл). Рэкруцкі набор. Дзейнасць напалеонаўскіх войск на Лідскай зямлі. Пасляваеннае становішча.

Лідскі павет ў паўстанні 1831 года (далучэнне лідскіх дабраахвотнікаў да атрада польскага паўстанца Д. Хлапоўскага; рускі батальён Забелы) і яго вынікі (закрыццё навучальных установаў і касцёлаў, канфіскацыя земляў абшарнікаў).

Паўстанне 1863 года. Дзейнасць Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Павятовы рэвалюцыйны камітэт у Лідзе. Дзейнасць Людвіка Нарбута.

Лідчына ў другой палове XIX ст. Саслоўна-групавы склад жыхароў. Развіццё прамысловасці, эканомікі, транспарту, адукацыі. Сувязь эканамічнага росту Ліды з будауніцтвам Палескіх чыгунак.

**Тэма 4. Часы ваенных ліхалецціяў. Пад уладай Польшчы**

Рэвалюцыйны рух 1905-1907 гг. Дзейнасць палітычных партый. Стан прамысловасці, культуры і адукацыі ў Лідскім павеце.

Становішча ў часы Першай сусветнай вайны. Акупацыя Лідскага павету кайзераўскімі войскамі (1915г.). Ход ваенных падзей. Дзейнасць падполля. Барацьба палітычных партый за ўладу ў горадзе.

Брэсцкі мірны дагавор. Лідчына пад уладай Польшчы. Асадніцтва, апалячванне мясцовага насельніцтва. Стан адукацыі, рух за беларускую школу ТБШ. Рэвалюцыйны ўздым (Б. Тарашкевіч, П. Валошын, Ф. Галавач), Беларуская Работніцка-Сялянская Грамада, партызанская барацьба.

Уз'яднанне беларускага народа. Дзейнасць Часовага праўлення, рабочай гвардыі, міліцыі, на Лідчыне. Адміністратыўнае дзяленне (Ліда – раённы цэнтр Баранавіцкай вобласці). Рэпрэсіі супраць «антысавецкага элемента».

**Тэма 5. Вялікая Айчынная вайна на тэрыторыі Лідскага раёна**

Пачатак Вялікай Айчыннай вайны. Усталяванне акупацыйнага рэжыму. Ваеннае становішча пад час гітлераўскай акупацыі. Крывавы тэрор у Лідзе. Знішчэнне «лішніх людзей» (яўрэяў, татар, цыган). Ход вайны.

Савецкае падполле (М. Ігнатаў, А. Качан, С. Клімко, М. Наказных, М. Кастраміна), дзейнасць падпольных груп на чыгуначным вузле, у авіяматорных майстэрнях, у нямецкім шпіталі і гебіткамісарыяце. Партызанскія атрады: брыгады імя Кірава «Іскра», «Балтыец». Армія Краёва (Заянчкоўскі, Лепясіновіч). Яўрэйскі партызанскі атрад Бельскіх. Дзеячы Беларускай нацыянальнай партыі на Лідчыне.

Аперацыя «Баграціён». Вызваленне Ліды 8ліпеня 1994 г. Дзейнасць войск пад камандаваннем М. С. Аслікоўскага і А. Шаўчэнкі. Вызваленцы горада: В. М. Грыгор'еў, А. Ф. Труханаў, М. Ф. Выдайка, Н. П. Арцёменка, В. І. Кузняцоў і інш.

Увекавечванне змагароў Вялікай Айчыннай вайны (Курган Бесмяроцця і магіла невядомага салдата, Помнік Лідскім падпольшчыкам, Брацкая магіла ў гарадскім парку, магілы ахвяр фашызму).

**Тэма 6. Пад мірным небам**

Аднаўленне эканомікі БССР. Аднаўленне сельскай гаспадаркі і развіццё прамысловасці раёна. Гісторыя развіцця прадпрыемств Ліды і Лідскага раёна: «Лідсельмаш», «Лідскі завод электравырабаў», «Лакафарбавы завод», шклозавод «Нёман», «Лідскае піва», завод «Оптык», хлебазавод, мясакамбінат і інш.

Медыцынскія, адукацыйныя і культурныя ўстановы і цэнтры. Эканамічнае і культурнае жыццё насельніцтва ў нашы дні.

Тапаніміка (гідронімы і урбанонімы) Ліды і Лідскага раёна.

**Раздзел III.**

**КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА ЛІДЧЫНЫ**

**ВУЧЭБНЫЯ ТЭМЫ**

**Тэма 7. Матэрыяльная культура**

Асноўныя сельскагаспадарчыя заняткі старажытных лідзян. Народныя промыслы: бортніцтва, рыбалоўства, паляванне, рамяство, дрэваапрацоўка, саломапляценне, ткацтва.

Народнае дойлідства. Самыя распаўсюджаныя тыпы збудаванняў, лідскія брандмуры. Характарыстыка гаспадарчых пабудоў (свіран, гумно, хлеў, павець, вазоўня, дрывотня, стайня, свінарнік, склеп, лазня, кузня, майстэрні і іншыя). Народныя прыкметы і павер'і, звязаныя з гаспадарчай дзейнасцю і промысламі.

Народнае адзенне старажытных лідзян. Гістарычна-мастацкі музей горада Ліды і гістарычна-краязнаўчы музей Бердаўскай сярэдняй школы.

**Тэма 8. Духоўная культура**

Характар, норавы, асаблівасці мовы, звычаі, традыцыі, прыкметы, павер'і, жарты, прымаўкі жыхароў Лідскага павету. Сямейна-абрадавая паэзія, забабоны і прымхі пад час хрышчэння, вяселля, пахавання. Народны каляндар, святы і прысвяткі: Каляды, Вялікдзень, Сёмуха, Пятро, Ушэсце, Спас.

Гістарычны аналіз легенд, паданняў пра паходжанне назваў, асоб і падзей мінулага. Сучасныя лідскія рыцарскія клубы «Дайнава» і «Дыес Магнус». Лідскі анімацыйны (рыцарскі) тэатр.

Творчасць даследчыкаў лідскага фальклору: Івана Юркевіча, Рыгора Шырмы, Тодара Нарбута, Біруты, Вандаліна Шукевіча, Юрыя Іваноўскага, Міхаіла Шымялевіч, Уладзіміра Урбановіча, Земавіта Фядэцкага, Мар'яна Баяровіча.

Сучасныя фальклорныя мастацкія калектывы Ліды і Лідскага раёна: «Лідчанка», «Сонейка», «Красаўцы», «Красовыя забавы», «Шалом», «Гудскі гармонік», «Нэма», "Талака", «Сямейны ансамбль Парфеньчыкаў», "Шкляры" і інш .

**Тэма 9. Свецкія і культавыя архітэктурныя забудовы**

Знаёмства са стылямі і тыпамі архітэктурных збудаванняу ў кантэксце сацыяльна-гістарычнага развіцця. Асноўныя помнікі гісторыі і культуры Ліды: Лідскі замак, Касцёл Узвіжання Святога Крыжа, Ансабль былога Кляштара (Калегіюма) піяраў, Свята-Міхайлаўскі сабор, Свята-Георгіеўская царква, будынак друкарні, комплекс дамоў з брандмурамі, помнікі Францішку Скарыну і Адаму Міцкевічу, лідскі сонечны гадзіннік.

Хрысціянства на Лідчыне, культавыя помнікі Лідскага раёна: Ваверскі касцёл, Царква Нараджэння Багародзіцы ў Голдаве, Крыжаўзвіжанская царква ў Беліцы, Міхайлаўскі касцёл у Белагрудзе, палац графа

Маўраса ў Тарнове, палац А. Дамбавецкага ў Бердаўцы, Пакроўская царква ў Радзівонішках, палац у Жырмунах, панскі дом у Мажэйкаве.

### Тэма 10. Знакамітыя лідзяне

Жыццёвы і творчы шлях мастакоў Ф. Гарэцкага, Б. Яманта, Л. Мягковай, У. Мурахвера, І. Бартосіка, У. Мельнікава, А. Судара; скульптараў Р. Грушы, В. Вераб'ёва; паэтаў і пісьменнікаў А. Пашкевіч, В. Таўлая, Д. Бічэль, К. Лялько, У. Клімовіча, Ежы Путрамента; музыкантаў і кампазітараў Ч. Немана, К. Горскага, І. Кірчука, М. Баяровіча, Дз. Мазітавай, Зміцера Вайцюшкевіча, Вячаслава Сташкевіча; навукоўцаў В. Шукевіча, Біруты, І. Дамейкі, А. Мігдала і іншых славутых ураджэнцаў Лідскай зямлі.

## Раздзел IV

## МЕТАДЫЧНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ КУРСА

### 4.1. МЕТАДЫЧНЫЯ РЭКАМЕДАЦЫІ ДА ЗМЕСТУ КУРСА

#### 4.1.1. Матэрыялы да раздзела «Зямля нашых продкаў»

Галоўнай умовай паспяховай краязнаўчай працы з'яўляецца глыбокае веданне настаўнікам гісторыі свайго краю, валоданне методыкай яго вывучэння. Нельга забываць пра такія дыдактычныя прынцыпы як навуковасць і дакладнасць. Выкладчык курса павінен знаёміць навучэнцаў з гісторыяй роднага краю, улічваючы розныя версіі і меркаванні навукоўцаў пра тую ці іншую гістарычную падзею, з'яву. Так, напрыклад, канкрэтна невядома паходжанне назвы і даты заснавання горада Ліды. Думкі наконт заснавання вагаюцца ў межах чатырох стагоддзяў – з X па XIV.

Самая старажытная з датаў з'яўлення Ліды 1180 прыводзіцца ў Польскай Вялікай Усеагульнай энцыклапедыі (т. 6). Гэта дата ўпамінаецца таксама ў літоўскай і Гамбурскай энцыклапедыях. Гэтыя меркаванні абапіраюцца на выказванні гісторыка XIX стагоддзя, ураджэнца і жыхара Лідскага павету Тодара Нарбута. Да пятага тома свайго даследавання па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ён прыклаў невялікае на чатыры старонкі сачыненне «Крыху з гісторыі горада Ліды», якое пачынаецца так: «Гэта мясцовасць пасля заваёваў каля 1180 года Дайнаўскага княства, у якім яна размяшчалася, ёсць абшар Ліцвінскі, бо «Ліда» абазначае паляна, поле ачышчанае ад лесу» *(Гісторыя літоўскага народа. Т.5 дадатак 1, Вільня 1839)*. Паводле Тодара Нарбута Ліда была сталіцай гэтага княства. У 1261 (1270) годзе дайнаўскі, а, магчыма, і лідскі князь Трайдзень стаў Вялікім князем Літоўскім [42, с. 8].

Вялікая Савецкая энцыклапедыя таксама мела сваю думку: «Ліда заснавана ў XIII ст.». Дата абапіраецца на легенду быццам бы татара-манголы ў 1242 г. хадзілі на Літву і Міндоўг адбіў іх напад пад сценамі Ліды.

Вучоныя не спрачаюцца наконт даты заснавання Лідскага замка ў 1323 годзе. Кандыдат гістарычных навук Іван Коўкель у «Беларускай энцыклапедыі» (т. 9, ст. 248, 1999 г) пазначае: «Датай ўзнікнення Ліды лічаць 1323 – пачатак будаўніцтва Лідскага замка, вакол якога паступова вырас горад» [45, с. 8-10].

У 1323 годзе быў заснаваны мураваны замак. Замак, пабудаваны ў 1323 - 1328 гг. у Лідзе Вялікім князем Гедзімінам з бутавага каменю і цэглы, уваходзіў у лінію абароны супраць крыжакоў: Наваградак – Крэва – Меднікі – Трокі. Пастаўлены на пясчаным узгорку, ён абкружаны балоцістымі берагамі рэчак Лідзейка і Каменка, а з поўначы – ровам, які злучаў гэтыя рэчкі.

Пасля смерці Гедзіміна Ліда з'ўлялася цэнтрам удзелу князя Альгерда (жыў у замку ў 1338-1345), потым належала Ягайлу, які аддаў Ліду ў 1380 г. (па іншым звестках у 1377 годзе) на ўтрыманне свайму «парабку» Вайдылу. У 1390 годзе за дапамогу Ягайлу пры аблозе Гародні Ліду атрымаў у дзяржанне Дзмітры Карыбут. У 1396-1399 гг. у Лідскім замку жыў з дазволу Вітаўта выгнаннік з Залатой Арды хан Тахтамыш; у 1434-1443 гг. – іншы хан-выгнаннік Даўлет Хаджы-Гірэй.

У 1590 годзе горад атрымаў магдэбургскае права і герб: у левай часцы шчыта выява залатога льва на чырвоным фоне, у правай – два залатыя скрыжаваныя ключы на блакітным фоне.

У перыяд вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг. і ў Паўночную вайну 1700-1721 гг. горад спустошаны і разрабаваны пад час ваенных дзеянняў. У 1794 годзе Ліда штурмам узята расійскімі войскамі. З гэтага часу горад патупова становіцца польска-яўрэйска-рускім. У Айчынную вайну 1812 года напалеонаўскія войскі прынеслі гораду значныя страты.

У XIX стагоддзі адбываецца інтэнсіўнае развіццё горада ў розных сферах: адкрываюцца прадпрыемствы, навучальныя ўстановы. Значны эканамічны рост Ліды звязаны з будаўніцтвам Палескай чыгункі.

У Першую Сусветную вайну з восені 1905 года горад акупаваны войскамі кайзераўскай Германіі. 05.01.1919 года Ліда захоплена Чырвонай Арміяй. З 30.09.1920 года горад заняты польскімі войскамі. З 1921 года Ліда знаходзілася ў складзе Польшчы, як горад-цэнтр павету Наваградскага ваяводства.

З 15.01.1940 года горад – цэнтр Лідскага раёна Баранавіцкай вобласці БССР. У Вялікую Айчынную вайну з 27.06.1941 да 09.07.1944 года горад акупаваны гітлераўцамі, якія знішчылі ў Лідзе і раёне 25149 грамадзян. Дзейнічала патрыятычная падполле (35 чалавек, 4 групы).

З 20.09.1944 года горад знаходзіцца ў складзе Гарадзенскай вобласці. Працуюць прадпремствы машынабудаўнічай, харчовай, бучаўнічых матэрыялаў, дрэваапрацоўчай прамысловасці, лакафарбавы завод і абутковая фабрыка. Ліда – культурны і адукацыйны цэнтр.

Асобную старонку гісторыі Ліды ўяўляе пастаянная барацьба лідзян супраць усіх уладаў: царскай, нямецкай, польскай, савецкай.

Гэты невялічкі гістарычны экскурс дае магчы-

масць уявіць прычыны, якія паўплывалі на фармаванне характару і нораваў мясцовага насельніцтва. Веды па гісторыі краю даюць магчымасць сэнсава прааналізаваць легенды і паданні, звязаныя з паходжаннем назвы, гістарычнымі падзеямі або дзеячамі мінулага, а таксама ўсю матэрыяльна-духоўна культурную спадчыну лідзян.

У горадзе Лідзе і яго наваколлі існуе шмат легендаў і паданняў. Большасць паданняў аб паходжанні назвы горада звязаны з імем сялянскай дзяўчыны Лідзейкі, якую прываражыў лясун. Калі дзяўчына даведалася аб гэтым, навучаная бабуляй, яна апырскала яго лясное жыллё святаянскім зеллем, але, калі ўцякала, азірнулася. А гэтага ж нельга было рабіць! Не паспела яна пад ногі глянуць і трапіла ў палонку, якую ці то рыбакі прабілі, ці то не замярзала там вада ўвогуле. Нават крыкнуць не паспела, захлынулася адразу…Калі вясною ўзламаўся лёд і пабеглі раўчукі, то і рэчка тая абудзілася, але цяпер яе людзі завуць Лідзейкай. Так яна і засталася ў памяці. А паселішча на высокім беразе назвалі больш сур'ёзна - Ліда. Але тут ужо не вядома дакладна, ці то ад той невялічкай рэчкі, дзе дзяўчына смерць знайшла, ці то ад дзявочага імя [12, с.35].

Існуе паданне пра прыгажуню-князёўну Ліду, якая закахалася ў беднага сялянскага хлопца. Яе бацька князь Гедзімін меў намер выдаць дачку за багатага магната. У вечар вяселля Лідзея кінулася з высокай вежы замка ў раку, якую пазней пачалі ласкава зваць Лідзейкай, а горад назвалі Ліда [24, с. 13].

Гэта цікавыя і прыгожыя легенды, але, нажаль, яны не маюць гістарычнай праўдзівасці, бо ў тыя старажытныя часы імя Ліда, Лідзейка ў нашых краях яшчэ не ўжывалася. Яно прыйшло значна пазней, з хрысціянствам. А паводле лінвістычнай навукі назва рэчкі Лідзейкі паходзіць ад назвы горада Ліда, а не наадварот.

У «Кароткім тапанімічным слоўніку» Вадзіма Жучкевіча пахожанне назвы горада звязана са словам ***ляда*** - адваяваным у леса, выпаленным ці выкарчаваны для пасеваў збожжа на пачатку земляробства [18, с. 30]. У беларускай тапаніміцы нямала паселішчаў, якія нарадзіліся ад слова ***ляда***: Лядск, Лядовічы, Каменная Ляда, Ляды – адпаведна ў Іванаўскім, Мазырскім, Шчучынскім і Дубровенскім раёнах. Акрамя таго, у летувіскай мове ёсць словы, якія рэальна маглі паслу-жыць асновай для нашага горада, такія, як: *лідзімас* – плаўка, плаўленне; *лідзінас* – сплаў; *лідзіс, лідзека* – шчупак. Таму, магчыма, лідзяне – гэта жыхары лясной вырубкі на ўзбярэжжы шчупаковай ракі.

У апошнія гады ў горадзе стала вядома паданне, якое звязвае назву горада і рэчкі з імем галоўнага вешчуна Гедзіміна Ліздзейкі. Аднойчы на паляванні князь Гедзімін знайшоў у арліным гняздзе малога хлопчыка. Яго назвалі Ліздзейкам («Lizdas» па-балцку – «гняздо»). Пазней Ліздзейка стаў галоўным вешчуном ВКЛ. Зусім верагодна, што назва горада паходзіць ад гэтага слова «Lizdas».

Хрысціянская рэлігія рускага веравызнання была ўзведзена ў гэтым краі з вельмі даўніх часоў; капліца ў замку існавала ад пачатку яго будаўніцтва. Лацінскае веравызнанне прынелі францысканцы з мэтаю навяртання ліцьвінаў, што былі яшчэ ў паганстве. Калісьці русіны зусім не ўмешваліся ў пытанні мясцовага веравання, таму паміж імі былі ўзаемныя мір і цярпімасць. У 1366 годзе прыбыла францысканская місія, рэпрэзантаваная трыма манахамі; у 1369 годзе пры нейкай суматосе іх пазабівалі паганцы. Пра гэтую падзею існавала мясцовае паданне, запісанае Бірутай у 1889 г. у Лідзе і надрукаванае ў часопісе «Вісла» у тым жа годзе.

Так у легендзе «Сосны ля Лідскага замка» распавядаецца, што калісьці на схіле ўзгорка, нібы падпіраючы замак, раслі дзве дшматгадовыя сасны. Між іншым, гэтыя сосны сапраўды доўгі час раслі на ўказаным месцы. Яны быццам бы выраслі не на раслінным соку, а на крыві. Здарылася гэта ў часы, калі ў Літве існавала язычніцтва. Прыйшлі сюды дзевяць манахаў-францысканцаў прапаведаваць хрысціянскую рэлігію. Аднак ліцьвіны, не жадаючы прымаць хрысціянскую рэлігію, забілі гэтых місіянераў, а іх трупы ўкінулі ў яму на схіле Лідскага замка. Але на гэтым гісторыя не скончылася. На гэтым месцы, не сеяныя і не саджаныя, з'явіліся дзве сасны, якіх ліцьвіны, ужо стаўшы каталікамі, не чапалі. Аднак аднойчы хтосьці адсек галінку і з яе выступіла кроў. З той пары ніхто ўжо не адважваўся ўзняць сякеру на гэтыя дрэвы.

Незвычайныя расліны, камяні, рэчкі спрадвеку прываблівалі дапытлівых. Так вельмі часта сустракаюцца камяні, якія ў народзе атаясамліваюцца з акамянелымі людзьмі і жывёламі. Прыкладамі такіх камянёў могуць служыць тры камяні з высечанымі на іх крыжамі каля вёскі Збляны.

Чалавек не можа жыць толькі бытам, сваё паўсядзённае жыццё ён імкнецца зрабіць весялейшым і радасным. Сяляне прыдумвалі паданні пра разбагацеўшых жабракоў, разумных мужыкоў і дурных паноў. У Лідзе існуе паданне пра нейкага пана з Лідскага павету Казлоўскага, з якім часта судзіліся сяляне і вядома прайгрывалі. Але знайшоўся адзін селянін, які ўсё ж нагнаў страху на гэтага Казлоўскага. Аднаго разу, прабадзяўшыся дзесьці пару тыдняў, ён пусціў пагалоску, што быў у Пецярбургу і цяпер пра ўсе штукарствы Казлоўскага ведае сам цар. І нібыта той, пахітаўшы абуральна галавой, сказаў: «Ну, Казлоўскі! Я ж не спадзяваўся!»

Гэтае паданне было запісана **Францішкам Багушэвічам**, які добра быў знаёмы з Лідчынай, бо ваяваў тут пад час паўстання 1863 г. Ва ўсёй гэтай гісторыі яго найбольш цікавілі апошнія словы. Яны на Лідчыне ў той час былі вельмі ходкія, гаваркія. Як толькі здарыцца якое-небудзь ашуканства ці махлярства, асабліва ад таго, ад каго яно не чакалася, то скрозь можна былро пачуць: «Ну, Казлоўскі! Я ж не спадзяваўся!».

Пасля 1920 года пра праяўленне беларускіх формаў культуры ў Лідзе гаварыць цяжка. Затое яны вырваліся на волю ў 1939 годзе. Гэта час стварэння мностваў анекдотаў, показак і іншых формаў народнай творчасці на тэму «якія дурныя саветы». Увесь гэты фальклор сабраны ў кнізе **Сяргея Пясецкага** «Запіскі афіцэра Чырвонай арміі». Палова падзей у кнізе адбываецца ў Лідзе.

У Лідскім краі на працягу ўсёй гісторыі народ складаў паданні, жарты і іншыя формы фальклору пра падзеі сваёй сучаснасці і мінулага. Яны з'яўляюцца важнай складовай часткай гістарычна-культурнай спадчыны нашай Радзімы.

Даследчыкі, збіральнікі фальклору Лідскага краю (Бірута, Ю. Іваноўскі, У. Урбановіч) ў сваіх працах адзначалі, што звычаі гэтай зямлі мала чым адрозніваліся ад звычаяў іншых месцаў Беларусі. Гэта сведчыць у цэлым пра адносна аднародны характар традыцыйнай культуры беларусаў.

### 4.1.2. Матэрыялы да раздзела «Культурная спадчына Лідчыны"

У старадаўнія часы на Лідчыне акрамя земляробства і жывёлагадоўлі актыўна займаліся промысламі. У іх – ліку бортніцтва, своеасаблівы лясны промысел (ад слова «борць» - штучна выдзеўбанае ў дрэве дупло для пчол). У такіх борцях разводілі і ўтрымлівалі лясных пчол (баровак). Прафесія бортніка перадавалася ў спадчыну ад бацькі да сына, якога ён з малых гадоў вучыў майстэрству. І толькі перад самай смерцю адкрываў свайму пераемніку глыбокія прафесійныя таямніцы: вучыў яго варажыць і перадаваў свой бортны знак, прылады, прыстасаванні і іншае. Пазней на Лідчыне стала развівацца калоднае пчалярства: дупло для пчол выдзеўбвалі не ў жывым дрэве, а ў яго адсечанай ці абрэзанай часцы, якую ў народзе называюць калодай, або вуллём.

Другім важным відам найстаражытнай гаспадарчай дзейнасці лідскага насельніцтва было паляванне. З паляўнічых трафеяў выраблялі найпрасцейшыя прылады працы, зброю, упрыгожанні, адзенне і іншае. Пазней некаторая частка здабытку паляўнічых стала атрыбутам гандлю (футра пушных звяроў, каштоўныя часткі звяроў накшталт «бабровага струменню» для вырабу гаючых лекаў). Спачатку паляванне было свабоднае. Але паступова дзяржава пачала наводзіць парадак і на лясных абшарах. У 1420 годзе вялікі князь ВКЛ Ягайла пастанавіў, каб прымаліся меры для ўзнаўлення ляснога статка. Ім жа быў цвёрда акрэслены і перыяд палявання: пасля заканчэння восеньскіх палявых работ і да 7 красавіка (паводле старога стылю). Прыкладна ў той жа час узніклі і першыя запаведнікі на беларускай зямлі, і на Лідчыне ў прыватнасці.

Статут ВКЛ перасцерагаў браканьераў і прадугледжваў іх пакаранне. «Устава на валокі» (1557) дазваляла сялянам паляваць на сваіх валоках. Знаходжанне ў дзяржаўных княскіх пушчах або каля іх са стрэльбай каралася смерцю.

Важнай формай гаспадарчай дзейнасці нашых продкаў было рыбалоўства. Іншае і ўявіць цяжка: як гэта жыць на берагах рэк і не лавіць рыбу? Яе лавілі не толькі для сябе, але і на продаж. Спачатку сяляне рыбалілі свабодна, без абмежаванняў, але з цягам часу багацце вадаёмаў прыбіралі да сваіх рук мясцовыя абшарнікі. Ім, як гаспадарам вадаёмаў, ад кожнага вясковага двара плацілі невадную павіннасць, а ў каго не было грошай, той вымушаны быў вязаць сеткі для панскага двара, віць вяроўкі для невада, вырабляць іншае рыбалоўнае начынне.

Народнае рамяство дрэваапрацоўкі славутае тым, што яго таленавітыя майстры-самародкі са звычайнай плахі стваралі цудоўныя мастацкія вырабы, непаўторныя па прыгажосці шэдэўры драўлянага разбярства. Найперш гэта размаляваныя куфры, куды дзяўчына складвала свой пасаг ці гаспадыня захоўвала ўсё самае дарагое з хатняга начыння.

Сялянскае жыллё і гаспадарчыя памяшканні – самыя распаўсюджаныя тыпы збудаванняў. Найважнейшыя прыёмы вясковага дойлідства, гэта цэлая навука народнага майстэрства.

Колькі, напрыклад, мудрасці трэба, каб выбраць добрае дрэва! Не ў кожны свой прыход у лес селянін мог ссекчы дрэва-другое. Справа ў тым, што калі першыя тры дрэвы, да якіх падышоў лесаруб, яму чымсьці не спадабаліся, то ў гэты дзень, паводле народных вераванняў, яму ўвогуле нельга іх валіць, бо гэта вялікі грэх. Лічылася, што дрэва на будоўлю лепш за ўсё ссякаць, калі месяц знаходзіўся ў сваёй апошняй квадры («у ветаху») – тады яно асабліва трывалае; ссечанае ў маладзік нядоўга прастаіць, а спілаванае паміж квадрамі («на зменах») сточыць шашаль. Ні адзін прадбачлівы гаспадар не павінен быў ссякаць дрэва, калі пачынаўся «сход» («гнілая квадра»), бо ў будыніне вельмі доўга будзе трымацца вільгаць. Самымі спрыяльнымі месяцамі для нарыхтоўкі лесу лічыліся сакавік і красавік, таму што веснавы сок рабіў драўніну мацнейшай.

Людзі меркавалі: нельга на пабудову браць вывернутае непагодаю дрэва, бо яго чорт вывернуў для сябе і разам з ім можа перасяліцца ў новую хату. Таксама нельга было выкарыстоўваць дрэва, што завісла над другім, бо такі будынак хутка згарыць. Селянін не браў для будаўніцтва рыплівае дрэва, бо ў збудаванай з яго хаціне людзі нібыта могуць часта хварэць, паміраць ці заходзіцца ад кашлю. Ёсць іншы варыянт: у рыплівым дрэве жыве душа нябожчыка, і селянін, калі ссек дрэва, разбіваў душу апошняга прытулку, за што, яму прыйдзецца пакутаваць да смерці. Не падыходзілі для гэтай мэты і дрэвы, што, ссечаныя, падалі на поўнач: у збудаваным доме памрэ чалавек, а ў хляве – жывёла. Глядзелі таксама, каб на будоўлю не трапіла дрэва з «ваўком», гэта значыць з чорным стрыжнем, - інакш сям'ю зноў-такі будуць даймаць хваробы і розныя няшчасці. Пералічаныя павер'і раней павінен быў ведаць кожны гаспадар, каб не трапіць у няміласць лесу.

Каб збудаваць дом, таксама майстэрства патрэбна. Здаўна вядомы дзве канструкцыі зруба – слупавая і вяночная. З цягам часу апошняе выціснула першую і стала дамінантнай. Асновай вяночнай тэхнікі будаўніцтва з'яўляўся вугал, пры дапамозе якога вязалі вянкі бярвенняў. Але і сам вугал меў розныя канструкцыі і розныя назвы: "вугал у чашку", "вугал у каню", "просты замок", "чысты вугал".

Стрэхі мелі разнастайную форму, розныя варыянты апорнай сістэмы, а таксама розны дахавы матэрыял. На Лідчыне найбольш пашыраныя былі двухсхільныя. Накрывалі стрэхі саломай, чаротам, дранкай, гонтай, дошкамі. Завяршаў страху вільчык – грэбень,

месца злучэння плоскасцяў абодвух схілаў страхі. Вільчык звычайна дэкаратыўна ўпрыгожваўся разамі, конскімі галовамі і іншымі выявамі жывёльнага і расліннага свету.

Вокны, дзверы, ганак, як правіла, таксама імкнуліся аздобіць, каб вылучыць сваю хаціну сярод астатніх. На вільчыку, на франтоне, на вокнах з'яўляліся ў асноўным тры группы арнаментальных матываў: нябесныя целы, фаўна і флора. Выразаныя ці высечаныя фігуркі-упрыгожванні маглі быць размаляваны featured рознакаляровымі фарбамі.

Сярод гаспадарчых пабудоў вылучаюцца свіран, гумно, хлеў, павець, вазоўня, дрывотня, стайня, свінарнік, варыўня, склеп, курнік, лазня, кузня, вяндлярня, майстэрня.

Духоўная культура Лідчыны мае больш адметнасцяў, чым матэрыяльная. Характар і норавы жыхароў праяўляюцца ў мове, звычаях. Іван Юркевіч у сваім артыкуле «Астрынскі прыход» у XIX ст. адзначаў, што мясцовая гаворка адрозніваецца ад сялян з сумежнага Наваградскага павету Менскай губерні: «Розніца больш за ўсё заўважаецца ў дзеясловах з канчаткамі на «ся»: тут перамяняюць на «са» і выгаворваюць цвёрда, напрыклад , «што ты паваліўса, умарыўса, умурзаўса, упіўса» і г.д. Апроч таго ў мове тутэйшага народу сустракаюцца асобныя словы, напрыклад «каўбакі» - сасновыя палены, расколатыя ў лучыну, «дразгі» - лучына, часціца «галаня» ўжываецца для абазначэння мінулага часу, напрыклад, калі хто пытаецца: «ці даўно прыходзіў» альбо «ці даўно паехаў?» адказваюць: «ды ўжо галаня».

Іван Юркевіч у сваім артыкуле таксама апісаў паводзіны: «Вітанне мужыка ці бабы да вышэйшай асобы заўсёды пачынаецца словамі: «Нех бэндзе пахвалёны Езус», затым падступаюць звычайна: «Да Бога і Пана прыйшоў з такім дзелам» і выкладваюць сутнасць справы. Сустрэўшыся адзін з адным на дарозе ці зайшоўшы ў чужую хату, нізка кланяюцца і вітаюцца: «Пахвалёны Езус!» затым пацiскаюць адзін аднаму праую руку, а левымі абдымаюцца за шыю, цалуюцца, пытаюцца адзін у аднаго: «Ці жывыя ўсе дамашнія, ці здаровыя дзеткі вашыя, ці веселы» і задае тыя ж пытанні, на якія яму адказваюць: «Яшчэ капышкаюцца, дзякуй Богу». Калі такое ўзаемапрывітанне адбываецца ў хаце, то просяць сядаць, калі на рынку ці ў карчме, частуюць адзін аднаго гарэлкай – кожны па чарзе прапануе сваю. Падвіпіўшы, разважаюць пра хатнія справы, мужчыны асобна ад жанчын. Апошнія, размаўляючы між сабою, таксама п'юць, смяюцца, іншы раз і плачуць. Калі адзін аднаму зробіць нейкую крыўду, то лаюцца: «злодзей ты, валацуга, вісельнік, прахвост, паганец» і г.д. Сваркі даходзяць да бойкі. Паміж жанчынамі таксама вельмі часта бываюць лаянкі і сваркі. Моладзь у стасунках між сабою бярэ прыклад са старэйшых. Увогуле тутэйшыя сяляне маюць схільнасць да сварак, п'янак ды крадзяжу, чаму навучыліся ў цыганоў, якія жывуць у мястэчку Астрына. У стасунках з чужымі, незнаёмымі тутэйшыя сяляне хітрыя, падазроныя і абманлівыя, Але дапамагаюць у нейкай патрэбе хутка, калі гэта можа даць ім выгаду. У ажыцяўленні намераў непастаянныя».

Ганна Энгелькінг пад час навуковага даследавання Лідскага раёна ў 1993 – 1994 гг. адзначала складанасць моўнай характарыстыкі, якая звязана з трох- і чатырохмоўем Яна адзначае, што агульная для ўсяго вясковага люду – беларуская гаворка, названая яе карыстальнікамі простаю або мясцоваю моваю. Гэта мова супрацьпастаўляецца мовам «чыстым»: рускай, польскай і літаратурнай беларускай. Рэгіянальны варыянт польскай мовы – т. зв. паўночнакрэсавая (віленская) пальшчызна. Яна з'яўляецца таксама мовай касцёлу і каталіцкай малітвы. Чацвёртая ўжывальная мова ў гэтым рэгіёне – летувіская гаворка. Шматмоўе - вынік геаграфічнага становішча і гістарычнага лёсу Лідчыны.

Г. Энгелькінг даследавала таксама сямейныя і абрадавыя звычаі. Сярод іх былі: святкаванне праваслаўнага вялікадня, сумеснае з глыканікамі (так называюцца ўгэтых мясцінах спевакі-валачобнікі або кукольнікі), праваслаўныя задушкі (Радаўніца – вясеннія Дзяды, пад час якіх людзі моляцца, аплакваюць у галашэннях памерлых, ядуць і п'юць на могілках), лістападаўскія каталіцкія задушкі, вяселле (нярэдкі змешаныя шлюбы; сем'і сумяшчаюць традыцыі розных веравызнанняў, уласную, узятую з дому бацькоў, і новую – сваёй паловы).

Усё жыццё лідскага селяніна было цесна і арганічана знітавана са шматлікімі абрадамі, звычаямі і павер'ямі. Надзвычай багатым абрадам лідскіх вяскоўцаў быў вясельны, відаць, самы непаўторны, своеасаблівы і арыгінальны. Размова пра вяселле пачыналася са сватання. У гэты час вырашалася, быць вяселлю ці не. Справа адбывалася пераважна позняй восенню, калі галоўныя гаспадарчыя работы ўжо скончаны. Ішлі ў сваты часцей за ўсё ўвечары. Здаралася, што разам ішоў і будучы жаніх. Ад галоўнага свата, ад ягонага ўмення «трымаць язык па ветры», залежала вельмі многа. Ён адзін мог «абкруціць» усё так, што ні жаніху, ні тым балей бацькам такое нават і не снілася. Быў тады пасаг, і прыгажуня-дзяўчына, і слава-пагудка пра тое, як добра ды ўмела ўсё атрымалася. Таму ў сваты выбіралі людзей паважаных, спрактыкаваных, такіх, каб іх не трэба было «цягнуць за язык».

У доме дзяўчыны звычайна ўжо чакалі прыезду сватоў і канешне ж, старанна рыхтаваліся да такой адказнай падзеі. І гаспадары, і іхняя дачка апраналіся па святочнаму і стараліся незаўважна сачыць за вуліцай, ці не едуць сваты. Пры размове сватоў дзяўчына не прысутнічала. Калі ж прасілі паказаць ім нявесту, то бацькі спачатку паказвалі не яе, а сябровак ці малодшых дачок, Але сваты дабіваліся свайго. У знак згоды на шлюб дзяўчына дарыла бацькам жаніха ручнік (для бацькі) і хустку (для маці). Бацькі і сваты ўдакладнялі час вяселля. Калі ж дзяўчына не хацела ісці замуж або жаніх не падабаўся бацькам, то яны знаходзілі варыянт ветлівай адмовы, каб не пакрыўдіць дарма людзей.

Праз нейкі час пасля сватання ў доме нявесты гулялі запоіны. Тут дзяўчыну як бы «запівалі» да роду жаніха, і пасля гэтага яна ўжо не мела права адмовіцца ад замужжа. Звычайна запоіны прызначалі на вечар (у суботу ці нядзелю). Жаніх з бацькамі і бліжэйшымі сваякамі (чалавек да дваццаці) ішлі да нявесты. Калі яны

заходзілі ў хату нявеста хавалася, каб яе не ўбачылі. Затое сама хацела ўбачыць жаніха першай, каб ў будучым сямейным жыцці верхаводзіць мужам. Потым яна выходзіла да гасцей, віталася, але прывітанне яе было незвычайнае. Кожнаму з гасцей падавала руку – гэтым падкрэслівала сваю згоду належаць да іх роду. Перад тым, як разыціся, бацькі маладых абменьваліся хлебам. Нявеста давала жаніха бутэльку з зернем жыта – знак, што яна ўручае ім сваё жыцце і долю. Маці жаніха гэтае зерне рассыпала на сваім падворку, кааб разам з новым чалавекам у яе хату прыйшлі дабрабыт і шчасце. Ад запоін да вяселля нявеста павінна была насіць толькі заплеценую касу. Тым самым падкрэслівалася, што нявеста развітваецца з дзявочым жыццём. А вось пасля вяселля хадзіць з касой яна не мела права.

Вяселле прызначалі праз тыдзень-два пасля запоін. Залежала гэта ад таго ці паспеюць бацькі падрыхтавацца. І пачыналася яно з заручын (яшчэ іх называлі змовінамі). Далей ішоў каравай, зборная субота, вяселле ў маладой, маладога, пярэзвы.

Сустрэча маладога ў хаце нявесты нагадвала сабою своеасблівы гандаль, спрэчку. Усё з-за таго, што сяброўкі патрабавалі за нявесту выкуп у сватоў. Пад час вяселля нявесту саджалі на накрытую кажухом дзяжу: тут яна павінна была расказваць толькі праўду. Шафер расплятаў ёй касу. Потым хрышчоная маці пакрывала дзяўчыну якой-небудзь матэрыяй, працягвала праз пярсцёнак пасмачку валасоў, састрыгала іх і падсмальвала свечкай. Затым выпівала з маладой трошкі віна і садзілася побач з ёю. Тут да нявесты падыходзілі яе мці з абразом у руках дабраслаўляла дачку на шлюб. Паступова вяселле набліжалася да кульмінацыі – развітанне маладой з роднымі, з бацькоўскім домам, з дзявоцтвам. Ад'езд да маладога – адзін з самых драматычных момантаў вяселля і, мабыць, адзін з самых старажытных, усе плачуць і спяваюць развітальныя песні.

Каля хаты маладога насустрач жаніху і нявесце выходзіць свёкар і свякроў. Свёкар ставіць хлебную дзежку: калі маладая «чэсная», яна без лішняга роздуму садзілася ці станавілася на дзяжу, а не дай Бог, калі нявеста падманвала і падман яе выкрываўся, то яе чакалі вялікія непрыемнасці. Свёкар браў навесту за руку і падводзіў да хатняга парога. Тут маладая аддавала падарункі радні маладога: свёкру звычайна дарыла пояс, свякрусе – фартух, залувіцам – грабяні.

Раней маладая, «як замужам пабудзе», мусіла аддаваць свякрусе сваю начную кашулю. Свякроў, калі нявестка на самай справе аказалася «чэсная», выносіла тую кашулю ў двор, паказвала ўсім, загортвала ў яе бутэльку гарэлкі і аддавала прыданым, каб тыя потым перадалі гэта маці маладой. Усе, задаволеныя тым, што «маладая няславы не нарабіла», ішлі ў хату, да гасцей падыходзіла сама нявеста з жаніхом, і пачыналася частаванне. У вечары прыданыя ад'язджалі дадому.

Пасля вяселля, праз тыдзень або праз некалькі дзён (у залежнасці ад таго, як дамаўляліся бакі), адбываліся пярэзвы. Бацькі маладога запрашалі да сябе бацькоў маладой і некаторых іншых гасцей. Цесць з цешчай ехалі да зяця, каб даведацца, як жывецца іхняй дачцэ «у чужой старане». Пярэзвы – апошняя ступень вяселля. Далей пачыналася самастойнае жыццё маладой пары, на якое выпадалі і выпрабаванні, і шчасце.

У XIX стагоддзі адбыліся некаторы змены ў вясельным абрадзе. Іван Юркевіч усваёй працы «Астрынскі прыход» прымячае: "У дом няветы сваты прыязжаюць ці прыходзяць з гарэлкай. Калі нявеста згодная выходзіць замуж, яна накрывае стол абрусам і выстаўляе чарку на ім. Сват налівае гарэлку і прапануе нявесце. Тая прымае і перадае бацьку. Бацька выпівае і звяртаецца да жаніха, калі ён прысутнічае, альбо да жонкі. Пасля гэтага нявеста накіроўваецца ў вёску клікаць радню. Калі сваякі збяруцца, прыносячы з сабою хлеб, адбываецца дамова (запоіны). Сваты застаюцца ў нявесты да наступнага дня. Пры заканчэнні дамовы маці нявесты падносіць на талерцы жаніху хусцінку, а свату некалькі локцяў палатна і пакрывае ім правае плячо – у такім выглядзе ён павінен прысутнічаць на шлюбаванні. Жаніх, прымаючы хусцінку, кладзе на талерку трыццаць ці болей капеек серабром. Сват зноў дастае гарэлку, налівае і прапануе ўсім. Бацька і маці нявесты напаўняюць першую выпітую бутэльку жытам, падпяразваюць яе пояском і перадаюць яе жаніху і свату перад ад'ездам дамоў.

Прыехаўшага ў дом нявесты жаніха бацька ці маці сутракаюць на парозе з хлебам і півам а ён ім нізка кланяецца. Уводзяць у дом і ўсаджваюць за стол з усёй дружынай. Бацька ці маці выводзяць нявесту і садзяць яе з дружкамі і жанчынамі за іншы стол. Усе частуюцца гарэлкай, закусваюць, апроч жаніха і нявесты, якія трымаюць пост да самага шлюбу. У час абеду нявесціны бацькі зноў прапануюць падарункі – жаніху хусцінку, а свату, дружкам, музыканту – палатно. Жаніх у сваю чаргу прывозіць нявеце чаравікі, набітыя воўнай, дорыць ёй грошы, кідаючы за каўнер. Пасля частавання жаніх і нявеста ўсім кланяюцца і накіроўваюцца ў царкву. Бацькі праводзяць іх з дому з хлебам і півам. На шляху да царквы жанчыны спяваюць песні, адзін з мужчын грае на скрыпцы. Пасля вянчання бацька і маці сустракаюць маладых з хлебам і півам. Уласна кажучы, вяселле і пачынаецца пасля гэтай сустрэчы. Пяюць розныя песні, іграюць, танцуюць, а другой ці трэцяй гадзіне ночы вячэраюць і працягваюць весяліцца ўсю ноч.

У наступны дзень заручонай выстрыгаюць валасы з чатырох бакоў, надзяваюць на галаву хустку з кужалю (адметку), выстрыжаныя валасы спальваюць. Жанчыны адорваюць маладых палатном, мужчыны грошамі. На другі ці трэці дзень пякуць каравай (пшанічны пірог) які дзеляць паміж усімі. Нарэшце, маладую вязуць у дом маладога. Яна дорыць усім хатнім кавалкі палатна ці ручнікі, а чужым – маленькія пояскі. Пасля вяселля першая справа маладой як новай гаспадыні ў хаце – ісці да калодзежа па ваду і прынесці поўнае вядро. У гэтым ёй дапамагае малое дзіця якому дорыць пояс. Затым яна прадзе воўну, што прывёз ёй у чаравіках жаніх, дзеліць паміж хатнімі каравай. Гэтым вяселле і заканчваецца.

Самае першае знаёмства чалавека з белым светам – гэта яго нараджэнне. Пасля хрышчэння ў царкве дзіця прыносілі дамоў, склікалі гасцей. Першай запра-

шалі бабку-павітуху. Тая праходзіла з падарункамі, купала дзіця, спавівала яго. За стол садзілі спачатку кума і куму, павітуху, жонку кума, а потым астатніх гасцей. Пасля першай чаркі бабка-павітуха падавала на стол так званыя буракі – ежу , прыгатаваную з мяса, каўбас, буракоў, вострых прыправ. Пасля буракоў на стол падаваўся гаршочак кашы. Госці куплялі порцыю кашы за грошы. Больш за астатніх павінен быў даць кум. Заплаціўшы, той разбіваў гаршочак на стале. Госці навыперадкі хапалі кашу і крычалі: адны «горка!» другія «салодка!»[31, с.486]

Іван Юркевіч апісвае першы дзень на хрысцінах наступным чынам: “Пасля шчаслівых родаў мужык, запрошаны быць кумам, прыходзіць у хату парадзіхі з загорнутым у белую хустку хлебам і кладзе на стол. Кума прыносіць парадзісе пляшку гарэлкі, прыпраўленую мёдам ці перцам. Пасля непрацяглага частавання кумоў бабка-павітуха дабраслаўляе немўля знаменем крыжа (у гэты час усе, хто знаходзіцца ў хаце, таксама жагнаюцца) і перадае яго кумам, якія накіроўваюцца да святара на абрад хрышчэння. Кумы разам з немаўлём прыносяць святару хлеб. Характэрна, што дзіця нясуць ці вязуць да хрышчэння часцей за ўсё вечарам. Пасля хрышчэння кума прыносіць дзіця ў хату і перадае бабцыпавітусе, а тая мацеры. І зноўку пачынаецца гасцяванне, пасля якога падаюць вячэру кумам і бабцыпавітусе. Звычайна гэта хлеб і кавалак палатна.

У наступны дзень, як паведамляе І. Юркевіч, кумы наведваюць парадзіху, прыносячы ёй грэцкую кашу і іржаныя пірагі. Каштуючы сваю кашу, кум гаворыць: «Няхай Бог нашага хросніка (называе па імнені) гадуе ды долю яму гатуе», і праз бабку-павітуху перадае парадзісе кашу і 20-30 капеек (у залежнасці ад дастатку). Тое ж робіць і кума. Бабка-павітуха ставіць на стол міску вады з хмелем і аўсом, просіць ва ўсіх гасцей грошы на мыла. Усе, хто ў хаце, кідаюць у міску капейкі, пасля чаго парадзіха звяртаецца да кума: «Кум, зачынайе піры, кааб дзіця прэндзэй гаварыла» і запрашае ўсіх за стол. Падаюць абед, а пасля абеду збіраюць грошы на гарэлку, выпіваюць і разыходзяцца па хатах.[26, с.241]

На другі дзень застолле павінна была ладзіць павітуха. Калі Яна адмаўлялася весці гасцей у сваю хату, яе садзілі ў ночвы або на барану і вазілі са смехам па двары. За бабку часцей за ўсё бралі каго-небудзь з родных (цётку, сястру, маці). Яна таксамавыбірала куму і кума. На хрэсьбінах госці ішлі з падарункамі, каб малому заўжды добра і багата жылося. Самыя цёплыя словы песень, якія выконваліся на такім застоллі, адрасаваліся парадзісе: “А хто к ёй прыхінецца, той розуму набярэцца, піва і віна нап’ецца». У адказ – поўныя падзякі за такія адносіны да сябе словы маладой маці: «Самыя дарагія першыя госцікі – бацька з маці, другія госцікі – братка з сястрой, а трэція госцікі – кум з кумою. Дзед і баба – уся парада». У песенных сюжэтах пра бацькоў захаваны вобраз лідзяніна: працавітага, нешматслоўнага, скупога на ласку. У хрэсьбінных песнях гаспадар звычайна параўноўваецца з кавалём, які «малаточкам не стукаў, у ручкі не хукаў, лучынкі не паліў, сямейкі не будзіў і сыночка сабе нажыў»

Нараджэнне дачушкі ў хрэсьбінных песнях апісвалася не надта радасна, бо дзяўчына, як падрасце, то пойдзе да чужых людзей «ва ўслужэнне», пакінуўшы родных, і не будзе ім ад ае ніякай дапамогі. Гаспадар, звяртаючыся да бабкі-павітухі, казаў: «Калі сына жонка нарадзіла, тоя мёду здабуду, а калі дачку, то і так перабуду».

Значнае месца ў радзіннай паэзіі адводзіцца кумк і куме. Роля іх вядомая – Яны прысутнічалі пры хрышчэнні малога, былі Яго хроснымі бацькамі. Т аму і садзілі іх на самым ганаровм месцы – побач з бабуляй і гаспадарамі на покуці. Т велічальныя песні ім спявалі, як і бабулі. Праўда, адрасаваліся кума не цэлыя песні, а толькі асобныя звароты.

Хрэсьбінныя песні, як і сама радзінная і хрэсьбінная ўрачастасць, заклікаты былі хоць на кароткі тэрмін адарваць вяскоўца од будзённых клопатаў, забыць цяжкасці лёсу, з пяшчотай і ласкай паглядзець на ўласных дзяцей, нагаманіць з роднымі і блізкімі, абмеркаваць навіны, выпіць чарку-другую «віна – зялёнага», зацягнуць старадўнюю песню, якую спявалі яшчэ прадзеды.

Жыццё – гэта таямніца, ніхто не ведае, што чакае нас наперадзе, каму, колькі і чаго адмерана лёсам. Кажуць, што чалавечы век нядоўгі. За маладосцю ідзе сталасць, а потым і старасць. Таму яшчэ з самых пашыраных абрадаў на Лідчыне лічацца пахаванне.

Адчуўшы набліжэнне смерці хворы, калі быў пры памяці, прасіў паклікаць бацюшку для апошняй споведзі. Да яго прыходзілі сябры, суседзі і родныя, прасілі даравацъ, калі што было не так, а ён у сваю чаргу прыгадваў нейкія свае ранейшыя грахі, каб памерці «з лёгкаю душою». Калі ж каянне было надта цяжкім, то блізкія людзі развязвалі вузлы, разшпільвалі гузікі, адмыкалі замкі. Даходзілі часам і да большага: адчынялі дзверы ў хаце, вароты ў хляве, душнікі ў коміне, вымалі верхні касяк з дзвярэй, пасылалі да святара, каб той адчыніў у царкве царскія вароты. Давалі канаючаму ў рукі свечку: калі дым слаўся па нізе, то лічылі, што смерць ужо зусім блізка, а калі ішоў угору, то думалі, што справа пойдзе на папраўку.

Калі ж чалавек паміраў, то найперш яму шчыльна закрывалі (падвязвалі) рот і заплючвалі вочы, каб «дарма не глядзеў і яшчэ каго-небудзь не забраў». Затым беглі ў царкву каб пазванілі паведамілі наваколлю пра смерць чалавека.

На усіх вясковых могілках сваякоў стараліся хаваць сем’ямі, каб у госці адзін да аднаго хадзілі. Над магіаю ставілі кыж а на ім вешалі фартушкі, ручнікі з той жа мэтай і ў хаце ў час жолобы. Крыж на магіле ставілі альбо ў галавах альбо ў нагах. Часта на магілах садзілі дрэвы ці кветкі, якія пры жыцці любіў нябожчык. Традыцыйным завяршэннем пахавальнага абраду (за выключэннем самазабойства) былі памінкі, куды ўсе прысутныя на пахаванні абавязаны былі з’явіцца. [26, 488]

Адразу ж пасля вынасу нябожчыка вымятаюць усю хату, мыюць стол і лаву, паляць печ, пякуць хлеб і гатуюць вячэру, на якой першая страва абавязкова посная – кісель з грыбамі (жур). Пасля першай стравы моляцца за нябожчыка, з гучнымі плачамі, заклікаючы яго

па імені да стала, і выліваюці на стол лыжку кожнай стравы. Тое ж робяць і дні памінання царквой памерлых з той розніцай, што тады выходзяць з хаты на двор да варот і плачам заклікаюць памерлых родных словамі: «Татачка, матачка. Просім Вас на вячэру». У гэты час усе хатнія сціпла і сцішана ядуць і выпіваюць. Восенню на могілках ставяць драўляныя крыжы, кладуць дошкі ці каменныя пліты (прыклады), наладжваюць сталы за памерлых.

Лідзяне ў мінулым надзвычай многа адзначалі рэлігійных свят. Яны з нецярпеннем чакалі нядзелі, свята ці прысвятка, каб пайсці да царквы, адстаяць там службу, а заадно пабачыцца з рознымі блізкімі, сябрамі, якія жылі недзе непадалёку. Вядома ж, усе імкнуліся пабачыцца, пагаманіць, абмянацца навінамі. Да найбольш важныш рэлігійных свят адносяцца Каляды, Вялікдзень, Сёмуха, Пятро, Ушэсце, Спас.

Каляды пачынаюцца з шостага студзеня святкаваннем поснай куцці, працягваюцца шчадровай (шчадрухай ці багай куццёй) на пярэдатні Новага года па старому стылю 13 студзеня і заканчваюцца 19 студзеня. Агульныя калядкі паказваюць свята як адраджэнне некай міфічнай істоты, нейкай міфічнай першакрыніцы. Яго сутнасцю з’яўляецца вобраз язычніцкай Каляды, якая і ў хрысціянстве захавалася многа першароднага. Недзе там, далёка-далёка, пачыналіся змены ў навакольным свеце, «пасярод двара едзе Каляда, садзіцца ў хаце ў чырвоным куце». У рэальным жыцці Каляды звязаны з пачаткам новага астранамічнага года, з «паваротам сонца з зімы на лета». У калядных песнях малююцца вобразы гаспадароў: яны і добрыя, і шчырыя, і спагадлівыя, у іх і багацце ёсць, і хлеба хапае, і жывёлы поўныя хлявы. Тут нават самы бедны чалавек заўсёды маляваўся «багатым князем». Не, людзі да яго не падлашчваліся, каб ён ім нешта даў, проста яны жадалі гэтаму гаспадару багацейшага года, поспехаў і здароўя, а таксама ураджаю, ды такога, якога ў яго жыцці яшчэ не было. І хоць згадваюцца сам «пан Бог», «святыя памочнікі», усё ж адчуваецца, што менавіта сам вясковец з’яуляецца стваральнікам уласнага шчасця і дабрабыту. Менавіта гаспадару зычаць «з токам жыта», яго жонцы – «шубу да долу», а дочкам – «па вяночку руцьвяненькім», сынам жа – «па коніку вараненькім». Жадаюць усяго гэтага калядоўшчыкі. Тут адчуваецца подых старадаўніх часоў, бо разам з людзьмі ходзяць па сялянскіх хатах прататыпы культавых жывёлін: каза, мядзведзь, кабыла, птушка–жураў і абавязкова механоша з кавалём. Кожны раз цэнтр святкавання пераносіцца з адной хаты ў другую. Сярод згаданых жывёлін найбольш шанавалі і абагаўлялі казу, якая лічыліся пасланніцай бога Перуна на зямлі. Менавіта яна, бегаючы па сялянскіх палях, прыносіла добры ўраджай, таму і спявалі пра яе: «Дзе каза рогам, там жыта стогам». Гаспадар, які добра частаваў калядоўшчыкаў, у падзяку атрымліваў песню, дзе зычыліся яму і ўраджай, і багацце, і здароўе на будучы год, а калі нечым не дагадзіў, пашкадаваў чаго, то і чуў у свой адрас не надта спагадлівыя словы і песні. Асабліва радавалася Калядам моладзь, бо за гэтае свята можна было добра адпачыць ад цяжкай фізічнай працы і падрыхтавацца да вясенне-летняга гаспадарчага цыклу. Была магчымасць пазаляцацца да дзяўчат, пацешыцца гульнямі («пажаніць Цярэшку», згадаць старажытнага «Яшчара»), паваражыць (асабліва дзяўчатам пра свой лёс).

На Каляды, Новы год і іншыя святочныя дні ў вёсках наладжваюцца ігрышчы. Моладзь збіралася ў корчмах, дзе адзін грае на скрыпцы, а іншыя скачуць. Спявалі валачобныя песні. На загавенне моладзь і старыя вазілі адзін аднога на санях і перакульвалі, маладыя хлопцы прывязвалі маладым дзяўчатам невялікія драўляныя калодкі – быццам як пакаранне за тое, што не выйшла замуж на працягу мясаеда, а па сутнасці з мэтай, каб дзяўчаты, жадаючы вызваліцца ад калодак, купілі ім гарэлкі.[7 с.489]

Вельмі ўрачыстым было вясельнае свята Вялікдзень. Яно і не дзіўна, бо менавіта з гэты час ужо абуджалася прырода, прыляталі з выраю птушкі. Вясенні подых наваколля перадаваўся і сялянам. Нездарма ж з прадвеку лічылася, што вясна – пара маладосці, кіпучага жыцця, веры ў лепшае будучае. Тыя лідзяне, што свята верылі ў Хрыста, перад Вялікаднем ажно сем тыдняў пасцілі. І цяпер, нарэшце, яны маглі аскароміцца, наесціся ўволю, лічачы, што сваёю стрыманасцю ў час посту трохі замалілі мінулыя грахі.

Урачыстае багаслужэнне ішло ў праваслаўных храмах. У Вялікую, («Чырвоную») суботу Велікадная усяночная пачыналася з Хрэснага ходу. Жыхары бліжэйшых вёсак, мястэчак, хутароў неслі ў царкву свянціць булкі, мяса, яйкі, сыр і іншую ежу. Святочная літургія заканчвалася раніцай, прычым даволі своеасабліва – заклікам святара (ці святароў) да піру. У кожнай сялянскай хаце да гэтага быў ужо накрыты стол і чакалі толькі тых, хто паехаў ці пайшоў на ўсяночную, каб яны прынеслі пасвянцаныя стравы. На святочны абрус гаспадыня ўжо паклала ў адвольным парадку засмажанае парася і каўбасы, шынку і палянгвіцу, сыры, пафарбаваныя яйкі, абавязкова свежанацёрты і прыпраўлены чырвонымі буракамі хрэн, а таксама паставіла віно і гарэлку.

Святкавалі Вялікдзень тры дні: у першы дзень дружна сядзелі за сваім сталом, стараліся нават не думаць аб працы, бо гэта быў адзін з тых дзён, калі «сама птушка гняздзечка не ўе, а дзяўчына русу касу не пляце». На другі дзень, па ранейшай дамоўленасці да некага аднаго з родзічаў з’язджаліся ці сыходзілася «ўся радзіна». Абавязковым, непарушным атрыбутам такіх сустрэч было хрыстосаванне і частаванне адно аднаго пафарбаванымі яйкамі, у тым ліку выразанымі з дрэва, злепленымі з гліны. На трэці дзень пачыналася ўсеагульнае гулянне, калі і старыя, і малая «знаходзілі сабе раду». Вечарам таго ж дня вясковыя хлопцы збіраліся ў кампаніі (5 – 10 чалавек) і “хадзілі валачобнікамі” па хатах. Спявалі валачобныя песні, праслаўлялі гаспадароў і іхнія сем’і, жадалі ім ўсяго найлепшага, а іх за гэта адорвалі пірагамі, каўбасамі, гарэлкай, а калі – і грашыма. Гулялі ў «біткі» фарбаванымі яйкамі, хлачукі бавіліся ў кацёлку і свінню, а дзяўчынкі – у карагоды і мяцеліцу.

Пасля Вялікадня, на дзевяты дзень, наставала «свята памерлых» - Радаўніца (або Радуніца). Калі блізка была царква, то яе святар служыў на могілкаў паніхіду

па ўсіх тут пахаваных. Калі ж не было то людзі проста прыходзілі, засцілалі абрусам магілку, раскладвалі ўсё прынесенае з сабою і паміналі нябожчыка, які тут ляжаў. Распавядалі яму, як у іх ідуць справы, які быў летась ураджай, якімі клопатамі яны жывуць зараз, на што спадзяюцца і г.д. Перад адыходам пакідалі на магіле крыху ежы і гарэлкі (ці віна) ў шклянцы – «для нябожчыка».

На Сёмуху (Духа) лідзяне-вяскоўцы ўпрыгожвалі свае хаты, падворкі, хлявы і іншыя пабудовы «маем»: галінкамі клёна, дуба, бярозы, рабіны. Падлогу ў хаціне пасыпалі свежазрэзаным аерам. Перад уваходам у жытло некаторыя гаспадары ставілі ссечаную маладую бярозку. Свята гэта – прамы водгук вельмі даўніх язычніцкіх часоў, калі чалавек быў перакананы, што ўсё навокал мае жывую душу. А як жа іначай, калі вясною дрэвы і краскі распускаліся, а восенню яны ападалі, знікалі зноў да цёплых часоў. У хрысціянстве ад гэтага ўсеагульнага пакланення назаўсёды засталася Сёмуха.

Купалле таксама бярэ пачатак з ранняга язычніцтва, але добра захавалася да нашага часу. Вечарам у полі, на высокім пагорку або паблізу вадаёма, збіраліся жыхары навакольных населенных пунктаў. Ноччу быў самы разгар свята: вогнішчы, песні, танцы, гулянні. Цераз агонь скакалі, танцавалі вакол яго. У песнях часта згадвалася дачка Купалы – Купалінка. Дзяўчаты ў гэту ноч варажылі аб будучым замужжы, пускалі вянкі па вадзе. Мясцовыя варажбіты, гаспадыні імкнуліся ў гэты час ( вечарам або ноччу)назбіраць зёлак, траў, карэння, галінак кустоў і дрэў, бо менавіта Купалле было самым «гаючым» перыядам. Збіралі пераважна мяту, багаткі, буйрак, пералёт, лопух, быліцу, расходнік. Але ўсім кветкам кветка лічылася папараць, якая нібыта цвіце толькі раз у год і прыпадае цвіценне менавіта на гэту ноч. Хто знойдзе і сарве кветку, набудзе здольнасць не толькі бачыць схаваныя глыбока пад зямлёю скарбы і стаць іх уладаром, але і разумець мову птушак і звяроў, прадбачыць беды і няшчасці. Сіла гэтай кветкі такая, што яна без цяжкасці адмыкае любыя дзверы і замкі, разбурае перашкоды, здабывае ўсё, што задумаецца, выконвае любое, нават нязбытнае жаданне, знішчае нагаворы-шэпты «чорных» чараўнікоў. Праўда сцвярджалі, што якое б вялікае не выпадала багацце, асаблівай радасці гаспадару, свайму ўладару папараць-кветка не прыносіла. Такі чалавек паступова чарствеў душою, рабіўся злым, жорсткім, бязлітасным, імкнуўся яшчэ болей разбагацець. Ён звязваўся з нячыстай сілаю, прадаваў ёй сваю душу і ўрэшце паміраў,пакінуты жонкаю і дзецьмі, бо ніхто не мог з такім зквапнікам ужыцца. Пасля яго смерці ўсе каштоўнасці ператвараліся ў лісце, друз, груду камянёў.

У гэтым пераліку свят неабходна згадаць Спас. Іх тры: мядовы, яблычны, хлебны. Хлебны быў самы важны, бо вянчаў сабою жніво, таму і не дзіўна, што ў некаторых мясцінах ён святкаваўся як дажынкі. У гэты дзень упрыгожвалі стужкамі і кветкамі «бараду». Ахвяравалі хлеб і соль духу нівы Вялесу (або Воласу), на гэтым тэтралізаваным відовішчы ён яшчэ нагадваў сабою казла. «Воласаву бараду» жнейкі неслі гаспадару і ставілі на покуце. Зерне і каласкі з «барады» скарыстоўвалі на працягу года ў розных традыцыйных абрадах. Канец жніва сімвалізаваў сабою і хуткую змену надвор’я, таму невыпадкова гаварылі: «На трэцім Спасе трымай рукавіцы ў запасе». Не за гарамі была позняя восень, а там і Піліпаўскі пост – напярэдадні Каляд. [26, с.246]

На Лідчыне, як і паўсюдна на Беларусі, хрысціянскія вераванні цесна перапляліся з язычніцкімі; істотнай характарыстыкай любой рэлігіі з’яўляецца вера ў звышнатуральны свет, надпрыродны абсалют – Бога.

Выкладанне гісторыка-культурнай спадчыны павінна ажыццяўляцца з дапамогай  эфектыўных метадаў, прыёмаў, у спецыяльна арганізаваных формах навучання.

#### 4.2. ФОРМЫ АРГАНІЗАЦЫІ НАВУЧАННЯ

Скарбонка этнапедагагічных ведаў і агульнапрынятых ва ўсім свеце методык дыдактыкі і тэорыі выхавання дапамагаюць сучасным настаўнікам выбраць найбольш эфектыўныя метады, прыёмы, сродкі і формы правядзення заняткаў. Пад формай арганізацыі навучання разумеюць спецыяльна арганізаваную дзейнасць настаўніка і вучняў, якая ажыццяўляецца ў пэўным парадку і ўстаноўленным рэжыме. Кожная арганізацыйная форма навучання адрозніваецца суадносінамі калектыўнага і індывідуальнага навучання, ступенню самастойнасці вучняў і спецыфікай кіраўніцтва з боку настаўніка.

Формы арганізацыі навучання могуць быць абсалютна розныя: індывідуальныя, групавыя, калектыўныя, самастойныя; традыцыйныя, такія як урок, лекцыя, семінар, чытанне дакладаў, рэфератаў, экскурсіі; формы могуць быць таксама і нестандартныя. Напрыклад: дыскусійны клуб для старшакласнікаў, выданне мясцовай газеты, арганізацыя навучання для бацькоў, стварэнне клубаў па інтарэсам, краязнаўчыя вандроўкі, розныя акцыі, стварэнне і распаўсюджванне ўласных метадычных распрацовак (фільмаў, аўтарскіх урокаў, камп’ютэрных праграм), педагагічныя майстэрні і інш. Цікава дзецям будуць і сустрэчы (як форма арганізацыі навучання), пад час якіх яны будуць удзельнічаць у гутарцы з ветэранамі, мясцовымі краязнаўцамі, літаратарамі, музыкантамі, дзеячамі культуры і мастацтва

Кожны занятак, нягледзячы на форму, у якой ён праводзіцца, павінен мець пэўную мэту, задачы (адукацыйныя, развіваючыя і выхаваўчыя), дакладна прадуманыя змест, метады і прыёмы навучання.

#### 4.2.1. Экскурсія

Адной з важнейшых крыніц узбагачэння зместу навучання з’яўляецца экскурсія. Нездарма ў народзе кажуць, што лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Пад час экскурсіі інфармацыя засвойваецца вучнямі значна глыбей, чым пры традыцыйным уроку ў кабінеце будынка адукацыйнай установы. Экскурсіі можна праводзіць на прадпрыемствы, у мясцовыя музеі, па шляхам «баявой славы», на агляд помнікаў

гісторыі, мастацтва, выстаў. Каб паспяхова правесці экскурсію, настаўніку трэба добра падрыхтавацца: загадзя пазнаёміцца з аб'ектам маршруту, распрацаваць дэтальны план, прадумаць арганізацыю дзейнасці вучняў па выкананні адукацыйных задач. Працягласць можа быць рознай: увесь вучэбны дзень, адзін урок або частка урока. Неаторыя экскурсіі могуць праводзіцца з дапамогай бацькоў, якія загадзя атрымліваюць адпаведныя кансультацыі і заданні ад настаўніка. У плане экскурсіі ўказваюцца тэма і мэта, аб'ект, парадак азнакамлення з ім (методыка), арганізацыя пазнавальнай дзейнасці навучэнцаў, сродкі, неабходныя для выканання задач, падвядзенне вынікаў экскурсіі. Методыка правядзення экскурсіі залежыць ад тэмы, мэты, узросту школьнікаў, іх развіцця, а таксама ад самога аб'екта экскурсіі.

#### 4.2.2. Фальклорна-этнаграфічная экспедыцыя

Вывучэнне мясцовага краязнаўства і традыцыйнай культуры беларусаў у цэлым немагчыма без фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі. Яна з'яўляецца абавязковай пры вывучэнні інтэграванага курса «Краязнаўства Лідчыны». Падчас экспедыцыі школьнікі наведваюць мясцовыя вёскі і мястэчкі, дзе знаёмяцца з матэрыяльнай і духоунай культурай, асаблівасцямі мясцовасці, праводзяць сустрэчы і перамовы з тутэйшымі краязнаўцамі, аматарамі даўніны, кіраўніком музея, выкладчыкамі раёна, гутараць з бабулямі і дзядулямі, даведваюцца пра тамашні фальклор і культурнае жыццё сучаснасці.

Асноўнай мэтай фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі з'яўляецца збор фальклорна – этнаграфічнага матэрыялу ў загадзя вызначаным населеным пункце (звычайна вясковым).

Важнае значэнне надаецца падрыхтоўчаму этапу да фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі. Неабходна пазнаёміцца з літаратурай па вывучанаму раёну. Веданне гісторыі дапаможа збіральніку задаваць такія пытанні сваім інфарматарам, каб яны нагадалі паданне, легенду, песню і г.д., у якіхадлюстраваны мясцовыя падзеі. Патрэбна таксама ведаць фальклорную і этнаграфічную літаратуру пра даследаваны раён. А веданне мясцовай гаворкі дазволіць больш дакладна занатоўваць творы.

Пад экспедыцыі важна матэрыяльнае забяспячэнне. Вучні павінны дэталёва падрыхтавацца, узяць сшыткі, карткі для запісаў, фотаапарты, дыктафоны, відэакамеры, каб быць гатовымі для раптоўнага запісу інфармацыі.

Неабходна выкарыстоўваць для выканаўцаў фармулёўку пытанняў, тэксты абрадавых песень падаваць разам з апісаннем абрадаў, высвятляць, як тая ці іншая песня называецца ў народзе: талочная, каравайная і г.д. Лепш запіс фальклорных твораў праводзіць у натуральным бытаванні (пад час калядных святаў, вяселля, хрэсьбінаў і інш.)

Калі запіс песень адбываецца пры выкарыстанні тэхнічных сродкаў, усяроўна неабходна весці паралельны запіс у сшытак. Нельга перабіваць ці спыняць выканаўцу пытаннямі, розныя ўдакладненні робяць у канцы. Таксама нельга «падпраўляць» мову ці змест запісанага, а занатоўваць так, як чуеш і прытрымлівацца дыялектных асаблівасцей; не выкарыстоўваць рускую мову пры запісе беларускага фальклору. Можна выкарыстоўваць фанетычную транскрыпцыю, ставіць адпаведныя націскі. Запісы на картках робяцца ў адпаведнасці з пэўнымі патрабаваннямі: дакладнасць (захаванне асаблівасцей мясцовай гаворкі; тлумачэнне незразумелых слоў і выразаў паводле выканаўцы; пастаноўка націску ў словах з нелітаратурным вымаўленнем; запісванне з голасу, а не пад дыктоўку), не дапускаецца ніякае дадумванне (лепш прапусціць).

Кожная запісаная фальклорная адзінка пашпартызуецца (указваецца год запісу, кім, дзе, ад каго – яго год і месца нараджэння, нацыянальнасць, веравызнанне, пісьменнасць, прафесія, жанр твору, заўвагі). Існуюць пэўныя асаблівасці апісання розных жанраў фальклору (песенных, празаічных, малых жанраў, дзіцячага фальклору, замоў, галашэнняў і інш. Пад час пашпартызацыі аб'ектаў матэрыяльнай культуры акрамя агульных звестак пра ўладальніка назвы, прызначэння прадмета, указваюцца памеры, матэрыял, інструменты, часткі канструкцыі, з якіх ён выраблены.

Пасля экспедыцыі гэтыя працы (карткі) сістэматызуюцца, уваходзяць у газету ці часопіс, якія павінны быць падрыхтаваны самімі вучнямі (даследчыкамі). Свае працы, запісы, дзеці апрацоўваюць, робяць даклады, рэфераты, выконваюць творчыя заданні, а затым прадстаўляюць іх на выніковай канферэнцыі ці іншым мерапрыемтве, мэтай якога з'яўляецца падвядзенне вынікаў працы фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі [29, с.2].

Настаўнік заўсёды павінен стымуляваць актыўнасць, творчасць вучняў, быць талерантным і тактычным, стымуляваць ініцыятыву, ствараць добразычлівую атмасферу.

#### 4.2.3. Выніковыя заняткі

Павышэнню цікаўнасці да вучэбнага матэрыялу, стварэнню свабоднай і спрыяльнай атмасферы для творчага раскрыцця вучня спрыяе гульнёвая дзейнасць, якая асабліва важнай і неабходнай з'яўлеццца для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. У гульні ёсць два абавязковыя кампаненты: правілы і забаўляльная накіраванасць. Яна садзейнічае разумоваму, псіхічнаму і фізічнаму развіццю паколькі напасрэдна шляхам імітавання, імправізавання, спабортніцтва і г.д. спрыяе засваенню сацыяльнага досведу, актывізацыі працаздольнасці, пазнаваўчай актыўнасці; дае магчымасць эмацыянальнай разгрукі і адпачынку. Выкарыстанне элементаў гульні карысна праводзіць на кожным уроку, асабліва гэта эфектыўна пад час выніковых заняткаў.

Выніковыя заняткі праводзяцца ў канцы раздзела, тэмы, усяго курса. Мэта – падвядзенне вынікаў, сістэматызацыя і праверка ведаў. Такія заняткі карысна праводзіць у нестандартнай форме. Напрыклад:

**Адкрыты мікрафон** – выказванні ўдзельнікаў па вызначанай праблеме і іх абгрунтаванне.

**Алімпіяда** – форма, якая выяўляе найбольш

здатных вучняў па пэўнаму прадмету.

**Аукцыён ведаў** (кірмаш) – веды з'яўляюцца лотамі і сродкамі плацяжу.

**Віктарына** – па прынцыпу «пытанне-адказ». Можа быць тэставай (з варыянтамі адказаў) і ў выглядзе турніру (туры праводзяцца «атакавеерам», калі адзін удзельнік (каманда) апытвае усіх астатніх; «абарона веерам» – адна каманда адказвае на пытанні ўсіх астатніх; «ланцужком»)

**Гульнёвая праграмма** – спалучэнне некалькіх этапаў (тураў) са сваімі правіламі або спалучэнне некалькіх гульняў.

**Канцэрт** – сцэнічная праграма, у якой асобныя нумары (вакальныя, танцавальныя, тэатральныя…) аб'яднаны ў цэласнае прадстаўленне.

**Конкурс** – праходжанне ўдзельнікамі розных іспытаў, у выніку чаго выяўляецца пераможца.

**Маскарад** – касцюмаваны баль, удзельнікі абараняюць кожную маску і вобраз.

**Суд** – для разгляду справы з некалькіх бакоў. Разгляд розных эпох з пункту гледжання сучаснасці.

**Цырымонія** – афіцыйнае мерапрыемства ўручэння прэмій, узнагарод і падзяк.

Урок нестандартнай формы можа праводзіцца таксама і ў выглядзе ранішніка, вячорак, КВЗ, турніру знаўцаў, фестывалю, пазнаваўчай эстафеты, а таксама ў розных інтэлектуальных і забаўляльных шоў, папулярных на тэлебачанні («Поле цудаў», «Свая гульня», «Народ супраць», «Што? Дзе? Калі?» і інш.). Цудоўна, калі на такіх мерапрыемствах прысутнічаюць не толькі самі ўдзельнікі, адміністрацыя школы, розныя настаўнікі і кіраўнікі гурткоў, але і бацькі, сваякі, родныя і блізкія навучэнцаў. Неабходна карэктна ацэньваць працы, дапускаць творчы рабочы шум на занятках, дазваляць кожнаму вучню самавыяўляцца, не дзяліць дзяцей на таленавітых і неталенавітых, ствараць творчую, свабодную і добразычлівую атмасферу.

Заняткі павінны быць скіраваны на самарэалізацыю асобы, магчымасць праявіць свае ідэі, светапогляд, стымуляваць да самаўдасканалення, садзейнічаць фармаванню ў вучняў унутраных матываў навучання, а таксама спрыяць атрыманню асабістай асалоды і задавальнення ад працэсу вучэбнай дзейнасці. Разнастайнасць форм арганізацыі навучання садзейнічае перакананню дзяцей у тым, што крыніцай пазнання з'яўляецца не толькі кніга, слова настаўніка, але і навакольная рэчаіснасць – прырода, матэрыяльная культура, грамадскае жыццё.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

*Сыдуць дайнаўцы з стагоддзяў бязмежных,*
*У душах ўнукаў дзяды збудзяць рух,*
*Зродзіць сталіцу тут наш незалежны,*
*Наш беларускі нязломлены дух.*

*С. Суднік.*

Сёння, у часы папулярызацыі масавай псеўдакультуры з яе ярка выражанай бездухоўнасцю, жорсткасцю, скіраванасцю да матэрыяльных даброт і фальшывых ісцін, трэба ўзважана аднесціся да пераймальніцтва чужых набыткаў. Здаўна вядома, што пры фармаванні кроны дрэва трэба беражліва абыходзіцца з кожнай галінкай, хаця асобныя можна і абрэзаць, і ніяк недапушчальна абсякаць карані.

У нашай краіне існуе шыкоўны, шматбаковы матэрыял па мясцоваму краязнаўству, фальклору. Сёння наспела неабходнасць у поўнай меры выкарыстаць яго ў асвеце. Уключэнне краязнаўства ў вучэбную праграму з'яўляецца сродкам вырашэння праблемы страчвання сваёй спадчыны. У нашай краіне назапашаны шыкоўны матэрыял па краязнаўству. Надышоў час для яго карыснага прымянення ў асвеце.

Праграма курса «Краязнаўства Лідчыны» павінна спрыяць паглыбленню ведаў вучняў пра край, дзе яны нарадзіліся, фармаваць асобу грамадзяніна, адказнага за лёс сваёй краіны, выхоўваць пачуццё нацыянальнай годнасці і беражлівых адносін да здабыткаў Бацькаўшчыны.

Праграма курса мае ўніверсальны характар: яе можна ажыццяўляць пры вывучэнні асобных прадметаў (гісторыя, літаратура і г.д.), у спецыяльным курсе, а таксама на факультатыўных занятках і ў гуртку. Яе можна удакладняць і дапаўняць у сувязі з канкрэтнымі мясцовымі ўмовамі і асаблівасцямі. Сярод форм арганізацыі навучання вялікая роля надаецца экскурсіі і фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі, як найбольш эфектыўным.

Праграма курса «Краязнаўства Лідчыны» складаецца з трох раздзелаў, кожны з якіх знаёміць вучняў з карыснай інфармацыяй пра Лідскі край у кантэксце нацыянальнай гісторыі і культуры.

Першы раздзел «Гісторыя вывучэння Лідскага краю» прапаноўвае звесткі пра даследчыкаў мінулага, гісторыю разнастайных публікацый пра Лідчыну. Навучэнцам будзе карысна пазнаёміцца з сучаснымі краязнаўцамі, якія, жывуць у адной мясцовасці з імі, а, магчыма, і на адной вуліцы. Прыкладам сваёй дзейнасці яны будуць стымуляваць навучэнцаў да творчай, пошукава-даследчай працы, свядомага вывучэння курса.

Любіць край, дзе нарадзіўся і вырас, нельга без ведаў аб гісторыі Бацькаўшчыны. Таму другі раздзел «Зямля нашых продкаў» знаёміць вучняў з гістарычным мінулым Лідчыны ад часоў глыбокай старажытнасці да падзей сучаснасці ў цеснай узаемасувязі з гістарычным лёсам Беларусі. Гарманічна дапаўняе яго трэці раздзел «Культурная спадчына Лідчыны», якая змяшчае тэмы пра матэрыяльную і духоўную культуру гэтай зямлі, знаёміць з архітэктурай Лідчыны і славутымі лідзянамі.

Культуру ўмоўна падзяляюць на матэрыяльную і духоўную. Гэты падзел робіцца хутчэй у мэтах зручнасці даследавання. У жывой народнай культуры такога падзелу не існавала. Штоб ні ствараў чалавек – храмы, жыллё, бытавыя рэчы, адзенне і таму падобнае – гэта быў працоўны і асветлены духоўна творчы працэс. Разнастайныя рукатворныя рэчы – ад помнікаў архітэктуры да бытавых дробязей – гэта сакральны скарб, які зберагае інфармацыю пра тое, як жыў чалавек,

чым цікавіўся, якімі былі яго густ, ўяўленні пра свет, вераванні, майстровыя навыкі.

Лідчына – прыгожы старадаўні край з багатымі гісторыка-культурнымі традыцыямі, мінулым. Нягледзечы на дастаткова вялікую колькасць разнастайных крыніц, гэта зямля захоўвае яшчэ шмат таямніц, якія павінны быць адкрыты намі і нашымі патомкамі. У нашай краіне не павінна застацца ніводнай цёмнай плямы, бо народ без ведаў пра мінулае, яго станоўчы і адмоўны досвед не мае будычыні.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік / Рэдкал. А. А. Воінава, А. А. Дылейка, А. М. Кавалеўская. Мн., 1993.
2. Дементьева Т. П. Методические рекомендации по проведению экскурсий со школьниками. М., 1973.
3. Беларусы.Т.3: Гісторыя этналагічнага вывучэння. Мн., 1999.
4. Беларуская савецкая энцыклапедыя. Мн., 1989.
5. Беларуская міфалогія / Уклад. У. А. Васілевіч. Мн., 2001.
6. Варфаламеева Т. Б. Ад родных ніў // Наша слова. 2006. № 30 (766).
7. Васілевіч У.А. Збіральнікі. Мн., 1991.
8. Васілевіч У. А. Панна Бірута // Краязнаўчая газета. 2006. № 33 (146).
9. Вывучэнне і збор матэрыялаў па этнаграфіі роднага краю / Уклад. П. І. Дудзінскі. Мн., 1999.
10. Вяселле. Песні ў шасці кнігах. Кн.1 / Скл. Л.А.Малаш. Мн., 1980.
11. Галенка А. Мы і наша спадчына // Наша слова. 2004. № 20.
12. Гродзеншчына ў легендах і паданнях / Укл. А. Ненадаўца. Мн., 1999.
13. Гульні, забавы, ігрышчы / Склад. А. Ю. Лозка. 2-е выд. Мн., 2000.
14. Жалкоўскі А. Радасць творцаў агульная // Наша слова. 1998. 30 верас.
15. Жалкоўскі А. Знакамітыя землякі // Прынёманскія весці. 2000. 30 ліст.
16. Жартоўныя песні / Скл. І.К.Цішчанка. Мн., 1974.
17. Живописная Россия. Т.3 / Рэд. П. П. Семёнов. М., 1982.
18. Жучкевіч В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн.,1974.
19. Каранюк Т. А. Вуліцамі Ліды // Падарожнік. 1997. №1.
20. Камарова Ж. Здані Лідскага замка // Переходный возраст. 1999. №7.
21. Князева В. Падарожжа па Беларусі. Гарады і гарадскія пасёлкі. Мн., 2005.
22. Краязнаўчая адукацыя і грамадзянскае выхаванне: матэрыялы Рэсп. навук.-метад. канф. / Рэдкал. М. М. Круталевіч, А.С. Васілеўская, А. Ю. Лозка. Мн. БДПУ, 2006.
23. Кулеш А. Ф. Исторические символы Лиды // Оникс. 1997. №3.
24. Кулеш А. Ф. Горад Ліда: гісторыя, легенда, факты. Папулярны гісторыка-геаграфічны нарыс. Ліда, 1994.
25. Летапіс ТБШ / Рэд. А. Лозка. 2005, № 2 (10).
26. Лідскі летапісец // краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс, 1997 -2006.
27. Лида. Историко-экономический очерк / Рэдкал. В. П. Верхось, Н. И. Попова. Мн., 1976.
28. Лида и окрестности. Справочник туриста. Мн., 2004.
29. Лозка А. Методыка кіравання фальклорным калектывам. Мн.: ТБШ, 2006.
30. Лучыц Л. Старонкі нашай гісторыі // Лідская газета. 1999. 4 лістап.
31. Мешечко Е. Н. Географическое краеведение. Мн., 2002.
32. Нарбут Т. Трохі з гісторыі горада Ліды // Старажытная гісторыя літоўскага народа. Т. 1. Вільня: 1839.
33. Наш радавод. З гісторыі Лідчыны / Уклад. А. У. Богуш. Кн. 6. Ліда, 1994.
34. Подласый. Педагогика 100 вопросов - 100 ответов. М.: Владос-пресс, 2001.
35. Памяць. Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Ліда. Лідскі раён. Мн., 2004.
36. Рожденственская М. И. Содержание и методы этнографической работы школьников: метод. пособие. М.,1988.
37. Руселевич Р. Наш город, наши люди // Оникс. 1997. №1.
38. Савук А. Лідскі вайсковы аэрадром // Лідскі летапісец. 2002. № 2(18). С. 17 – 22.
39. Саламевіч Я. Даследчыца беларускага фальклору // Полымя. 1969. №11.
40. Самсонаў У. Славіцца Ліда талентамі // Гродзенская праўда. 2004. 29 студз.
41. Сацыяльна-бытавыя песні / Скл. І.К. Цішчанка, В.І.Скідан. Мн., 1987.
42. Сліўкін В. Заснаванне Ліды // Лідскі летапісец. 1997. №1. С.7-9.
43. Сліўкін В. В., Хацяновіч Н. А. З гісторы перыядачнага друку // Лідскі летапісец. 1999. № 3. С. 12-13.
44. Сліўкін В. В. Урбанонімы горада Ліды // Лідскі летапісец. 2002 – 2003. №1- №2.
45. Сліўкін В., Суднік. С. Лідзе – 680 гадоў // Лідскі летапісец. 2003. № 1 (21). С. 8-10.
46. Сліўкін В. В. Лідскае падполле. Хроніка супраціву // Лідскі летапісец. 2004. № 3-4. С. 27-28.
47. Сліўкін В. Хрысціянства на Лідчыне // Лідскі летапісец. 2001. № 1(13). С. 11–17.
48. Сливкин В. В. В поисках утраченного // Советская Белоруссия. 2005. 11 июня.
49. Суднік С. Дайнава – забытае княства, забыты народ // Лідскі летапісец. 2002 № 2 (28). С. 28-30.
50. Суднік С. Этнаграфічнае вывучэнне Лідчыны ў XIX – XX стагоддзях // Лідскі летапісец. 2002. № 2 (14). С. 331-35.
51. Таюрская Г. М. Гісторыя Ліды. Гр., 1997.
52. Трусаў А. А. Старадаўніх муроў адраджэнне: мінулае і сучаснасць Лідскага замка. Мн, 1990.
53. Хотянович Н. А. Из истории Лидской периодической печати // Оникс. 1999. № 4.
54. Цітоў В. С. Этнаграфічная спадчына. Беларусь. Традыцыйна-бытавая культура. Мн., 1997.
55. Чарапіца В. М. Са скарбніцы кніжных паліц. Мн., 1981.
56. Шкодзіч Н., Літвіновіч А.Ф., Суднік С. Этнаграфічнае вывучэнне Лідчыны ў XIX – XX стагоддзях // Лідскі летапісец. 2001. № 2(14). С. 31 – 35.
57. Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989.
58. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6-ці тамах. Мн., 1993-1996.
59. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5-ці тамах. Мн., 1984-1987.
60. Энгелькінг Г. “Бог адзін, вер многа”: з этнаграфічных даследванняў на Гарадзеншчыне // Лідскі летапісец. 2001. № 3 (15). С. 32 – 36.
61. Юркевіч І. Астрынскі прыход Віленскай губерні Лідскага павету. Пераклад з рус. Б. Блакіта // Полымя. 2002, № 2.

**Ібрагім Канапацкі**

# Ях’я Гямбіцкі – лідар адраджэння беларускіх татараў

У сакавіку 1933 г. у Менску органамі АДПУ была арыштавана група татарскіх і беларускіх інтэлігентаў, якія абвінавачваліся па сумнавядомых артыкулах 72 і 76 Крымінальнага кодэксу БССР (антысавецкая агітацыя і прапаганда, удзел у контррэвалюцыйных органах). У абвінаваўчым заключэнні па справе № 35137 “Аб контррэвалюцыйнай татарскай арганізацыі ў Менску” адзначалася: *“Асобым аддзелам ППАДПУ БССР ліквідавана контррэвалюцыйная нацыяналістычная татарская групоўка, якой кіраваў былы падпалкоўнік царскай арміі Гямбіцкі Іван Канстанцінавіч (Ях’я Хасеневіч). У склад групоўкі ўваходзілі Мурза-Мурзіч Ібрагім Халільевіч, былы банкаўскі работнік г. Кіева, які працаваў кантралёрам Менскай канторы дзяржбанка, Рызвановіч Хасень Іосіфавіч, былы судовы следчы, які працаваў у Галоўміліцыі БССР, Дашкевіч Іосіф Сямёнавіч, бухгалтар Соцзембанка, Даўгяла Дзмітры Іванавіч, навуковы работнік, Мухля Ібрагім Аляксандравіч, бухгалтар аб’яднання татарскіх органаў, у мінулым – чыноўнік казённай палаты (у момант арыштаў яму ўдалося выехаць у Кіеў). Былі таксама арыштаваны па справе № 35137 “Аб контррэвалюцыйнай татарскай арганізацыі ў Менску” Біцютка Сулейман Якаўлевіч, былы палкоўнік царскай арміі, а таксама браты Якуб і Аляксандр Багдановічы, але апошнія ў ходзе следства былі апраўданы”**.

Арыштаваныя І. Х. Мураза-Мурзіч і Х. І. Рызвановіч прызналі сябе вінаватымі ў прад’яўленым ім абвінавачванні. Я. Х. Гямбіцкі і І. С. Дашкевіч не прызнавалі сябе вінаватымі, але, як сказана ў абвінаваўчым заключэнні, *“достаточно изобличаются показаниями И. Х. Мурзы-Мурзича, Х. И. Ризвановича и свидетеля (даносчыка – И. К.) С. М. Хотеновича, целиком подтвердившим показания Мурзы-Мурзича и Ризвановича”***.

У адносінах да гісторыка Д. І. Даўгялы матэрыял крымінальнай справы быў вылучаны асобна. Матэрыял на І. А. Мухлю быў накіраваны ў Кіеўскі абласны аддзел АДПУ. 11 траўня 1933 г. усім арыштаваным было даведзена абвінаваўчае заключэнне. Я. Гямбіцкі і І. Х. Мурза-Мурзіч абвінавачваліся ў тым, што *“путём систематической контрреволюционной агитации создали контреволюционную националистическую татарскую группировку с последующим распределением своего влияния на татарскую колонию г. Минска, для создания контрреволюцыонной националистической организации ставя своей целью свержение Советской власти и установление республиканско-демократического строя”*. Х. І. Рызвановіч і І. С. Дашкевіч абвінавачваліся ў тым, што *“состаяли в контрреволюцыонной националистической татарской группировке, ставившей своей целью свержение Советской власти и установление республиканско-демократического строя”****. Іх крымінальная справа была накіравана для “внесудебного рассмотрения” тройкай ППАДПУ БССР. Паводле рашэння тройкі ад 13 траўня 1933 г. усе яны былі асуджаны на тры гады высылкі ў Казахстан****.

Сёлета аднаму з выдатных дзеячаў беларускіх татар, гісторыку Ях’і Хасенавічу Гямбіцкаму споўнілася б 126 гадоў.

Я. Х. Гямбіцкі нарадзіўся ў чэрвені 1883 г. у **г. Лідзе** Віленскай губерні. У пратаколе допыту Я. Х. Гямбіцкага ад 16 сакавіка 1933 г. у раздзеле “Паходжанне (адкуль родам, хто бацькі, нацыянальнасць, грамадзянства або падданства) маецца яго ўласнаручны запіс: *“Беларускі татарын, грамадзянін СССР, бацькі як і ўсе беларускаія татары лічыліся дваранамі. Бацька мой меў дом у м. Гарадзішча Менскай губерні, які прадаў. Маці жыла ў аколіцы Якушы Ашмянскага ўезда Віленскай губерні, мела надзел зямлі (7 дзесяцін). Але бацька не гаспадарыў на зямлі, а ўвесь час жыў у г. Трокі Віленскай губерні, дзе працаваў уездным воінскім начальнікам, а затым быў пераведзены ў г. Сувалкі. Дзякуючы службоваму становішчу бацькі я быў залічаны ў Полацкі кадэцкі корпус, дзе вучыўся бясплатна”******.

Сям’я, як адзначае Я. Гямбіцкі, заўсёды жыла бедна. Таму для паляпшэння матэрыяльнага становішча займалася агародніцтвам, што дазваляла даць неабходную адукацыю дзецям. Пасля заканчэння ў 1890 г. кадэцкага корпуса Я. Гямбіцкі паступіў у Міхайлаўскую артылерыйскую навучальню (скончыў у 1902 г.) Быў накіраваны малодшым афіцэрам у 26-ю артылерыйскую брыгаду ў г. Гародню, а ў 1908 г. быў пераведзены служыць в г. Вільню. Знаходзячыся на вайсковай службе, ён уступае ў таварыства ўзаемадапамогі татараў, выбіраецца ў склад рэвізійнай камісіі таварыства. У Вільні ён сустракаецца з прадстаўнікамі тутэйшых татараў, сябруе са старшынём рэвізійнай камісіі таварыства Альгердам Крычынскім. Ад яго даведваецца, што брат Альгерда Крычынскага, Лявон,

* Архіў Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі Рэспублікі Беларусь (далей: Архіў КДБ), спр. 31371-с, арк. 63-69.
** Там жа, спр. 31371, арк. 126-129.
*** Там жа, арк. 63-69.
**** Там жа, арк. 126-129.
***** Там жа, арк. 36.

вывучае гісторыю літоўскіх татараў, бывае разам з маці, братам і сёстрамі ў сем'ях Ахматовічаў, Карыцкіх і Крычынскіх*.

У час лютаўскай рэвалюцыі Ях'я Гямбіцкі прымае ўдзел у фармаванні батарэі г. Рэвеля. Яго батарэя першая далучаецца да рэвалюцыйных маракоў. Я. Гямбіцкаі абіраецца камандзірам артылерыйскай батарэі 107-га асобнага артылерыйскага дывізіёна. У гэты ж час па просьбе татараў Рэвеля ён арганізуе таварыства ўзаемадапамогі татараў, якое пераўтварыў пасля рэвалюцыі ў палітычную арганізацыю па абароне палітычных правоў татараў у Эстоніі і аб'яднаў іх з такім жа таварыствам яўрэяў.

Пасля таго, як артдывізіён быў разбіты на востраве Эзель, частка яго, што не пажадала здацца ў палон немцам, прарвалася да мора і пераплыла на суседні востраў Маон. Пасля няўдалай спробы арганізацыі абароны вострава Маона рэшткі дывізіёна былі перавезены на лодках паміж двух варагуючых флотаў на сушу. Адтуль яны дабраліся да бліжэйшай чыгуначнай станцыі і цягнікам да Рэвеля. Па распараджэнні каменданта цвердзі яны былі накіраваны фармавацца ў г. Лугу пры запасным артылерыйскім дывізіёне. Я. Гямбіцкі ўзгадвае, што склад разбітага 107-га артылерыйскага дывізіёна быў рознародным. Большасць яго была схільная па сваіх палітычных перакананнях да партыі сацыял-рэвалюцыянераў (эсэраў). Але запасны артылерыйскі дывізіён, пры якім знаходзіўся разбіты 107-ы дывізіён, быў увесь на баку партыі бальшавікоў. На агульным сходзе прадстаўнікі камітэтаў частак войск прынялі рашэнне выконваць загады партыі і, у першую чаргу, ахоўваць склады боепрыпасаў і не выдаваць іх іншым злучэнням, якія падпарадкоўваліся Часоваму Ураду. Роля дывізіёна Я. Гямбіцкага заключалася ў праверцы пастоў і правільнасці нясення вайсковай службы**.

Вясною 1918 г. 107-му артдывізіёну было прапанавана або перафармавацца ў Чырвоную Гвардыю, або расфармавацца. Па рашэнні агульнага сходу артдывізіён быў расфармаваны. Пасля гэтага Я. Гямбіцкі прыязджае ў Маскву, дзе лечыцца ад кантузіі і лечыць вочы. Затым паступае на цывільную службу ў Маскоўскае аддзяленне Дзяржкантролю. Прапанаванае яму прызначэнне на новае месца службы камандзірам супрацьсамалётнай батарэі ў Маскве не адбылося па прычыне адсутнасці матэрыяльнай часткі батарэі.

У студзені 1919 г. Я. Х. Гямбіцкі быў прызваны ў Чырвоную Армію і ў лютым прызначаны памочнікам камандзіра артылерыйскага дывізіёна Заходняй стралковай дывізіі. Але летам артдывізіён быў расфармаваны, і яго прызначылі для даручэнняў пры камісары Штаба абароны і аховы чыгунак Рэспублікі з пасяленнем у адзін з батальёнаў войск аховы чыгункі.

Пасля смерці маці Ях'я Гямбіцкі просіцца аб пераводзе яго на фронт і хутка быў прызначаны для даручэнняў пры 27-й брыгадзе аховы і абароны чыгунак, якая знаходзілася ў г. Чалябінску.

Прыбыўшы ў Чалябінск, Ях'я Гембіцкі па распараджэнні штаба 5-й арміі і ўзгаднені з Л. Троцкім, як артылерыйскі спецыяліст, прызначаецца памочнікам начальніка курсаў штаба 5-й арміі, якія знаходзіліся ў г. Міясе, а затым загадчыкам вучэбнай часткі 1-х Сібірскіх артылерыйскіх курсаў, якія пры яго непасрэдным удзеле былі сфармаваны і ўзорна пастаўлены. У 1920 г. кавалерыйскія курсы былі пераведзены ў г. Бійск пад новай назвай – 8-я Сібірскія кавалерыйскія курсы. Ях'я Гямбіцкі быў прызначаны памочнікам начальніка курсаў па вучэбна-шыхтовай частцы, старшынём культурна-асветнай камісіі і адказным распарадчыкам дзіцячага дома пры курсах.

*"У той час,* – піша Я. Гембіцкі ў паказаннях на допыце 16 сакавіка 1933 г., *- я асабліва адчуў недастатковасць падрыхтоўкі для займання пасады кіраўніка вучэбнай і палітычнай падрыхтоўкі курсантаў, таму вырашыў вучыцца далей"****. У Бійску паміраюць дзве сястры Я. Гямбіцкага, і ён прымае рашэнне вярнуцца ў Менск, бо даведваецца паводле газетных паведамленняў аб адкрыцці там універсітэта. Дзякуючы садзеянню шэфа курсаў, Бійскага гаруезднага выканкама ён прызначаецца камендантам цягніка бежанцаў, які накіроўваўся ў Менск. Пры ад'ездзе з Бійска Я. Гямбіцкі атрымаў ад шэфа кусаў за *"пасляховую работу курсаў па адукацыі і выхаванні доблесных чырвоных камандзіраў"* ганаровы адрас, які быў занесены ў паслужны спіс Я. Гямбіцкага****. Упраўленне вайскова-вучэбных устаноў перавяло Ях'ю Хасенавіча выкладчыкам артылерыі і матэматыкі 21-х Менскіх кавалерыйскіх імя ЦВК курсаў. На гэтай пасадзе ён працаваў з 1922 па 1932 гг. да перафармавання курсаў і выхаду ў адстаўку. Адначасова вясною 1923 г. Я. Х. Гямбіцкі, скончыўшы пасляхова бухгалтарскія курсы, пачаў працаваць бухгалтарам Наркамзема. Увосень гэтага ж года ён паступіў на факультэт грамадскіх навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта, на аддзяленне эканомікі. Затым пасля ліквідацыі факультэта быў пераведзены на грамадска-эканамічнае аддзяленне і ў 1927 г., скончыў сацыяльна-гістарычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.*****

Яшчэ будучы студэнтам універсітэта, Я. Гямбіцкі праяўляў вялікую цікавасць да айчыннай гісторыі. Яго навуковая праца "Гісторыя валочнай памеры ў Бабруйскім старостве ў XVII ст." была змешчана ў часопісе "Наш край". З 1926 г. ён пачаў працаваць у Гістарычным класе Інстытута беларускай культуры і распрацоўваць "кітабы" – беларускія тэксты, пісаныя арабскім алфавітам, напісаў артыкул "Даследаванне аль-кітабаў".

Але скончыўшы ў 1927 г. сацыяльна-гістарычнае аддзяленне педфака БДУ, ён не атрымаў пасады настаўніка *"з прычыны несправядлівай пастановы*

* Архіў Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі Рэспублікі Беларусь (далей: Архіў КДБ), спр. 31371-с, арк. 63-69.

** Там жа, спр. 31371, арк. 126-129.

*** Там жа, арк. 63-69.

**** Там жа, арк. 126-129.

***** Там жа, арк. 36.

*Камісіі, якая размяркоўвала пасады"**.

У лісце да Народнага камісара асветы БССР А.В. Баліцкага 24 кастрычніка 1928 г. Я.Х. Гямбіцкі паведамляў, што *"пасля высвятлення прычын такога рашэння інспектар школ Соцвыха т. Мазур сказаў мне, што гэта была памылка і, калі я знайду ў Менску пасаду настаўніка грамадазнаўства, то ён прызначыць мяне, а пакуль што я буду лічыцца кандыдатам на гэтую пасаду. Нягледзячы на тое, што я некалькі разоў даведваўся ў працягу года, замест абяцанай пасады я атрымаў адказ інспектара, што пасад для мяне ізноў няма. Такім чынам я ізноў павінен працаваць рахункаводам, каб мець магчымасць існаваць. "Воўчы білет", які быў дадзены мне ў мінулым годзе, як відаць, існуе і цяпер. Нягледзячы на перагляд маёй справы ў мінулым годзе і ўпэўненні т. Мазура, што пастанова Камісіі ў адносінах да мяне знішчана. З гэтым становішчам я не магу згадзіцца і, як камандзір пераменнага складу штаба Беларускай Стралковай дывізіі з адказнаю пасадаю, і як камандзір Чырвонай Арміі, які мае ганаровы адрас шэфа вайсковай школы за сваю службу загадчыкам навучальнай часткі школы, кіраўніком культурна-асветнай працы і адказным кіраўніком дзіцячага дому пры школе"***.

У гэтым жа лісце Я. Гямбіцкі паведамляў, што з 1927 г. яго прызначылі на пасаду пазаштатнага аспіранта пры Гістарычным класе Інбелкульта, але без стыпендыі, што не давала яму ў поўнай меры весці навуковую падрыхтоўку і складаць сваю працу "Гісторыя беларускіх татар". Я. Х. Гямбіцкі звяртаўся ў Прэзідыюм Акадэміі навук аб прызначэнні яго ў штат і паведамляў, што Гістарычны клас аднагалосна пастанавіў прасіць Прэзідыюм аб прызначэнні яго на гэтую пасаду. Але Прэзідыюм Акадэміі меў намер адмовіць яму ў гэтай просьбе па той толькі фармальнай прычыне, што ўзрост яго быў большым за 35 гадоў. Урэшце, гэтае пытанне канчаткова павінен быў вырашыць Прэзідэнт Акадэміі У. М. Ігнатоўскі. Напрыканцы ліста Я. Гямбіцкі звяртаў увагу наркама асветы на тыя бязвыхадныя ўмовы, у якія ён бязвінна пастаўлены і прасіў яго садзейнічання аб прызначэнні яго на службу ў Акадэмію, падкрэсліўшы, што ён *"з'яўляецца адзіным працаўніком па вывучэнні культуры беларускіх татар, цікавая гісторыя якіх зусім злучаецца з гісторыяй Беларусі"****.

Але пытанне гэтае не было станоўча вырашана, пра што сведчыць наступны ліст Я. Х. Гямбіцкага ў Гістарычны клас Інбелкульта ад 12 снежня 1928 г. Я. Х. Гямбіцкі працягваў завочна вучыцца ў асірантуры****. У Цэнтральным навуковым архіве Нацыянальнай Акадэміі навук намі знойдзена "Праграма для аспіранта Гямбіцкага, складзеная яго навуковым кіраўніком – прафесарам А. Ясінскім". *"Принимая во внимание, что гр. Гембицкий решил свои труды посвятить татарской истории,* - пісаў А. Ясінскі, - *я находил бы желательным, чтобы он ознакомился с некоторыми работами общего содержания"*. Для аспіранта быў складзены бібліяграфічны ўказальнік літаратуры аб татарах***** . З просьбай выпісаць гэтую літаратуру Я. Х. Гямбіцкі звяртаўся ў Дзяржаўную Цэнтральную бібліятэку. Я. Х. Гямбіцкі ліставаўся па праблемах гісторыі і культуры мусульманскіх народаў з акадэмікам І. Ю. Крачкоўскім, сустракаўся з акадэмікам Я. Марам, спрабаваў паступіць на вучобу ў Пецярбургскі інстытут усходазнаўства******.

У 1929 г. у "Запісках аддзела гуманітарных навук" Беларускай Акадэміі навук быў змешчаны грунтоўны артыкул Ях'і Гямбіцкага "Да пытаньня аб сацыяльна-эканамічным стане беларускіх татар у сярэднявеччы"*******. Для яго напісання аўтар выкарыстаў у поўнай меры як першакрыніцы, так і навуковыя працы беларускіх, расійскіх і польскіх даследчыкаў: А. Мухлінскага, М. Доўнар-Запольскага, І. Лапо, Л. Барташэвіча, А. Крумана. А. Кіркора, У. Сыракомлі ды іншых.

Я. Гямбіцкі паспрабаваў вызначыць колькасць і племянны склад татарскага насельніцтва ў першыя дзесяцігоддзі іх асадніцтва на землях ВКЛ. Ён упершыню ў беларускай гістарыяграфіі ўказаў на сацыяльны падзел татар, аселых у Беларуска-Літоўскай дзяржаве, падкрэсліўшы, што ён амаль супадаў з пленянным. Я. Гямбіцкі ўмоўна падзяліў усіх татар на тры групы: 1) вышэйшая група, самая малая па колькасці, складалася з царэвічаў і князёў ці бекаў ханскіх родаў; 2) другая група, больш шматлікая, складалася з мурз, уланаў і юшынаў. Гэта была прывілеяваная група ў сваіх ордах. Розныя вышэйшыя пасады ў войску належалі яе прадстаўнікам; 3) трэцяя, самая шматлікая група складалася з жаўнераў, якія наймаліся літоўска-беларускімі князямі, ці прысылаліся ханамі дзеля вайсковае дапамогі і заставаліся жыць у ВКЛ. Да гэтай групы Я. Гямбіцкі адносіў таксама татарскіх казакаў – галоўную масу добраахвотных асаднікаў і татар, што траплялі ў палон у часе войн. Татары, якія належалі да вышэйшае групы – царэвічаў і князёў ці бекаў надзяляліся ў ВКЛ дварамі і сёламі з падданымі. Уланы, мурзы і юшыны атрымлівалі пераважна двары і пусташы, але ў значна меншай колькасці, чым прадстаўнікі першай групы. Жаўнеры, добраахвотныя асаднікі і палонныя татары ў валасцях атрымоўвалі такія надзелы зямлі, прыбытак з якіх мог задаволіць, як лічыць аўтар, толькі сціплыя запатрабаванні іх жыцця. Палонным татарам, асаджаным пераважна ў гарадах і мястэчках, давалася зямля пад сядзібы і агароды. Спасылаючыся на працу І. І. Лапко "Великое княжество Литовское за время от заключения

* Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НА РБ), ф. 42, воп. 1, спр. 1945, арк. 45.

**Там жа, арк. 45-45 адв.

*** Там жа, арк. 45 адв.

**** Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі (далей: ЦНА НАНБ), ф. 67, арх № 22, арк. 252, 252-адв.

***** Там жа, арк. 251, 251-адв.

****** Архіў КДБ, спр.31371-с, арк. 37.

******* Запіскі аддзелу гуманітарных навук, кніга 8. працы клясы гісторыі, т. III, Менск 1929, сс. 53-64.

Люблинской унии до Стефана Батория (1569-1586)" Я. Гямбіцкі сцвярджаў, што татары надзяляліся зямлёй, якая была вызвалена ад падаткаў і спагнанняў. Царэвічы і князі, ці бекі, як і татарскія казакі, атрымлівалі двары ў спадчыннае ўладанне,а сёлы ў леннае. Уланам, мурзам і юшынам двары і сёлы даваліся толькі ў леннае ўладанне. Простыя татары, асаджаныя ў валасцях, атрымоўвалі свае надзелы зямлі таксама ў леннае ўладанне. Татары, атрымаўшыя зямлю, былі абавязаны несці татарскую земскую службу. У выпадку абвяшчэння "паспалітага рушэння", усе яны павінны былі з'яўляцца на вайну ўзброенымі, на конях і служыць без пенсіі. Толькі палонныя татары, асаджаныя на мястэчках і гарадах, мелі права не ісці на вайну. Карыстаючыся гэтымі правамі, яны раўняліся з мяшчанамі і неслі аднолькавыя з імі абавязкі. Калі ж яны добраахвотна ішлі на вайну, то карысталіся правамі шляхты і атрымоўвалі ў часе вайны, як і татарскія казакі, пенсію.

Татары неаднаразова даводзілі на войнах сваю адданасць дзяржаве. Ях'я Гямбіцкі ў пацвярджэнне гэтага прыводзіць наступны прыклад. У 1508 г., калі заволжкія татары зрабілі напад на Беларуска-Літоўскую дзяржаву і заклікалі татар, аселых у гэтай дзяржаве, злучыцца з імі, татары беларускія засталіся вернымі сваёй новай Радзіме і адказалі ім: *"Ні Бог, ні Прарок не загадваў вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за разбойнікаў, і перамагаючы вас нашаю шабляю, забіваем гультаёў, а не братоў нашых. Сядзіце за Волгай, пакуль другія орды вас не выгналі. Каля Акі мы будзем ліць нашу кроў за ліцвінаў, якія прынялі нас як братоў"*.

Ях'я Гямбіцкі даводзіць, што эканамічнае становішча татар было неаднолькавым: татарскія царэвічы і князі валодалі буйнымі зямельнымі надзеламі і, па сваім становішчы, былі падобнымі да магнатаў. Уланы, мурзы, юшыны і татарскія казакі ўладарылі дварамі рознай велічыні падобна шляхце. Паселеныя ў валасцях простыя татары ледзьве маглі задаволіць свае самыя неабходныя запатрабаванні жыцця і апрача сельскай гаспадаркі павінны былі займацца гарбарствам і фурманствам. Эканамічнае становішча татар, асаджаных у гарадах і мястэчках, было яшчэ горшае – мужчынскае насельніцтва займалася фурманствам, дубленнем скур, апрацоўкай саф'яну і, часкова, гандлем з Перакопскім царствам (Крымам – І. К.), адкуль вывозілі соль і турэцкія вырабы – матэрыі, палотна, хусткі, ручнікі, паясы. Жанчыны займаліся агародніцтвам і гадоўляй кароў, авечак і коз. Пасол турэцкага султана, прысланы ў XVI ст. дзеля азнаямлення са становішчам татар у Беларуска-Літоўскай дзяржаве, быў здзіўлены беднасцю тых татар, якія жылі ў мястэчках і гарадах, асабліва пры параўнанні з багацце магнатаў.

Завяршаючы даследаванне стану беларускіх татар у сярэднявечны, Я. Гямбіцкі адзначае, што нягледзячы на племянную і эканамічную розн асць татар, усе яны аб'ядноўваліся тым, што жылі ў кожнай мясцовасці сумесна. Асады іх называліся "татаршчынамі". У справах паміж сабою, не злучаных з уладаннем зямлёю, яны карысталіся самакіраваннем, складалі асаблівае войска ў час вайны, а ў час мірнага стану выконвалі сумесна абрады мусульмнамскай веры, бо татары Залатой Арды прынялі мусульманскую рэлігію пры хане Беркане, наступніку хана Батыя ў 1256 г. З XVI ст. татары шырока карыстаюцца беларускай мовай, якая нават ужываецца ў рэлігійных справах. Гэта тлумачыцца тым, што з прычыны недахопу жанчын-татарак, урад Літвы дазволіў татарам жаніцца з ліцвінкамі-хрысціянкамі, пры ўмове захавання манагаміі. Дзеці ад шлюбаў з хрысціянкамі заставаліся ў веры свіх бацькоў (даследуючы гэтае пытанне, Я. Гямбіцкі звяртаўся да загадчыка бібліятэкі ў Ватыкане, прасіў паведаміць аб папскай буле, што дазваляла татарам жаніцца з хрысціянкамі, пакідаючы дзяцей мусульманамі, але атрымаў адмоўны адказ). Дзеля гэтага татары захавалі сваю веру, але ўжо ў XVI ст. гаварылі на беларускай мове. Больш заможныя з іх ведалі беларускую і польскую мовы. Асвета татар грунтавалася на рэлігіі. Найбольш адукаванымі з іх былі арабскія пісары, мулы ці імамы. Апошніх татары часткова запрашалі з Турэччыны і Перакопскага царства, дзе былі школы для вышэйшай багаслоўскай адукацыі. Па рэлігійных справах яны часта наведваліся ў Перакопскае царсва, дзе ў Акермане была галоўная асоба духавенства татар – муфцій. На думку Я. Гямбіцкага, татары, аселыя ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве, *"зрабіліся супакойнымі, зычлівымі абаронцамі новай Бацькаўшчыны і пераймалі звычаі насельніцтва, якое іх атачала"**.

Як вядома, 1920-я гады былі складаным перыядам у гісторыі Беларусі. Гэта быў час буйных пераўтварэнняў у эканамічным, сацыяльным і грамадскім жыцці рэспублікі, час ажыццяўлення палітыкі беларусізацыі, актыўнай працы з нацыянальнымі меншасцямі. У гэты перыяд дзяржаўнымі органамі Беларускай ССР рабіліся спробы нацыянальнага будаўніцтва сярод нацменшасцяў краіны. Толькі ў канцы 20-х гадоў гэтыя мерапрыемствы закранулі і беларускіх татар. Адной з прычын гэтага было тое, што шмат сродкаў патарабавала палітыка беларусізацыі і праца з больш буйнымі этнасамі: яўрэямі, палякамі, латышамі, літоўцамі і немцамі. Да таго ж мясцовае кіраўніцтва вельмі часта не надавала ўвагі малым этнічным групам. Уладу непакоіла таксама значная "непралетарская праслойка" сярод татар.

Ях'я Гямбіцкі неаднаразова звяртаўся ў Цэнтральную Нацыянальную Камісію пры ЦВК БССР і Нацыянальную Камісію пры Мінгарсавеце з просьбай арганізаваць культурна-асветніцкую работу сярод татар. У лісце ад 21 кастрычніка, названым "Задачы палітыкакультурнай работы сярод беларускіх татар" Я. Гямбіцкі адзначаў, што *"беларускія татары да сённяшняга часу не лічыліся ні нацменшасцю, ні асобнай этнагарфічнай групай, таму што не маюць галоўнай прыметы, неабходнай да прызнання іх за самастойную нацыю – сваёй асаблівай мовы. (...).*

*Але трэба прызнаць такі падыход у дадзеным выключным выпадку чыста фармальным : беларускія*

* Запіскі аддзелу гуманітарных навук, кніга 8. працы клясы гісторыі, т. III, Менск 1929, с. 56.

*татары маюць шматлікія асаблівасці, якія вылучаюць іх сярод астатняга насельніцтва Беларусі, і гэта даказваецца ўжо фактам самасвядомасці, што яны складаюць асаблівую нацыю, праявіўшую выключную трываласць, нягледзячы на тое. што яны перасталі размаўляць на татарскай мове і ніколі не былі фанатыкамі ў пытаннях іх рэлігійнага культу. Прычыны гэтага трэба шукаць у тым, што яны жывуць кампактнымі масамі, займаючы асобныя часткі населеных пунктаў, цесна звязаны паміж сабою эканамічна, кроўным сваяцтва, нацыянальнымі паданнямі і абрадамі, якія складаюць іх гістарычную спадчыну. Па перапісу гарадскога насельніцтва 1923-г. у БССР было зарэгістравана 2 614 татар, а па агульнаму перапісу 1926 г.іх налічвалася 3777, пры гэтым найбольшая колькасць іх прыходзілася на Менскую акругу: у г. Менску – 1 283, у Смілавічах – 376, ва Уздзе – 209 чалавек"**. Ях'я Гямбіцкі прыводзіць цікавыя факты, якія паказвалі, што татары імкнуліся адрадзіць сваю мову. Як вядома, да рэвалюцыі 1905 г. царскі ўрад забараняў татарам мець свае школы. Але пасля першай рэвалюцыі ў Менску быў прысланы з Казані настаўнік татарскай мовы, які ўтрымліваўся на сродкі, ахвяраваныя жыхарамі Казані. Акрамя таго, каля 30 дзяцей са шматдзетных бедных татарскіх сямей Менска, Відз, Капыля і Смілавіч былі пасланы ў Казань, дзе іх утрымлівалі і вучылі бясплатна татарскай мове і мусульманскай рэлігіі. Да таго ж, сем'ям такіх шакірдаў (вучняў) аказвалася з Казані штомесячная матэрыяльная дапамога. Але ў сувязі з наступіўшай затым рэакцыяй гэты працэс спыніўся і не меў працягу. Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі татарам г. Менска была дадзена школа, якая назывался татарскай і да 1921 г. у ёй выкладалася татарская мова (у той час гэта была сямігадовая школа № 26 на вуліцы Вызвалення). Па невядомых прычынах школа гэтая была ў татар адабраная, і быў зняты на ёй надпіс "Татарская школа". У 1927 г. у Нацкамісію пры Менскім акружным выканкаме паступіла здаява Нацкамісіі мястэчка Смілавічы з просьбаю вылучэння мажлівасцяў дзецям татар для вувычэння ў школе іх роднай татарскай мовы**.

Усё гэтае, як лічыў Ях'я Гямбіцкі, служыла доказам, што беларускія татары маюць дастаткова дадзеных для таго, каб вылучыць іх у асобную нацыянальую меншасць і задаволіць неадкладна іх эканамічныя і культурна-асветніцкія патрэбы. Да таго ж сярод цюркскіх народаў СССР беларусія татары былі найбольш культурныя і адукаваныя. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі кіраўнікі Татрэспублікі і Кіргізскай рэспублікі настойліва прапаноўвалі беларускім татарам прыняць удзел у савецкім будаўніцтве іх рэспублік. Я. Гямбіцкі згадвае, што ў 1932 г. на курорце ў Кіславодску ён пазнаёміўся з кіраўніком Башкірскай канторы Дзяржбанка Р. Айбулатавым, які запрасіў яго працаваць кансультантам па эканоміцы банка***. У той час сярод кіргізаў, туркменаў, сартаў, узбекаў і якутаў былі і качавыя плямёны і народы, якія знаходзіліся на ступені эканамічнага развіцця, што адпавядала феадалізму. Таму, сцвярджаў Я. Гямбіцкі, пытанне аб адукацыі татар, навучання іх нацыянальнай татарскай мове мае больш шырокае значэнне. У лісце да Нацкамісіі ЦВК БССР (1 ліпеня 1928 г.) Я. Гямбіцкі пісаў: *"Маючы на ўвазе, што беларускія татары больш культурныя, пераўнаўшы да іншых татарскіх народаў, і беларускія татары будуць працаваць па эканамічнаму і культурнаму развіццю тых народаў, неабходна весці ў школе заняткі на расейскай мове, з абавязковым вывучэннем мовы беларускай – для ўсіх вучняў і татарскай – для татар. У мястэчках Смілавічы, Вузда і Капыль скласці паасобныя групы з татарскіх дзяцей і паміж іншымі прадметамі, выкладаць татарскую мову; адчыніць хаты чытальні для татар, пачаць культурна-палітычную працу сярод іх і вывучаць татарскую мову з дарослымі."*****.

У сувязі з хуткім эканамічным ростам БССР і перанасяленнем не толькі гарадоў, але і сёлаў, эканамічнае становішча беларускіх татар, якія займаліся пераважна агародніцтвам і гарбарным рамяством, пагаршалася, а іх заняткі пераставалі даваць сродкі, неабходныя для пражывання і культурнага развіцця. Таму Я. Гямбіцкі прапаноўваў правесці шэраг мер, накіраваных на паляпшэнне сацыяльна-эканамічнага і культурнага становішча ў БССР: вылучыць беларускіх татар у асобную нацыянальную групу з прадстаўніком ад іх у Нацыянальнай камісіі для найлепшага правядзення тых мерапрыемтваў, якія распаўсюджваюцца і на іншыя нацыянальныя меншасці; даць татарам-агароднікам і земляробам доўгатэрміновы крэдыт для пераходу ад агароднай культуры да садовай і прызначыць кіраўнікамі гэтай справы вучоных-садаводаў; кааперавацць татар-саматужнікаў, арганізаваць навучанне татар вырабу саф'яну і наладзіць збыт яго (да XVII ст. беларусія татары былі вядомыя як самыя выдатныя майстры па апрацоўцы скуры і вырабу саф'яну); арганізаваць перасяленне татар у Крым, адкуль яны галоўным чынам перасяляліся; пачаць палітычную і культурна-асветніцкую работу сярод татар, вярнуць ім школу з выкладаннем у ёй татарскай мовы і арганізаваць татарскі клуб, памяшканне для якога маецца ў г. Менску па Замячэтным завулку (былы дом Столкінда). У канцы ліста Я. Гямбіцкі выказваў надзею, што *"пад кіраўніцтвам КП(б)Б пачнецца палітыка-асветніцкая адукацыя беларускіх татар і будаўніцтва іх эканомікі, што яшчэ больш умацуе іх адданасць Савецкаму Ураду"******.

У 1928 г. у Татарскай Слабадзе (іншая тагачасная неафіцыйная назва – Татарскі раён) г. Менска, дзякуючы намаганням і настойлівым лістам Я. Гямбіцкага, была ўрэшце адчынена татарская хата-чытальня. На фота-

* НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 60, арк. 33-34, 34-адв.
** Там жда, арк. 34.
*** Архіў КДБ, спр. 31371-с, арк. 38.
**** НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 63, арк. 7,7-зв.
***** Там жа, спр. 60, арк. 34-адв.

здымку, змешчаным у газеце "Чырвоная змена", датаваным чэрвенем 1929 г., шыльда на менскай хаце-чытальні мела беларуска- і татарскамоўныя надпісы (апошні быў выкананы арабскім алфавітам)*. Віталь Вольскі ў артыкуле *"Культработа среди татар"*, які быў надрукаваны ў газеце "Рабочий", паведамляў, што *"ўжо больш за два месяцы працуе ў Менску першая ў БССР татарская хата-чытальня. Неабходнасць яе арганізацыі адчувалася ўжо даўно, таму што да гэтай пары сярод татарскага насельніцтва Менска не вялося ніякай культурнай і палітыка-асветніцкай работы. Агульны сход татарскага насельніцтва, які папярэднічаў адкрыццю хаты-чытальні, здзівіў сваёй шматлікасцю: невялікае памяшканне па Вялікай Татарскай вуліцы не змагло змясціць усіх прыйшоўшых на сход. На гэтым жа сходзе быў абраны з 7 чалавек (з іх 5 членаў КП(б)Б і КСМ) Савет хаты-чытальні і вызначаны план работы на бліжэйшы час. Пры чытальні працуюць гурткі: па вывучэнню татарскай мовы (наведваюць каля 60 чалавек) і палітычны. Плануецца арганізаваць (ідзе запіс ахвочых) гурток "Бязбожнік" і лікбез. На днях выйдзе першы нумар газеты "Татарскае слова". Рэдакцыяй збіраюцца матэрыялы па асвятленні жыцця і быту татарскага насельніцтва і работы хаты – чытальні. Для папаўнення яе з кніжнай палаты было ўзята каля 60 выданняў на цюрка-татарскіх мовах, а з Пушкінскай бібліятэкі каля 200 рускіх і беларускіх кніг. Выпісваюцца татарскія, рускія і беларускія газеты і часопісы. Характэрна, што акрамя татар хату-чытальню наведвае і навакольнае яўрэйскае насельніцтва, асабліва моладзь. У сувязі з гэтым Савет хатычытальні прыняў рашэнне выпісаць дадаткова шэраг яўрэйскіх газет і часопісаў. 12 снежня 1928 г. дацэнтам Сербентам была прачытана лекцыя "Імперыялізм і рэвалюцыйны рух на Усходзе". У далейшым плануецца арганізацыя перыядычных лекцый. Татарскую хату-чытальню чакае велізарная праца, тым больш, што з 1 283 татар у Менску налічваецца каля 40 адсоткаў непісьменных. Асноўная работа хатычытальні* (падкрэслівае В. Вольскі) *павінна ісці па лініі барацьбы з непісьменнасцю і рэлігіяй. Перад ёй стаіць сур'ёзная і важная задача – вызваленне татарскага насельніцтва з-пад уплыву мячэці"* (заключае аўтар)**.

Але супрацьпастаўленне гэтай формы тагачаснага нацыянальнага будаўніцтва мячэцям, як традыцыйным асяродкам захавання этнакультурнай спецыфікі татар не дала станоўчых вынікаў. Пры фармальнай вонкава-нацыянальнай афармленасці працэсу вялікая беларусізаванасць татар, была, відаць, прычынай непрацяглага існавання менскай хаты-чытальні як нацыянальнай культурна-асветнай установы. 8 снежня 1928 г. Менская акруговая нацыянальная камісія, заслухаўшы справаздачу аб рабоце татарскай хатычытальні, адзначала *"слабы тэмп разгарнення палітыка-масавай работы сярод татарскага і ваколічнага насельніцтва іншых нацыянальнасцяў, у прыватнасці была не праведзена работа ў кірунку асвятлення пытання нацыянальнай палітыкі і інтэрнацыянальнага выхавання"*, канстатавала *"нацыянальнашавіністычныя настроі класава-чужых элементаў у Савеце хаты-чытальні"*, указала, што *"мэта хатычытальні – абслугоўваць разам з татарскім працоўным насельніцтвам і акраіннае жыхарства іншых нацыянальнасцяў таго ж раёну. Узяць кірунак на асвятленне палітыкі партыі і Савецкай улады ў нацыянальным пытанні, інтэрнацыянальнае выхаванне мас, папоўніць хату-чытальню літаратурай на іншых нацыянальных мовах, у прыватнасці на яўрэйскай і польскай"****.

У канцы 1919 г. татарская хата-чытальня была пераўтворана ў раённую, г.зн. была пазбаўлена нацыянальнага статусу. Не былі таксама рэалізаваны і прапановы Ях'і Гямбіцкага аб стварэнні ў Беларускім дзяржаўным музеі экспазіцыі, прысвечанай гісторыі і культуры татар Беларусі****.

З заняпадам нацыянальна-культурнага будаўніцтва адзінай формай нацыянальнага будаўніцтва сярод татар рэспублікі да сярэдзіны 30-х гадоў заставалася нацыянальна-гаспадарчае будаўніцтва. Татарскае насельніцтва БССР, як і іх суайчыннікі ў Заходняй Беларусі, займаліся сваімі адвечнымі заняткамі: агародніцтвам, саматужніцтвам, у гарадах пэўная доля асоб была "свабодных прафесій", службоўцаў. Ях'я Гямбіцкі ў лісце да Нацыянальнай Камісіі пры ЦВК БССР (11 ліпеня 1918 г.) прапаноўваў ураду краіны дапамагчы татарскаму насельніцтву стварыць калектывы саматужнікаў па вырабу скур і аўчын. На яго думку гэтая мера павінна была палепшыць сацыяльна-эканамічнае становішча татар Менска і мястэчак Смілавічы, Узда, Капыль і Смалявічы*****. У чарговым лісце Я. Х. Гямбіцкага, І. А. Міськевіча і І. Х. Мурзы-Мурзіча да Нацыянальнай камісіі (5 кастрычніка 1928 г.) адзначалася, што "ўраду Рэспублікі трэба звярнуць асаблівую ўвагу на пашырэнне ведаў сярод татар па агародніцтву і садаводству, што вельмі б зацікавіла апошніх". Аўтары ліста паведамлялі, што *"для правядзення працы па пераходу татар-гароднікаў ад культуры гароднай да культуры ягаднай і пладовай атрымалі згоду ад прафесара Бурштэйна і аграномаў-садаводаў т.т. Турака і Хабэнка"*. Акрамя таго, мы звязваемся станцыяй прыкладной батанікі ў саўгаспадарцы Лошыца для арганізацыі навуковага кіраўніцтва апрацоўкаю агародаў, тым больш, што і станцыя зацікаўлена ў развядзенні *"татарскай радысы"*******.

Аднак і гэтыя прапановы Ях'і Гямбіцкага і яго сяброў не знайшлі водгуку ва ўладных стуктурах. Уладу вельмі непакоіла значная "непралетарская праслойка"

* А. Каліта, Нарысы рабочых акраін, "Чырвоная змена", 1929, 10 чэрвеня.
** НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 97, арк. 8, "Рабочий", 1929, 16 февраля.
*** НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 94, арк. 2-3.
**** Архіў КДБ, спр. 31371-с, арк. 37.
***** НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 63, арк. 7.
****** Там жа, спр. 60, арк. 35, 35-зв.

сярод татар, таму затрымлівалася стварэнне татарскіх саматужных арцелей. Нацыяльныя татарскія кааператывы (у далейшым калгасы) былі створаны толькі ў пачатку 1930-х гадоў у Смілавічах і Менску. Татарскі галгас у Менску меў назву "Чырвоны агароднік". Яго старшынём быў член КП(б) Беларусі Сулейман Хасенавіч Джэнаевіч*. сельгаскааператывы "Прафінтэрн" у Смілавічах і "Чырвоны агароднік" у Менску існавалі на базе традыцыйных татарскіх заняткаў агародніцтвам.

У 1920-я гады дзяржава праводзіла шэраг эканамічных мерапрыемстваў, якія павінны былі палепшыць гаспадарчае становішча нацыянальных меншасцяў. Палітыка землеўпарадкавання местачковага яўрэйскага насельніцтва, актыўная прапаганда перасялення на поўдзень Украіны і ў Крым адбіліся і на беларускіх татарах. 21 лютага 1928 г. у ЦВК БССР з заявай звярнуліся прадстаўнікі татарскіх перасяленцаў з г. Менска і м. Смілавічы Ізмаіл Раецкі і Мустафа Ждановіч. Яны пісалі: *"Мы, земледельцы г. Минска и м. Смилавичи татарской национальности, желаем переселиться в Крымскую республику на хлебопашество. Считаем себя выходцами из Крыма и желаем переселиться на родину, изучить свой забытый национальный язык, а также желаем организовать исключительно из молодняка молодую Коммуну в составе 20 человек. Просим оказать нам помощь в переселении на родину и наделении землёй»***.

З аналагічнай заявай І. Раецкі і М. Ждановіч звярнуліся ў Наркамзем Крыма і Крымскі ЦВК***. Наркамзем БССР, у сваю чаргу, 3 сакавіка 1928 г. звярнуўся з запытам "По вопросу о переселении татарского населения в Крымскую ССР" у Наркамзем Крыма. У ім паведамлялася, што *"в виду поступающих у НКЗБ ходатайств от татар (бывших выходцев из Крыма) с просьбой предоставить им право переселения в пределы Крымской ССР с целью заняться сельским хозяйством і учитывая неблагопрыятную сложившуюся для них в БССР экономическую обстановку (так как в массе татары занимались, главным образом, кустарным промыслом и мелкпромышленным огородничеством), НКЗБ считает постановку вопроса самим татарским населением о переселении в Крымскую ССР правильным и просит сообщить Ваши соображения по этому вопросу. В смысле практических возможностей осуществить переселение. Если же вопрос формально Правительством Крымской ССР разрешён, не откажите выслать копии законодательных актов по этому вопросу, а также і сведения, необходимые для построения практической программы работ по переселению из БССР татарского населения, желающего переселиться"*****.

10 красавіка 1928 г. сакратар Крымскага ЦВКа Мусаніф у лісце прадстаўнікам груп татарскіх перасяленцаў у Беларусі І. Раецкаму і М. Ждановічу паведамляў, што *"Крым. ЦИК, в принципе, не возражает против Вашего переселения в Крым, при условии, если Наркомзем Белорусской ССР возьмёт на себя расходы по Вашему переселению в Крым и водворению Вас на месте. Какой-либо помощи на строительство или на предметы сельскохозяйственного обихода Крым. ЦИКом Вам не может быть оказано из-за отсутствия средств"******. Таксама і Наркамзем Крымскай ССР у лісце Наркамзему БССР ад 28 красавіка 1928 г. паведамляў, што *"переселение в Крым 20 семейств татар может состояться на условиях, предложеных Крым. ЦИКом Наркомзему БССР, т.е. если последний возьмёт на себя все расходы, связанные с переселением указанных 20 семейств в Крым, также с возведением им построек, устройством колодца і снабжением расселенцев сельхозинвентарём на месте водворения. Что же касается предоставления участка для дополнительного переселения 100-150 душ согласно вашего отношения за № 3655, то за отсутствием свободных расселенческих фондов, ходатайство НКЗема не может быть удовлетворено"*******. Адначасова паведамлялася, што ў адпаведнасці з пастановай ЦВК і СНК СССР ад 18 студзеня 1928 г. перасяленне ў Крым праводзілася Усесаюзным Перасяленцкім Камітэтам у планавым парадку.

3 траўня 1928 г. яшчэ 8 сямей татар-гарбароў з г. Менска і м. Смілавічы падалі заяву ў Нацкамісію пры ЦВК БССР аб дазволе перасялення ў Крым, дзе яны мелі намер працаваць на зямлі. *"Желаем переселиться на родину в Крымскую республику на культурное хозяйство. На переселение на родину нас толкает как малоземелье, так и забытый свой родной язык».* Заяву падпісалі сям'я Алея Канапацкага, Хасеня Канапацкага, Ібрагіма Канапацкага, Мустафы Багдановіча. Асана Александровіча, Мустафы Гямбіцкага, Ізмаіла Раецкага, Хасеня Якубоўскага, а таксама маладыя татары з Менска Мустафа Ждановіч, Мустафа Хасяневіч, Адам Канапацкі і Алей Багдановіч*******.

Нацыянальная Камісія ЦВК БССР, заслухаўшы "Хадайнічаньне татар аб перасяленьні іх у Крым на земляробства", задаволіла просьбу 8-мі татарскіх сем'яў, як беззямельных аб перасяленні ў Крым на земляробства і прасіла Прэзідыюм ЦВК БССР даць распараджэнне Наркамзему аб неабходнасці нрыняцця мер да задавальнення гэтых сем'яў у іх хадайніцтве перасяліцца ў Крым на земляробства, адпусціўшы для гэтага сродкі з сум, прызначаных на перасяленне********.

Прэзідыюм ЦВК БССР 14 траўня 1928 г., разгледзеўшы пастанову Нацыянальнай камісіі ЦВК БССР "Аб

* Архіў КДБ, спр. 28329, арк. 18.
** НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 63, арк. 33.
*** НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 63, арк. 35.
**** Там жа, арк. 32.
***** Там жа, арк. 31.
****** Там жа, арк. 44.
******* Там жа, арк. 37.
******** Там жа, арк. 28.

задавальненьні хадайнічаньня 8 татарскіх сем'яў аб перасяленні іх у Крым", даручыў Нацкамісіі ЦВК "у планавым парадку вывучыць становішча і патрэбы татарскага насельніцтва. Якое пражывае ў БССР і распачаць мерапрыемствы па эканамічным і культурным абслугоўваньні татар, а таксама і палепшаньні іх быту"*. нацкамісіі было даручана таксама прадугледзець магчымасць надзялення татар зямлёй як у межах Беларусі, так і ў іншых рэспубліках, у тым ліку і ў Крыме**.

Трагедыяй для ўсіх татар-землеробаў стала прымусовая калектывізацыя. Яна пагоршыла дабрабыт і асновы іх гаспадарчай дзейнасці. Падчас фарсіраваных сацыяльных пераўтварэнняў шырока праводзілася барацьба супраць так званага нацыянальнага адзінства. Трэба адзначыць, што сярод татар амаль што не было вялікай класавай дыферэнцыяцыі. Татары, жывучы сваёй адасобленай грамадой, былі пасіўныя ў грамадскім жыцці. Сярод дзяцей і моладзі амаль што не было піянераў і камсамольцаў. На пачатак 1930-х гадоў сярод татарскай моладзі ў Смілавічах налічвалася 3, а ў Менску 13 камсамольцаў, з 60 школьнікаў у Смілавічах толькі трое з'ўляліся піянерамі. У лістах да Нацкамісіі ЦВК БССР (14 траўня, 11 ліпеня 1928 г.) Я. Х. Гямбіцкі звяртаў увагу апошняй, што *"прыёмныя камісіі ў ВНУ зусім не далучаюць татар да нацыянальных меншасцей, а між тым сярод татар беларускіх зусім не маецца з вышэйшай адукацыяй"*. Ён прасіў *"садзейнічання Нацкамісіі аб залічэнні ў ВНУ без конкурсу чатырох прадстаўнікоў татарскай моладзі: З. Мухля, М. Багдановіч, А. Хасяневіча і С. Шагідэвіча, атрымання імі вышэйшай і спецыяльнай асветы, дзеля таго, што адукаваных дзеячаў паміж намі вельмі мала"****.

Такім чынам, жыццё татарскай меншасці ў Менску, як і ва ўсёй БССР, адбывалася ў кірунку тых сацыяльна-эканамічных, палітыка-грамадскіх змен, якія мелі месца ў краіне. Аналіз прычын непрацяглага існавання нешматлікіх форм нацыянальнага будаўніцтва сярод татар БССР у гэтыя гады паказвае, што яны былі своеасаблівымі прыладамі для разбурэння жыццёвага ўкладу татарскага насельніцтва Беларусі, а таксама цэнтраў захавання этнаканфесійнай самабытнасці гэтага народу. Разам з тым было атрымана своеасаблівае пацвярджэнне вялікай інтэграванасці татар-мусульман у айчынныя кансалідацыйныя этнічныя працэсы. Аналіз крыніц і дакументаў сведчыць таксама і пра тое, што савецкая ўлада ў БССР зрабіла ўсё для таго, каб узарваць тардыцыйны лад жыцця беларускіх татар, разбурыць асяродкі захавання этнаканфесійнай спецыфікі гэтага народа. Ужо ў першыя гады савецкай улады былі закрыты мусульманскія школкі пры мячэцях. Крыху пазней, змагаючыся з праявамі рэлігійнасці, пачалі таксама зачыняць мячэці.

У 1936 г. была закрыта мячэць у Менску. Будынак яе выкарыстоўваўся ў 1936-1941 гг. беларускай канторай "Гастраном" як харчовая база****. Лічылася, што прадстаўнікі канфесій прымаюць актыўны ўдзел у барацьбе супраць мерапрыемстваў дзяржавы, з'яўляюцца актыўнай контррэвалюцыйнай сілай. Сталін у гутарцы з амерыканскай рабочай дэлегацыяй (верасень 1927 г.) адзначыў, што партыя не павінна быць нейтральнай "у адносінах да рэакцыйнага духавенства, якое атручвае сумленне працоўным мас".

Ён выказаў спадзяванне, што антырэлігійная прапаганда з'явіцца тым сродкам, "які павінен давесці да канца справу ліквідацыі рэакцыйнага духавенства"*****. антырэлігійная прапаганда на сталінскай мове азначала разбурэнне мячэцяў і фізічнае вынішчэнне кіраўнікоў мусульманскай канфесіі. Неабгрунтаваныя рэпрэсіі былі пастаўлены ў цэнтр дзейнасці партыйна-дзяржаўных органаў Беларусі. Аўтару давялося скрупулёзна, на працягу некалькіх гадоў вывучаць архіўныя справы беларускіх татар – ахвяр палітычных рэпрэсій. Кожная старонка гэтых дакументаў – гэта старонка трагедыі канкрэтнага чалавека і татарскага народа ўвогуле. Гэтыя дакументы нельга чытаць без хвалявання і суперажывання. Вывучэнне іх дае магчымасць уявіць жудасную карціну беззаконня і гвалту, што панавалі ў грамадскім жыцці Савецкай Беларусі тых гадоў. Аналіз духоўных крыніц паказвае, што палітычныя рэпрэсіі закранулі амаль кожную татарскую сям'ю, прынеслі нешматлікаму татарскаму народу велізарныя страты. Рэпрэсіі 1930-х гадоў загубілі лепшых прадстаўнікоў беларускіх татар. На вялікі жаль, няма дакладнай інфармацыі аб далейшым лёсе Ях'і Гямбіцкага, Ібрагіма Мурзы-Мурзіча і Хасеня Рызвановіча пасля таго, як вясной 1933 г. яны былі асуджаны "тройкай" і высланы ў Казахстан тэрмінам на тры тады. Па просьбе Беларускага грамадскага аб'яднання татар "Зікр уль-Кітаб" кіраўніцтва Дзяржкамархіву Беларусі звярталася ў сакавіку 1998 г. у Інфармацыйны цэнтр Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Казахстан з запытам аб прадстаўленні звестак на Я. Гямбіцкага, І. Мурзу-Мурзіча і Х. Рызвановіча. 28 красавіка 1998 г. Упраўленне крымінальнай інфармацыі выслала даведку на Ях'ю Гембіцкага, з якой відаць, што пасля высылкі ў Казахстан ён працаваў эканамістам у абласным упраўленні калгасаў г. Уральска. 14 ліпеня 1938 г. Я. Гямбіцкі быў паўторна арыштаваны. Асуджаны па сумнавядомым артыкуле 58 Крымінальнага кодэкса РСФСР і знаходзіўся ва Уральскай турме. На І. Мурзу-Мурзіча і Х. Рызвановіча звестак няма, дакладна вядома толькі адно: дадому, да сям'і і сваякоў яны ўсе больш не вярнуліся. Застаецца толькі спадзявацца, што дадзеная публікацыя хоць нейкім чынам зможа пасадзейнічаць у высвятленні іх лёсу.

10 кастрычніка 1989 г. рашэннем Пракуратуры БССР Я. Х. Гямбіцкі, І.Х. Мурза-Мурзіч, Х. І. Рызвановіч былі рэабілітаваны****.

* НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 63, арк. 27.
** "Савецкая Беларусь", 1928, 5 мая.
*** НА РБ, ф. 701, воп. 1, спр. 63, арк. 7, 7-зв., 39, 39-зв.; спр. 101, арк. 6; ф. 34, воп. 1, спр. 727.
**** Там жа, ф. 952, воп. 1, спр. 17, арк. 224; спр. 18, арк. 245-247.
***** И. Сталин, Собрание сочинений, т. 10, Москва 1953, с. 133.
****** Архіў КДБ, спр. 31371-с, арк. 126-129.

